WHITERUTHENIAN (BELORUSSIAN) INSTITUTE OF ARTS AND SCIENCES

# Annals

## Volume 2

Edited by Dr. Stanislau Stankevich

Munich 1963

# ЗЬМЕСТ

# INHALTSVERZEICHNIS

## TABLE OF CONTENTS

## АРТЫКУЛЫ

# Доктар Скарына ў Маскве

Сымон Брага

### 1*

Тыповым дзеячом пары эўрапейскага рэнэсансу быў доктар Франьцішак Скарына ня толькі культурнымі зацікаўленьнямі й дзейнасьцяй, але й сваей ахвотай да падарожнічаньня. Гісторык Міхайла Грушэўскі празваў яго за гэта «вандроўным гуманістым».[1] У гэтай мянушцы шмат праўды, бо вандроўны нахіл у Скарыны выявіўся навет і ў ягонай выдавецкай працы. Адна із складзеных ім і ў Вільні надрукаваных кнігаў мае гэткі характэрны назоў: «Малая **падарожная** кніжыца». Задуманая як рэлігійны спадарожнік і практычны даведнік людзям у дарозе, сваім укладам і зьместам яна нагадвае пашыраны тады на Захадзе тып кнігі Liber viaticus. Выдадзеная зручным малым фарматам, «Падарожная кніжыца» зьмяшчае псалтыр, рэлігійныя сьпевы, малітвы (між імі й малітву за «ў пуць ідучых і па моры плаваючых»), пасхаліі, каляндарны інфарматар зь весткамі пра сьвятцы, пра даўжыню дня й ночы ў розныя поры году, пра гадавы кругаварот сонца праз сузор'і задыяка, пра фазы месяца, «гібель месяцаву» і «зацямненьне сонцава».

Як ягоны жыцьцяпіс паказвае, па сваей натуры Скарына быў чалавекам энэргічным, станаўкім, рухавым, і праблема адлежнасьці ці прасторы наагул, як нейкае перашкоды ягоным задумам і плянам, у яго не існавала. Ні далячыня, ні тэрытар'яльныя сувэрэнітэты, ні дзяржаўныя межы выдаўцу «Падарожнае кніжыцы» ня былі замінаю на толькі паважнаю, каб іх варта было браць на ўвагу наагул. У патрэбе карыстаўся ён з адмысловых

---

* Аўтар пачуваецца да абавязку выказаць гэтта сваю глыбокую ўдзячнасьць за дапамогу ў расшуканьні патрэбных для гэтае працы матар'ялаў у бібліятэках Эўропы сп. ЯНКУ САДОЎСКАМУ, а ў бібліятэках Амэрыкі д-р ВІТАЎТУ КІПЕЛЮ.

[1] Грушевський Михайло. Історія української літератури, т. V. Київ, 1926, б. 122.

«дарожных лістоў» — Litterae Passum, — што функцыяй сваёй нагадвалі сучасныя замежныя пашпарты. Копія аднаго такога дарожнага ліста, выстаўленага доктару Скарыне гэрцагам прускім Альбрэхтам, захавалася.[2] Свабодзе Скарынавай вандроўнай рухавасьці спрыяла напэўна й ягоная шырокая веда эўрапейскіх моваў.

Паводле сваей мэнтальнасьці й сувіта дакторскай адукацыі (меў ён два дактараты: навук лекарскіх і філязафічных «навук вызваленых») Скарына пачуваўся поўнапраўным грамадзянінам заходняэўрапейскага цывілізацыйнага сьвету і ў межах гэтага сьвету чуўся ўсюдых дома, а часам — навет і лепш як у сябе дома, на што паказвае хоць-бы факт, што пры канцы свайго жыцьця доктар Скарына асеў у далёкай ад ягонай бацькаўшчыны, хоць і ня чужой яму паводле папярэдняй тамака бытнасьці дый выдавецкай дзейнасьці, чэскай Празе.

Дый, у Скарынавай падарожнай рухавасьці выявіўся ня толькі неспакойны, пытлівы дух рэнэсансавае пары. Мела гэтая зьява й свае сацыяльна-эканамічныя карэньні. Скарына паходзіў з бойкага, багатага полацкага купецкага роду, роду, што займаўся гандлем шырокага фінансавага й тэрытар'яльнага размаху. З маскоўскіх актаў ведама, што ўжо бацька Франьцішка, Лукаш Скарына, каля 1492 году меў канфлікт і, відавочна, гандлёвыя дачыненьні з купцамі маскоўскімі.[3] Брат-жа доктара Іван, як сьцьвярджаюць акты, вёў гандлёвыя справы з купцамі Вільні, Рыгі,[4] Львова,[5] Варшавы.[6] У Гданску жыў Іванаў сын Раман. У Пазнані была гандлёвая база Івана Скарыны з аграмаднымі складамі, у якіх пасьмертным вопісам было сьцьверджана 50.000 скураў. Брату Івану ў Пазнань доктар Скарына дастаўляў у большай колькасьці ліёнскае сукно.[7]

Дык род Скарынаў на пачатку XVI стагодзьдзя быў увязаны ў шырокі, міжнароднага характару й засягу гандаль, гандаль, што сваімі апэрацыямі ахопліваў колькі краінаў і дзяржаваў цэнтральнае й усходняе Эўропы. Зразумела, што ўдача гэтага гандлю шмат залежыла ня толькі ад купецкае ініцыятывы, але й ад руху, разьездаў. І дзеля гэтага, вось, падарожнічаньне ў сям'і Скарынаў ня было нейкім нязвычайным, рэдкім здарэньнем, а больш прафэсійнаю радавою традыцыяй дый штодзённаю купецкаю звычкаю. Калі каму патрэбнаю й карыснаю была Скарынава «Малая падарожная кніжыца», дык найперш ягоным суродзічам-купцом, сацыяльна-эканамічнай клясе, зь якое вырас сам Скарына дый да якое належылі бурмістр сталічнага мес-

---

[2] Брага Сымон. Кароль Альбрэхт і Скарына. «Запісы» Беларускага Інстытуту Навукі й Мастэцтва, № 2 (4). Ню Ёрк, 1953, б. 112.

[3] Памятники дипломатических сношений Московского государства, т. I. «Сборник Императорского Русского Исторического Общества», т. 35. С.-Петербург, 1882, б. 67

[4] «Беларускі Архіў», т. 2. Інстытут Беларускае Культуры. Менск, 1926, б. 263. Тое-ж у: Владимиров П. В. — Доктор Франциск Скорина. Санктпетербург, 1888, б. 323.

[5] Wierzbowski Theodorus. Matricularum Regni Poloniae Summaria... Pars IV... Volumen 2-um. Varsoviae, MCMXII, б. 195.

[6] Wojciechowska Maria. Рэцэнзія на: Abramowicz L. Cztery wieki drukarstwa w Wilnie. „Kwartalnik historyczny", XL. Lwów, 1926, б. 473.

[7] Тамсама.

та Вільні Якуб Бабіч і купец-фінансіер Багдан Онкаў-Анкевіч, якія спрыялі Скарыне ў ягонай выдавецкай дзейнасьці «для дабра й пажытку люду паспалітага» ідэйна, дый падтрымлівалі яго ў гэтым і маральна, і матар'яльна. Дый, хоць доктар Скарына паходзіў сам з сацыяльнага асяродзьдзя падарожжы ў якім былі надзённаю прафэсійнаю зьяваю, рухавіком ягоных падарожжаў былі не матывы эканамічныя, а культурна-ідэйныя. У краі Захаду малады Скарына кіраваўся ў пошуках вышэйшае, унівэрсытэцкае асьветы й веды. Ягоныя-ж пасьлейшыя пераезды зьвязаныя былі найперш зь дзейнасьцяй прысьвечанай выдаваньню «люду паспалітаму» кнігаў дый іх пашырэньню.

Далёка няпоўна, усяго толькі эпізадычна раскрыты летапіс жыцьця й дзейнасьці Францішка Скарыны, сьцьвярджае пэўную яго бытнасьць — памінаючы Вільню дый родны Полацак — у местах Кракаве дый Пазнані ў Польшчы найменш па два разы, у чэскай Празе найменш двойчы таксама, і па разе ў Капэнгазе, італьянскай Падуі, прускім Каралеўцы. Даўжэйшы час адкрытым заставалася пытаньне, ці падчас сваіх жыцьцёвых вандраваньняў доктар Скарына крануў і землі суседняе Вялікаму Княству Літоўскаму Маскоўшчыны. Сама адлегласьць — каля 800 км. ад Вільні, а 600 км. ад Полацка да Масквы — гэткаму гуманісту-непаседзе пэўне-ж ня мела аніякога значаньня. У сваім жыцьці адбываў ён падарожжы і шмат далейшыя. Сама траса з Полацка да Падуі й назад мае даўжыню каля 3.000 км. Дык адлегласьць трэба браць найменш на ўвет разважаючы аб тым: важыўся Скарына наведаць Маскву ці не. Існавалі іншыя й паважныя прычыны, што маглі стрымліваць яго ад такога падарожжа. З другога боку былі й справы, якія мусілі піхаць яго да таго, каб у Маскву ўсё-ж зазірнуць. Тое й другое ў далейшым тут і разгледзім.

## 2

На думку аб падарожжы ў Маскоўшчыну Скарыну маглі наводзіць найперш чыста практычныя меркаваньні — спроба знайсьці шырэйшыя рынкі збыту для выдадзеных праваслаўных рэлігійных кнігаў, рынкі, якія, паза межамі Вялікага Княства Літоўскага існавалі якраз на ўсходзе. Хоць матывы перакладу кнігаў Бібліі на беларускую мову й іх друку для «люду паспалітага» ў Скарыны былі бясспрэчна патрыятычна-ідэйныя, і хоць кнігі былі прызначаныя ў першую чаргу для ягонае-ж бацькаўшчыны Беларусі, тымняменш яго, як выдаўца, не магло ня цікавіць пытаньне магчымасьці далейшага іх пашырэньня,[8] хоць-бы для тога, каб за выручаныя грошы праводзіць далей шырака задуманае выдавецтва, а найперш — давесьці да завяршэньня справу выданьня ўсіх кнігаў перакладзенае ім Бібліі.

Доктару Скарыне магло карціць і выясьніць магчымасьці наладжаньня друкарскае справы ў самой Маскве. Як ведама, з тых ці іншых прычы-

[8] Флоровский Антон Васильевич. Чешская библия в истории русской культуры (Франциск Скорина и продолжатели его дела). „Sbornik filologický", III. Třida Česke Akademie Věd a Uměni, sv. XII. Praha, 1940-1946, б. 211.

наў ягонае выдавецтва ў Празе, а пасьлей у Вільні абарвалася. Маскоўскае-ж княства ў Скарынаву пару вырасла ўжо ў вялікую дзяржаву й прастораю, і сваім, блізу вылучна праваслаўным паводля веры, жыхарствам. Маскоўскія князі да пачатку XVI стагодзьдзя ня толькі здолелі атрэсьціся ад татарскага ярма, але пасьпелі ўжо самі падбіць Вялікі Ноўгарад (1480 г.), Пскоў (1510 г.) дый захапіць ад Вялікага Княства Літоўскага Смаленск (1514 г.). Дык ня дзіва, калі Скарыне магло выдавацца, што якраз на ўсходзе, у Маскоўшчыне, ляжаць адлогам вялізарныя прасторы для піянерскае культурнае дзейнасьці ў галіне праваслаўнага рэлігійнага друку.

Маглі ў доктара Францішка Скарыны паўстаць зацікаўленьні Масквою й як месцам практычнага прытарнаваньня свае мэдычнае прафэсіі. Палажэньнем і працаю ў Вільні Скарына выразна ня быў задаволены й ён шукаў іншага, новага асяродзьдзя для прытарнаваньня свае шырокае веды. Пра гэта нам сьветчыць ягоны выезд вясною 1530 году да Каралеўца дый кароткатрывалы эпізод ягонага тамака прабываньня на двары прускага гэрцага Альбрэхта.[9] Аб гэтым-жа гаворыць і тое, што пазьней доктар Скарына пакінуў Вільню назаўсёды дый асеў на становішчы батаніка-садоўніка караля Фэрдынанда I у чэскай Празе.[10] А. В. Флароўскі дапушчае, што Скарына мог зацікавіцца Масквою й з гандлёвага гледзішча,[11] бо-ж сяньня ведама, што, побач лекарскае прафэсіі дый друкарска-выдавецкае справы, у патрэбе ён ня цураўся й свайго радавога занятку — гандлю. Сьветчаць аб гэтым дакумэнты, на якія ў дваццатых гадох гэтага стагодзьдзя натрапіла ў пазнанскіх меставых актах М. Вайцяхоўская. Тамака адзначана, што доктару Скарыне ягоны брат Іван быў вінаваты за дастаўленае ліёнскае сукно 11 коп літоўскіх грошаў.[12]

Дык было шмат прычынаў, якія маглі накіроўваць увагу Скарыны да справы падарожжа на ўсход, у Маскоўшчыну. З другога-ж боку магло паўставаць перад ім і яшчэ больш вельмі паважных засьцярогаў супроць такога падарожжа. Найперш, само асяродзьдзе тагачаснае Маскоўшчыны, што ледзь пасьпела вылузацца з татарскага ярма, было гэтак адрозным ад культурна-духовага жыцьця ў Вялікім Княсьцьве Літоўскім, што калі толькі Скарына ўсьведамляў сабе гэта, падарожжа да Масквы яму, гадунцу тагачасных культурна-інтэлектуальных цэнтраў Эўропы, мусіла-б выглядаць вельмі рызыкоўным. Факт сяньня добра ведамы, што шпаркаму тэрытар'яльнаму росту Маскоўскае дзяржавы канца XV — пачатку XVI стагодзьдзяў дый скрысталізаванай ужо тады яе вялікадзяржаўнай мэце стацца «трэйцім Рымам» — зусім «не адказвала нутраное інтэлектуальнае разьвіцьцё, край быў пазбаўлены ўсякае асьветы й сяродкаў да яе ... Асьвета народу і ў XVI і XVII стагодзьдзях застаецца на самай прымітыўнай ступені ,блізу зусім не існавала». У тагачаснай Маскоўшчыне навет «складаецца перакананьне, што асьвета ня толькі не патрэбная, але можа й пашкодзіць ... ».[13]

---

[9] Брага С. Кароль Альбрэхт... б. 108-113.

[10] Florovskij Ant. Vas. Nově zprávy o pobvtu Františka Skoryny v Praze. „Časopis Národního Musea. Oddíl Duchovědny". Ročnik CX. Praha, 1936, б. 11-19.

[11] Флоровский А. В. Чешская библия..., б. 211.

[12] Wojciechowska M. Рэцэнзія..., б. 473.

[13] Архангельський А. С. Из лекций по истории русской литературы. Казань, 1913, б. 2-3.

У вадваротнасьць Вялікаму Княству Літоўскаму, якое, асабліва ад пачатку XVI стагодзьдзя, знаходзілася ў беспасярэднім жывым засягу культурных працэсаў заходняэўрапейскага цывілізацыйнага кругу, тагачасная Маскоўшчына бытавала й далей паза эўрапейскім духовым сьветам. Як сьцьвярджае чэскі гісторык Пэрвольф «... да Пётры Вялікага на Маскоўшчыну ўва ўсей Эўропе глядзелі як на гаспадарства, што стаяла вонках іншых эўрапейскіх дзяржаваў».[14] I гэтае «вонках» разумелася й палітычна, і культурна. Гэткі пагляд на Маскоўшчыну быў пашыраны найперш у Скарынавую пару, у часы, калі Маскоўскае княства ў кажнай галіне свайго бытаваньня зраджала звычкі вякамі перанятыя ад татарскага складу й ладу жыцьця.

Яшчэ ў канцы XV стагодзьдзя аб грубой жорсткасьці маскоўскіх звычаяў трагічна пераканаліся два заходняэўрапейскія лекары. Каля 1485 году ў Маскве знайходзіўся лекар «Немчын Антон», якога маскоўскі князь Іван III меў быццам у васаблівай пашане. Дый давялося лекару гэтаму лячыць раз татарскага князя Каракучу. Лячэньне не ўдалося, хворы памёр. Князь Іван выдаў тады лекара Каракучаваму сыну. Той хацеў адпусьціць яго за вялікі выкуп. Дый Іван III на гэта не згадзіўся, а загадаў лекара забіць. У выніку, Татары завялі Немчына Антона пад Маскварэцкі мост і там, як кажа летапісец, «зарэзалі ножем как овцу». Прысутнага тады ў Маскве італьянскага інжынера-архітэкта Арыстотэля Фіоровантэ, якога вялікі князь запрасіў для будовы цэркваў і перабудовы Крамля, трагэдыя лекара Антона гэтак напалохала, што той пачаў маліць Івана III адпусьціць яго назад у Італію. За гэта вялікі князь загадаў схапіць яго дый аграбіць.[15] Падобнае неўзабаве здарылася й зь іншым лекарам. У 1490 годзе захварэў на ламату ў нагах сын вялікага князя, малады вялікі князь Іван. Быў гэтым часам у Маскве лекар «майстра Лявон Жыдовін» з Вэнэцыі. Лячыць сына князь загадаў яму. Майстра Лявон лячыў, як мог — прыкладаў да цела шклянкі з гарачаю вадой, даваў хвораму піць лекі. Дый стан пацыента, заміж лепшаць, горшаў, а хутка ён і памёр. Тады Іван III загадаў лекара схапіць і кінуць у цямніцу. Калі-ж ад сьмерці князевага сына мінула 40 дзён, майстру Лявона завялі на маскоўскую плошчу Балваноўку й тамака адсеклі яму галаву.[16] Падобныя факты, пэўне-ж, не маглі быць заахвочваючымі для Скарыны, самому лекару, да падарожжа да Масквы. А пра незавідную долю лекараў у Маскве Скарына мог чуць яшчэ ў гады свайго юнацтва ў ня гэтак далёкім ад Масквы Полацку, зь якім, нягледзячы на частыя тады войны Маскоўшчыны зь Вялікім Княствам Літоўскім, усё-ж існавалі гандлёвыя дачыненьні.

Да Скарыны мог дайсьці слых і пра ня менш трагічны лёс і першага ведамага друкара, што адважыўся накіравацца ў Маскоўшчыну. Паводля

---

[14] Первольф И. И. Славянская взаимность с древнейших времен до XVII века. «Журнал Министерства Народного Просвещения», № 172. С.-Петербург, 1874, б. 197.

[15] Карамзин Николай. История государства Российского, т. VI. Санктпетербург, 1819, б. 194; Соловьев Сергей. История России с древнейших времен, т. 5. Москва, 1864, б. 260.

[16] Полное собрание русских летописей. Археографическая Коммиссия, т. VI. Санктпетербург, 1853, б. 37, 239; Карамзин Н. История..., т. VI, б. 193-194; Соловьев С. История..., т. 5, б. 63.

актавых і летапісных вестак маскоўскіх і нямецкіх, у 1493 годзе паехаў да Масквы, з мэтаю наладзіць тамака друк, ведамы тады любэцкі друкар Баўтрамей Ґотан. Пра нейкія практычныя вынікі ягоных друкарскіх плянаў у Маскве ў гісторыі няма ніякіх сьлядоў. Але ведама затое, што ўжо праз паўтара года, у годзе 1495, Баўтрамея Ґотана зьвінавацілі ў гарэзіі, аграбілі й — утапілі.[17] Пра долю лекароў і друкара Ґотана, трагэдыі якіх разыгрываліся ў Маскве яшчэ ў гады Скарынавага маленства, мог ён ведаць, мог і не. Але мусіў ён чуць і знаць пра іншыя, пазьнейшыя факты яскравае неталяранцыі й грубое жорсткасьці, якіх дазналі ў Маскве чужынцы ўжо ў пару Скарынавае сталасьці дый ягонае бытнасьці ў Вільні.

У Маскве ў тую пару ня было нікога, хто-б разумеў пагрэцку дый мог перакладаць з мовы грэцкае на царкоўнаславянскую патрэбныя рэлігійныя кнігі, найперш — палемічныя кнігі супроць «латыніян». Князь Васіль Іванавіч зьвярнуўся таму з просьбаю да манахаў ведамае Афонскае гары ў Грэцыі, каб тыя прыслалі перакладніка. У выніку гэтага ў 1518 годзе да Масквы на «часовую» перакладніцкую працу прыяжджае Максім Грэк. Быў гэта чалавек строгае асцэтычнае маралі й высока адукаваны. Хоць дактаратаў і ня меў, але, як і Скарына, вучыўся на ўнівэрсытэтах Італіі, студыяваў там клясычныя мовы дый царкоўную й філязафічную літаратуру, слухаў у Флярэнцыі палкія прамовы фанатычнага Саванаролі. Максім Грэк хутка справіўся з даручэньнем перакласьці «Талковы псалтыр» і хацеў варочацца назад у Грэцыю. Дый князь Васіль яго не адпускаў, а вымагаў перагляду й выпраўленьня царкоўнаслужэбных кнігаў і больш перакладаў.

Колькі год пасьлей, якраз вясною 1525 году, калі ў Вільні доктар Скарына ўзводзіў верставы стоўп культурнае гісторыі Беларусі, выпускаючы ў сакавіку месяцы зь першае на беларускай зямлі друкарні першую кнігу «Апостала», — у Маскве, у красавіку-травені таго-ж году, саборам судзілі найбольш асьвечанага тамака чалавека — Максіма Грэка. Вінавацілі яго ў «еллінскіх» дый «жыдоўскіх ерасях» і «чарах», а на довад гэтага прыводзілі памылкі, зробленыя ім пры перакладзе рэлігійных кнігаў і выпраўляньні кнігаў літургічных, хоць недакладнасьці гэтыя відавочна й лёгка паясьняліся слабою ведаю Максіма Грэка царкоўнаславянскае мовы дый звычайнымі памылкамі пісцоў. Максім Грэк да віны ня прызнаваўся, каяцца ня каяўся, а, наадварот, сваю справу яшчэ яўна пагоршыў тым, што перад саборным судом выказаў сумляваньне ў аўтакефальнасьці й прававерьнасьці маскоўскае праваслаўнае царквы. Ягоным галоўным прасьледнікам і супраціўнікам быў тагачасны маскоўскі мітрапаліт Даніла. Сабор засудзіў Максіма Грэка на манастырскае зьняволеньне. Князь Васіль

---

[17] Gläser W. Bartel Ghotan, Domvikar und Diplomat, Schriftgiesser und Buchdrucker. Lübeck, 1903, б. 24; Bruns Fr. Lebensnachrichten über Lübecker Drucker des 15. Jahrhunderts. „Nordisk tidskrift för bok-och biblioteksväsen", Arg. II. Uppsala-Stockholm, 1915, б. 231. Арсеньев С. В. О любском типографе Варфоломее Готане, бывшем в Москве в XV веке. Чтения в Императорском Обществе Истории и Древностей Российских при Московском Университете, кн. IV. Москва 1909, б. 17-20; Рааб Г. Новые сведения о печатнике Варфоломее Готане. У зборніку: «Международныя связи России до XVII в.», Академия Наук СССР. Институт Истории. Москва, 1961, б.339-351.

прысуд пацьвердзіў, і няўдатны перакладнік быў сасланы ў Валакаламскі манастыр дый кінуты тамака ў цямніцу «обращения ради и покаяния, и исправления», із строгаю забаронаю перапісвацца зь кім-небудзь і наагул пісаць. Шэсьць год пасьлей, у 1531 годзе, яго ізноў прывезьлі ў Маскву дый нанава саборам судзілі за нававыкрытыя памылкі перакладаў. Цяпер Максім Грэк тройчы падаў ніцма перад саборам, каяўся, прызнаваўся ўжо да памылак, апраўдваўся людзькой слабасьцяй і недасканаласьцяй, із сьлязьмі ў вачох прасіў дараваць яму памылкі, маліў у мітрапаліта Данілы й саборнага духавенства зразуменьня й літасьці. Дый нічога не памаглі ні мольбы, ні каянкі, ні самапаніжэньні. Гэтым разам сабор адлучыў, на дадатак, Максіма Грэка ад сьвятых тайнаў, і яго, скаванага, павалаклі ізноўка ў цямніцу, цяпер ужо ў Атроцкі манастыр у Цьверы.

Пазьней Максім Грэк прасіўся ня раз у вялікага князя пусьціць яго назад у Грэцыю, на Афонскую гару ў манастыр, дый дарма. Бяз выніку засталіся й няўтомныя захады-просьбы Афонскіх манахаў дый заступніцтвы антыяхійскага й канстантынопальскага патрыярхаў ад імені ўсяго сабору дый патрыярхі ярузалімскага. Усе гэтыя стараньні лёс Максіма Грэка канчаткова прыпячатвалі, бо вялікі князь і мітрапаліт Даніла, калі пабачылі, якую павагу й пашану мае іхны зьняволены «гарэтык» сярод найвышшых галоваў усіх праваслаўных цэркваў, баяліся выпускаць яго ўжо хоць-бы й дзеля таго, каб ён не раскрыў перад праваслаўным сьветам невуцтва й забабоннай цемнаты тагачаснага маскоўскага духавенства, вялікакняжага двара дый усяго маскоўскага грамадзтва.[18]

Калі толькі Скарына, сам перакладнік рэлігійных і царкоўнаслужэбных кнігаў, чуў тады ў Вільні пра трагічную долю Максіма Грэка — падарожжа да Масквы не магло выглядаць яму шматабяцаючым. І тым больш, што блізу гэтым самым часам дужа няпрыемная прыгода ў Маскоўшчыне здарылася й зь віленцам, якога Скарына добра знаў і зь якім даводзілася быць яму ў блізкай сутычнасьці ў выдавецкай справе — купцом Багданам Онкавам-Анкевічам. Пра гэты факт, зьвязаны беспасярэдня зь Вільняю, Скарына ўжо напэўна мусіў чуць і ведаць.

На аснове апублікаваных маскоўскіх архіўных матар'ялаў можна сьцьвердзіць, што ў Кракаве, 30 сакавіка 1527 году, паслом вялікага князя маскоўскага Васіля Іванавіча — Івану Васілевічу Ляцкаму дый дзяку Ялізару Цыпляатаву — ад імені караля й вялікага князя Жыгімонта Казіміравіча, быў уручаны сьпіс гвалтаў і крыўдаў, якіх дазналі падданыя Вялікага Княства Літоўскага на тэрыторыі Маскоўшчыны або на сумежных Маскве валасьцёх Літвы, з дамаганьнем гвалты й крыўды спыніць, пакрыўджаным «справядлівасьць учыніць без адвалокі» дый вінаватых пакараць. У гэтым сьпісе, між іншым, пададзена й наступнае:

---

[18] Иконников В. С. Максим Грек и его время. Киев, 1915; Милюков П. И. Очерки по истории русской культуры, 4-е издание, ч. II. С.-Петербург, 1905, б. 37-39; Голубинский Е. История русской церкви, т. 2, ч. I. Чтения в Московском обществе Истории і Древностей Российских при Московском Университете, кн. I. Москва, 1900, б. 705-726; Горнфельд А. Максим Грек. Ф. А. Брокгауз и И. А. Ефрон. Энциклопедический словарь, т. XVIII. С.-Петербург, 1896, б. 447-449.

«Да мещчанина виленского Богдана Онкова на (Велико)лутцкой дорозе розбили, листы у него отняли Можайских и от Шемячича; в одном листу четыреста коп широких грошей, а в другом листу пять сот коп грошей, полтораста рублев денег готовых, чара серебряна позолочена, ложка, святость; и князь велики приказал дать на поруку их розбойников, Андреа да Ждана Перетрутовых детей и сына Жданова Мартына, водлуг ему умовы и отворота не учинили».[19]

Блізу празь месяц, 27 красавіка 1527 году, пасьля павароту да Масквы, тыя самыя паслы перадалі князю Васілю Іванавічу ад Жыгімонта Казімеравіча другую копію сьпісу маскоўскіх гвалтаў, у якой справа аграбленьня віленскага купца Багдана Онкава-Анкевіча апісаная крыху іншымі словамі дый шырэй:

«Да говорили бы есте от нас брату нашому (вялікаму князю Васілю Іванавічу), что мешчанин наш виленски, Богдан Онкевич поехал был, навпоминаючыся довгу своего, что ему винны были Ошемячич и Можайскій; ино его в земли великого князя розбито и многи товары и теж тыи листы записныи, которыи в себе мел на тыи долги свои, то теж ему взято, где ж тых розбойников, Андрея а Ждана Перетрутовых, на которых он жаловал, поимано и за поруку их подавано; ино как будучи нашим послом у великого князя, наши послы до великого князя бояр посылали и им сами говорили, абы тому подданому нашему справедливость была вчинена, и на он час тому справедливость ся стати не могла. И брат бы наш, велики князь, и теперь казал справедливость тому учинити без отволоку».[20]

Названыя ў актах прозьвішчы Мажайскага й Шэмячыча належаць северскім удзельным князём: старадубскаму князю Васілю Сямёнавічу Мажайскаму дый ноўгарад-северскаму Васілю Іванавічу Шэмячычу. Калі, як згадваецца ў другой актавай вэрсіі, справа «разьбіцьця» Багдана Анкевіча падымалася ў Маскве ўжо раней — «будучы нашым паслом у вялікага князя» — дык сам факт аграбленьня мусіў здарыцца найпазьней у першай палове 1526 году, бо «веруючыя лісты» паслом, ваяводзе полацкаму Пётры Кішцы дый маршалку й пісару Вялікага Княства Літоўскага, старасьце слонімскаму Богушу Багавіціновічу былі выстаўленыя ў Варшаве Жыгімонтам Казімеравічам 11 жніўня 1526 году, і хутка пасьля гэтага яны да Масквы й ад'ехалі.[21]

Зьмест прыведзеных вышэй дакумэнтаў цікавы й важны для Скарынавае біяграфіі з колькіх гледзішчаў. Багдан Онкаў, ці Анкевіч, сын купца й райцы места віленскага, як ведама, фінансаваў Скарынавыя праскія выданьні. На некаторых экзэмплярах выдадзеных там кнігаў, — прыкладам Псалтыра, кнігі Ёва, Сыраха, Эклезіясты, — рукою, магчыма самога Скары-

[19] Памятники дипломатических сношений..., т. I, б. 752.
[20] Тамсама, б. 759.
[21] Тамсама, б. 714-715.

ны, парobленыя прыпіскі: «А то ся стало накладом Богдана Онкава сына, радцы места виленскаго».[22]

Адзначыць, найперш, трэба факт вялікіх грашовых сумаў, якімі Багдан Онкаў-Анкевіч апэраваў. Для ўсьведамленьня сабе, чаго былі тады вартыя 900 коп грошаў, пазычаных Анкевічам князём Мажайскаму й Шэмячычу, можна прывесьці факт, што Полацак, другое па вялічыні й багацьці пасьля сталічнае Вільні места Вялікага Княства Літоўскага, плаціў тады ў скарб вялікага князя 400 коп падатку ў год. Дык апіраючыся на грашовую дапамогу вось гэтага багатага віленскага купца-фінансьера, Скарына й мог выдаваць свае раскошныя праскія кнігі.

Калі Багдан Онкаў-Анкевіч і празь вялікага князя Жыгімонта Казімеравіча ня мог дабіцца звароту ні зрабаваных грошаў і маемасьці, ні навет «запісных лістоў», хоць рабаўнікі былі ведамыя й схопленыя, дык прычына гэтага найскарэй была тая, што адказным перад Анкевічам за доўг Шэмячыча гэтым часам стаў ужо сам вялікі князь маскоўскі Васіль Іванавіч. А сталася гэта таму, што тры гады перад гэтым, у 1523 годзе, вялікі князь Васіль Іванавіч займеў нейкае падазрэньне супроць князя Шэмячыча й клікаў яго да Масквы. Князь Шэмячыч вычуваў подступ і да Масквы ня ехаў. Тады князь Васіль выслаў яму «апасныя граматы» — урачыстыя, з прысягамі й заклінаньнямі парукі, — ад сябе й ад маскоўскага мітрапаліты Данілы. Мітрапаліт гарантаваў князю Шэмячычу асабістую незачэпнасьць, прысягаючы «на образ Пречыстыя, да на чудотворцев, да на свою душу». Калі Шэмячыч апасным лістом у канцы паверыў і да Масквы прыехаў, князь Васіль загадаў схапіць яго й кінуць у цямніцу. Мітрапаліт-жа, які браў яго гэтак урачыста «на сваю душу», не заступіўся за зьняволенага ні словам. Маемасьць Шэмячыча князь Васіль Іванавіч сканфіскаваў, а гэтым самым перайшлі на яго й усе даўгавыя забавязаньні, што ляжалі на гэтай маемасьці. Дык вярнуць доўг Багдану Анкевічу князь Шэмячыч ужо ніяк ня мог. А князь маскоўскі Васіль Іванавіч, як відаць з вышэй прыведзеных актаў, варочаць гэты доўг за яго таксама ня зьбіраўся. Вось таму заставаліся бяз выніку ўсе дыпляматычныя захады ў справе даўгавое належнасьці Анкевічу дый шчэзьлі бязь сьледу «запісныя лісты», дакумэнтная падстава для спагону гэтага доўгу, якія для рабаўнікоў Ператрутавых былі зусім бязвартаснымі паперынамі. У 1529 годзе князь Васіль Шэмячыч у зняволеньні князя Васіля Іванавіча й памёр.[23] Факт аграбленьня ў Маскоўшчыне ведамага віленскага купца й немагчымасьць дабіцца звароту ані зрабаванае маемасьці, ані навет «запісных лістоў», напэўна былі галоснымі ўва ўсей тагачаснай Вільні. Мусіў ведаць пра гэтае здарэньне й Франьцішак Скарына. І гэтая прыкрая прыгода ў Маскоўшчыне з выдатным віленскім мешчанінам, якога Скарына добра знаў, не магла быць заахвочаньнем да падобнага падарожжа ў тую-ж Маскву самому Скарыне.

І ўсё-ж, нягледзячы на ўсе вышэй прыведзеныя яскравыя прыклады маскоўскае жорсткасьці ў абыходзе з чужынцамі, якія маглі стрымліваць

---

[22] Каратаев Иван. Описание славяно-русских книг напечатаных кирриловскими буквами, т. I. Санктпетербург, 1883, б. 23.

[23] Соловьев С. История..., т. 5, б. 407.

Скарыну перад падарожжам да Масквы й як лекара, і як перакладніка рэлігійных кнігаў, і як выдаўца й друкара, і навет як звычайнага купца, — ехаць да Масквы ён усё-ж наважыўся. На довад гэтага маем сяньня хоць і скупыя, але зусім пэўныя весткі. Да разгляду іх, як і самога Скарынавага падарожжа да Масквы, далей і пярэйдзем.

## 3

Сто год таму, у 1862 годзе, у весьцях венскае Імпэратарскае Акадэміі Навук, гісторык Язэп Фідлер апублікаваў працу «Спроба зьяднаньня расейскае царквы з рымскаю ў XVI стагодзьдзі». Напрыканцы яе Фідлер прывёў даслоўны лацінскі тэкст цікавага дакумэнту да гэтага пытаньня, які ён знайшоў у венскіх архівах, — копію інструкцыі караля польскага й вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста свайму паслу пры папе ў Рыме Альбэрту Крычку.[24] Інструкцыя гэтая не датаваная, але пісаная яна нейдзе на самым пачатку 1553 году й дае пагляды Жыгімонта Аўгуста й ягонае сэнатарскае рады ў справе наступнай:

На падставе даручэньня й паўнамоцтваў з Масквы, нейкі Немец Ёган Штайнбэрг на працягу 1552 году чыніў у Рыме энэргічныя захады перад папаю Юльянам III у справе наданьня каралеўскага тытулу й кароны тагачаснаму вялікаму князю маскоўскаму Івану Васілевічу Грознаму. Іван Грозны за карону абяцаў прызнаць над сабою духоўны аўтарытэт папы дый пастарацца давесьці да зьяднаньня цэркваў маскоўскае праваслаўнае з рымскаю. Папу справа гэтая вельмі зацікавіла й да маскоўскае прапановы паставіўся ён прыхільна, тымбольш, што пасьля спадзяванага зьяднаньня Маскоўшчыны з Рымам меў надзею ўлучыць яе ў плянаваны паход хрысьціянскіх дзяржаваў супроць пагражаючае тады ўсей Эўропе Турэччыны. Аднак-жа, перш чым прыняць у гэтай справе нейкія пастановы й пачыніць канкрэтныя крокі, папа даручыў пратэктару Польшчы пры сваім пасадзе, кардыналу Мафеі, паведаміць аб усім і зацікаўленага напэўна вельмі гэтым пытаньнем суседа Маскоўшчыны, вялікага князя літоўскага й караля польскага Жыгімонта Аўгуста, з просьбаю заняць у гэтай справе становішча.

Вось у вадказ на паведамленьне з Рыму пра захады Грознага ў справе каралеўскага тытулу й кароны была й пісаная інструкцыя Жыгімонта Аўгуста свайму паслу пры папе, Альбэрту Крычку, з даручэньнем перадаць пагляды караля й ягонае сэнатарскае рады папе й адпаведнай кардынальскай кангрэгацыі. У інструкцыі Жыгімонт Аўгуст даводзіў, што князь маскоўскі яднацца шчыра з каталіцкаю царквою ніколі ня думаў і ня думае. Ідзе яму толькі пра тое, каб выманупь сабе ад папы каралеўскі тытул і карону. Пра зьяданьне гаворыць ён цяпер толькі дзеля свае знанае прагнасьці тытулаў, бо-ж ведама, што маскоўскі князь дамагаецца ўжо навет таго, каб

---

[24] Fiedler Joseph. Ein Versuch der Vereinigung der russischen mit der römischen Kirche im sechzehnten Jahrhunderte. „Sitzungsberichte der Philosophisch-Historischen Classe der Kaiserlichen Akademie der Wissenschaften". Vierzigster Band, Heft I. Wien, 1862, б. 108-113.

яго называлі царом. Паводля Жыгімонта Аўгуста, ніякае дапамогі маскоўскі князь ня дасьць і ня можа даць папе й у паходзе супроць Туркаў. У выніку, наданьне маскоўскаму князю каралеўскага тытулу й кароны ня прынясе аніякае карысьці папскаму пасаду й хрысьціянству. Для Жыгімонта-ж Аўгуста й ягоных дзяржаваў крок гэты ня толькі не пажаданы, але палітычна вельмі шкодны й нябясьпечны. На падмацаваньне правільнасьці цьверджаньня, што Масква й князі маскоўскія ненавідзелі й ненавідзяць Рым і каталіцтва, Жыгімонт Аўгуст прыводзіць у інструкцыі цэлую чараду довадаў і гістарычных фактаў. Між іншым, дае ён і гэткі канкрэтны прыклад:

> „Nec sane dehinc ullum praeter vana promissa extitisse in eo, uel in Moscorum quopiam propensae erga Romanam et Catholicam Ecclesiam voluntatis argumentum, quin cum Diuo parente nostro regnante quidam de subditis eius pio studio ductus sacram scripturam lingua Russica imprimi et in lucem aedi currasset, et ad Moschos venisset, publice eos libros iussu Principis concrematos esse, propterea quod a Romanae ecclesiae addicto, et in locis eiusdem authoritati subjectis editi essent. Tantum est genti insitum odium latini et Romani nominis; ita ut quamuis sancti deigrati se in potestate Romani Pontificis fore, neutiquam credendum sit, ex animo id promitti, aut certum firmum ac diuturnum fore.[25]
>
> У перакладзе: «І ня толькі ня было ў яго (маскоўскага князя) дасюль нічога, апрача пустых абяцанак, а ў Маскоўцаў ніякіх азнакаў якое-колечы прыхільнасьці да Рымскае Каталіцкае Царквы, але хутчэй нешта адваротнае, бо, **калі вось у часе панаваньня нашага Нябожчыка бацькі адзін ягоны падданы, кіруючыся пабожным жаданьнем, пастараўся сьвятое пісьмо рускаю моваю надрукаваць і выдаць дый пайшоў да Масквы, кнігі ягоныя на загад Князя публічна былі там спаленыя дзеля таго, што належыў ён да Рымскае царквы дый што (кнігі) выдадзеныя былі ў мясцох, што падлягаюць ейнай зьверхнасьці.** Гэткая ненавісьць да лацінскага й рымскага імені ўкарэненая ў народзе гэтым, што якімі-б сьвятымі й багабойнымі пад зьверхніцтвам Рымскага Пастыра быць яны не прыракалі-б, ніколі ня трэба верыць, што чыняць гэта шчыра дый што запраўды будуць стойкімі й вытрывалымі».

Паколькі ў прыведзенай вышэй вестцы Жыгімонта Аўгуста прозьвішча не падаецца, паўстае само сабой пытаньне: хто-ж гэта быў гэты няўдатны перакладнік і выдавец сьвятога пісьма, кнігі якога ў Маскве былі спаленыя? Пытаньне гэтае найраней у навуковай літаратуры паставіў чэскі гісторык Язэп Пэрвольф, які першы адзначыў культурна-гістарычную цікавасьць прыведзенага ў інструкцыі эпізоду паленьня ў Маскве кнігаў. У другім томе свае працы «Славяне», што паказаўся з друку яшчэ ў 1888 годзе, Пэрвольф цытуе адпаведнае месца зь інструкцыі з сваею кароткаю заўвагаю: «Гутарка гэтта, праўдападобна, аб Скарынавых кнігах».[26]

---

[25] Тамсама, б. 110.

[26] Первольф И. И. Славяне, их взаимные отношения и связи, т. II. Варшава, 1888, б. 596-597.

Дый, хоць тэкст інструкцыі быў апублікаваны ўжо сто год таму, а прыведзены ў ей эпізод аб спаленьні ў Маскве біблійных кнігаў яшчэ ў мінулым стагодзьдзі зь іменем Скарыны зьвязваў Пэрвольф, — факт гэты заставаўся чамусьці незаўважаным у даволі багатай ужо тады й далей шпарка нарастаючай скарынаведнай літаратуры. Дакумэнту, апублікаванага Фідлерам, ня прыкмеціў і не адзначыў П. В. Уладзіміраў, аўтар першае большае, і, як дагэтуль, адзінае манаграфіі аб доктару Скарыне.[27] Дапушчэньне-ж Пэрвольфа Уладзіміраву таксама тады яшчэ ня было й не магло быць ведамым, бо 2-гі том «Славянаў», хоць і вышаў у тым самым годзе, што й Уладзімірава манаграфія, дый посьле яе, што відаць па тым, што Пэрвольф на працу Уладзімірава там ужо паклікаецца. Няведамым зусім гэты факт застаўся й значна пасьлей для аўтараў прац адмысловага Скарынінскага зборніка «Чатырохсотлецьце беларускага друку», выдадзенага Інстытутам Беларускае Культуры ў 1926 годзе ў Менску,[28] ані іншым тагачасным дасьледнікам Скарынавага жыцьця й дзейнасьці. І толькі яшчэ пасьлей і заўвагу Пэрвольфа, і адпаведнае месца зь інструкцыі апублікаванай Фідлерам, у друку нанава прывёў дый у сваіх працах прыдзяліў ім ужо больш увагі праскі гісторык А. В. Флароўскі.[29] Але ягоныя публікацыі, што краналі гэтую справу, і якія паказаліся ў часе, і адразу посьле Другое Сусьветнае Вайны, з прычыны цяжкога гістарычнага катаклізму, які перажывала тады Эўропа, даўжэйшы час заставаліся незаўважанымі.[30]

У выніку й дагэтуль усё яшчэ няма дакладнейшае аналізы й гістарычнага асэнсаваньня гэтае кароткае дый вельмі цікавае й вымоўнае весткі. Ніхто крытычна не разгледзіў ані пытаньня верагоднасьці яе жарала, ані справы канкрэтнае датычнасьці яе — ці не — да асобы доктара Францішка Скарыны. У выпадку-ж такое датычнасьці — ніхто яе не разгледзіў на аснове ведамых нам ужо фактаў ягонага жыцьцяпісу, каб гэтым шляхам удакладніць час, абставіны, і, — калі гэта магчыма, — выявіць і імёны асобаў зьвязаных з падзеяй, найперш імя таго маскоўскага князя, на загад якога кнігі былі спаленыя. І ў канцы, што асабліва важна, ніхто не парупіўся насьвятліць тых палітычных і культурных дачыненьняў, што падзею гэтую гістарычна абумовілі й да драматычнага яе завяршэньня давялі. Флароўскі ў сваіх працах зьвярнуў увагу толькі на некаторыя з вышэй адзначаных аспэктаў маскоўскага паленьня кнігаў дый крануў іх коратка й вельмі пабежна. Таму гэтта й чыніцца спроба разгледзіць справу шырэй, каб дайсьці да адказу: чым новым і цікавым ведамка Жыгімонта Аўгуста

---

[27] Владимиров Петр Владимирович. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык. Общество Любителей Древней Письменности, т. ХС. Санктпетербург, 1888, 3+XXVI+311 б.

[28] Чатырохсотлецьце беларускага друку, 1525-1925. Інстытут Беларускае Культуры. Менск, 1926, 360 бачынаў.

[29] Florowskij A. V. Die Anfänge des Buchdruckes bei den Ostslaven. „Slavische Rundschau“, Jahrgang XII, Nr. 1-2. Prag, 1940, б. 76-77; Флоровский А. В. Чешская библия..., б. 210-212.

[30] У Беларускай ССР ці ня першы падарожжа доктара Скарыны да Масквы, на аснове публікацыяў Флароўскага, адзначыў М. А. Алексютовіч у сваёй кніжцы: Скарына, яго дзейнасьць і сьветапогляд. Менск, 1958, б. 48-50.

папаўняе нам гэтак некамплетны летапіс жыцьця й дзейнасьці выдатнага засноўніка беларускага друку доктара Франьцішка Скарыны з Полацка.

## 4

Хоць апублікаваны Фідлерам тэкст інструкцыі Жыгімонта Аўгуста свайму паслу ў Рыме й быў узяты не з самога арыгіналу, але з копіі, якую Фідлер знайшоў у венскім дзяржаўным архіве, аўтэнтычнасьці гэтае інструкцыі пярэчыць няма ніякіх асноваў. Ня сумляваўся ў гэтым Фідлер, ніякіх засьцярогаў не рабіў і Пэрвольф, ні Флароўскі. З тагачасным каралём аўстрыйскім, чэскім і вугорскім, Фэрдынандам I, — тымсамым, у якога батанікам-садоўнікам Скарына быў у Празе ў вапошнія гады свайго жыцьця, — Жыгімонт Аўгуст быў у прыязных дачыненьнях дый знаходзіўся ў блізкім сваяцтве, як ягоны зяць па першай жонцы Альжбеце. У часе-ж паднятае ў Рыме справы кароны Івану Грознаму Жыгімонт Аўгуст, аўдавелы другі раз па сьмерці Барбары Радзівілянкі, сватаўся якраз да другое дачкі Фэрдынанда, удавы таксама, Кацярыны. 17 сакавіка 1553 году, ці хутка пасьля таго, як была пісаная інструкцыя, да караля Фэрдынанда ў Вену, у ролі пасла й свата прыяжджаў ад Жыгімонта Аўгуста ваявода віленскі й канцлер Вялікага Княства Літоўскага князь Мікалай Радзівіл Чорны. У часе пасольства князь Радзівіл прасіў для свайго валадара рукі Фэрдынандавай дачкі Кацярыны й, адначасна, узьдзеяньня на імпэратара Карла V, Фэрдынандавага брата, каб той не падтрымліваў перад папаю захадаў Івана Грознага ў справе каралеўскае кароны.[31] У вабедзьвюх справах пасольства дало пазытыўны вынік. Пры гэткіх прыязных дачыненьнях з Фэрдынандам, найбаржджэй і копію свае ранейшае інструкцыі паслу ў Рым Жыгімонт Аўгуст накіраваў каралю Фэрдынанду ў Вену сам — да ведама й з надзеяй на падтрыманьне свайго становішча супроць Івана Грознага й перад імпэратарам, і перад папаю.

Калі няма ніякіх асноваў сумлявацца ў аўтэнтычнасьці самога тэксту інструкцыі, дык ніякіх засьцярогаў ня можна зрабіць і ў справе верагоднасьці пададзенага ў ей факту пра паленьне ў Маскве кнігаў Біблії. Як пададзена на пачатку інструкцыі, пісаная была яна ў Варшаве, посьля прыезду Жыгімонта Аўгуста зь Літвы ды па нарадзе з прыбочнымі сэнатарамі. Жыгімонт Аўгуст і сэнатары, — сярод якіх найбольш уплывовымі былі тады якраз прадстаўнікі Вялікага Княства Літоўскага, найперш князі Радзівілы, — належылі да асоб, якія павінны былі добра знаць усе важнейшыя тагачасныя падзеі ў Ліцьве й Маскоўшчыне, і сумлявацца ў верагоднасьці іх сьветчаньня пра паленьне кнігаў у Маскве няма ніякіх асноваў. Ведама, што Жыгімонт Аўгуст (1520-1572) навет і жыць любіў больш у Вялікім Княсьцьве Літоўскім, як у Польшчы, асабліва падабалася яму Вільня; й ён напэўна быў добра абазнаны з тым, што дзеілася ў Ліцьве й за яго жыцьця, і за панаваньня ягонага бацькі Жыгімонта. Пра блізкога-ж дарадніка Жыгімонта Аўгуста, канцлера літоўскага Мікалая Радзівіла Чорнага

[31] F i e d l e r J. Ein Versuch..., б. 61.

знаем, што ў ягонай бібліятэцы ў Вільні была Скарынава Біблія. Ведама гэта на аснове сьветчаньня Італьянца Паолё Вэргэрыя, які ў 1556 годзе — усяго тры гады па напісаньні інструкцыі — гасьціў у Радзівіла й посьля адзначыў, што бачыў у Вільні друкаваную Біблію „in lingua Ruthena“. Магла быць гэта толькі Біблія Скарынавага выданьня, бо ніякае іншае друкаванае Бібліі ні „in lingua Ruthena“, ні ў царкоўнаславянскай мове, тады яшчэ ня было.[32]

Сама інструкцыя — даволі даўгі й старанна матываваны дыпляматычны дакумэнт. Пісаная яна з шырокім абгрунтаваньнем і гістарычнымі й тагачаснымі фактамі. Сваім рачовым тонам і зьместам яна не дае ніякіх асноваў для нейкіх дапушчэньняў, што прыведзены ў ей выпадак паленьня ў Маскве кнігаў Бібліі не гістарычная, ведамая ўкладаньнікам інструкцыі, падзея, а нейкая знарочная выдумка, для падмацаваньня цьверджаньня Жыгімонта Аўгуста аб традыцыйнай ненавісьці да каталіцтва й Рыму Масквы й маскоўскага князя. Факт гэтае ненавісьці тады гэтак добра быў ведамы й самому Рыму, і Эўропе, довадаў на яго хапала, і ня было аніякое патрэбы падмацоўваць яго яшчэ й нейкімі выдуманымі прыкладамі. Дый найбольш пераконлівa за верагоднасьцяй прыведзенае весткі гавора тое, што за Жыгімонта Казімеравіча, бацькі Жыгімонта Аўгуста, кнігі Бібліі запраўды былі перакладзеныя на «рускую» мову, як тады пераважна старабеларускую мову звалі, дый выдадзеныя ў Празе й Вільні адным зь ягоных падданых. Дык аснаўны факт пра Біблію й яе выдаўца ў інструкцыі праўдзівы, гістарічны. А гэта вельмі важкое падмацаваньне таго, што й вестка пра падарожжа да Масквы, дый пра спаленьне тамака кнігаў, — таксама адказвае праўдзе.

Пераходзячы далей да справы ўстанаўленьня імені выдаўца, пра якога расказвае інструкцыя, даводзіцца прызнаць, што адказ на гэта існуе толькі адзін і згодны з дапушчэньнем Пэрвольфа: гутарка тут можа быць толькі пра доктара Франьцішка Скарыну. Толькі Скарына перакладаў і выдаваў Біблію за панаваньня Жыгімонта Казімеравіча моваю «рускаю», як сам ён у прадмовах да выдадзеных кнігаў старабеларускую мову называў. Слова «руска» Скарына паставіў навет і на загаловачнай бачыне да ўсяе Бібліі ў самым назове: «БІВЛИЯ РУСКА». Ня дзіва таму, калі «рускай» заве яе й Жыгімонт Аўгуст у сваей інструкцыі.

Ніякіх іншых выдаўцоў «рускай» Бібліі за Жыгімонта Казімеравіча на прасторах ягоных валаданьняў гісторыя ня ведае. Адзіны папярэднік Скарыны ў галіне кірылічнага друку на тэрыторыі Рэчыпаспалітае, Немец Швайпольт Фіёль, што выдаваў праваслаўныя рэлігійныя кнігі ў 1491 годзе ў Кракаве, выдаваў іх не за Жыгімонта Казімеравіча, а за часоў караля Казімера Ягайлавіча. Дый друкаваў ён ня Біблію, а літургічныя кнігі, і друкаваў іх не «парускy», а пацаркоўнаславянску. У Маскву за часоў караля Жыгімонта Казімеравіча езьдзіць із сваімі кнігамі Швайпольт Фіёль таксама ня мог, хоць-бы таму, што кнігі ягоныя каталіцкімі духоўнымі ўладамі ў Кракаве былі сканфіскаваныя й зьнішчаныя ў тым-жа 1491 годзе.

---

[32] Dobrovsky Josef. Anhang von der Skorinischen Bibel-Übersetzung. „Slovanka“, t. I. Prag, 1814, б. 154.

Посьля-ж Фіёлевай і Скарынавай друкарняў, трэйцяю па парадку на прасторах Рэчыпаспалітае, зь якое выходзілі кірылічныя друкі, была друкарня Сымона Буднага ў Нясьвіжы, наладжаная ў 1562 годзе, ці дзевяць год посьля напісаньня інструкцыі Жыгімонта Аўгуста. Дык аб выдаўцы кнігаў гэтае друкарні ў інструкцыі ўжо ніяк ня можа быць гутарка. З усяго вышэй сказанага вынікае, што вестка інструкцыі пра выдаўца кнігаў можа тычыцца толькі аднае гістарычна ведамае асобы — доктара Францішка Скарыны.

Пры сучаснай ведзе жыцьцяпісу доктара Скарыны, галоўна ў выніку выяўленьне факту, што памёр ён каля 1540 году, ня цяжка сяньня ўстанавіць і імя таго маскоўскага князя, на загад якога кнігі былі спаленыя. Мог быць ім толькі князь Васіль III Іванавіч, што княжыў ад 1505 да канца 1533 году, ці якраз у пару княжэньня ў Ліцьве Жыгімонта Казімеравіча (1506-1548). Ягоны сын і наступнік, Іван IV Грозны, народжаны ў 1530 годзе, за Скарынавага жыцьця быў малалетнім, знайходзіўся пад апекаю маці й баярскае рады й ніякіх загадаў як князь яшчэ не выдаваў. Да гэтага ведама, што ў гадох 1535-1540 Скарына быў у Чэхіі, у Празе. Дык даводзіцца прыняць як рэч пэўную, што да Масквы Скарына езьдзіў у гады княжэньня там Васіля III Іванавіча й гэта гэты князь даў загад спаліць публічна кнігі Бібліі Скарынавага перакладу й друку.

Галавою маскоўскае праваслаўнае царквы ў тым часе быў той самы мітрапаліт Даніла, што гэтак бязьлітасна й настырліва прасьледваў Максіма Грэка за ягоныя «еллінскія ересі» дый памылкі пры перакладзе царкоўных кнігаў. Трэба думаць, што загад вялікага князя аб спаленьні Скарынавых кнігаў быў выдадзены не бязь ведама, а магчыма навет і на дамаганьне, мітрапаліта. Мітрапаліт Даніла, як можна было бачыць хоць-бы зь ягонае жорсткае расправы саборам над Максімам Грэкам, ня грэбаваў і самымі строгімі спосабамі для прасьледу тых, хто адхінаўся ад адзіна прававерная, паводля яго, маскоўскае царкоўнае традыцыі. Мітрапалітам маскоўскім Даніла быў назначаны без царкоўнага сабору, самым вялікім князем Васілём, у 1522 годзе. З пасаду мітрапаліты быў ён зьняты ў годзе 1539.

Пераходзячы да справы ўдакладненьня часу, у якім Скарынавае падарожжа да Масквы найбольш праўдападобна адбылося, трэба найперш узяць на ўвет, што ехаць туды зь кнігамі Скарына мог не раней, як кнігі гэтыя надрукаваў. Друкаваць-жа Біблію пачаў ён у Празе летам 1517 году й там заставаўся аж да канца году 1519. Апошняя выдадзеная ў Празе кніга — Кніга Судзьдзяў — датаваная днём 5 сьнежня 1519 году. Дык за найранейшы магчымы час Скарынавых наведзінаў Масквы трэба прыняць год наступны — 1520-ты. Паколькі-ж князь Васіль Іванавіч памёр 4 сьнежня 1533 году — гэты год даводзіцца прызнаць за апошні магчымы для Скарынавага прыезду ў Маскву. Дык гады 1520-1533 і будуць часам, у якім Скарынавае падарожжа да Масквы магло адбыцца.

Ніякіх ваенных дзеяньняў між Вялікім Княствам Літоўскім і Маскоўшчынай у 1520 годзе ўжо ня было. Але да ўгоды між Жыгімонтам Казімеравічам і Васілём Іванавічам аб «перамірных летах» дайшло толькі пры канцы 1522 году. Самую-ж перамірную грамату Жыгімонт сваім подпісам пацьвердзіў яшчэ пазьней, бо 18 лютага 1523 году. У вадным з пунктаў гэтае граматы кажацца: «А нашим купцом изо всих наших земль во вси твои

земли пріехати им и отехати добровольно, без всяких зачепок».[33] Выдаецца неpraўдападобным, каб посьля доўгіх год крывавых войнаў між Вялікім Княствам Літоўскім і Маскоўшчынаю, Скарына рызыкаваў ехаць да Масквы перад тым, як угода аб «перамірных летах» была падпісаная, дый, асабліва, бяз праўнае аховы пункту перамірнае граматы аб купецкай незачэпнасьці. Маючы гэта на ўвазе, трэба лічыць за мала праўдападобнае, каб Скарынава падарожжа да Масквы мела месца раней 1523 году, году падпісаньня перамірнае граматы.

Калі-ж зьвернем увагу на тое, што віленскі Скарынаў «Апостал» выйшаў з друку на самым пачатку 1525 году, дык цяжка спадзявацца, каб падарожжа магло адбыцца й у 1524-м дый нават і 1523 годзе, бо прыгатова да друку тэкстаў, выснашчэньне самае друкарні, нарыхтаваньне новага друкарскага шрыфту, здабыцьцё паперы, набор, карэкта й сам друк такое не малое кнігі, як «Апостал» — 351 карта — усё гэта вымагала нясупыннага й руплівага асабістага дагляду дый мусіла забіраць Скарыне шмат часу. З другога боку, толькі лягічна дапушчаць, што да Масквы Скарына выбраўся хутчэй посьля таго, як меў сьвежа надрукаваную, у большым ліку, новую кнігу, як перад тым і толькі з кнігамі праскага друку. Гэтыя меркаваньні прыводзяць да прыпушчэньня, што падарожжа Скарыны да Масквы адбылося найхутчэй не перад паяваю першае ягонае віленскае кнігі «Апостала», а посьля, ці па сакавіку 1525 г. Маючы гэта на ўвазе, трэба прыняць за найбольш праўдападобную пару, у якой Скарына да Масквы езьдзіў, час ад выхаду «Апостала» да сьмерці князя Васіля Іванавіча, ці гады 1525-1533.

А. В. Флароўскі таксама дапушчае, што Скарынавае падарожжа да Масквы адбылося ня перад выхадам «Апостала», але посьле, і матывуе гэта пасвойму. Фларoўскі думае, што да Масквы Скарына найбаржджэй ехаў ня з кнігамі праскага выданьня, якія былі ў беларускім перакладзе, а хутчэй зь віленскім «Апосталам», што «з гледзішча тэксту бясспрэчна стаяў на традыцыйным царкоўна славянскім груньце». Гэты свой пагляд Фларoўскі падмацоўвае яшчэ заўвагаю, што «Апостал» належыў да кнігаў, на якія было асабліва вялікае запатрабаваньне ў усходнеславянскім асяродзьдзі. На довад гэтага ён прыводзіць факт, што Іван Хведаравіч (Фёдараў) і ў Маскве, і ў Львове сваё выдавецтва пачынаў з тае самае кнігі — «Апостала».[34]

Адзначаючы гэтае цікавае меркаваньне Фларoўскага, трэба заўважыць, што й той «традыцыйна царкоўнаславянскі» тэкст Скарынавага «Апостала» быў усё-ж не маскоўскае расейскае, а літоўскае, беларускае традыцыі й рэдакцыі, да гэтага яшчэ й не бяз моўных зьменаў, уведзеных і самым Скарынам. Пры тым, пераплецены ён быў шматлікімі ўводнымі й замыкальнымі прыпіскамі й заўвагамі да паасобных разьдзелаў і «пасланьняў» ужо зусім беларускаю моваю. Дык калі й запраўды ў меркаваньнях Скарыны мова тэксту «Апостала», як больш прывычная вуху маскоўскаму, была ўзятая на ўвагу, дык усё-ж, хоць-бы з прычыны шматлікіх Скарынавых зьменаў

[33] Акты относящиеся к истории Западной России, собраные и изданые Археографическою Коммиссиею, т. 2. Санктпетербург, 1848, б. 150.

[34] Флоровский А. В. Чешская библия..., б. 212.

і дапісак, і ягоны «Апостал» меў у сабе даволі беларускага моўнага элемэнту, каб у Маскве адчулі яго за чужы, падазроны, «еретычны» дый варты зьнішчэньня ў вагні. На сваім, абаснаваным моўнымі мяркаваньнямі, дапушчэньні аб найранейшым праўдападобным годзе Скарынавага падарожжа да Масквы Флароўскі й спыніўся. Даць свой нейкі рубеж у часе для найпазьнейшага магчымага году такога падарожжа ён не стараўся, а, згодна із словамі ў інструкцыі Жыгімонта Аўгуста — «у часе панаваньня нашага Нябошчыка бацькі» — пакідаў адкрытаю такую магчымасьць да 1548 году, году сьмерці Жыгімонта Казімеравіча.

Да пытаньня, якія свае кнігі Скарына да Масквы браў, існуе пасярэдні паказьнік і ў тэксьце інструкцыі, а пайменна ў словах, што выдадзеныя яны былі „in locis" — «у мясцох». Ужыты тутка множны лік трэба разумець, што да Масквы Скарына ўзяў і кнігі праскага, і віленскага выданьня. Гэта ізноў-жа, падмацоўвае ранейшае дапушчэньне, што падарожжа павінна было адбыцца посьля выхаду найменш першае віленскае Скарынавае кнігі «Апостала», ці не раней 1525 году. Гэтак, супастаўленьне Скарынавых жыцьцяпісных фактаў з фактамі гістарычнымі прыводзіць да выснаву, што хоць магчымы час для Скарынавага падарожжа да Масквы абыймае гады 1520-1533, дык найбольш праўдападобна падарожжа гэтае адбылося ў гадох 1525-1533.

Хоць разгляд важнага й, адначасна, складанага пытаньня веравызнаньня Францішка Скарыны ня ўходзіць у межы намечаныя для гэтае працы, адзначыць усё-ж варта й словы ў інструкцыі аб тым, што выдавец, кнігі якога ў Маскве былі спаленыя, «належыў . . . да Рымскае царквы». Паколькі справа веравызнаньня Скарыны ў навуковай літаратуры й па сяньня канчаткова не разьвязаная, дзеля гэтага заўвага пра «рымскую» яго прыналежнасьць у інструкцыі Жыгімонта Аўгуста мае вялікую цікавасьць. Важная яна таму, што хоць і зробленая больш дзесяці год посьля сьмерці Скарыны, але выказаная яшчэ ягонымі сучасьнікамі. Да гэтае-ж пары ведамыя толькі шматлікія й вельмі супярэчлівыя меркаваньні ў гэтай справе пазьнейшых аўтараў. Словаў інструкцыі аб «рымскай» прыналежнасьці выдаўца «рускай» Біблії ня можна аднак-жа ўважаць за выясьняючыя канчатковa пытаньне Скарынавага веравызнаньня. За падставу для такога дапушчэньня маскоўскаму князю Васілю Іванавічу магло паслужыць само Скарынавае імя Францішак — довад, на аснове якога каталікам Скарыну ўважалі й уважаюць і некаторыя дасьледнікі. У выпадку Скарыны гэты довад, аднак-жа, ня ёсьць дастатковым і вырашальным.

На заканчэньне разгляду весткі інструкцыі важна адзначыць, што гаворыцца ў ёй толькі пра спаленьне кнігаў, але нічога ня згадваецца пра друкарскую снасьць. А можна было-б дапушчаць, што едучы да далёкае Масквы Скарына мог узяць із сабою й шрыфты дый патрэбныя друкарскія прылады, на выпадак, калі-б там знайшліся адпаведныя ўмовы для разгарненьня друкарскае справы. Калі пра гэта нічога не ўспамінаецца ў вестцы інструкцыі, дык гэта можна тлумачыць і тым, што факт зьнішчэньня шрыфту, калі ён і меў месца, ня меў ніякага значаньня для справы паказаньня ненавісьці Масквы да Рыму, пра што Жыгімонту Аўгусту ў інструкцыі хадзіла. І дзеля гэтага незгадваньне ў інструкцыі шрыфту й друкарскіх прыладаў яшчэ ня довад таго, што ў Маскве Скарына іх із сабою ня меў. У магчымай страце ў Маскве шрыфтоў дый друкарскае снасьці можа ляжаць

і адказ на неразьвязанае дагэтуль у Скарынавым жыцьцяпісе пытаньне: што запраўды сталася зь віленскаю Скарынавай друкарняй? Пры далейшых спробах высьсьненьня гэтае справы магчымасьць зьнішчэньня Скарынавых друкарскіх прыладаў і шрыфтоў у Маскве давядзецца браць паважна на ўвагу. Гэтай магчымасьці не пярэчыць тое, што некаторыя заставіцы з Скарынавае віленскае друкарні пры канцы XVI стагодзьдзя паказваюцца ў кнігах выдадзеных у друкарні віленскага Сьвятатраецкага брацтва. Заставіцы гэтыя маглі паходзіць з тае часткі друкарскае снасьці, што засталася ў Вільні й таму захавалася.

Ужо А. В. Флароўскі адзначыў,[35] што ў друкаванай у 1584 годзе ў Парыжы кнізе выдатнага францускага касмографа, Скарынавага сучасьніка, Анрэ Тэвэта (1502-1590), ёсьць згадка пра тое, што ў Маскве былі спаленыя шрыфты, прывезеныя туды нейкім «рускім купцом» — „par un Marchand Russien". Дый праверка паказвае, што Тэвэт сваю вестку датуе выразна 60-мі гадамі XVI стагодзьдзя — „mil cinq cens foixante", — што ніяк не пазваляе зьвязваць яе з фактам паленьня ў Маскве кнігаў, пра які Жыгімонт Аўгуст піша ўжо на самым пачатку 50-х гадоў таго-ж стагодзьдзя, дый піша як аб падзеі, што адбылася даўней, бо за панаваньня ягонага «нябожчыка бацькі». Тэвэтава вестка найбольш праўдападобна тычыцца зьнішчэньня ў 1565 годзе ў Маскве друкарні Івана Хведаравіча й Пётры Мсьціслаўца, ці гэтак званае маскоўскае «ананімнае» друкарні.[36]

Прыняць трэба за факт пэўны, што ўжо сама страта кнігаў у Маскве была для Скарыны ня толькі апаразаю характару маральнага, але й вялікім фінансавым ударам. Кнігі ў гэнуюу пару мелі вялікую вартасьць. Калі-ж — што зусім магчыма — разам быў тады зьнішчаны й шрыфт дый друкарская снасьць, гэта ўжо дастаткова вялікая матар'яльная няўдача, каб браць яе на ўвагу пры шуканьні прычынаў, чаму пасьля выданьня дзьвёх усяго кнігаў Скарынавая віленская выдавецкая дзейнасьць абарвалася, і — назаўсёды. Вестка інструкцыі важная й для насьвятленьня пытаньня, чаму кнігі Скарынавага выданьня сяньня гэткія рэдкія. Калі Скарына наважыўся ехаць да далёкае Масквы, дык хіба-ж браў ён із сабою не адну-дзьве кнігі, а большы іх лік. Зьнішчэньне іх у Маскве й ёсьць аднэю з прычынаў вялікае цяпер іх рэдкасьці. Нішчыліся напэўна Скарынавыя кнігі ў Маскоўшчыне й пасьлей, у часе колькіх акцыяў прасьледу й паленьня там кнігаў «литовское печати» ці «литовских».[37] Дый былі гэта кнігі, што зь Беларусі ў Маскоўшчыну трапілі ўжо ў пасьлейшых гадох, а ня кнігі, завезеныя туды самым Скарынам.

Пра адзін і вельмі важны мамэнт маскоўскае драматычнае падзеі Жыгімонт Аўгуст нейк нічога ў сваей інструкцыі не гавора: што сталася ў Маскве із самым выдаўцом, кнігі якога там публічна спалілі? Ці пацярпеў у той ці іншы спосаб і ён, ці мо' пасьпеў ратавацца ўцёкамі перад тым, як

---

[35] Тамсама.
[36] Thevet André. Pourtraits et vies des hommes illustres..., t. 2. Paris, 1584, б. 389.
[37] Собрание государственных грамот и договоров, т. III. № 77. Москва, 1822, б. 298-299. Таксама: Оглоблин Н. — К истории гонения на «литовские книги» в XVII веке. Библиограф, № I. С.-Петербург, 1890, б. 6-7; Акты Московского Государства, т. I. Санктпетербург, 1890, б. 224-225.

маскоўскі князь паклаў сваю руку й на яго. Што сам Скарына з усяе вельмі яму нябясьпечнае прыгоды выйшаў жывым — гэта сяньня добра ведама, бо ў другой палове трыццатых гадоў XVI стагодзьдзя ён напэўна яшчэ жыў і працаваў батанікам-садоўнікам у Празе. Пасярэдня пацьвярджае гэты факт і вестка інструкцыі, бо, калі-б доля выдаўца ў Маскве была падобнаю да ягоных кнігаў, Жыгімонт Аўгуст хіба-ж не замарудзіў-бы адзначыць гэта ў сваей інструкцыі.

Калі Скарына выйшаў зь вельмі няпрыемнае прыгоды з жыцьцём, зусім магчыма было гэта вынікам таго, што знайходзіўся ён пад праўнаю аховаю вышэй прыведзенае перамірнае гарантыі 1523 году пра незачэпнасьць купцоў Літвы ў Маскоўшчыне, а маскоўскіх у Ліцьве. Ахоўваў яго ад долі Баўтрамея Ґотана ці эўрапейскіх лекараў у Маскве й ужо сам факт суседзтва Вялікага Княства Літоўскага з Маскоўшчынаю, што давала магчымасьць Жыгімонту Казімеравічу, як вялікаму князю літоўскаму, у кажны мамэнт адказаць контррэпрэсіямі супроць маскоўскіх купцоў і падданых на тэрыторыі свае дзяржавы. Ні Ґотан з далёкае Любэкі, ні абодва заходняэўрапейскія лекары, ні манах Афонскае гары Максім Грэк такое рэальнае беспасярэдняе дзяржаўнае ахоўнае сілы за сабою ня мелі. Лёс іхні й жыцьцё залежылі цалком ад волі й ласкі маскоўскага вялікага князя. Вынік гэтага, як мы бачылі, для ўсіх аказаўся вельмі трагічным.

## 5

Дык на аснове вышэй разгледжанага сяньня стае ведамым напэўна, што ў сваей нясупыннай жыцьцёвай актыўнасьці доктар Скарына ня толькі зьведаў землі цэнтральнае й заходняе Эўропы, але наважыўся падацца й на эўразійскі ўсход, у Маскоўшчыну. Гэты, цяпер пэўны факт у будучыні давядзецца браць на ўвагу ўсім біёграфам доктара Францішка Скарыны, бо маскоўскі эпізод Скарынавага жыцьцяпісу мае вялікую вагу й цікавасьць з колькіх розных гледзішчаў. Каб усьведаміць сабе ўсю ягоную культурна-гістарычную вымову, важна найперш разгледзіць тыя абставіны й прычыны, якія да публічнага аўтадафэ Скарынавых кнігаў у Маскве давялі дый і мусілі да яго давесьці.

Адну зь іх прывёў ужо Жыгімонт Аўгуст у сваей інструкцыі, адзначаючы тое, што кнігі Бібліі былі спаленыя ў Маскве «дзеля таго, што належыў ён (выдавец) да Рымскае царквы, дый што (кнігі) выдадзеныя былі ў мясцох, што падлягаюць ейнае зьверхнасьці». Што да першае часткі гэтага цьверджаньня, — аб прыналежнасьці выдаўца да «Рымскае царквы», дык, — як перад тым ужо згадвалася, — каб дапушчэньне такое зрабіць, для маскоўскага князя й мітрапаліта дастатковую падставу давала само Скарынава каталіцкае імя «Францішак», якое красавала на пачатку й канцы кажнае надрукаванае ім кнігі. Зь цьверджаньнем другім, што кнігі былі выдадзеныя «ў мясцох... рымскае зьверхнасьці», даводзіцца таксама згадзіцца, бо й Прага, і Вільня ў межах гэтае зьверхнасьці тады былі, — Вільня й Вялікае Княства Літоўскае на той падставе, што гаспадар яго, вялікі князь, адначасны й кароль Польшчы, быў каталіцкага веравызнаньня й фармальна падпарадкаваўся рэлігійнаму аўтарытэту папы. Вось гэта давала падставу ўважаць

Вільню за места ў межах «рымскае зьверхнасьці», хоць аграмадная бальшыня жыхароў Вялікага Княства Літоўскага, як праваслаўная, зьверхнасьці Рыму й не падлягала. Дый, калі Жыгімонт Аўгуст адзначае рэлігійны рымска-каталіцкі мамэнт, зьвязаны з выдаўцом і месцамі друку кнігаў, як адзіную прычыну іхняга спаленьня ў Маскве, гэта ня значыць, што й запраўды была толькі прычына гэтая. Што Жыгімонт Аўгуст толькі аб гэтым піша, гэта зразумела, бо мэта ягонае інструкцыі — даць папу якмага больш пераконлівыя прыклады-довады таго, што Масква й маскоўскі князь да Рыму й каталіцтва запраўды нічога іншага, апрача ненавісьці, ня мае, і хоча толькі ашукаць Рым, каб здабыць сабе каралеўскую карону. Усякія іншыя матывы спаленьня ў Маскве кнігаў Бібліі, калі яны й існавалі, для дыпляматычна-палітычных мэтаў інструкцыі Жыгімонта Аўгуста былі няістотнымі.

А тымчасам, калі навет Скарынавыя кнігі й запраўды ў Маскве спалілі за іхнае паходжаньне з-пад «рымскае зьверхнасьці», гэта не павінна закрываць важнага факту, што непажаданымі, і навет няпрыемлівымі, яны былі для маскоўскае князеве й маскоўскае царкоўнае ўлады й з колькіх іншых, дый вельмі істотных, гледзішчаў. Найперш, трэба зьвярнуць увагу на тое, што Скарынавыя кнігі былі выдадзеныя ня толькі на прасторы чужой Маскве рэлігійна-царкоўнай «зьверхнасьці», але й чужой дый варожай зьверхнасьці палітычна-дзяржаўнай. «Апостал» выйшаў у Вільні, сталічным месьце Вялікага Княства Літоўскага, зь якім Масква ад стагодзьдзяў была ў зацятым і палітычным, і ваенным змаганьні за гегемонію й уладу над праваслаўнымі прасторамі народаў усходняе Эўропы. За жыцьця якраз Франьцішка Скарыны між гэтымі дзяржавамі адбылася цэлая чарада цяжкіх, даўгіх, крывавых войнаў, войнаў закончаных вялікаю, зьнішчальнаю апаразаю маскоўцаў пад Воршаю, але й адначаснаю стратаю на карысьць Масквы важнае цьвярдыні Вялікага Княства Літоўскага — Смаленску.

Да якое ступені ў Скарынавую пару нарасла сярод праваслаўных Літвы варожасьць да Маскоўшчыны й, асабліва, яе агрэсыўных дэспатычных князёў, можа сьветчыць той факт, што калі апякун праваслаў'я й праваслаўны сам, гэтман Вялікага Княства Літоўскага, князь Канстантын Астроскі, у 1514 г. у крывавым баі пад Воршаю ўшчэнт разьбіў восемдзесяцітысячную армію Масквы й з удзячнасьці за перамогу заснаваў і сваім коштам збудаваў Сьвятатраецкую царкву ў Вільні, дык у ёй загадаў ён выкаваць гэткі напіс: «В лето 1514 церковь сю созда Константин Острожскій, гетман в. кн. Литовскаго, в память победы под Оршею над врагом и супостатом веры христіянское, православное, князем Московским».

Дык ня дзіва, калі пры атмасфэры безаглядпае палітычнае й мілітарнае рывалізацыі, у Маскве заўсёды зь недаверам глядзелі на ўсё, што прыходзіла з варожае й ненавіснае ей Літвы. А тымчасам, згодна з тагачасным друкарскім звычаем, у канцавой прыпісцы да «Апостала» Скарына адзначыў, што кніга гэтая «Пры держаніи наласкавшего господара Жикгымонта Казімировича, Короля полського, И великого князя Литовскаго, И рускаго, И жомойтьскаго И иных, Во славном месте виленском выложена, и вытиснена, Працею и великою пилностию Доктора Франциска Скорины с полоц-

ка».[38] Вось, каб ува ўсім «Апостале» навет і не знайшлося нічога, да чаго-б можна было мецць засьцярогі з артадаксыйна-царкоўнага маскоўскага гледзішча, дык самая гэтая Скарынава прыпіска пра «найласкаўшага Жыгімонта Казімеравіча, караля польскага й вялікага князя літоўскага, і рускага . . .», для князя маскоўскага Васіля Іванавіча, які сябе тытулаваў вялікім князем «всея Руси» й кансэквэнтна пасягаў на ўсе «рускія землі», улучна зь землямі Вялікага Княства Літоўскага, пашырэньне гэткае кнігі ў сваей дзяржаве з палітычных меркаваньняў было вельмі непажаданым.

Дый была й іншая прычына, якая чыніла Скарынавыя кнігі ў Маскве чужымі й малапрыймальнымі — гэта іхняя мова. Задум Скарыны даць кнігі свайму народу — «людзям паспалітым» — моваю даступнаю, зразумелаю, была прычынаю перакладу іх на тагачасную беларускую мову. Больш царкоўнаславяншчыны Скарына захоўваў у літургічных кнігах, куды менш у іншых кнігах Бібліі, дзе, як кажа Карскі, «аснова мовы народная беларуская».[39] Калі гэткі пераклад беларускаму чытачу чыніў кнігі больш зразумелымі й даступнымі, дык для чытача маскоўскага практычна гэта ня шмат мяняла, бо была гэта толькі падмена аднае — царкоўнаславянскае — чужое мовы, моваю чужою іншаю.

Карамзін калісьці ў сваей «Истории государства Российского» адзначыў, што Скарына «пісаў моваю свае пары й бацькаўшчыны» й што мова ягоная была навет больш падобнаю да «нынешнего русского наречия» за мову царкоўнаславянскую.[40] Дый усё-ж маскоўскаю, расейскаю мова гэтая ня была. А для царкоўна-кніжных колаў тагачаснае Маскоўшчыны, увыклай да пісьма толькі ў ваднэй — царкоўнаславянскай — мове, беларускі Скарынаў пераклад ня толькі нічога не аблягчаў, а быў хутчэй лішняю замінаю. Беларускасьць Скарынавых кнігаў у Маскоўшчыне ня толькі адчувалі, а часта іх там проста й называлі кнігамі «белорусцей». Гэтак, прыкладам, завуць іх стараверы браты Дзянісавы ў сваіх «Поморских ответах» 1723 году. У вадказе на 50-е пытаньне там пададзена: «Сице в древней белорусцей книзе Ісуса Сирахова, печатаны в Празе в лет 1517».[41]

Дык чужымі Скарынавыя кнігі былі для маскоўцаў ня толькі іх паходжаньнем з-пад «рымскае» дый літоўскае зьверхнасьці, але й з прычыны свае чужое маскоўцам беларускае моўнае вопраткі. Быў гэта важны факт яшчэ й таму, бо ішоў ён у разрэз з прынятаю ў Маскоўшчыне догмаю, што перакладаць царкоўныя кнігі на «простую», жывую народную мову наагул ня можна. Вынікам гэтага пагляду было тое, што расейскі пераклад

---

[38] Ластоўскі Вацлаў. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926, б. 297.

[39] Карский Евфимий Федорович. Белорусы, т. III. Очерки словесности белорусского племени, ч. 2. Старая западно-русская письменность. Петроград, 1921, б. 24.

[40] Карамзин Н. История . . ., т. I. Примечание 529, б. 215.

[41] (Денисов Андрей, Денисов Семен, Петров Трифон). Ответы пустынножителей на вопросы иеромонаха Неофита. Кніга рукапісная, знайходзіцца ў Публічнай Бібліятэцы Ню Ёрку, без азначэньня году й месца выхаду. Датаваная ў бібліятэчным каталёзе толькі прыблізным 176? годам. Адказ на 50-е пытаньне.

Бібліі быў зроблены й надрукаваны толькі аж у XIX стагодзьдзі, больш 300 год пасьля беларускага Скарынавага перакладу. Факт выданьня Скарынавых кнігаў не пацаркоўнаславянску, а ў беларускім перакладзе, мог іграць важную ролю ў маскоўскім іх паленьні яшчэ й таму, што даваў ён маскоўскім кніжнікам вольнае поле для яшчэ аднаго закіду — закіду ў іх недакладнасьці, што тады было роўназначным гарэтычнасьці. Мы бачылі раней, як строга, саборам, маскоўскія царкоўнікі прасьледвалі дый двойчы судзілі й каралі Максіма Грэка за «елінскія» дый «жыдоўскія ерасі» з прычыны зробленых памылак пры перакладзе рэлігійных кнігаў з грэцкае мовы. Скарынаў-жа пераклад, раблены не на мову царкоўнаславянскую а на беларускую, быў перакладам даволі вольным наагул, паколькі галоўнаю мэтаю Скарыны было даць не якмага больш даслоўны пераклад, а якнайбольш прыступны й зразумелы «люду паспалітаму». У такім перакладзе можна было пазнаходзіць колькіхоць мясцоў, якія не згаджаліся з традыцыйным маскоўскім царкоўнаславянскім тэкстам, і гэта, пэўне-ж, было тады дастатковаю падставай для закіду ў іх гарэтычнасьці.

Кардынальна розным ад Скарынінага было ў Маскве й само разуменьне значэньня й практычнага ўжытку новага друкарскага майстэрства. Скарына бачыў карысьці тэхнікі друкарства найперш у масавай прадукцыі кнігаў дый пашырэньня праз кнігі асьветы, веды й асноваў хрысьціянскае веры й маралі ў народзе. Дзякуючы друку, кнігі пераставалі быць роскашай даступнаю толькі царкоўнікам дый невялікаму ліку людзей заможных. Дарогу ў народ друкаванай кнізе трэба было толькі шырэй расчыніць, выдаючы яе ў мове зразумелай, найлепш — у жывой мове самога народу. У сваей выдавецкай дзейнасьці Скарына да гэтага й імкнуўся. У Маскве-ж, тымчасам, ніякіх азнакаў зразуменьня патрэбы пераходу ў кнігах ад царкоўнаславянскае мовы да мовы народнае, тады ня было. А друкарства сярод маскоўскага грамадзтва даўжэйшы час уважалася наагул за рэч падазроную й непажаданую. Довад яскравы гэтага — зьнішчэньне друкарні Івана Хведаравіча дый Пётры Мсьціслаўца й уцёкі самых друкароў у Літву. Калі грамадзтва маскоўскае яшчэ ня было гатовае прыняць друкарскае майстэрства й у другой палове XVI стагодзьдзя, тымбольш ня было сьпелым яно да гэтага ў шмат ранейшую Скарынавую пару. Дык і тое, што Скарынавыя кнігі былі ня рукапісныя, а друкаваныя, магло таксама прычыніцца да таго, што ў Маскве іх зьнішчылі.

Калі ў другой палове XVI стагодзьдзя царкоўная й дзяржаўная ўлады Маскоўшчыны патрэбу друку ў канцы прызналі, дык зрабілі гэта галоўна таму, што спадзяваліся праз друк прадукцыю кнігаў манапалізаваць, кантраляваць, і гэтак дапілнаваць, каб у іх быў захаваны дакладны й непарушны традыцыйны маскоўскі царкоўнаславянскі тэкст. Было гэта намаганьне пры помачы друку раз назаўсёды адсеч магчымасьць якіх-колечы зьменаў і адхіленьняў, якія заўсёды здараліся ў кнігах рукапісных. Дык кіраўнічым верхавінам Маскоўскага гаспадарства найважнейшаю справаю было замацаваньне праз друк непарушнасьці тэкстаў кнігаў. Пра лепшае-ж іх разуменьне народам — пра што рупіўся найперш Скарына — у Маскоўшчыне ніхто ня дбаў. Выявілася гэта яскрава ў вадпаведных пастановах маскоўскага «Стоглавага» сабору 1551 году. Сьветчыць пра гэта й «Сказание известно о воображении книг печатного дела». Тамака пададзена, што

друк у Маскве заводзіўся «крепкаго ради исправления и утверждения».[42] Мэта, як бачым, наскрозь кансэрватыўная й зусім супроцьлеглая заданьням, якія сваім кнігам ставіў Скарына: «абы людзі паспалітыя ... маглі лепей разумеці».

А. Кацпржак зьвярнула ўвагу на яшчэ дзьве істотныя прычыны, чаму маскоўскае кансэрватыўнае духавества мусіла быць варожым справе пашырэньня Скарынавых кнігаў у Маскоўшчыне: зь меркаваньняў эканамічных і дзеля іх своеасаблівага мастацкага афармленьня. Паводля яе, Скарынавыя кнігі ў Маскоўшчыне мусілі выклікаць недавер таму, што былі яны «аздобленыя арнамэнтам, у якім часам сустракаліся фігуры мітычных істотаў, як, прыкладам, наядаў і сырэнаў. Такія аздабленьні ў маскоўскія царкоўныя кнігі, у якіх тарнаваўся блізу вылучна расьлінны й геамэтрычны арнамэнт, не дапушчаліся. Былі й прычыны характару матар'яльнага: маскоўскае духавенства, якое было манапольным дастаўлянынікам рукапісных царкоўнаслужэбных кнігаў, і кнігаў наагул, не жадала ўвозу танейшых друкаваных кнігаў».[43]

Што эканамічны канкурэнцыйны фактар мог мець сваё значаньне пры нішчэньні ў Маскве Скарынавых кнігаў — пярэчыць гэтаму няма падставаў. А што графічныя аздобы дый арнамэнты-заставіцы гэтых кнігаў не заўсёды падабаліся маскоўскім манахам, на гэта існуюць канкрэтныя довады. Як падае А. С. Зернова, у некаторых перахаваных у Маскоўшчыне экзэмплярах Скарынавых кнігаў непажаданыя часткі іхных арнамэнтаў выскрабаныя маскоўскімі чытачамі.[44]

Дык было шмат прычынаў, дзеля якіх Скарынавыя кнігі маглі быць у Маскоўшчыне непажаданымі, й шмат каму проста няпрыемлівымі. Маскоўскай царкоўнай і дзяржаўнай уладзе былі яны падазронымі й з прычыны паходжаньня іх з-пад «рымскае» дый «літоўскае» царкоўнае й дзяржаўнае зьверхнасьці, і дзеля зрыву ў іх з царкоўнаславяншчынай, і дзеля заходняэўрапейскіх элемэнтаў у іх графічных аздобах, і, у канцы, магчыма дзеля таго, што мелі яны няпрывычнае, новае афармленьне, бо былі гэта ня кнігі рукапісныя, а друкаваныя. Прычынаў, як бачым, дастаткова для артадаксыйнае Масквы на тое, каб кнігі гэтыя прызнаць за нягодныя, небясьпечныя дый іх зьнішчыць.

## 6

Дык повадаў на тое, каб Скарынавае падарожжа ў Маскву кончылася няўдачаю, хапала. Сам факт адбыцьця, наўсуперак ім, гэтага падарожжа паказвае, што доктар Скарына іх проста ня ўлічаў. Хоць і быў ён чалавекам шырака дазнаным дый бывалым у краёх сярэдняе й заходняе Эўро-

---

[42] Сказание известно о воображении книг печатнаго дела. У зборніку: К трехсотсемидесятилетию со дня смерти Ивана Федорова, 1583-1958. Под редакцией М. Н. Тихомирова. А. А. Сидорова и А. М. Назарова. Издательство Академии Наук СССР. Москва, 1959, б. 210.

[43] Е. И. Кацпржак. История письменности и книги. Москва, 1955, б. 148.

[44] Зернова А. С. Орнаментика книг московской печати XVI-XVII веков. Москва, 1952, б. 16.

 

пы, адылі мэнтальнасьці й духовае дый культурнае існасьці эўразійскае Маскоўшчыны ён яўна ня знаў. Накш із сваімі кнігамі да Масквы не падаваўся-б. Скарына, відавочна, не ўсьведамляў, што культурна-духовыя асяродзьдзі тагачаснае Вільні й Вялікага Княства Літоўскага дый Масквы й Маскоўшчыны розьніліся кардынальна. Складалася на гэта шмат прычынаў, але ў васнове ўсяго ляжаў ведамы факт, што ўжо ад пачаткаў свае гісторыі беларускі народ выяўляў выразную й нясупынную цягу да народаўладных дэмакратычных хвормаў грамадзкага й палітычнага ладу, а разам і да дэмакратычных прынцыпаў рэлігійнае, нацыянальнае дый палітычнае талеранцыі, з павагаю й пашанаю да накш верачых, накш гаворачых, накш думаючых. Прынцыпы гэтыя выявіліся выразна ўжо ў пару вечавога народаўладзтва крывіцкага Полацкага княства. Пасьлей яны атрымалі сваё выражэньне ў найбольш стройна ўва ўсей тагачаснай Эўропе распрацанавай сыстэме юрыдычных нормаў, гэтак званых «Літоўскіх статутах». Дэмакратычная ўважлівасьць і пашана да мясцовага ладу й народных традыцыяў адбілася й у прынцыпе князёў, гаспадароў Вялікага Княства Літоўскага, тарнаванага да новадалучаных земляў: «Старыны ня рухаем, навіны ня ўводзім».[45] Вось гэтыя народаўладныя прыкметы й тэндэнцыі, выяўленыя яскрава ў ходзе гістарычнага разьвіцьця палітычна-грамадзкага ладу дый культурна-духовага жыцьця беларускага народу, стаялі ў поўнай супярэчнасьці з антынародным самадзяржаўем дэспатычнае князевае маскоўскае ўлады дый рэлігійнай і палітычнай нязносьлівасьцяй маскоўскага грамадзтва.

Важнаю асаблівасьцяй культурна-духовага жыцьця тагачаснага Вялікага Княства Літоўскага было й тое, што тамака было месца сутыку дый сужыцьця дзьвюх хвормаў хрысьціянскага веравызнаньня: бізантыйскага праваслаў'я й рымскага каталіцтва. Толькі ў другой палове XVI стагодзьдзя, з паяваю ў Вялікім Княсьцьве перш рэфармацыі, а посьля вуніі, на тэрыторыю гаспадарства пераносяцца рэлігійныя змаганьні. Але яшчэ на пачатку стагодзьдзя, у Скарынавыя часы, на землях Вялікага Княства Літоўскага ў рэлігійнай галіне, як правіла, панавалі супакой і суладнасьць. Пра гэта сьветчыць нам хоць-бы гэткі зыркі прыклад, што каталіцкія сьвятары ў Беларусі тады ня толькі маглі быць і бывалі сябрамі праваслаўных брацтваў, але, у выпадку непаладкаў там зь іншымі «братамі», падлягалі навет і брацкаму суду. Гавора пра гэта ніжэй прыведзены артыкул статуту брацтва віленскіх купцоў «грэцкага закону» XVI стагодзьдзя:

> «...которые бы люди духовные якогож кольвек стану, Римской веры и Греческой, будучи вписаные в тое их братство ... и придало бы се ему с ким в том их братстве ростырку або зваду почати: тогды о тых делех таковые духовные люди, ако Римской веры до князя бискупа, так и Греческой до митрополита и до врядников их ... не мають ся от судов их отзывати, а ни жадной помочи з

---

[45] Шырэй аб гэтым у працы: Максімовіч Рыгор — Важнейшыя мамэнты культурных працэсаў Беларусі. «Запісы» Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, № 2 (6), Нью Ёрк, 1954, б. 65-84; заканчэньне ў: «Конадні», № 3, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Нью Ёрк, 1955, б. 55-73.



 

урядов своих на то собе брати: одно, в том братстве кождому права достояти и розсудку их братского послушными быти».[46]

Як відаць з тых-жа брацкіх статутаў — падчырквае гэта й Уладзіміраў — у праваслаўных брацкіх бяседах і банкетах прыймалі тады, як правіла, удзел ня толькі каталікі, але й каталіцкія сьвятары,[47] — зьява бадай зусім немагчымая ў той самай Вільні пазьней, у стагодзьдзі XVII. Даволі згоднае сужыцьцё між праваслаўнымі й каталікамі ў тую пару ў Беларусі адзначае й ведамы расейскі акадэмік А. І. Сабалеўскі: «Летапісы да канца XV стагодзьдзя блізу не гавораць пра націск каталіцтва на праваслаў'е, і трактуюць літоўскіх князёў каталікоў (Вітаўта й Казімера) зь любовяй».[48] Тое самае пацьвярджае й ведамы аўтарытэтны гісторык праваслаўнае царквы Мітрапаліт Макар.[49] Тое-ж кажа й гісторык У. Пічэта аб роднай Скарыне Полаччыне: «У Полацкай зямлі канца XV й пачатку XVI сталецьця ня было ніякага рэлігійнага антаганізму».[50]

Да тагачасных паглядаў у культурна-рэлігійнай галіне мела дачыненьне й тое, што Вільня, як і ўсё Вялікае Княства Літоўскае, было пад моцным цывілізацыйна-культурным уплывам Захаду. А духовая атмасфэра Эўропы ў Скарынавую пару была насычаная лібэральнымі ідэямі гуманізму й адраджэньня. Даходзіла ўжо ў межы Вялікага Княства Літоўскага й жывое рэха шпарка нарастаючага рэфармацыйнага руху. Тагачасная-ж Масква стаяла пастаронь усіх гэтых эўрапейскіх ідэйных і культурных працэсаў дый настойвалася далей у сваіх традыцыях рэлігійнага дагматызму й нязносьлівасьці.

Калі значаньне ідэяў Захаду для культурна-духовага жыцьця Беларусі гэнае пары важка адзначыць, дык усё-ж ня можна іх і перацэньваць. Пра гэта найлепш сьветчыць тое, што дваццаць шэсьць год перад пачаткам Скарынавае выдавецкае дзейнасьці, у 1491 годзе, праваслаўныя літургічныя кнігі былі зьнішчаныя й у сталіцы заходняга суседа Беларусі, Польшчы, пайменна кнігі выдадзеныя Немцам Швайпольтам Фіёлем у Кракаве. Польшча-ж, і дзеля свайго каталіцкага веравызнаньня, і проста ў выніку свайго больш заходняга геаграфічнага палажэньня, была заўсёды пад куды мацнейшымі ўплывамі Захаду за землі Вялікага Княства Літоўскага. Гэта паказвае, што адцемленыя вышэй рысы палітычнае й рэлігійнае талеранцыі тагачаснай Беларусі ў сваей аснове былі ня нейкага вонкавага, заходня-эўрапейскага паходжаньня, а вырасьлі із свае радзімае глебы й традыцыяў,

[46] Акты относящиеся к истории Западной России, собраные и изданные Археографическою коммиссией, т. 3. Санктпетербург, 1848, б. 270-271.

[47] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина..., б. 34.

[48] Соболевский А. И. Материалы и иследования в области славянской филологии и археологии. Сборник отделения русскаго языка и словесности Императорской Академии Наук, т. 88, № 3. С.-Петербург, 1910, б. 194.

[49] Митрополит Макарий. История Русской Церкви Макария, архиепископа литовского и виленского, т. IX, кн. IV. История Западно-Русской или Литовской Митрополии. С.-Петербург, 1879.

[50] Пічэта Уладзімер. Полацкая зямля ў пачатку XVI сталецьця. «Чатырохсотлецьце беларускага друку». Інстытут Беларускае Културы. Менск 1926, б. 113. Тое-ж у: Пичэта В. И. Белоруссия и Литва XV-XVI вв. Академия Наук СССР. Институт Славяноведения. Москва, 1961, б. 262.

яны вынік найперш мясцовых культурна-палітычных працэсаў і абставінаў.

Беларускае мяшчанства — грамадзкі слой, зь якога выйшаў Скарына, — у тую пару было асабліва верным носьбітам, перахавальнікам і, у патрэбе, гарачым абаронынікам сваіх праваслаўных правоў і традыцыяў. У дзяржаве, у якой вялікі князь і ў вялікай часьці кіруючая верхавіна былі іншага, каталіцкага веравызнаньня, беларускаму мяшчанству, як і ўсім праваслаўным Вялікага Княства Літоўскага наагул, залежыла асабліва на рэлігійнай талеранцыі, бо гэта гарантавала найперш іхную рэлігійную свабоду. Вось дзеля гэтага ў сьветаглядзе Скарыны, які сам вырас зь беларускага меставога асяродзьдзя, ідэі рэлігійнае талеранцыі адбіліся асабліва яскрава й пасьлядоўна. Выраслы з маленства ў атмасфэры пашаны да людзей іншае веры й думкі, доктар Францішак Скарына відавочна проста няўсьведамляў сабе, што зусім накшыя пагляды й настроі ў Маскоўшчыне, у якой старая, перанесеная зь Бізантыі, багаслоўская варажнеча з Рымам хутка перарасла ў страх усяго, што ішло ня толькі з лацінскага Заходу, але навет і сумежнае дый у істоце такое самае праваслаўнае, як і яна, Літвы.

Скрайняя нязносьлівасьць да ўсякае іншае формы веравызнаваньня, як і да ўсякае іншае думкі наагул, была здаўна характэрнаю прыкметаю маскоўскае грамадзкасьці, і ў пару якраз доктара Скарыны выяўлялася яна ў сьмешных навет драбніцах. Яскравы прыклад гэтага прыводзіць гісторык расейскае літаратуры Архангельскі, які падае, што тады ў Маскве «няхрышчаным Немцам» не дазвалялі навет і ўваходзіць у праваслаўную царкву. Калі-ж яны часам нейк туды траплялі, іх адразу выводзілі дый падмяталі за імі падлогу.[51] Падобны факт падае яшчэ ў XVI стагодзьдзі, й за яго войстра Маскоўцаў асуджае й ведамы беларускі рэфармацыйны дзеяч — — арыянін Сымон Будны. Абураўся ён, што «Маскоўцы навет і тое месца, дзе «лаціньянін» сядзеў, сьціраюць ці змываюць, каб не запэцкацца».[52] Маскоўшчыну тае пары гісторык расейскае літаратуры Ч. Н. Мілюкоў характарызуе словамі, што «ні ідэя крытыкі, ні ідэя талеранцыі, ні ідэя нутранога духовага хрысьціянства ня былі па плячы тагачаснаму расейскаму грамадзтву; для аграмаднае бальшыні ідэі гэтыя былі проста незразумелыя».[53] Мы ведаем, што «незразумелымі» дый нейк «не па плячы» ўсе гэтыя ідэі й Маскве сяньняшняй.

Паводля таго самага А. С. Архангельскага, побач зь нязвычайнаю варажынёй да ўсяго чужога, у Маскоўшчыне ўсё глыбей замацоўваўся пагляд, што маскоўская — «руская» — царкоўная старына беззаганная й беспахібная, і што «ні ў водным слове, ні ў водным сказе, ні адняць, ні дадаць нічагуткі нельга». У вадваротнасьць гэтаму, на блізкіх суседніх землях тагачаснае Скарынавае Літвы-Беларусі, паводля Архангельскага, «ня было

---

[51] Архангельский А. С. Из лекций..., б. 31.

[52] Kot Stanislaw. Szymon Budny. Der grösste Häretiker Litauens im 16. Jahrhundert. „Wiener Archiv für Geschichte des Slaventums und Osteuropas", Bd. II. Studien zur älteren Geschichte Osteuropas, I. Teil. Graz-Köln, 1956, б. 80.

[53] Милюков П. Н. Очерки..., ч. II., б. 31.

тае сьляпое веры ў аўтарытэт «пісаньняў», «кнігі», якая... піхала... маскоўскіх кніжнікаў «умирать за единую букву аз».[54]

Нязвычайная падозрылівасьць, якая шукала «хулу» дый «ерась» у кажнай драбніцы, у Маскоўшчыне была накіраваная ня толькі супроць таго, што ішло з «лацінскага» Захаду, але, як мы бачылі, таксама й супроць праваслаўнага-ж «елінца» Максіма Грэка дый сваіх-жа суродзічаў. Такі-ж прынцыповы недавер быў тамака й да праваслаўных суседняе Літвы. Факт гэты пазьней дачакаўся навет і свайго сфармуляваньня на пісьме ў «Прывілеі» маскоўскае багаслоўскае акадэміі братоў Ліхудаў другой паловы XVII стагодзьдзя, у якім, між іншым, кажацца:

> «А иже имуть в наше царствие из Литовские страны... ученые люди... прыезжать, и о себе говорити яко они благочестивые и от благочестивых родителей рожденные и воспитаные в православной восточной вере... словесам их не верити, — аще бы кто них и писанием правду веры нашое восточное удостоверял... А за хуление православно-восточное веры... без всякого милосердия да сожжется... И... книги еретические сожигати...».[55]

Хоць правіла гэтае, як пастулаць з праваслаўнымі «вучонымі людзьмі» зь Літвы й з «гарэтычнымі» кнігамі, і паходзіць з XVII стагодзьдзя, але практычна тарнавался яно ў Маскоўшчыне ўжо й на пачатку стагодзьдзя XVI. Адзін з вымоўных прыкладаў гэтага — факт спаленьня ў Маскве Скарынавых праваслаўных кнігаў.

Вось ад падобнае забабоннае нязносьлівасьці й рэлігійнага фанатызму маскоўскага грамадзтва далёкаю была тагачасная Вільня, зь якое да Масквы Скарына ехаў, і, асабліва, сам доктар Скарына, уся культурная дзейнасьць якога азначаецца абсалютнаю рэлігійнаю талерантнасьцяй. У Скарынавых выданьнях, побач шчырае веры й глыбокае прывязанасьці да традыцыйных хвормаў беларускага праваслаў'я, нідзе ня знойдзем і сьледу ані рэлігійнага фанатызму, ані нейкае варажнечы да якое-колечы іншае, не праваслаўнае веры. Ня дзіва тады, што із сваім, вольным да рэлігійнае абмежанасьці й фанатызму сьветаглядам, у якім адбіліся й радзімыя беларускія дэмакратычныя традыцыі, і эўрапейскія ідэі эпохі адраджэньня, Скарына ніяк не ўкладаўся ў рамкі артадаксыйнага дагматызму тагачаснага маскоўскага грамадзтва й жорсткага дэспатызму маскоўскага самадзяржаў'я. Сутык між гэтымі, кардынальна адрознымі, сьветаглядамі мусіў канчыцца нямінучым канфліктам, аб чым у Маскве доктару Скарыне давялося й пераканацца.

Вось на факт прынцыповае адрознасьці культурна-духовых асноваў і традыцыяў Літвы-Беларусі з аднаго боку, дый Маскоўшчыны-Расеі пачатку XVI стагодзьдзя — з другога, і кідае нам сваё яскравае, драматычнае сьвятло тое вогнішча на плошчы Масквы, у полымі якога гарэлі кнігі найбольш вы-

---

[54] Архангельский А. С. Из лекций..., б. 80.

[55] Архангельский А. С. Образование и литература в Московском государстве кон. XV-XVII вв. Казань, 1898, б. 9.

датнае й зыркае духовае постаці тагачаснае Беларусі — доктара Францішка Скарыны з Полацка. Калі дакладнейшыя абставіны маскоўскае Скарынавае прыгоды нам сяньня яшчэ й няведамыя, дык рэч пэўная, што ўсе надзеі й спадзяваньні, зь якімі Скарына кіраваўся на ўсход, у Маскве былі зруйнаваныя дазваньня. Кнігі, каштоўны плод ягонае ахвярнае, руплівае працы «для пажытку й дабра люду паспалітага», загінулі ў вагні. Ён-жа сам варочаўся да Вільні із войстраю сьведамасьцяй поўнае няўдачы падарожжа й панесеных цяжкіх матар'яльных стратаў. Багацейшым, затое, стаў цяпер доктар Скарына важкім дазнаньнем, што Маскоўшчына — сьвет ня толькі моцна адрозны ад яго роднае Літвы-Беларусі й усяе Эўропы, але й сьвет, месца ў якім ягоным кнігам, ідэям, сьветагляду, і яму самому няма.

Сакавік 1962 году.

# Кастусь Каліноўскі й „Мужыцкая Праўда"

**(У стагодзьдзе паўстаньня 1863 году)**

Павал Урбан

«Мужыцкая Праўда», выдаваная лацінкай, выходзіла ў 1862—1863 гадох. Першы ейны нумар выйшаў з друку праўдападобна ў пачатку чэрвеня 1862 году. Найпершыя ведамкі, што нам захавалі архіўныя матарыялы пра зьяўленьне газэты, гавораць пра 10 чэрвеня 1862 году. У гэты дзень 5 экзэмпляраў першага нумару «Мужыцкай Праўды» было знойдзена на полі ў жыце сялянамі адной мясцовасьці Берасьцейскага павету.[1] Да пачатку 1863 году выйшла наступных 5 нумароў газэты, бо ў студзені 1863 году нумар 6-ы разам з нумарам 5-м шырака распаўсюджваліся па ўсёй Віцебскай губэрні, што ўстрывожыла тутэйшую паліцыю й Полацкага архіяпіскапа.[2] У сувязі з паўстаньнем у Польшчы, падрыхтоўкай паўстаньня ў Беларусі, а таксама з прычыны ўзьніклых нутраных закалотаў, якія прыводзяць да панска-прапольскага перавароту ў кіраўніцтве паўстаньнем у Беларусі, зімой 1863 году далейшы выхад газэты быў спынены. Праўдападобна ў гэтыя зімовыя месяцы размнажаўся перадрук папярэдніх нумароў, бо газэта распаўсюджвалася й далей і, як будзем бачыць ніжэй, захаваліся экзэмпляры іншых крыху зьмененых выданьняў. Апошні 7-ы нумар «Мужыцкай Праўды» быў выдадзены Кастусём Каліноўскім у канцы красавіка ці ў травені 1863 году, г. зн. у часе, калі ён заняў становішча ваенна-палітычнага камісара Горадзенскай губэрні.

Вызначэньне дакладнага часу выхаду «Мужыцкай Праўды» ўскладняецца тым, што яна наагул не датавалася. Ускладняецца таксама пытаньне, чыім органам была газэта: органам Літоўскага Правінцыянальнага Камітэту (звычайна называўся: Літоўскі камітэт) ці органам рэвалюцыйна-дэмакра-

---

[1] А. Ф. Смирнов. «Мужицкая правда». У кнізе: Восстание 1863 г. и русско-польские связи 60-х годов. Сборник статтей и материалов. Под редакцией В. Д. Королюка и И. С. Миллера. Выд. АН СССР, Масква, 1960, б. 48.

[2] *Тамсама, б. 54-58.*

тычнай групы Кастуся Каліноўскага? Напрыклад, гаворачы пра ўсебаковую дзейнасьць Літоўскага камітэту, доўгачасовы сябра варшаўскага Цэнтральнага камітэту, а затым і варшаўскага Нацыянальнага ўраду О. Авэйдэ сьцьвярджае, што «із сутарэнных лісткоў выдаваліся: «Сьцяг Свабоды» („Chorągiew Swobody“), рэдагаваньнем якога займаліся самі сябры Камітэту, і два на беларускай гутарцы для сялянаў «Гутарка старога дзеда», «Мужыцкая праўда», рэдактарам якіх быў Кастусь Каліноўскі».[3] Аднак, як паведамляе ў сваіх успамінах галоўны вораг Каліноўскага Я. Гейштар, першыя два нумары газэты «Сьцяг Свабоды», што выходзіла на польскай мове, таксама былі выдадзеныя пад наглядам Кастуся Каліноўскага ці ў руках апошняга «знаходзілася справа выданьня» гэтае газэты. Трэйці нумар апошняе газэты выйшаў ужо пад рэдакцыяй самога Я. Гейштара й Ф. Далеўскага.[4] Выходзячы з падобных пярэчлівых ведамак, а галоўным чынам асноўваючыся на тым, што «Мужыцкая Праўда» наагул не спасылалася на Літоўскі камітэт, некаторыя дасьледнікі, у тым ліку й А. Сьмірноў, прыходзяць да выснаву, што газэта «Сьцяг Свабоды» была афіцыйным органам гэтага Камітэту, у той час, як «Мужыцкая Праўда» зьяўлялася органам рэвалюцыйна-дэмакратычнай групы Кастуся Каліноўскага. Запраўды, «Мужыцкая Праўда» й вонкавымі азнакамі й сваім зьместам нідзе не спасылаецца на Літоўскі камітэт, а ўсе ейныя нумары падпісваліся аднолькава: «Яська гаспадар з-пад Вільні». Газэта «Сьцяг Свабоды», якое захаваўся толькі першы нумар, датаваны 1 студзенем 1863 году, навет носіць на сабе сьляды пячаткі Літоўскага камітэту. Такім чынам, з аднаго боку, «Мужыцкая Праўда» запраўды магла быць толькі органам рэвалюцыйна-дэмакратычнай групы Кастуся Каліноўскага. Гэта тым больш, што ў Літоўскі камітэт і ў кіраваную ім рэвалюцыйную арганізацыю ўваходзілі таксама людзі, якія ў сваіх паглядах далёка разыходзіліся з дэмакратычна-сацыяльнай і нацыянальнай праграмай Кастуся Каліноўскага. З другога-ж боку, «Мужыцкая Праўда» зусім свабодна магла ўвасабляць афіцыйны орган Літоўскага камітэту, які ачольваў той-жа Кастусь Каліноўскі. Аднак, з гледзішча на захаваньне асьцярожнасьці, яна знарок не раскрывала свае прыналежнасьці да Літоўскага камітэту, ня імкнулася раскрыць імя гэтага Камітэту, прынамся да пачатку 1863 году, калі кансьпірацыя апошняга строга захоўвалася. Што-ж тычыцца 7-га нумару «Мужыцкай Праўды», дык ён фактычна быў выдадзены на собскую руку Кастуся Каліноўскага й быў выдадзены ў той час, калі Каліноўскі й у цэласьці ягоная група былі адсунутыя ад кіраўніцтва паўстаньнем у Беларусі.

У свой час некаторыя дасьледнікі прыходзілі да выснаву, быццам Кастусь Каліноўскі нічога супольнага ня меў з выданьнем «Мужыцкай Праўды». Такую памылку дапускаў, напрыклад, С. Агурскі. Тэндэнцыйна інтэрпрэтуючы зьмест «Мужыцкай Праўды» й узалежніваючы яе ад іншых выданьняў таго часу на беларускай мове, асабліва ад так званага «Ліста Яські гаспадара з-пад Вільні да мужыкоў зямлі польскай», ён прыпісваў выданьне й аўтарства «Мужыцкай Праўды» В. Ўрублеўскаму й Тамашэў-

---

[3] Показания и записки о польском восстании 1863 года Оскара Авейде. Под редакцией С. Кеневича и И. Миллера. Выд. АН СССР, Масква, 1961, б. 488.

[4] А. Ф. Смирнов. Революционные связи народов России и Польши 30—60-х годов XIX века. Выд. сацыяльна-эканамічнай літаратуры, Масква, 1962, б. 228.

скаму.[5] Свае высновы С. Агурскі падмацоўваў таксама некаторымі ведамкамі з мэмуарнай літаратуры, а галоўным чынам тым, што й «Мужыцкую Праўду» адносіў да гэтак званае «польска-нацыяналістычнае» прапагандовае літаратуры. Іншыя-ж дасьледнікі, асабліва польскія, намагаючыся занесьці Кастуся Каліноўскага ў лягер «польскіх патрыётаў» або паказаць яго ў сьвятле «двулікае» асобы з тымі-ж «прапольскімі» тэндэнцыямі, разам з «Мужыцкай Праўдай» прыпісвалі й працягваюць прыпісваць Кастусю Каліноўскаму ня толькі ўспомненую О. Авэйдам «Гутарку старога дзеда», але й названы «Ліст да мужыкоў зямлі польскай» і ўзяты ў сваей цэласьці «Ліст з-пад шыбеніцы».

Бязумоўна, свае канцэпцыі апошнія дасьледнікі будуюць не на зусім пустым месцы. Яны падмацоўваюць іх прыведзеным вышэй асьветчаньнем О. Авэйдэ й у першую чаргу асьветчаньнем іншага доўгачасовага сябры варшаўскага Цэнтральнага камітэту й Нацыянальнага ўраду А. Гілера. У канцы І-га тому сваей працы, прысьвечанай гісторыі паўстаньня 1863 году ў Польшчы, апошні, папершае, зьмясьціў як «Ліст Яські гаспадара з-пад Вільні да мужыкоў зямлі польскай», так і «Ліст з-пад шыбеніцы Кастуся Каліноўскага да народу беларускага», даючы гэтым самым знаць, што іх аўтарства належыць Кастусю Каліноўскаму. У іншым месцы ён сьцьвярджае, што Кастусь Каліноўскі «быў рэдактарам» «Апавяданьня Янкі гаспадара з-пад Вільні», «Гутаркі» (праўдападобна, «Гутаркі старога дзеда») і шматлікіх іншых лятучак і адозваў на беларускай мове. Не гаворачы ні слова пра «Мужыцкую Праўду», тут ён таксама дае зразумець, што аўтарства апошніх «Лістоў» належыць Кастусю Каліноўскаму.[6] Падобнае сьцьверджаньне можна знайсьці таксама ў залучніках да «Ўспамінаў» Я. Гейштара, дабаўленых Т. Корзанам. У іх паведамляецца, што Кастусь Каліноўскі «выдаваў у сутарэннай друкарні Нацыянальнага ўраду газэтку на беларускай мове пад назовам «Мужыцкая Праўда»..., а таксама лятучкі на гэтай мове, напрыклад, «Ліст Яські гаспадара з-пад Вільні да мужыкоў зямлі польскай».[7] Бяда аднак у тым гэтых дасьледнікаў, што яны не парупіліся праверыць іншых гістарычных ведамак ды бяскрытычна прынялі асьветчаньні О. Авэйдэ й А. Гілера, бяскрытычна аднесьліся да зьместу «Мужыцкай Праўды» й апошніх «Лістоў».

Пакідаючы на пазьней пытаньне аўтарства «Ліста да мужыкоў зямлі польскай» і цэласьці «Ліста з-пад шыбеніцы», тут-жа з дапамогай А. Сьмірнова, бо ня маем пад рукой адпаведных матарыялаў, адкінем тэндэнцыйнае цьверджаньне, быццам-бы аўтарства ці хоць-бы выданьне «Гутаркі старога дзеда» належала Кастусю Каліноўскаму. Як паведамляе ў сваіх успамінах, апублікаваных у 1903 годзе ў зборніку „W czterdziestą rocznicę powstania styczniowego 1863-1903“, былы сябра варшаўскага Цэнтральнага камітэту Бараніслаў Шварцэ, «Гутарка старога дзеда» была напісаная беларускім

[5] С. Агурский. Очерки по истории революционного движения в Белоруссии (1863-1917 гг.). Бел. дзярж. выдавецтва, Менск, 1928, б. 17-20.

[6] A. Giller. Historja powstania narodu polskiego w 1861—1864 r., Paryż, 1867, t. I, str. 176.

[7] А. Ф. Смирнов, цыт. артыкул, б. 15.

паэтам Каратынскім і выдадзеная самым-жа Шварцам у супрацоўніцтве з Грынеўскім і Белакожай у Беластоку ў 1861 годзе.[8] Гэтая «Гутарка», якая імкнулася палагодзіць суадносіны між сялянствам і панамі й прышчапіць беларускаму селяніну «павагу» да польскіх паноў («мужык з панамі стаіць за пані-брата, рука ў руку, грудзьмі з грудзьдзю» ці «за Палякамі-то, бывала, і падаткі плоціш мала, а хто меў пана ліхога, мог ісьці да другога»), распаўсюжвалася варожымі Кастусю Каліноскаму элемэнтамі й у часе паўстаньня 1863 году. Магчыма за гэтую «Гутарку», а таксама за ўмешваньне ў справы Літвы, асабліва ў паўстанцкую арганізацыю Беластоцкага павету, летам 1862 году Літоўскі камітэт і выносіць пастанову забіць Б. Шварцэ, як толькі апошні яшчэ раз паявіцца ў межах рэвалюцыйнай дзейнасьці Літоўскага камітэту.[9]

Што-ж тычыцца «Мужыцкай Праўды», дык і з гэтых прыведзеных вытрымак бачна, што прынамся ейным выдаўцом і рэдактарам быў Кастусь Каліноўскі. Пацьверджаньне гэтага мы знаходзім і ў іншых успамінах. Так, у брашурцы „Jenerał Walery Wróblewski“ (Paryż, 1900), выдадзенай сябрамі В. Ўрублеўскага згодна ўспамінаў апошняга, гаворыцца, што «Перад паўстаньнем Ўрублеўскі быў назначаны інспэктарам егерскай школы ў Саколцы ў Горадзенскай губэрні, дзе праводзіў падрыхтоўку да паўстаньня. Разам з сваім суседам Кастусём Каліноўскім (які быў павешаны пазьней у Вільні) выдае й распаўсюджвае газэтку, рэдактарам якое быў загінуўшы сябра, пад назовам «Мужыцкая Праўда». Ўрублеўскі быў перакананы ў тым, што толькі сацыяльная рэвалюцыя верне незалежнасьць Польшчы й дзеля гэтага праводзіў рэвалюцыйную працу сярод сельскага насельніцтва, тлумачачы сялянам, што скасаваньне паншчыны, забясьпечаньне іх зямлёй і змаганьне польскага народу за сваю свабоду — усё гэта неразлучна зьвязаныя між сабой пытаньні. Думкі гэтыя ён прапагаваў ня толькі жывымі сваімі словамі, але й начамі ён езьдзіў расклейваць нумары газэткі ў вёсках. Раніцай сяляне іх знаходзілі й уважна прачытвалі».[10] У тым-жа зборніку „W czterdziestą rocznicę powstania styczniowego 1863-1903“ (Lwów, 1903) зьмешчаны таксама ўспаміны бліжэйшага супрацоўніка й сябры Кастуся Каліноўскага беларускага паэты Фэлікса Ражанскага. Ён таксама сьветчыў:

> «У Горадню ў 1861 годзе прыехаў Кастусь Каліноўскі, які закончыў сваю юрыдычную асьвету, з мэтай утварэньня патаемнай арганізацыі й узмацненьня палітычнай дзейнасьці. Карыстаючыся асабістым знаёмствам і сувязямі, такую арганізацыю яму пашчасьціла ўтварыць. У яе ўвайшлі: Эразм Заблоцкі, губэрнскі сакратар, доктар Юзаф Заблоцкі, Валеры Ўрублеўскі — ахвіцэр інспэктар егерскай школы, Ян Ванковіч — ахвіцэр, Фэлікс Ражанскі й Ільдзефонс Мілевіч — землямеры, ксёндз Гінтаўт із Горадні, ксяндзы Ян Зарыжскі й Ігнаці Казлоўскі з прыгарадкаў і яшчэ іншыя асобы. Усе яны былі прыхільнікамі дэмакратычных прынцыпаў і атрымалі назоў «чырвоных», таму што высоўвалі праграму народнага паўстаньня, якая прадугледжвала ня толькі здабыцьцё нацыянальнай неза-

---

[8] Тамсама, б. 16—17.
[9] Показания и записки о польском восстании 1863 года Оскара Авейде, б. 488.
[10] А. Ф. Смирнов, цыт. артыкул, б. 19.

лежнасьці, але й скасаваньне няволі, вызваленьне народу ад паншчыны й надзяленьне яго зямлёю. Доктар Заблоцкі пісаў польскія патрыятычныя вершы, Ражанскі — падобныя-ж песьні на беларускай мове. Апошні разам з Кастусём Каліноўскім выдаваў народную газэтку пад назовам «Мужыцкая Праўда» з подпісам «Яська гаспадар з-пад Вільні». Некалькі песьняў і гутарак на гэтай мове выдаў і Браніслаў Шварцэ ў Беластоку».[11]

Такім парадкам, усе гэтыя аўтэнтычныя паказаньні пацьвярджаюць, што Кастусь Каліноўскі быў нязьменным рэдактарам «Мужыцкай Праўды», а В. Ўрублеўскі й Ф. Ражанскі дапамаглі яму ў выдаваньні й распаўсюджваньні газэты. Іншага характару пытаньне, ці яму належыла аўтарства ўсіх нумароў «Мужыцкай Праўды»? Бяспрэчна, Кастусём Каліноўскім былі напісаныя 1-ы й 7-ы нумары. Выходзячы з аналізу апошніх нумараў, а таксама бяручы пад увагу ягоныя палітычныя перакананьні, выказаныя ў іншым месцы, трэба сьцьвердзіць, што ягонаму пяру належыла й большасьць іншых нумароў, а навет усе, апрача, як нам здаецца, 6-га. У астатках архіву генэрала В. Ф. Ратча, які па даручэньню М. Мураўёва пісаў гісторыю паўстаньня ў Беларусі, захавалася запісная кніжачка ваеннага інжынера Язэпа Каліноўскага. Апошні ў чэрвені 1863 году быў прысланы з Варшавы ў Вільню, каб тут пры так званым «Выканаўчым аддзеле» Я. Гейштара заняць становішча загадчыка Ваеннай сэкцыі. Ён запісаў у сваей кніжачцы: «Друкаванае слова было заўсёды яго (К. Каліноўскага — П. У.) слабасьцю, ён прыпісваў яму нейкае асаблівае значаньне».[12] Гэта павінна сьветчыць пра тое, што «Мужыцкая Праўда» была ў першую чаргу творам Кастуся Каліноўскага. Між іншым гэта пацьвярджае ў сваіх успамінах віляншук і бліжэйшы рэвалюцыйны супрацоўнік Кастуся Каліноўскага Юры Кучэўскі-Порай.[12a] Гэта, аднак, ня выключала таксама супрацоўніцтва В. Ўрублеўскага й Ф. Ражанскага ці сяброў Літоўскага камітэту. А. Сьмірноў паведамляе, што ў Фундамэнтальнай бібліятэцы Акадэміі навук Літоўскай ССР захоўваецца прыватная бібліятэчка Тадэуша Ўрублеўскага, пляменьніка В. Ўрублеўскага. Захавалася таксама й некалькі экзэмпляраў «Мужыцкай Праўды». На адным з нумароў газэты рукою Т. Ўрублеўскага зазначана: «Пісаў Валеры Ўрублеўскі».[13] А. Сьмірноў не паведамляе, які паймена нумар газэты быў напісаны В. Ўрублеўскім. Праўдападобна, гэта й быў 6-ы нумар «Мужыцкай Праўды».

6-ы нумар «Мужыцкай Праўды» выйшаў пры канцы 1862 ці ў пачатку студзеня 1863 году, г. зн. у той час, калі Кастусь Каліноўскі знаходзіўся ў Пецярбургу з прычыны сьмерці брата Віктара, а таксама ў справах рэвалюцыйна-арганізацыйных. Аднак не з аднае гэтае прычыны трэба прыпісаць гэты нумар газэты не пяру Кастуся Каліноўскага, але пяру В. Ўрублеўскага ці Ф. Ражанскага. Як сваім зьместам, так і паглядамі на рэчы ён не ўласьцівы Кастусю Каліноўскаму, які запраўды выказаў палітычную сьпе-

---

[11] Тамсама, б. 20.

[12] Г. Кісялёў. Старонкі вялікага жыцьця (Да 125-годзьдзя з дня нараджэньня Кастуся Каліноўскага), Полымя, I, 1963, б. 135.

[12a] Demokracja polska w powstaniu styczniowym. Wybór zródeł. Pod redakcją E. Halicza, Wrocław, 1961, p. 108.

[13] А. Ф. Смирнов, цыт. артыкул, б. 18.

ласьць і пасьлядоўнасьць. 6-ы нумар «Мужыцкай Праўды» прысьвечаны рэлігійнай праблеме, праўдзівей — справе ўзьдзеяньня на народ на рэлігійнай глебе. Аб'ектам быў выбраны лёс Беларускае вуніяцкае царквы, зьліквідаванае яшчэ ў 1839 годзе, а таксама рэлігійныя пачуцьці ў мінулым Беларусаў-вуніятаў. Кастусь Каліноўскі таксама закранаў гэтую праблему, аднак ён ня кідаўся ў крайнасьці й не дапускаў безраздумнай нязноснасьці. Напрыклад, закранаючы гэтую праблему, у 7-ым нумары «Мужыцкай Праўды» ён пісаў:

> «(У Польшчы) ... Вуніяцкія сьвятыні, што маскалі забралі, аддаюцца назад вуніятам, і хто жадае, мае права хрысьціць дзяцей згодна вуніяцкага звычаю, хадзіць у споведзь да вуніяцкіх сьветароў і маліцца Богу пастарому, як яшчэ бацькі нашыя маліліся.»

Інакш Кастусь Каліноўскі ня мог глядзець на праблему, і ня толькі таму, што сваім братам Віктарам, ужо тады добра ведамым археографам і гісторыкам, быў азнаёмлены зь гісторыяй Беларусі, у тым ліку й з рэлігійнай гісторыяй, але й таму, што ён цесна быў зьвязаны з народам, глядзеў у ягоную будучыню вачыма Беларуса й цьвярозага палітыка. З апошняе прычыны Кастусь Каліноўскі ня мог зьніжацца да фанатыка й, ведаючы, што здаўна беларускі народ зжываецца з рознымі веравызнаньнямі, ня мог так злосна дзяліць свой народ на «сьхізматыкаў» і «праўдзівае веры», дзяліць так народ, які ён моцна любіў. Калі-ж часамі, як, напрыклад, у 1-ым нумары «Мужыцкай Праўды», ён нядобразычліва адклікаўся пра праваслаўных сьветароў («папоў»), дык на гэта ён меў поўныя падставы, бо ня трэба забывацца, што ў тыя часы яшчэ жывой была тая брутальнасьць, зь якой ліквідавалася вунія, што гэтая ліквідацыя праводзілася чужымі для народу рукамі й што гэтыя сьветары, зь якіх многа было чужога элемэнту, заклікалі народ да падпарадкаваньня «цару-бацюшку». Дарэчы зазначыць, што, калі была патрэба, Кастусь Каліноўскі не затрымоўваўся й перад тым, каб не асудзіць і каталіцкіх сьветароў. Гэтак, калі ў пачатку верасьня 1863 году вышэйшае й ніжэйшае каталіцкае духавенства пачало заклікаць народ да паслухмянасьці таму-ж «цару-бацюшку», дык ад імя рэвалюцыйнага ўраду Кастусь Каліноўскі ў контрзвароце зьедліва ўсклікае:

> «Ніколі яшчэ ня была так уніжана запаведзь — ,не бяры імя Бога для ашуканства'». «Разбэшчанасьць, якая ідзе зьверху, — працягвае ён, — спустэшэньне духу і слабасьць у тых, хто павінен быць прыкладам пастаянства, вытрымкі, самаахвяраваньня — вось боль самы бязьлітасны. Нішто ў параўнаньні зь ім забойствы, пакуты, пажары, зробленыя карнікамі ў нашым краі».[14]

6-ы нумар «Мужыцкай Праўды» парушае праблему, як-бы яна ня была актуальнай і апраўданай, з пункту гледжаньня фанатыка, наагул у сьвятле ведамага нам польскага нязноснага каталіцызму. Не гаворачы ўжо пра прымітыўнасьць разважаньняў над «праўдзівай» і «няпраўдзівай-сьхізмацкай» верай, дастаткова тут прывесьці наступную вытрымку, каб упэўніцца, што яна не належыла Кастусю Каліноўскаму:

---

[14] А. П. Смірноў. Кастусь Каліноўскі ў паўстаньні 1863 года. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Менск, 1959, б. 151.

«Паказваюць людзі, што Сьвяты Айцец ажно з Рыму прыслаў ужо да нас сваё благаславеньне (але маскаль яго спыняе). Гаворацъ, што прышле й ксяндзоў, што будуць прыймаць у вуніяцтва. Тады, Дзяцюкі, хто адно верыць у Бога, Яго Сына й Духа Сьвятога, няхай зараз-жа пакідае сьхізму й пераходзіць у праўдзівую веру Дзядоў і Прадзедаў. Бо хто не пяройдзе да вуніі, той застанецца сьхізматыкам, той як сабака здохне, той на тым сьвеце апынецца ў пякельных мучэньнях».

Апрача таго гэты нумар «Мужыцкай Праўды» захоўвае шмат палянізмаў, у тым ліку цэлую вытрымку малітвы на польскай мове: „Święty Boże, święty mocny, święty nieśmiertelny — zmiłuj się nad nami!“. Аднак гэты нумар «Мужыцкай Праўды» найбольш неўласьцівы Кастусю Каліноўскаму тым, што ў ім прапануецца беларускаму сялянству «вольнасьць шляхты». Падобнай вольнасьці Кастусь Каліноўскі ніколі не прапаноўваў ні беларускаму сялянству, ні беларускаму народу. Як сьцьвярджаецца, напрыклад, у незакончаных запісах генэрала В. Ратча, ён наагул лічыў, што паны й шляхта аджылі свой век. «Каліноўскі хацеў бачыць Літву, — дабаўляе Ратч, — не са старымі шляхоцкімі традыцыямі, якія будуць адноўленыя на новы лад, а Літву, якую ён, усеагульна ўраўнаваўшы правы й стан на новых асновах камуністычнай бязглузьдзіцы... мог бы зьмяніць, знаходзячы навет, што галіцэйскай разьні будзе замала, каб вызваліць народ ад усякага ўплыву шляхоцтва».[15] Пра гэта будзе сьветчыць і аналіз іншых нумароў «Мужыцкай Праўды», да якога мы зьвернемся пазьней.

Нас тут найменш цікавіць пытаньне, дзе выдавалася «Мужыцкая Праўда», як і ў якой колькасьці яна распаўсюджвалася? Аднак для паўнаты малюнку можна бегла закрануць і гэткае пытаньне. Прыкладам, А. Гілер паведамляе, што Кастусь Каліноўскі выдаваў свае лятучкі ў «беларускай друкарні ў Беластоку».[16] Як мы маглі канстатаваць вышэй, Ф. Ражанскі адмяжоўваў Горадню ад Беластоку, дзе, згодна ягонага асьветчаньня, выдаваў «песьні й гутаркі на беларускай мове» Браніслаў Шварцэ. Магчыма, што некаторыя нумары «Мужыцкай Праўды» й запраўды друкаваліся ў беластоцкай сутарэннай друкарні, але ня ўсе. Пра гэта сьветчыць як неаднолькавы фармат газэты, так і неаднолькавы шрыфт, які розьніўся амаль з кажным нумарам.[17] Распаўсюджвалася газэта рознымі спосабамі. Як паведамляе ў тым-жа месцы А. Гілер, праклямацыі Кастуся Каліноўскага моладзь разносіла па вёсках і зачытывала іх сялянам. Пра гэта сьветчаць і некаторыя архіўныя матарыялы. Распаўсюджваў газэту й сам Кастусь Каліноўскі, пра што гавораць шматлікія даносы й рапарты царскай паліцыі. Гэтак у водным зь іх паведамляецца:

«7 кастрычніка ў 5 гадзін вечара адзін із пасажыраў, што праязджалі шляхам праз в. Шнэйка (Слонімскага ўезду), выкідваў на дарогу скруткі паперы... Сяляне падымалі іх і зьвярталіся да пісьменных аднавяскоўцаў, якія ім чыталі. Адзначаны пасажыр... быў сярэдняга росту, чарнявы з чорнымі вусамі, гадоў прыблізна

[15] Г. Кісялёў, цыт. артыкул, б. 132.
[16] A. Giller, op. cit., p. 176.
[17] А. Ф. Смирнов, цыт. артыкул, б. 48.

36-ці .. Згодна вестак, якія я сабраў, выявілася, што гэтым пасажырам быў . . . нейкі пан Вікеньці Каліноўскі».[18]

Запраўды, як пасьлей сьцьвердзіла жандармэрыя, гэта быў Кастусь Каліноўскі, а ў скрутках знаходзіўся 3-ці нумар «Мужыцкай Праўды». У сваіх успамінах Ф. Ражанскі таксама сьцьвярджае, што ён разам з Каліноўскім, пераапрануўшыся ў сялянскія сьвіткі, неаднаразова рабіў сваеасаблівыя падарожжы зь вёскі да вёскі, гаварыў зь сялянамі, распаўсюджваў і чытаў ім свае выданьні.[19] Як даносіла царская жандармэрыя, у лютым 1863 году Кастусь Каліноўскі быў заўважаны ў заходніх паветах Віцебскай губэрні, дзе ён таксама распаўсюджваў «Мужыцкую Праўду» й заклікаў народ да паўстаньня.[20] Аднак «Мужыцкая Праўда» распаўсюджвалася найбольш шляхам ці рэчышчам паўстанцкай арганізацыі або спэцыяльнымі агентамі. Газэта й іншыя адозвы й загады развозіліся ў большай колькасьці ў паўстанцкія цэнтры паасобных губэрняў, скуль яны, падзеленыя на боль-менш роўныя партыі, траплялі ў павятовыя цэнтры, а адсюль — у акруговыя. У архівах захавалася ведамка, зь якой бачна, што акруговыя кіраўнікі, тэрытарыяльна найменшых ячэяк арганізацыі, атрымалі па 10 экзэмпляраў 7-га нумару «Мужыцкай Праўды» й загаду Кастуся Каліноўскага з 11 ліпеня 1863 году.[21] Гэты факт сам сабой гаворыць, што «Мужыцкая Праўда» распаўсюджвалася ў даволі паважнай колькасьці. Вось чаму ў студзені, а пазьней у лютым 1863 году полацкі архіяпіскап і обэр-пракурор сыноду даносілі шэфу царскай жандармэрыі, што «Мужыцкая Праўда» (нумары 4, 5 і 6) у вялікай колькасьці распаўсюджвалася па ўсёй Віцебскай губэрні.[22] Бяручы пад увагу, што яна распаўсюджвалася таксама спэцыяльнымі агентамі ці, як у прыведзеным выпадку Каліноўскага, скруткамі раськідалася па дарогах і вёсках, трэба тыраж газэты яшчэ больш павысіць. Успомнены вышэй Юры Кучэўскі-Порай сьветчыць, што «Мужыцкая Праўда» выдавалася й распаўсюджвалася «у тысячных экзэмплярах».[22a] Праўдападобна з гэтае прычыны ці з прычыны ўсё большай патрэбнасьці ў газэце Літоўскі камітэт змушаны быў, асабліва ў пачатку паўстаньня, друкаваць нанава кажны з нумараў «Мужыцкай Праўды». Пра гэта сьветчыць параўнаньне 1-га й 5-га нумароў газэты, перадрук якіх зьмешчаны ў цытаванай працы С. Агурскага, з фатакопіямі гэтых нумароў, якія залучыў да свайго артыкулу «Мужыцкая Праўда» А. Сьмірноў. Гэтае параўнаньне паказвае на вялікую розьніцу між імі, якой, ведама, ня мог дапусьціць С. Агурскі пры зьмяшчэньні перадруку, але магла яна ўзьнікнуць толькі пры перавыданьні газэты. Прывядзём тут некалькі вытрымак.

---

[18] Тамсама, б. 52.

[19] Тамсама.

[20] Тамсама, б. 60.

[21] Тамсама, б. 54.

[22] Тамсама, б. 58—59.

[22a] Demokracja polska w powstaniu styczniowym, p. 108.

**Фатакопія А. Сьмірнова**

**(№ 1)**

Dzieciuki!

Minuło uże toje, kali zdawało sia usim, szto mużyckaja ruka zdasce tolko da sachi, — ciepier nastau taki czas szto my sami możem pisaci, i to pisaci takuju praudu sprawiedliwu jak Boh na niebi. O, zahremić nasza prauda i jak małanka pierelecić pa swieci! Niechaj paznajuć szto my możem nie tolko karmić swaim *chlebom no jeszcze i uczyć swajej mużyckoj* praudy...

Maskali, czynouniki i mnoho panou, buduć pierepyniać pismo nasze da was; no najduć sia ludzie i z mużykou razumniejszyje i z panskaho rodu i z miasteczkowych, szto choczuć waszej swabody, waszaho szczaścia, — jony to wam sami heto pismo dawaci buduć, kab wy znali chto wasz pryjaciel, a chto wasz woroch...

**Перадрук С. Агурскага**

**(№ 1)**

Dzieciuki!

Minuło uże toje, kali zdawało sia usim szto mużyckaja ruka zdasce tolki da sachi, — ciepier nastau taki czas, szto my sami możem pisaci, i to pisaci takuju praudu sprawiedliwu jak Boh na niebi. O, zahremić nasza prauda i jak małanka pierelecić pa świeci! Niechaj paznajuć szto my możem nie tolki karmić swaim chlebom, no jeszcze i uczyć swojej mużyckoj praudaj...

Maskali, czynouniki i mnoho panou, buduć pierepyniać piśmo nasze da was; no najduć sia ludzie i z mużykou razumniejszyje i z panskaho rodu i z miasteczkowych, szto choczuć waszej swabody, waszaho szczaścia — jony to wam heto pismo dawaci buduć, kab wy znali chto wasz przyjaciel a chto wasz woroch...

**Фатакопія А. Сьмірнова**

**(№ 5)**

Dziaciuki

Mało toho szto z mużyka dzieruć na usiakije Padatki astatniu kaszulu, mało taho szto nikoli niemożesz dabicisia da kuska chleba, a usio szto zarobisz addaci muszisz czort wiedaje kamu i czort wiedaje na szto, mało taho, każu, szto życie naszeje horsz sabaczaho, a skażecie maje milenkie czy je pomież nami chto len kab nie apłakiwau jeszcze albo swojeho syna, albo swaho brata, albo swaho muża, szto Car zabrau jeho u rekruty, da i zahnau czort wiedaje hdzie?..

Wy wiedajecie Dziaciuki dobre, szto Prancuz prykazau niedawaci uże bolsz Maskalewi rekruta, dlatoho kali Car zachocze uziaci, tak całaju hramadoju zhawaryuszysia, nihdzie jemu nie daci. Jon ciepier chocze uziać 5. s tysiacza, no jak da-

**Перадрук С. Агурскага**

**(№ 5)**

Dzieciuki!

Mało taho szto z mużyka dzieruć na usiakije padatki astatniu kaszulu, mało taho szto nikoli nie możesz dabici sia da kuska chleba, a usio szto zarobisz oddaci musisz czort wiedaje kamu i czort wiedaje na szto, mało taho, każu, szto życio naszeje horsze sabaczaho — no skażecie mileńkije czy jeść pamież nami chto leń kab nie apłakiwau jeszcze albo swaho syna, albo swaho brata, albo swaho muża, szto Car zabrau jeho u rekruty, da i zahnau czort wiedaje hdzie?..

...Wy wiedajecie Dziaciuki dobre, szto Prancuz prykazau niedawaci uże bolsz Moskalewi rekruta, dla taho kali Car zachocze uziaci, tak całymi hramadami zhawaryuszysia, nihdzie jemu nie dawajcie. Jon ciepier chocze uziaci 5 s tysiacza, no

mo 5. to jon pozniej zachocze uziaci 10. i znou pojdzie pa staromu. Ciepier my jemu addamo hyćlou, pozniej treba budzie addaci i swoich synou. — Tak dlataho — Dziaciuki tałkujcie dobre i nie dawajciesia aszukiwać. Za mużyckuju kryudu stojcie śmieło usie razom i kali chto zachocze kryudzić wyciahaci rekruta, to chtoby jon nie byu, czy to Starszyna, czy Akrużny, czy choć sam Gubernator, to wy joho tauczycie mużyckoju rukoju, o budzie wolność i rekruta nie budzie i Boh nam dapamoże ! ! !

Tak Dziaciuki pa dobrości da ładu nie dojdziem. —

Jaśko haspadar z pod Wilni.

jak my jemu damo 5, to jon pozniej zachocze uziaci 10 i znowu pojdzie po staromu. Ciepier my jemu addamo hyclou, no pozniej treba budzie addaci i swaich synou.

Tak dla toho Dziaciuki tałkujcie dobre i niedawajcie sia aszukiwać. Za mużyckuju kryudu stojcie smieło, usie razom, i kali chto zachocze kryudzić was, wyciahaci rekruta, to chtoby jon nie byu, czy to Starszyn, czy Akrużny, czy choć sam Gubernator, to wy jeho tauczycie mużyckoju rukoju a budzie wolność i rekruta nie budzie i Boh nam dapamoże!

Tak Dziaciuki, pa dabrości da ładu nie dojdziem!

Jaśko haspadar z pad Wilni.

З гэтых вытрымак выразна бачна, што прынамся 1-ы й 5-ы нумары «Мужыцкай Праўды» мелі другое выданьне, пры гэтым зь некаторымі дапушчанымі зьменамі.

* * *

Пераходзячы да аналізу «Мужыцкай Праўды»,[23] найперш трэба адцеміць, што кажны з нумароў газэты быў прысьвечаны апрычонай праблеме. Бяспрэчна, у некаторых нумарох сустракаліся й паўтарэньні, аднак гэта не парушала іхнае адменнае цэласьці. Гэтак 1-ы нумар «Мужыцкай Праўды» абвяшчаў пра нарадзіны газэты, знаёміў зь ейным характарам («Мы, мужыкі, братыя вашыя, мы вам будзем гаварыць цэлую праўду, толькі слухайце нас») і ў ім выясьнялася сутнасьць царскага Маніфэсту аб скасаваньні паншчыны з 19 лютага 1861 году; 2-гі нумар газэты быў прысьвечаны пытаньню, скуль пайшла паншчына й чаму яна павінна зьнікнуць; 3-ці нумар знаёміў із зьявішчам, скуль і якім шляхам пазналі сяляне, што яны таксама могуць быць вольнымі, што такое й якой павінна быць вольнасьць, што яны самі могуць браць удзел у вырашэньні свайго лёсу, ды раскрываў, як хітруе цар, каб зноў абдурыць народ; у 4-ым нумары тлумачылася, для чаго й якім павінен быць урад, у чым заключаецца існасьць маскоўскага панаваньня, ды разьвейваліся ілюзыі пра «добрага» й «справядлівага» цара; 5-ы нумар поўнасьцяй быў прысьвечаны рэкрутчыне, знаёмячы адначасна, як гэтая справа стаяла ў недалёкім мінулым, што сабой уяўляе вайсковая служба ў расейскай арміі й якое няшчасьце яна нясе з сабой як для пакліканых у армію, так і для іхных бацькоў і

[23] Мы тут карыстаемся перадрукам «Мужыцкай Праўды», зробленым С. Агурскім (Очерки по истории революционного движения в Белоруссии, 1863-1917 гг., Менск, 1928, б. 211—219).

цэлага краю й народу наагул; як зазначалася вышэй, 6-ы нумар быў прысьвечаны рэлігійнай праблеме; 7-ы нумар газэты раскрываў, чаго вартае царскае скасаваньне паншчыны, як цар ашукаў народ з рэкрутчынай, знаёміў з разьвіцьцём паўстаньня ў Польшчы й разьвязаньнем тут сялянскага пытаньня ды заклікаў беларускае сялянства не давяраць больш маскоўскім уладам, адрачыся ад усялякіх паслугаў ім і ўліцца ў паўстаньне, каб здабыць «вольнасьць, якой ня было для нашых дзядоў і бацькоў».

З гледзішча на тое, што нас у першую чаргу цікавяць палітычныя пагляды Кастуся Каліноўскага, ягоная сацыяльная, рэвалюцыйна-дэмакратычная й нацыянальная праграма, адлюстраваная ў «Мужыцкай Праўдзе», мы будзем карыстацца мэтадам аналізу ня кажнага паасобку нумару, але мэтадам аналізу паасобных паглядаў і думак, выказаных у газэце.

**Сацыяльная праграма.** Альфай і амэгай гэтае праграмы ёсьць скасаваньне ўсялякіх формаў паншчыны, перадача безь якога-колечы выкупу зямлі сялянству, адмена землеўласьніцкіх прывілеяў паноў і шляхты, а навет з ужыцьцём прымусу й сілы, калі з боку апошніх будзе пастаўлены супраціў. Асновы гэтае праграмы мы знаходзім амаль у кажным нумары «Мужыцкай Праўды», выказаныя або ў форме адкрытых дамаганьняў, або ў форме крытыкі й асуджэньня таго палажэньня, якое існавала ці ўзьнікала ў сувязі з ажыцьцяўленьнем аграрных рэформаў. Трэба сьцьвердзіць, што ў вапошнім выпадку галоўная ўвага зьвярталася на «маскоўскую» паншчыну й няволю й гэта, як бачна, было зьвязана з тымі ўмовамі, у якіх змагаўся Кастусь Каліноўскі й ягоная рэвалюцыйна-дэмакратычная група. Аднак гэта зусім ня значыла, быццам тут прамоўчвалася праблема «сваей» ці «польскай» паншчыны й няволі, што часамі некаторыя аўтары й выкарыстоўваюць для пацьверджаньня сваіх тэндэнцыйных канцэпцыяў.

Гэтая праграма найбольш выразна знайшла сваё адлюстраваньне ў 1-м нумары «Мужыцкай Праўды». Тут проста гаварылася:

> Ад маскаля й паноў няма чаго спадзявацца, бо яны ня вольнасьці, а глуму й зьдзерства нашага хочуць. Але ня доўга яны нас будуць абдзіраць, бо мы пазналі, дзе сіла й праўда й будзем ведаць, як трэба рабіць, каб здабыць зямлю й свабоду. Возьмемся, Дзяцюкі, за рукі й будзем трымацца разам! А калі паны захочуць трымацца з намі, дык няхай-жа гэта робяць у імя сьвятой справядлівасьці: бо калі інакш, дык чорт зь імі! Мужык, пакуль здолее трыммаць касу й сякеру, патрапіць абараніць сваё й у нікога ня будзе прасіць ласкі.

У 2-м нумары газэты праграма гэтая выказвалася наступна:

> Так з гэтага пісьма й бачна, што мужыкі панскія й казённыя не павінны плаціць ані чыншу панам, ані аброку ў казну за зямлю, бо гэтая зямля нам належыць. Але калі будзе вайна з маскалём за нашую вольнасьць, дык у той час усім трэба йсьці на вайну супраць маскаля. А гэта дзеля таго, каб хутчэй выгнаць маскаля зь ягоным сабачым урадам і каб ніколі, ніякай, нікому мужыкі паншчыны ня служылі й ніякага ў казну аброку не плацілі й каб назаўсёды народ наш быў вольны й шчасьлівы. А калі хтосьці вас будзе падмаўляць рабіць інакш, ці гэта спраўнік, ці гэта акружны, ці гэта пасярэднік, ці гэта пан, дык вы яго ня слухайце, бо гэта напэўна ашуканства, што за царскія альбо панскія грошы вашай вечнай згубы жадае.

У 3-ім нумары «Мужыцкай Праўды» падобныя лініі сацыяльнай праграмы зьмяшчалі ўжо й некаторыя дэмакратычныя моманты, якія аднак не засланялі балючае сялянскае праблемы, а толькі яе дапаўнялі. У першую чаргу тут парушаецца прынцыповая праблема — праблема вольнасьці:

> ...Мы сяньня ўсе ўжо знаем, што чалавек вольны толькі тады, калі мае кавалак свае зямлі, за якую ані чыншу й аброку ня плоціць, ані паншчыны ня служыць; калі плоціць малыя падаткі й то не на царскія стайні, псярні й на прасьцітутак, але на патрэбу цэлага народу; калі ня йдзе ў рэкруты чорт знае дзе, а йдзе бараніць свой край толькі тады, калі які няпрыяцель надыйдзе; калі можа рабіць усё тое, што зажадае й што ня спрычыняе крыўды бліжняму й не абражае Бога; калі вызнае тую веру, якую вызнавалі ягоныя бацькі, дзяды й прадзеды.

Далей, закрануўшы пытаньне царскай сялянскай рэформы, у нумары пісалася:

> Але ня доўга жыць іхнаму ашуканству, бо, як я ўжо гаварыў, мы ўжо пазналі, што нам не маніфэстаў, а вольнасьці трэба, ды вольнасьці не такой, якую нам цар хоча даць, але якую мы, мужыкі, самі між собку ўстановім. А дзеля таго, Дзяцюкі, каб ніхто ня змог ашукаць, ужо цяпер талкуйце між сабой, якой вам вольнасьці трэба й якім спосабам мужык яе можа здабыць. Толькі, дзяцюкі, адважна, бо з намі Бог і праўда, а калі мы з Богам, дык і з намі змагацца цяжка, бо боская сіла вялікая й народу многа... няма чаго чакаць ад нікога, бо той толькі жне, хто пасее. Дык сейце-ж, Дзяцюкі, як прыйдзе пара, поўнаю рукою, не шкадуйце працы, каб і мужык быў чалавекам вольным, як гэта ёсьць на цэлым сьвеце. Бог нам дапаможа!.

4-ы нумар як-бы закругляў гэтую праграму:

> Так з гэтага пісьма й бачна, што зьдзек, абдзіраньне й несправядлівасьць выходзяць ад самога цара. Ён з нас набірае войска, ён з нас выцягвае грошы нібы для патрэбы народу, а ў запраўднасьці, узяўшыся з усімі нягоднікамі за рукі, адно нас мучыць, трымае ў няволі. Аднак ужо прыходзіць для яго скананьне, бо мужык адчуў вольнасьць, а мужыцкая вольнасьць усёроўна, што шыбеніца для ўсіх абдзіралаў і прыгнятальнікаў народу. Для таго цар спыняе вольнасьць мужыцкую й спыняць будзе, дзеля гэтага таксама, калі ў паноў ня раз пытаўся, якую яны жадаюць даць вольнасьць мужыкам, у мужыкоў ні разу не запытаўся, якой яны хочуць вольнасьці. Ён знае, якая гэта мужыцкая вольнасьць, ён ведае, што мужык патрабуе, каб ніхто не адважваўся абдзіраць іншага... Дзяры з нас, цар, дзярыце з нас, чыноўнікі, хоць-бы апошнюю скуру, але памятайце, што й на нашай вуліцы будзе сьвята, памятайце, што калі мужык разыйдзецца, дык, як сьвет шырокі, пральлецца вашая кроў.

7-м нумар «Мужыцкай Праўды» выйшаў у вабставінах, калі Кастусь Каліноўскі быў адхілены ад кіраўніцтва паўстанцкай арганізацыяй і ад кіраўніцтва паўстаньнем наагул. Гэтае кіраўніцтва трапіла ў рукі прапольска-панскага элемэнту, у залежнасьці ад якога цяпер дзейнічаў Каліноўскі ў якасьці вайскова-палітычнага камісара Горадзенскай губэрні. Ведама, цяпер ён ня мог выкладаць свае сацыяльнае праграмы так адкрыта, як гэта ён рабіў раней. Аднак і ў гэтым апошнім нумары газэты ён здолеў выказаць тое, за што змагаўся. Напрыклад, Каліноўскі тут ухапліваецца за ма-

ніфэст Польскага рэвалюцыйнага часовага ўраду пра вызваленьне сялянства, якога не пераказвае дакладна, бо гэта ня выгадна й пярэчыць ягонай праграме, але толькі зазначае: «зямля вольна аддаецца мужыкам, бо гэта іхная зямля зь дзядоў і прадзедаў; за гэтую зямлю ніхто не павінен адрабляць паншчыну й чыншаў ніякіх нікому плаціць». У іншым месцы ён дабаўляе: «А такіх, што за грошы служаць ворагам нашым, што ня хочуць зямлі мужыкам і праўды на сьвеце, а таксама якія супраць новай вольнасьці й новага польскага (тут усюды Каліноўскі гаворыць пра падзеі ў Польшчы — П. У.) маніфэсту, гэтакіх вешаюць, як памаўзьлівых сабак, селішчы іхныя апусьцелі, пайшлі з дымам іхныя хаты...». Кранаючыся царскіх абяцанак, ён піша:

> Усе нас крыўдзілі, усе нас абдзіралі, і біў нас мацнейшы, крыўдзілі багатыя... Мы ўсё маўчалі ды слухалі, усім кланяліся, за ўсё плацілі, усё пераносілі, чакаючы канца, бо спадзяваліся справядлівай вольнасьці, спадзяваліся, што дадуць вольную зямельку ды й у падушным справядлівыя ўзяткі будуць. Заміж таго, каб аддаць нашую зямельку, ды якую зямлю?! Гэтую, што зь дзядоў і прадзедаў крывавай працай дзесяць разоў ужо на яе зарабілі й заплацілі. За гэтую зямлю цар загадвае нам чыншы плаціць у казну... Падумайце добра, ды, памаліўшыся Богу, станьма дружна разам за нашую вольнасьць... А будзе ў нас вольнасьць, якой ня было ў нашых дзядоў і бацькоў.

Такім парадкам, сацыяльнае пытаньне ў «Мужыцкай Праўдзе» даволі выразна вызначанае й ня можа выклікаць нейкіх засьцярогаў ці нацяжак. Яно, ды яшчэ больш выразна й больш радыкальна, пастаўленае ў іншых дакумантах Кастуся Каліноўскага, але пра гэта пазьней.

**Рэвалюцыйна-дэмакратычная праграма.** З гэтымі момантамі мы ўжо сустракаліся пры разглядзе сацыяльнай праграмы. Зь іх вынікала, што ў васнову будучыні краю клаліся вольнасьць, свабода, справядлівасьць і раўнапраўнасьць. Пры гэтым галоўная ўвага зьвяртаецца на зраўнаньне ў правох і ўладжаньне дабрабыту сялянства. Гэта, бязумоўна, не таму, што «Мужыцкая Праўда» зьяўлялася сялянскай газэтай і такім чынам толькі й клапацілася пра лёс сялянства. У той час сялянства было асновай народу й ад яго залежыла будучыня. Гэта, аднак, не азначала вылучэньня з грамадзтва іншых пластоў. У гэтае грамадзтва маглі навет увайсьці былыя паны, не гаворачы ўжо пра шляхту, аднак з умовай, калі яны змогуць адрачыся ад сваіх ранейшых прывілеяў.

У пытаньні гэтае праграмы ў 1-ым нумары «Мужыцкай Праўды» гаварылася:

> Мінула ўжо тое, калі паказвалася ўсім, што мужыцкая рука здольна толькі да сахі. Цяпер наступіў такі час, што мы самі можам пісаць і пісаць такую праўду справядлівую, як Бог на небе. О, загрыміць нашая праўда й як маланка праляціць па сьвеце! Няхай пазнаюць, што мы можам ня толькі карміць сваім хлебам, але яшчэ й навучаць нашай мужыцкай праўдзе.

Такім парадкам, дасюль зусім бяспраўнаму селяніну ня толькі надаваўся статус грамадзяніна, але яму давалася таксама й права прыймаць удзел у вырашэньні лёсу свайго краю, нааагул прыймаць актыўны ўдзел у палітычным жыцьці свайго народу.

> Вось, — пішыцца ў 3-ім нумары газэты, — яшчэ нядаўна гаварылі нашыя, што яны жывуць для таго, каб толькі служыць паншчыну й быць нявольнікамі... А ці сяньня гэтак скажуць, калі ўжо ведаюць многа й многа хочуць? Цяпер усе ўжо паразумнелі, ужо ўсе мужыкі гавораць, што Бог стварыў чалавека, каб карыстаўся з справядлівай вольнасьці...

Ведама, тут справа ідзе ня толькі пра «сацыяльную справядлівасьць», якая, бясспрэчна, таксама зьяўляецца адным із арганічных элемэнтаў дэмакратыі. У гэтым выпадку «вольнасьць, дадзеная Богам», уключае ў сябе й грамадзка-палітычны аспэкт, а таксама, згодна Каліноўскага, права карыстацца свабодай у дзеях і паступках, абы гэта ня шкодзіла іншым ці ня йшло ў разрэз з законамі й хрысьціянскай маральлю.

Прынцыпы дэмакратызму выразна знайшлі сваё адлюстраваньне ў наступнай вытрымцы з 4-га нумару «Мужыцкай Праўды»:

> ... Для таго, каб была справядлівасьць і праўда на сьвеце, а злыя людзі не надужывалі й крыўды другім не рабілі, для гэтага ёсьць урад, што накладае падаткі, уводзіць школы, навучае кажнага, каб жыў згодна гуманных прынцыпаў (праўды), устанаўляе суды. А калі гэта не памагае й узьнікае несправядлівасьць, дык набірае войска й у такі спосаб ахоўвае кажнага ад ліха й гвалту... І як добры слуга даглядае худобу гаспадарскую й слухае свайго гаспадара, так добры ўрад павінен клапаціцца пра шчасьце людзей, слухацца народу й рабіць так, як лепш народу. І ня дзіва, бо не народ створаны для ўраду, а ўрад для народу... А ў нас, Дзяцюкі, ці гэта так? Ці ў нас ёсьць справядлівая навука ў школах, што навучае жыць, ня крыўдзячы іншых, ці ёсьць праўда й справядлівасьць у судзе, ці можа чалавек быць пэўны, што яго ніхто не пакрыўдзіць, ці ўрад маскоўскі клапоціцца, каб людзі маглі жыць шчасьліва?

І аўтар гэтага запытаньня канстатуе з горычай:

> У нас, Дзяцюкі, адно вучаць у школах, каб ты знаў чытаць памаскоўску, а гэта для таго, каб цябе зусім перарабіць на маскаля. Суды маскоўскія — гэта воўчая яма, дзе не разьбіраюць, ці з табою праўда, ці не, а абскубваюць, як могуць. Бясьпекі пад маскалём ніякай няма, хто мацнейшы, той і зьдзекваецца... Урад маскоўскі, Дзяцюкі, ня так робіць, як гэта павінна быць, ня дбае, каб палегчыць становішча народу, а выдумляе адно спосабы, як найлепш абскубаці й людзей зусім абдурыці.

Хоць «Мужыцкая Праўда» спэцыяльна й не займалася пытаньнем будучага дзяржаўнага ладу й грамадзкіх дачыненьняў, у ёй усё-такі адлюстраваліся тыя прынцыпы, якія ў сваей незакончанай працы генерал В. Ратч назваў «асновамі камуністычнай бязглуздзіцы». Гэта — прынцыпы свабоды, раўнапраўнасьці, наагул прынцыпы дэмакратызму.

**Нацыянальная праграма.** Да Расеі й у пытаньні беларуска-расейскіх дачыненьняў «Мужыцкая Праўда» займала выразнае становішча. Таму дарэмны намаганьні савецкіх гісторыкаў давесьці адваротнае, пайменна, што быццам ні «Мужыцкая Праўда», ні Кастусь Каліноўскі ў прыватнасьці ня высоўвалі пытаньня адрыву Беларусі ад Расеі, наагул пытаньня нацыянальна-палітычнага вызваленьня Беларусі. Напрыклад, ужо ў 2-ім нумары газэты гаварылася: «... але калі будзе вайна з маскалём, дык у той час трэба ўсім

ісьці на вайну супраць маскаля. А гэта для таго, каб хутчэй прагнаць маскаля зь ягоным сабачым урадам і... каб назаўсёды народ наш быў вольны й шчасьлівы». Паясьняючы, у якіх выпадках чалавек можа быць «вольным», у 3-ім нумары газэты таксама зазначалася: «...калі ня йдзе ў рэкруты чорт ведае куды, а йдзе бараніць свой край толькі тады, калі які няпрыяцель надыйдзе». Гаворачы пра тую-ж рэкрутчыну, у 5-ым нумары газэты выразна сьцьвярджалася: «...А маскоўскае жыцьцё — горкая ўжо доля. Забыць нам трэба, што ёсьць у нас нашая бацькаўшчына, што ёсьць у нас нашая радня, а аддаці жыцьцё не за дабрабыт і шчасьце ўсіх, але за ліха й вечную няволю нашых братоў». 7-ы нумар газэты ўжо адкрыта заклікаў:

> Падумайце добра ды, памаліўшыся Богу, станьма дружна разам за нашую вольнасьць! Нас цар ужо не падмане, не падвядуць маскалі! Няма для іх у нашых сёлах ні вады, ні хлеба, для іх мы глухія й нямыя, нічога ня бачылі й ня чулі. А пакуль яшчэ пара, трэба нашым хлопцам сьпяшыць зь віламі й косамі туды, дзе здабываюць волю й праўду... А будзе ў нас вольнасьць, якой ня было ў нашых дзядоў і бацькоў.

Калі-ж і гэтых выпісак недастаткова, каб азначыць становішча «Мужыцкай Праўды» й Кастуся Каліноўскага ў пытаньні беларуска-расейскіх дачыненьняў, працытуем яшчэ некаторыя мясьціны з 2-га нумару газэты:

> Быў калісьці народ наш вольны й багаты, — гаворыцца тут. —... Але па суседзтву з намі жыў немец і маскаль. Аднаму й другому багацтва нашае калола ў вочы, каб іх так колка схапіла, ды й захацелі нас прагнаць з нашае бацькаўшчыны... Калі-ж маскаль зь немцам нас хітрасьцяй падбіў і пайшоў урад маскоўскі, дык і ўсё зрабілася кепска...

Пытаньня беларуска-польскіх сувязяў і далейшых палітычных дачыненьняў «Мужыцкая Праўда» намагалася ўнікаць. Гэта, бясспрэчна, было абумоўлена ведамымі прычынамі й у першую чаргу тым, што ў газэце, якая зьяўлялася органам рэвалюцыйна-дэмакратычнай групы з рознымі паглядамі на гэтае пытаньне, Кастусь Каліноўскі проста ўнікаў закранаць апошняе пытаньне. Дарэчы зазначыць, што ў газэце не захавалася ніводнага намёку пра тое, што Беларусь «з гледзішча на гістарычныя традыцыі» павінна й у далейшым тварыць з Польшчай палітычна супольнае гаспадарства. Гэта ўжо павінна сьветчыць пра тое, што ў гэтым пытаньні далейшых беларуска-польскіх сувязяў як Кастусь Каліноўскі, так і «Мужыцкая Праўда» займалі незалежніцкую пазыцыю. Пра гэта сьветчаць таксама некаторыя, хоць і даволі асьцярожныя, мясьціны газэты.

У першую чаргу занятае газэтай становішча ў сацыяльным пытаньні й наагул у пытаньні рэвалюцыйна-дэмакратычных перабудоваў само сабой улучала й беларускую нацыянальную праблему. Як праз газэту, так і ў сваей практычнай дзейнасьці Кастусь Каліноўскі праводзіў змаганьне за зьнішчэньне вылучнага панаваньня й прывілеяў панскага элемэнту, які ў першую чаргу быў носьбітам палянізацыі й польшчыны ў Беларусі. Гэтым самым ён расчышчаў шлях для ўзьнікненьня як палітычна, так і нацыянальна беларускае дзяржавы. Дарэчы й у «Мужыцкай Праўдзе» часта гаворыцца пра неабходнасьць адраджэньня апрычоннай «бацькаўшчыны», пра неабходнасьць здабыцьця запраўднай «вольнасьці». І калі, напрыклад,

у 2-ім нумары газэты мова пра гэтую **бацькаўшчыну** ў мінулым, дык яе Кастусь Каліноўскі ня зьмешвае з Польшчай, але абавязкова дабаўляе, што гэта было так «за каралёў польскіх і літоўскіх». Праўда, у 5-ым нумары газэты ёсьць наступнае асьветчаньне:

> Помняць яшчэ нашыя дзяды, паказваюць яны, што за іх часоў мужыкі рэкрута й ня зналі. Было войска, гэта праўда, але войска польскае ўсё складалася з шляхты, а калі мужыкі часамі жадалі йсьці на вайну, дык зараз зь іх зьнімалі мужыцтва ды й паншчыну, давалі зямлю, а ўсю вёску рабілі шляхтаю. Згэтуль-жа ў нас і парабіліся гэтыя шляхоцкія ваколіцы. Так за тое, што чалавек ішоў на вайну, бараніў сваю бацькаўшчыну, дык урад польскі даваў зямлю, даваў вольнасьць, даваў шляхецтва...

У гэтым выпадку Кастусь Каліноўскі толькі сьцьвердзіў гістарычную праўду: «помняць яшчэ нашыя дзяды», г. зн. як было яшчэ ў канцы 18 стагодзьдзя, калі, хоць і йснавала «свая бацькаўшчына», яна ў запраўднасьці была залежнай ад «польскага ўраду» й народ служыў у «польскім войску». У 7-ым нумары газэты таксама гаворыцца:

> Ну цяпер самі разьбярыцеся: дзе больш праўды, ці ў польскім маніфэсьце, ці ў царскім? Цар абяцаў даць вольнасьць ды не даў. Абяцаў ня браць рэкрута, а цяпер ужо другога патрабуе. Польскі маніфэст даў зямлю, не бярэ рэкрута, ськінуў паншчыну, павярнуў вунію. Ну, скажыце, браткі, хто нам лепш думае?

Аднак і з гэтае апошняе выпіскі ня выпадае рабіць таго высьнаву, быццам-бы гэтым самым Кастусь Каліноўскі згары вызначаў будучы нацыянальна-палітычны лёс Беларусі, г. зн. зьвязваў яго зь лёсам Польшчы. Нацыянальна-палітычныя пагляды Кастуся Каліноўскага мы закранём пазьней, а цяпер-жа трэба сьцьвердзіць, што й у вапошнім выпадку нічога падобнага не прадбачвалася. Працытуем яшчэ некалькі месцаў з гэтага нумару газэты:

> ... У Польшчы мужыкі таксама, як і мы, спадзяваліся на цара ды чакалі волі ад яго... Дапамог-бы Француз, дык што-ж — цар адказвае, што ў нас мужыкі ўсім задаволеныя й нашае волі ня хочуць, што яны любяць цара... А Француз на нас толькі й чакае, але каму-ж ён дапамагаць будзе, калі ў нас будзе ціха... Ня так думалі мужыкі ў Польшчы. Служылі яны яму верна, як і мы, але, пабачыўшы, што ня выслужаць нічога, пачалі дабівацца й дабіліся волі. А іх царскія служкі абдурвалі, як і нас цяпер абдурваюць...

З гэтых выпісак відаць, што Кастусь Каліноўскі выразна вырозьніваў Беларусь ад Польшчы, абяцаў дапамогі ў змаганьні не ад Польшчы, але ад «Француза» ды заклікаў беларускі народ стаць у змаганьні «за сваю вольнасьць» «дружна й разам»: «А будзе ў нас вольнасьць, якой ня было ў нашых дзядоў і бацькоў»!

*

Тут асобна трэба затрымацца над гэтак званым **«Пісьмом ад Яські гаспадара з-пад Вільні да мужыкоў зямлі польскай»** і над першай часткай **«Пісьма з-пад шыбеніны Кастуся Каліноўскага да народу беларускага».**

Упяршыню гэтыя абодвы «Лісты» зьмясьціў у І-ым томе сваей працы «Гісторыя паўстаньня народу польскага ў 1861—1864 гг.» А. Гілер.[24] У той час, як арыгіналы «Ліста да мужыкоў зямлі польскай» захаваліся да нашага часу й цяпер іх можна сустрэць у многіх архіўных сховішчах, арагіналу «Ліста з-пад шыбеніцы да народу беларускага» ў архівах не знаходзім. А. Гілер у сваей працы зазначае, што апошні «Ліст» быў перасланы яму самым Каліноўскім незадоўга перад сьмерцяй апошняга з просьбай зьмясьціць яго ў друку.[25] Магчыма, гэта было так, але, як будзем бачыць далей, для падмацаваньня сваіх канцэпцыяў што да Кастуся Каліноўскага й паўстаньня ў Беларусі, А. Гілер з свае ўласнае рукі ці з дапамогай кагосьці іншага пастараўся дабавіць да гэтага «Ліста» патрэбную ўводную частку.

Зьмест «Пісьма ад Яські гаспадара з-пад Вільні да мужыкоў зямлі польскай» наступны:[26]

Diaciuki!

Kali Boh dau mnie rozum, to ja wam budu radzić jak rabici treba, kab było pa sprawiedliwości i pa praudzie, a kali wy majecie rozum to mienie posłuchajecie.

Jak tolko zapamiatajuć naszyje baćki, maskal żyu adno aszukaństwom i nieczystaju siłaju. Pakasawau jon usio dobroje, a ustanawiu szto adno może wydumać czartouskaja chitrość. Byli małyja padatki, a jon — (,) horło jeho nie sytoje, ustanawiu wielikije, jakich nie ma na całuśkom świeci; byli prywilei Karalou Polskich, a ciepeir hdzie jeny? Synou naszych bieruć w (u) rekruty, da i honiać czort wiedaje hdzie, kab prapadali marnie jak sabaki. Narod hinie, nie maje czym prażyci, rwuć jak mohuć, nihdzie nie najdziesz nijakoj sprawiedliwośći, skasawali naszu Unijacku Wieru, adarwali nas siłaju ad praudziwaho Boha, uahnali (uhnali) w (u) wiecznoje patenpienie. Pad Sewastopolom kali Prancuz pryniewoliu Maskala daci nam wolność, to jon adno aszukaństwom zajmausia, praszło sześć let i my ni akoj (ni jakoj) wolności i w (u) oczy nie baczyli. Ciepier kali Rąd Polski abjawiu (,) szto ziemlu mużykow (mużykou) pańskich i kazionnych (kozionnych) addaje na wieczność mużykam, a chto nie maje ziemli i pojdzie da paustania toj dastanie najmiensz try morgi, to car maskouski wydau Manifest szto mużyk musić płacić kożny rok wielikije hroszy za swaju ziemlu (,) szto Rąd Polski im uże addau.

Dziaciuki! kali ciepier Rąd Polski padniauszy paustanie prociu maskala, daje nam ziemlu, sprawiedliwoju wolność i Wieru naszych Baćkou, kali Prancuz, Angliczanin (— — —) i cały świet idzie nam pamahaci, kali jak szyroka ziemla nasza, narod hramadoju, chto ze strelboju, a chto skasoju (z kasoju), idzie na adwiecznaho naszaho (— — —) niepryjaciela, maskala pahanaho, kali maskal ad naszych kos ahniom uciekaje, czyż my Dziaciuki, siedzieci budziem? my, szto żywiemo na ziemli Polskoj, szto jemo chleb Polski, my, Palaki z wiekou wiecznych. Treba nareści i nam pryjci da toho rozumu, szto adno siłoju, daj kasoju, dabjem sia (dabjemsia) sprawiedliwoj wolności i wiery naszych dziedow i pradziedow.

Dawoli, Dziaciuki, uże żdaci (Hodzi Dziaciuki uże żdaci), nastau uże czas, Bożyj czas! (nastau czas Bożyj) chto za Rądom Polskim, tamu praudziwaja

---

[24] A. Giller, op. cit., p. 326—327; 327—335.

[25] Тамсама, б. 176.

[26] Тут зьмяшчаецца тэкст арыгіналу, які захоўваецца ў лёнданскіх польскіх Айцоў Марыянаў. У дужках падаюцца зьмены й пропускі, дапушчаныя А. Гілерам.

Wolność, chto prociu Jeho, tamu wieczna niewola na hetom, i wiecznoje patenpienie na tamtom świeci! Wybierajcie szto kamu lepszoje.

Szto da mienie, to ja Wam, Dziaciuki, każu (to ja Wam Dziacuiki każu), bierecie za kosy, heto maja rada, a na wieki rozstaniem sia z maskalom pahanym, z jeho syzmoju, z jeho rekrutczynaju, z jego (z jeho) sabaczymi pamierami i abrokami.

JAŚKO haspadar s pad Wilni.

Дакладна ў такім стылю й духу напісана таксама й **першая частка** «Пісьма з-пад шыбеніцы Кастуся Каліноўскага да народу беларускага». Яна вельмі даўгая, а таму мы тут зьвернем увагу толькі на больш вымоўныя мясьціны:

I da naszaho kutka dalacieła wasza Gazetka i my jaje z uwahoj praczytali; wielmi jana usim spadabałasia, bo prauda napisana. Pryjmiecie dla taho naszu padziaku, a piśmo oddrukujcie, kab znau swiet Boży, jak mużyki Biełorusy hladziać na Maskalou i paustanie polskoje, czaho jany choczać, i czaho pa swajej sile dabiwacisia buduć. Słowo nasze prostoje, no zato szczyreje; kali jano dojdzie da Rądu Polskaho, adkryje jamu naszu hrudź, da i pokaże szto pa naszemu rabici treba kab panawaniu Maskouskamu nie ciapier, to pazniej kaniec użе pałażyci.

...Nie budziem hawaryci z jakich narodau Maskali paustali, bratstwa tam nie mnoha najdziem, niawola Manhołou da i carou maskouskich, zausim zabiła u hetom narodzie usiakuju pamiać a swabodzie, da i zrabiła z jaho hramady ludziej pahanych biaz mysli, biaz praudy, biaz sprawiadliwości, biaz sumlenia da i biaz bajaźni Boskoj. Z hetakim narodom cary maskouskije, szto to żywuć ludzkoju kryudaju, padbili ziamlu naszu pad swajo panawanie, tut to my ich i paznali, hetych jak jany siabie nazywajuć bratou naszych. Rąd Pol(s)ki prawiouszy nami, nie brau z nas rekruta, nie adrywau narodu ad dziaciej, ad baćkou, da i ad ziamli rodnej i nie hnau hdzieś u kaniec swieta kab zawadzić niawolu, wyciskać slozy i prakleństwa na duszy naszej. Rąd Polski kali brau z nas padymnoje, to nie zawodziu hetakich stajennych padatkou na duszy naszy szto to da Boha adno należać. Rąd Polski majuczy Boha u sercu, nie upisau nas u syzmu, u katoroj adno za Cara da za Cara malicisia treba, jakby użе Car byu Bohom na swiecie, a wiera da kazny należała. Rąd Polski użе tamu budzie 70 let, wypierеżajuczy mnoho susiedzkich narodou, paczau użе tałkawaci a swabodzie mużyckoj i rouności bratniej mużyka z szlachcicom...

...Z dziedou i praziedou była u nas Unijackaja wiera, heta znaczyć, szto my buduczy hreckoj wiery pryznawali za Namieśnikou Boskich światych Ojcou szto u Rymie. Carom maskouskim i heto stała zawidna, dla taho skasawauszy u Maskwie hreckuju wieru, a zrabiuszy Carskuju, szto to nazywajećsia **prawosławie** i nas adarwali ad praudziwaho Boha i upisali u syzmu pahanu. Takim sposobom ababrauszy z hrosza, z ruk spasobnych, zaprahli nas u panszczyznu, i kab slozy mużyckije nie trapili piered tron praudziwaho Boha, zabrali nam i duchounu naszu paciechu, — naszu wieru Unijackuju...

Trudno skazać jak douha my by panszczyznu chadzili kab nie poustanie Polskoje. Rąd Polski abjawiuszy swoj manichwest, ziemlu mużyckuju addau mużykom na wieczność i my to pierestali zaraz panszczyznu chadzić. A kali Boh usio mahuczy nawiarnuu panou da praudy i zrabiu ich pasłusznymi prykazam Rądu Polskaho, tahdy maskalom nastau kiepski czas, i jon musieu pa niewoli prypisacisia da naszaho i żydouskaho bratstwa... Kali Rąd Polski usim bratnim narodom daje samorądstwo, maskal mało taho szto hetak nie robić, no jeszcze tam hdzie żyli Palaki, Litoucy i Biełorusy, zawodzić maskouskije

szkoły a u hetych szkołach uczać pa maskousku, hdzie nikoli nie paczujesz i słowa pa polsku, pa litousku da i pa białarusku, jak narod taho chocze ... Dziki maskal dumaje, szto kali może narod abdziraci zausiakaho dabytku, to i patrapić każnomu ubić u haławu swoj durny rozum, durny dla taho, szto rozum maskouski, kali nieraz charaszo każe, to nikoli paludzku niczoha nia robić adno ludziej abmanywaje, a pierad knutom carskim hniecsa jak astatni wałacuha ... Chto chocze daznać praudziwaho smaku, niechaj sam pażywie pad rądom maskouskim, to i pachladzić, jakoje dabradziejstwo mużyki mieli; oś to dla czaho każem: szto polskoje dzieło, heto nasze dzieło, heto wolności dzieło.

Douha Palaki żdali pamoczy z zahranicy, narody czużeziemnyje kryczali mnoha, i da hetoj pary niczoha dla nas nie zrabili, każuć, szto jany nie majuć nijakoj patreby swajej u polskim dziele, kab na maskala iści za nas wajawaci ... Nam adno silno z szczyroj wieroj za swajo stajaci treba, a rąd nasz pawinien być na usio czutki, kab moh dla dabra narodnaho zausiaho karystawać, siły naszy jeszcze wialiki, wajować z nimi możem, Boh wiedaje jak douha, no dla taho treba z adnej starany ich abierehać, a z druhoj wyrablać szto raz to nowyje. I tak kali paustanie zrobleno pad dobruju poru, uzrastaje i ażyulaja naród, — nie u czas, marnuje siły kożnaho, osłablaje w prastocie ducha, daj razwodzić strach i niewieru u dzieła nasze, u moc Bożu. Rąd Polski i jaho czynouniki, wiedajuć heto i dla taho kab służyli dobre pierеd Bohom i sumleniem narodnym robiać nie sztucznyja zawieruchi, no paniauszy ducha narodnaho, jeho patreby i wolu, padchwatywać daj razumno zastaulać połki narodnyje ...

Ruk achwotnych i siahodnia u nas dawoli, no z hołami rukami nie iści na sztyki Maskouskije. Rąd Polski i Jaho czynouniki pawinni dobra nad hetym padumać, hroszy u nas buduć, bo my znajem patrebu taho, bo my majem sposoby na toje. No kab za naszy hroszy my mieli szto u ruki uziaci. Rąd polski hetomu zaradzić; a kali natrapić pieraszkody, to pry pomocy Boha i swaho prawa upisannaho u naszych hrudziach, usio z czasem pieramoże. Ty adnak Narodzie nie dażydajsia, da z czym możesz idzi wajawaci za swaho Boha, za swajo prawo, za swaju chwału, za swaju baćkouszczyznu. Dla ciebie usio można, noż, siakiera, atruta; heta twaje sposoby, bo tabie jak tamu mużyku nie wolnomu, biezpraunomu nie pryznajuć prawa samoabarony, bo tabie niczoha nie można ..."

На тое, што гэтыя «Лісты» не належылі пяру Кастуся Каліноўскага, зьвярнуў увагу А. Сьмірноў перш у рэцэнзыі «Гісторыкі народнай Польшчы пра Кастуся Каліноўскага»,[27] потым у цытаваным тут артыкуле «Мужыцкая Праўда». Аднак і ён абмежаваўся толькі павярхоўнымі сьцьверджаньнямі й заўвагамі, не кранаючыся больш дакладнага аналізу.

Запраўды, і як праўдзіва канстатуе А. Сьмірноў, «Пісьмо ад Яські гаспадара з-пад Вільні да мужыкоў зямлі польскай» ня было творам Кастуся Каліноўскага найперш з прычыны наступнай. Яно распаўсюджвалася раньняй вясной 1863 году пасьля таго, калі Кастусь Каліноўскі й ягоны ўрад былі адсунутыя ад кіраўніцтва паўстаньнем у Беларусі й на чале паўстаньня тут апынулася яму варожая прапольска-панская група. Гэтае «Пісьмо да мужыкоў зямлі польскай» было замацаванае пячаткай з гэрбам Арла, Пагоні й Архангела пад аднэй каронай і надпісам: „Drukarnia Rządu

[27] А. Смірноў. Гітсорыкі народнай Польшчы пра Кастуся Каліноўскага, Полымя, I, 1958, б. 170—178.

Narodowego“, г. зн. пячаткай Польскага рэвалюцыйнага ўраду. Бязумоўна, гэтую пячатку мог ужыць і Кастусь Каліноўскі, тым больш, што пасьля ўрадавага пераварoту ён займаў становішча камісара новастворанага віленскага «Аддзелу, які кіруе правінцыямі Літвы». Аднак, прытрымоўваючыся пасьлядоўнасьці, у гэтым выпадку ён павінен быў замацаваць гэтай пячаткай і 7-ы нумар «Мужыцкай Праўды», які выйшаў і распаўсюджваўся пасьля зьяўленьня «Пісьма да мужыкоў зямлі польскай». Тым часам і гэты нумар «Мужыцкай Праўды» ня меў ніякае пячаткі, у тым ліку й успомненае пячаткі Варшаўскага рэвалюцыйнага ўраду. У сувязі з гэтым цікава адцеміць і наступную асаблівасьць. «Пісьмо да мужыкоў зямлі польскай» было адрысаванае не **да** сялянства самой Польшчы, ды ў гэтым Кастусь Каліноўскі ня меў патрэбы, **але** да сялянства й наагул да беларускага народу. Калі Кастусь Каліноўскі й запраўды мог быць аўтарам апошняга «Пісьма», дык у гэтым выпадку чаму яму ня было выкарыстаць ужо добра вядомую «Мужыцкую Праўду»?

Аднак ня выпадае ламацца ў прыадчыненыя дзьверы. 7-ы нумар «Мужыцкай Праўды» пачынаецца з абзацу наступнага характару: «Доўга маўчаў я, не казаў вам нічога, бо хацеў разглядзецца добра ды разабрацца, што гэта творыцца на сьвеце ...». Прыпомнім, што «Пісьмо да мужыкоў зямлі польскай» выходзіла быццам ад «Яські гаспадара з-пад Вільні», г. зн. ад Кастуся Каліноўскага. Апошняе сьцьверджаньне «Мужыцкай Праўды» ня толькі сьветчыць пра тое, што Кастусь Каліноўскі нічога супольнага ня меў з гэтым «Пісьмом», але яно навет пярэчыць гэтай ягонай сувязі. Праўдзівей, апошнім выразам Кастусь Каліноўскі знарок хацеў падчыркнуць, што «Пісьмо да мужыкоў зямлі польскай» выйшла не ад яго й што ў гэтым выпадку ягонае імя было злосна выкарыстана. Магчыма, што навет і 7-ы нумар «Мужыцкай Праўды» быў выдадзены ім знарок у сувязі з гэтай чужацкай агентурай. Далей, як мы маглі заўважыць, «Пісьмо да мужыкоў зямлі польскай» пачынаецца наступнай формулай: «Калі Бог даў мне разум, дык я вам буду даваць парады, як рабіць трэба, каб было па справядлівасьці й па праўдзе, а калі вы маеце розум, дык паслухайце мяне». Крыху падобна пачынаўся таксама й 6-ы нумар «Мужыцкай Праўды». Гэтая формула, аднак, неўласьцівая Кастусю Каліноўскаму, які быў шмат скрамнейшым. Напрыклад, у І-ым нумары «Мужыцкай Праўды» падобны зварот гучэў наступна: «... Мы, мужыкі, браты вашыя, мы вам будзем гаварыць чыстую праўду, толькі слухайце нас». Крыху вышэй у тым-жа нумары сьцьвярджалася: «Няхай пазнаюць, што мы (мужыкі — П. У.) можам *ня толькі карміць сваім хлебам, але яшчэ й навучаць нашай мужыцкай праўдзе*». У 2-ім нумары газэты зварот быў: «Каб растлумачыць людзям, дзе хаваецца праўда, я пішу ліст, а пісаць буду, як Бог і сумленьне падсказвае. Вы аднаго мяне, такога самага мужыка, як і вы, паслухайце добра». У 3-ім нумары таксама гаварылася: «... Я, Дзяцюкі, лепш знаючы, як вы, вырашыў напісаць ліст, каб не маглі затуманьваць ваш розум». Тут, як бачым, няма тэй, мы сказалі-б, сваеасаблівай **польскай** напышанасьці, якая ўласьцівая хоць-бы зацытаванаму звароту із «Пісьма да мужыкоў зямлі польскай» і асабліва зьместу першай часткі «Пісьма з-пад шыбеніцы». Нарэшце, калі «Пісьмо да мужыкоў зямлі польскай» належыла Кастусю Каліноўскаму, дык чаму-ж ён у такім выпадку не праводзіў выказаных канцэпцыяў у гэтым «Пісьме» ў апошнім 7-ым нумары «Мужыцкай Праў-

ды»? Гэтыя-ж палітычна-нацыянальныя й рэвалюцыйна-сацыяльныя канцэпцыі, выказаныя як у «Пісьме да мужыкоў зямлі польскай», так і ў «Пісьме з-пад шыбеніцы» ў першай ягонай частцы, далёка разыходзяцца з падобнымі канцэпцыямі самога Кастуся Каліноўскага, што й павінна ў першую чаргу брацца пад увагу пры разьвязаньні пытаньня дачыненьняў Кастуся Каліноўскага да апошніх «Пісьмаў».

Перш, чым перайсьці да параўнаньня апошніх канцэпцыяў, тут трэба зьвярнуць увагу на асаблівасьці першай часткі «Пісьма з-пад шыбэніцы Кастуся Каліноўскага да беларускага народу».

Гаворачы карацей, першая частка гэтага «Пісьма з-пад шыбеніцы» ёсьць як-бы скарочаным зьместам I-га тому «Гісторыі паўстаньня народу польскага ў 1861—1864 гг.» А. Гілера. У названай працы А. Гілер таксама праводзіць ідэі пра палітычна-непадзельную «Вялікую Польшчу» ў межах да 1772 году, пра ідэялягічна-нацыянальную супольнасьць «аднаго польскага народу» ў складзе асабіста польскага, беларускага (што да беларускага народу ён ужывае пераважна тэрмін «літоўскі», падменьваючы яго часамі тэрмінам «беларускі») і ўкраінскага («рускага») народаў. Гаворачы часамі цьмяна пра магчымасьць дапушчэньня «самакіраўніцтва» ў гэтых «польскіх правінцыях», ён не дапускае навет думкі пра распадзел «Вялікае Польшчы». У сувязі з гэтым ён часта паклікаецца на «польскі патрыятызм» насельніцтва гэтых «польскіх правінцыяў», залічваючы навет і Кастуся Каліноўскага да «*найбольш шчырых польскіх патрыётаў*»: «*Ягоная сьмерць*, — зазначае А. Гілер, — зрабіла агульнае ўражаньне сьмеласьцяй і надзеяй будучыні Польшчы».[28] Разам з гэтым А. Гілер цьвердзіць, што беларускі й украінскі «сэпаратызм» выйшаў з асяродзьдзя самых-жа польскіх рэвалюцыянэраў і зарадзіўся ў рэчышчы польскае культуры. У часе паўстаньня ён быццам падаграваўся расейскімі акупацыйнымі ўладамі ў Беларусі й на Ўкраіне.

Аднак А. Гілера ідэйна найбольш збліжаюць зь першай часткай «Пісьма з-пад шыбеніцы» *ягоныя наступныя пагляды й канцэпцыі, выказаныя* ў I-ым томе «Гісторыі паўстаньня польскага народу». Гэтак ён таксама цьвердзіць, што, каб выйграць паўстаньне, да яго трэба добра падрыхтавацца, асабліва ў ваенным значаньні. Пра гэта павінна дбаць кіраўніцтва рэвалюцыйнай арганізацыі; яно таксама мусіць праводзіць рэвалюцыйную працу й пасьля паразы паўстаньня. Праз усю працу чырвонай ніткай праходзіць ягоная канцэпцыя пра неабходнасьць «добрага сужыцьця» між панска-шляхоцкім элемэнтам і сялянствам, пра тое, што ў паўстаньні 1863 году гэты панска-шляхоцкі элемэнт выявіў сваю згоду падзяліцца сваімі прывілеямі зь сялянствам, стаўся паслухмяным у руках рэвалюцыйнага ўраду. Разам з гэтым А. Гілер ганіць тых рэвалюцыянэраў, якія патрабавалі больш радыкальных сацыяльных рэформаў і больш радыкальнай дэмакратызацыі грамадзкага ладу. Для А. Гілера такія людзі паказваліся «палітычна нясьпелымі», наагул зраднікамі нацыянальнай, ведама польскай, справы. Чыста гілераўскімі канцэпцыямі зьяўляюцца й асьветчаньні першай часткі «Пісьма з-пад шыбеніцы», быццам за часоў «Польскага ўраду» сялянству й наагул народу жылося шмат лягчэй, панавала свабода й што гэты

---

[28] A. Giller, op. cat., p. 176. Гл. зноску пад нумарам 2.

«Польскі ўрад» ужо з даўніх часоў пачаў задумоўвацца над праблемай вызваленьня сялянства, над «братняй роўнасьцяй селяніна з шляхціцам». У сваей працы А. Гілер таксама цьвердзіць, што паншчына фактычна ўзьнікла пасьля ўпадку палітычнай незалежнасьці Рэчы Паспалітай і што польска-літоўскі панска-шляхоцкі элемэнт неаднаразова высоўваў пытаньне пра неабходнасьць скасаваньня паншчыны. У прыватнасьці ён часта паклікаецца на пастановы ў гэтай справе паноў-магнатаў Літвы (Беларусі) з 1857 году, забываючыся пры гэтым зазначыць, што апошнія «сялянскія дабрадзеі» згаджаліся скасаваць паншчыну з умовай безьзямельнага вызваленьня сялянства. Праўда, закранаючы пытаньне, скуль пайшла паншчына, у 2-ім нумары «Мужыцкай Праўды» Кастусь Каліноўскі таксама сьцьвярджаў, што пры «каралях польскіх і літоўскіх» сялянству жылося шмат лягчэй у параўнаньні з становішчам, якое наступіла з маскоўскай каланізацыяй краю. Ён навет апраўдвае форму паншчыны тых далёкіх часоў, бо яна ўзьнікла ў выніку «змаганьня» з вонкавымі ворагамі й з тае прычыны, што сялянства «часта адказвалася браць удзел у войнах». Аднак падобнага няроўнага сацыяльнага палажэньня ў мінулым Кастусь Каліноўскі не пераносіць у будучыню. Ён дамагаецца скасаваньня ўсялякіх формаў паншчыны й сацыяльна-палітычных прывілеяў, перадачы сялянству ўсяе зямлі безь якога-колечы выкупу й увядзеньня ўсеагульнае вайсковае службы. Праграма першае часткі «Пісьма з-пад шыбеніцы», падобна як і праграма А. Гілера, выказаная ў І-ым томе «Гісторыі паўстаньня народу польскага», у гэтых пытаньнях затрымоўваецца на паўдарозе. Пайменна, зь яе вынікае, быццам усе гэтыя праблемы найлепшым чынам ужо знайшлі сваё разьвязаньне ў рэформах і рэвалюцыйнай практыцы рэвалюцыйнага «Польскага ўраду». Ці мог так зьніжыцца пасьлядоўны рэвалюцыянэр-дэмакрат Кастусь Каліноўскі, які, згодна асьветчаньня таго-ж Ю. Кучэўскага-Порая, «шукаў у глухой мове няволі той сілы, каб (зь ейнай дапамогай) падняць народ на вышыню рыцара-змагара ў імя зьнявечаных правоў чалавека»[29] й які, ужо стоячы пад шыбеніцай, змог усклікнуць: «У нас няма дваранаў, усе роўныя!»?

Вось-жа, бяручы ўсё гэта на ўвагу, нам думаецца, што першая частка «Пісьма з-пад шыбеніцы» была творам самога А. Гілера. Ува ўсякім выпадку яна ня выйшла з-пад пяра Кастуся Каліноўскага. Дарэчы пра гэта сьветчаць ягоныя другая й трэйцяя часткі, якія, трэба сьцьвердзіць, запраўды былі напісаныя Кастусём Каліноўскім і якія нейкім шляхам трапілі ў рукі А. Гілера. Гэтыя апошнія часткі «Пісьма з-пад шыбеніцы» маюць наступны зьмест. Пры гэтым трэба зазначыць, што ў запраўднасьці **Лістом-запаветам** Кастуся Каліноўскага ёсьць толькі трэйцяя частка, калі браць на ўвагу той парадак, у якім яна апублікаваная А. Гілерам. Другая частка, якая напісана ў вершаванай форме, — гэта выказваньне інтымнага суму й болю, перадсьмяротная песьня чалавека-патрыёты, які бязьмежна любіў свой народ і «Марыську»-Беларусь:

Maryśka czornobrewa hałubka maja,
Hdzież sia padzieła szczaście i jasna dola Twaja;

[29] Demokracja polska w powstaniu styczniowym, p. 108.

Usio prajszło, — prajszło jakby nie bywało,
Adna straszenna horycz u hrudziach zastała.

Kali za naszu praudu Boh nas stau karaci,
Daj u pradwiecznaho sadu wieleu prapadaci,
To my prapadziem marno, no praudy nie kiniem,
Chuczej Niebo i szczaście, jak praudu abminiem.

Nie narekaj Marysia na swaju biazdolu,
No pryjmi ciażkuju karu Pradwiecznaho wolu,
A kali mianie uspomnisz, szczyra pamalisia,
To ja z taho swietu Tabie adazwusia.

Bywaj zdarowy mużycki narodzie,
Żywi u szczaści, żywi u swabodzie,
I czasem spamiani pro Jaśku twaho,
Szto zhinuu za praudu dla dabra Twaho.

A kali słowo pierojdzie u dzieło,
Tahdy za praudu stanawisia smieło,
Bo adno spraudoj u hramadzie zhodno,
Daždżeż Narodzie starości swabodno.

I вось запраўдны «Ліст з-пад шыбеніцы» Кастуся Каліноўскага да беларускага народу — Ліст-запавет:

Braty maje, mużyki radnyje! z pad szybienicy maskouskoj prýchodzić mnie da Was pisaci, i może raz astatni. Horko pakinuć ziamielku radnuju i Ciebie darahi moj narodzie. Hrudzi zastohnuć, zabalić serce, no nie żal zhinuć za twaju praudu.

Pryjmi Narodzie pa szczyrości majo słowo predsmiertnoje, bo jano jakby z taho swietu, tolko dla dabra twaho napisano.

Nie masz Bratki bolszaho szczaścia na hetym swiecie, jak kali czaławiek u haławie maje rozum i nauku. Tahdy jon tolka może być u radzie, życi u dastatkach i tahdy tolko pamaliuszysia pa praudzie Bohu zasłużyć Niebo, bo zbahaciuszy naukoj rozum, razauje serce, i radniu cełu szczyro palubić. No jak dzień z noczej nie chodzić razem, tak nie idzie razem nauka praudziwa z niawoloj maskouskoj. Da pakol jana u nas budzie, u nas niczoha nie budzie, nie budzie praudy, bahactwa, i nijakoj nauki, adno nami jak skacinoj waraczać buduć, nie dla dabra no na pahibiel naszu.

Dla taho to Narodzie, jak tolko kali paczujesz szto braty twaje z pad Warszawy biućsia za praudu i swabodu, tahdy i Ty nie astawajsia z zadu, no uchapiuszy za szto zmożesz, za kasu, siakieru i celoj hramadoj idzi wajawaci za swaje człeławieczeje i narodnoje prawo, za swaju wieru, za swaju ziamlu radnuju. — Bo ja tabie z pad szybienicy każu Narodzie, szto tahdy tolka zażywiesz szczaśliwo, kali nad taboju Maskala użo nie budzie.

Twoj słuha JAŚKO haspadar z pad Wilni.

Як ужо зазначалася, сваім ідэйным зьместам, асабліва ў нацыянальным і сацыяльным пытаньні, ні «Пісьмо да мужыкоў зямлі польскай», ні гэтая прыточаная «першая» частка да «Ліста з-пад шыбеніцы» далёка не супадаюць з паглядамі й праграмай у гэтых пытаньнях Кастуся Каліноўскага й у першую чаргу яны пярэчаць паглядам і праграме, якія адлюст-

раваліся ў «Мужыцкай праўдзе». Яны пярэчаць таксама ідэйнаму зьместу апошняй «Песьні» змагара-патрыёты й ягонага запраўднага «Ліста з-пад шыбеніцы». Запраўды, цяжка пагадзіць праграму скасаваньня сацыяльнай няроўнасьці й нацыянальнага вызваленьня, з аднаго боку, з праграмай захаваньня панска-шляхоцкіх сацыяльных прывілеяў і ранейшага нацыянальнага прыгнечаньня, з другога.

Мы маглі наглядна сьцьвердзіць, што сацыяльная праграма як «Пісьма да мужыкоў зямлі польскай», так і «першай» часткі «Ліста з-пад шыбеніцы» зводзіцца фактчына да апрабацыі тых сацыяльных рэформаў, якія ажыцьцяўляліся Польскім рэвалюцыйным урадам. Аднак, хоць гэтыя рэформы й прадбачвалі скасаваньне паншчыны й зраўнаньне сялянства ў грамадзянскіх правох, зямлю атрымоўвалі толькі тыя сяляне, якія яе мелі й дасюль на правох паншчыны. Пытаньне нядзяленьня зямлёй безьзямельных сялян адкладалася на пазьней да пастановаў будучага сойму. Праўда, і безьзямельныя сяляне маглі атрымаць кавалак зямлі зь дзяржаўнага зямельнага фонду, але толькі ў тым выпадку, калі прыймалі ўдзел у паўстаньні. Як і раней, асноўныя масывы зямлі заставаліся ўласнасьцяй магнатаў і паноў, пры гэтым спрычыненыя ім матарыяльныя страты скасаваньнем паншчыны дзяржава забавязвалася кампэнсаваць у той ці іншай форме. Хоць і непасярэдня, але ў гэтай кампэнсацыі сваіх былых прыгняталынікаў мусіла таксама прыймаць удзел і вызваленае ад паншчыны сялянства, плацячы дзяржаве павышаныя падаткі. Такім парадкам, абвешчаныя ў працэсе паўстаньня прынцыпы «вольнасьці», «свабоды», «раўнапраўнасьці» й «дэмакратызму» ў практыцы зводзіліся на нішто. І вось гэтыя мізэрныя рэформы, якія амаль ня розьніліся ад царскай аграрнай рэформы таго часу, ідэялізаваліся як у «Пісьме да мужыкоў зямлі польскай», так і ў гэтай «першай» частцы «Ліста з-пад шыбеніцы». Апрача гэтага, у іх ідэялізавалася гэтак званае «дабрадзейства» магнатаў і паноў у мінулым і сучаснасьці, а ў «Пісьме да мужыкоў зямлі польскай» беларускаму сялянству была кінутая пагроза, што, у выпадку, калі яно адмовіцца прыняць удзел у «польскім» паўстаньні, яго чакае «вечная няволя».

У моц абставінаў Кастусь Каліноўскі змушаны быў супрацоўнічаць з Варшаўскім рэвалюцыйным урадам і агентамі апошняга ў Беларусі. Аднак ці мог ён пісаць у падобным стылю? Бязумоўна, не. Сьветчаньнем гэтага зьяўляецца ягоная сацыяльная праграма, выкладзеная ў «Мужыцкай Праўдзе», а таксама гэтыя перадсьмяротныя адозвы да беларускага народу:

Бывай здаровы, мужыцкі народзе,
Жыві ў шчасьці, жыві ў свабодзе,
І часам успомні пра Яську свайго,
Што зьгінуў за праўду для дабра Твайго.

Вышэй мы зацытавалі вытрымку зь незакончаных запісаў расейскага генерала В. Ф. Ратча, якія павінны былі складаць 2-ую частку ягонай працы «Сведения о польском мятеже 1863 г. в Северо-Западной России» (Вільня, 1867). В. Ратч быў сьветкам падзеяў; ён працаваў пры штабе гэнэралгубэрнатара М. Мураўёва-Вешацеля. Апрача гэтага ён карыстаўся арыгінальнымі дакумантамі Літоўскага камітэту, потым Літоўскага рэвалюцыйнага ўраду, а таксама матарыяламі Сьледчай камісіі. Большасьць зь іх загінула, але частка захавалася ў нядаўна знойдзеным ягоным архіве. Та-

кім парадкам В. Ратчу ня можна западозрыць у злосным хвальшаваньні падзеяў і паглядаў Кастуся Каліноўскага. Тая-ж вытрымка сьветчыць, што Кастусь Каліноўскі змагаўся за шмат шырэйшыя сацыяльныя рэформы й дэмакратычны лад. Пад выразам «што галіцэйскай разьні будзе замала, каб вызваліць народ ад усякага ўплыву шляхоцтва», В. Ратч разумеў сялянскае паўстаньне з 1846 году ў Галіцыі, калі ад рук сялянаў-паўстанцаў загінула некалькі соцен паноў. Вышэй мы зацытавалі таксама маленькую вытрымку з асьветчаньня Ю. Кучэўскага-Порая, бліжэйшага супрацоўніка Кастуся Каліноўскага, які аднак трымаўся прапольска-панскага элемэнту. У сваіх успамінах ён таксама пісаў:

> Каліноўскі, як хлопаман, быў толькі з народам. Я-ж разумеў справу так, што належыць трымацца праграмы Камітэту (Варшаўскага — П. У.) і заклікаць да паўстаньня цэлую нацыю. З Каліноўскім я збліжаўся ў прынцыпах, аднак разыходзіўся зь ім у выбары сяродкаў. Я хацеў выклікаць і выкарыстаць сілы пры дапамозе прапаганды ў нацыянальным духу; ён-жа выкарыстоўваў любы сацыяльны стымул, каб выклікаць хваляваньні, не затрымоўваючыся перад тым, якія атрымаюцца з гэтага вынікі.[30]

У запісцы Сьледчай камісіі сам Кастусь Каліноўскі таксама зазначаў:

> Калі розныя тэорыі, пазбаўленыя практычнасьці й ня бачачы дняўнога сьвятла, маглі мець уплыў на запальчывы й захапляючы характар жыхароў Царства Польскага, дык у больш сур'ёзнай Літве й пры ейнай таемнасьці сваім галоўным рухавіком яны павінны былі прайсьці бяз уплыву . . . Літва тады, з увагі на ейнае пераважаючае сельскае насельніцтва, перажывала крытычныя хвіліны, у якія паўстаньне, ня маючы практычнага выхаду, пагражала разрухай матарыяльнага становішча самым адчувальным чынам. Доўгая нерашучасьць Літвы можа служыць доказам гэтага. З аднаго боку, абцяжараны даўгамі й зьбіты з толку сялянскім пытаньнем пан, а з другога — селянін, які ўсвоіў думку, што ўся зямля — ягоная ўласнасьць, якая аспрэчваецца толькі панам, знаходзіліся ў стане нерашучасьці й чаканьня . . . Літоўскія паны, хоць і спачувалі шчыра нацыянальнай справе, маючы ў сябе немалы запас славалюбства, вытвараны традыцыямі, захады Нацыянальнага ўраду (польскага — П. У.) у справе перадачы зямлі сялянам імкнуліся выставіць, як свой асабісты падарак. Селянін, бачучы яшчэ неабрэзанымі капцюры сваіх паноў, ня мог ім давяраць і пачаў глядзець на польскую справу, як на панскую задуму. Ворганы-ж ураду (расейскага — П. У.) такі падыход селяніна намагаліся падтрымоўваць.
>
> Выпрацаванае гісторыяй спачуваньне Літвы да Польшчы, якое ўзмоцнілася яшчэ больш у часе панаваньня Расеі (факт, на які неабходна зьвярнуць увагу), перамагло ўсякія абставіны, якія не дапускалі паўстаньня, і Літва ўзварыхнулася. Утвораны ў Вільні зь ініцыятывы Варшавы «Аддзел кіраўніцтва справамі Літвы» прыняў на сябе абавязкі праводзіць справы паўстаньня, заяўляючы пра гэта публічна . . . Цяжкасьці, якія ствараў урад (расейскі — П. У.) у галіне зносінаў, слабасьць улады Віленскага Аддзелу, які ня мог здабыць даверу ў краі, цьвярозае ўсьведамленьне шматлікіх, якія на справу паўстаньня глядзелі сьведама й не праз прызму

---

[30] Тамсама, б. 107.

захапленьня, што, падпарадкваючыся толькі сардэчнай неабходнасьці, аддаюць сваё жцыьцё на бескарысную мэту, — былі прычынамі таго, што паўстаньне прыняло мясцовы характар і вярхоўныя ваяводзкія народныя ўлады толькі ў выпадках неабходнасьці й магчымасьці зьвярталіся да Вільні . . .[31]

У гэтым асьветчаньні, як, між іншым, і ў іншых асьветчаньнях Сьледчай камісіі, Кастусь Каліноўскі зусім мала гаворыць пра сваю дзейнасьць і наагул прамаўчвае сваю дзейнасьць ажно да часу, калі быў назначаны ваенна-палітычным камісарам Горадзенскай губэрні. Аднак і ў гэтым асьцярожна напісаным дакуманьце з усёй выразнасьцяй адлюстраваліся ягоныя пагляды на тое, якім павінна было быць паўстаньне. Гэта — «абцяцьце капцюроў паноў» і перадача ўсяе зямлі сялянству. Згэтуль і ягоная заўвага, што віленскі «Аддзел кіраўніцтва справамі Літвы» не знайшоў падтрымкі ў краі, а таксама крытыка «розных тэорыяў, пазбаўленых практычнасьці й дняўнога сьвятла», якія ня мелі ўплыву ў Літве-Беларусі.

Усё гэта, ведама, пацьвярджалася й рэвалюцыйнай практыкай Кастуся Каліноўскага. Напрыклад, у архіве В. Ратча захавалася некалькі інструкцыяў Літоўскага камітэту, а потым Часовага правінцыяльнага ўраду Літвы й Беларусі, пісаных рукою Кастуся Каліноўскага й змацаваных пячаткай Літоўскага камітэту. Яны адносяцца да пачатку паўстаньня, г. зн. да часу, калі яшчэ ня быў праведзены ў жыцьцё ўрадавы пераварот і на чале паўстаньня, якое толькі пачынала разьвівацца, стаяў Кастусь Каліноўскі. З гэтых інструкцыяў найбольшую цікавасьць у нашым выпадку мае **«Паўстанцкая інструкцыя»**. Яна была разасланая камандзірам паўстанцкіх аддзелаў і напамінала апошнім пра тактыку партызанцкай вайны. Апрача гэтага, Інструкцыя вызначала правы камандзіраў і рэвалюцыйныя заданьні паўстаньня. Вось-жа Інструкцыя патрабуе неадкладнага прывядзеньня ў выкананьне дэкрэту аб надзяленьні сялян зямлёю ў тых мясцовасьцях, якія будуць занятыя паўстанцамі, а 8-ы ейны пункт патрабаваў: «Найбольш злосных прыгнятальнікаў сялян для прыкладу, у прысутнасьці сабраных валасьцей учыніўшы ваенны суд, караць сьмерцяй, не дапускаючы самавольнай экзэкуцыі».[32] У архіве В. Ратча захаваўся й друкаваны экзэмпляр гэтае Інструкцыі зь пячаткай начальніка Ковенскай губэрні, аднак у ім ужо адсутнічае гэты 8-ы пункт.[33] Гэта сьветчыць пра тое, што ён быў выкінуты пасьля ўрадавага перавароту новым віленскім «Аддзелам, які кіруе правінцыямі Літвы», хоць «Паўстанцкая інструкцыя» й была аддрукаваная ім.

Захаваўся таксама Загад Кастуся Каліноўскага з 11 ліпеня 1863 году. Ён быў выдазены ў іншых умовах, калі Кастусь Каліноўскі другі раз ачоліў кіраўніцтва паўстаньнем у Беларусі, аднак у тых абставінах, пра якія будзе гаварыцца ніжэй, ён змушаны быў пайсьці на некаторы кампраміс з Польскім рэвалюцыйным урадам. Дзеля гэтага й Загад выдаваўся ад

---

[31] А. И. Лясковскій. Литва и Белоруссія в возстаніи 1863 г., Берлин, 1939, б. 170–175 (Залучнік I).

[32] Г. Кісялёў, цыт. артыкул, б. 131.

[33] Тамсама.

«Ураду польскага над усім краем Літоўскім і Беларускім», але «Да народу зямлі Літоўскай і Беларускай». З гэтае прычыны ён змушаны быў прытрымоўвацца нейкім чынам рэвалюцыйнай палітыкі, якая праводзілася й дасюль. Тым ня менш палажэньні гэтага Загаду шмат у чым розьніліся ад рэвалюцыйных прынцыпаў Нацыянальнага ўраду Польшчы:

> Дурачыць вас маскаль, — гаворыцца ў Загадзе, — талкуючы вам, што гэта паны падняліся, каб павярнуць паншчыну. Ён хоча ўскаламуціць ваду, каб у мутнай вадзе пастарому рыбу лавіці. Нашая справа ня ёсьць панскай справай, але справядлівай вольнасьці, якую вашыя дзяды й бацькі з даўна жадалі й якую маскаль з крапіўйцамі вашымі спыніць хоча!
>
> Але мінула ўжо паншчына, мінула вашая крыўда й ніякая сіла яе не паверне... Рад Польскі аддае вам бязь ніякага выкупу й чыншу тую зямлю, на якой сядзелі вашыя бацькі й дзяды... Ніхто не павінен крыўдзіць простага чалавека... Чыншаў, аброкаў і падаткаў у казну маскоўскую ды й панам ніякіх больш не сплачваць, бо гэта зямля ўжо вашая...
>
> Цяпер настаў час, што кажнаму будзе адмерана так, як ён сам сабе зьмерыць. Пан будзе ліхі, пана павесім, як сабаку! Мужык будзе кепскі, дык і мужыка павесім... і будзе справядлівая вольнасьць... Мы людзі вольныя, нямаш у нас няволі! А хто хоча няволі, таму дадзім шыбеніцу... А хто гэтаму загаду ня будзе падпарадкавацца, таго, ці ён поп, ці ксёндз, мужык ці пан, або паведаміўшы аб усім польскі ўрад, або склікаўшы Грамаду й учыніўшы справядлівы суд, без адгаворкі весьці на шыбеніцу! Бо хто жадае крыўды людзкай, той няхай лепш сам марна прападае![34]

Такім парадкам, на падставе ўсіх гэтых ведамак рэвалюцыйнай практыкі Кастуся Каліноўскага мы можам цьвердзіць, што прынамся сваім рэвалюцыйна-сацыяльным зьместам і ідэялёгіяй ні «Пісьмо да мужыкоў зямлі польскай», ні разгледжаная «першая» частка, прылучаная да «Ліста з-пад шыбеніцы», не належылі пяру Кастуся Каліноўскага. Яны былі варожымі Кастусю Каліноўскаму й сваімі паглядамі ў нацыянальным пытаньні.

Як мы маглі сьцьвердзіць, у «першай» частцы «Ліста з-пад шыбеніцы» нацыянальная праблема зводзілася фактычна да апраўданьня польскай нацыянальнай палітыкі ў дачыненьні да Беларусі, а «Польскі ўрад» разглядаўся ў якасьці нацыянальнага ўраду. У «Пісьме да мужыкоў зямлі польскай» беларуская нацыянальная праблема проста-такі была выкінутая за борт гісторыі, а беларускі народ якімсьці чынам стаўся перахрышчаным: **«мы, што пражываем на зямлі польскай, што ядзім хлеб польскі, мы Палякі зь вякоў вечных»!** Гэтым не магла навет пахвастацца найбольш спалянізаваная беларуская шляхта, якая, будучы польскай культуры, усё-такі нацыянальна ўважала сябе за Ліцьвіноў. Праўда, у «першай» частцы «Ліста з-пад шыбеніцы» ўспаміналася пра «літоўскую й «беларускую» мову, а навет і пра тое, што «Ўрад Польскі ўсім братнім народам дае самакіраўніцтва».

---

[34] **А. П. Смірноў. Кастусь Каліноўскі ў паўстаньні 1863 года, б. 152—153, 156.**

Аднак гэта змушаныя былі прызнаць ды й загаварыць пра гэта самі кіраўнікі паўстаньня 1863 году ў Польшчы.

Вось што піша пра Кастуся Каліноўскага й ягоную нацыянальную праграму генерал В. Ф. Ратч у сваіх незакончаных «Зьвестках»:

> Калі-ж Кастусь Каліноўскі ўступіў у створаны камітэт (Літоўскі камітэт — П. У.), тады ён гэтае пытаньне (нацыянальнае пытаньне — П. У.), якое нявыразна разумелася й на якое ніхто не зьвяртаў увагі на першых паседжаньнях, стаў прыводзіць у яснасьць, каб пасьля вызваленьня, скончыўшы змаганьне з Расеяй, ня прыйшлося працягваць яго міжсобіцамі... Жыгімонт Серакоўскі марыў стварыць канфэдэратыўную дзяржаву, якая была-б злучаная ў вадну непадзельную Польшчу, але ў якую-б Літва ўвайшла, маючы сваіх прадстаўнікоў. Меркаваньне Серакоўскага падтрымліваў Франц Далеўскі, але ў гуртку Зьвяждоўскага быў Каліноўскі, які зусім ня быў сьхільны працаваць для Польшчы й у выпадку агульнага вызваленьня... калі ў Польшчы ўваскрэсьне старажытнае магнацтва з усімі шляхоцкімі традыцыямі, з нацяжкай прыстасаванымі да XIX стагодзьдзя, бачыць Літву ўцягнутай у той-жа вір. Больш за ўсё ён баяўся, каб не ўварвалася белая партыя эміграцыі, паказваючы, што яна, таксама як француская эміграцыя 1815 году, стане дамагацца ранейшых правоў і прывілеяў; Каліноўскі баяўся таго зьліцьця з Польшчай, пры якім потым ад яе нельга было-б і адвязацца... Каліноўскі пільна стаяў на варце інтарэсаў Літвы, — піша ў іншым месцы В. Ратч, — і дамагаўся, каб сяродкі й сілы Літвы зусім ня йшлі на справу Царства Польскага. Літва, гаварыў ён сваім сябром, скарыстаўшы разлад паміж Расеяй і Польшчай, павінна стаць самастойнай. Энэргічна змагаўся ён за тое, каб рэвалюцыйны камітэт называўся Літоўскім камітэтам, а ня Літоўскім выканаўчым аддзелам, як хацелі назваць яго ў Варшаве. Каліноўскі пастаянна патрабаваў, каб выдаткі па Літве вяліся асобна ад Царства.[35]

Мы тут і абмяжуемся гэтым сьцьверджаньнем В. Ратча, тым больш, што яно ёсьць найбольш верагодным і супадае з нацыянальным запаветам самога Кастуся Каліноўскага — з запаветам «Ліста з-пад шыбеніцы». Зазначым толькі, што гэтыя спрэчкі ў Літоўскім камітэце, пра якія ўспамінае В. Ратч, мелі вялікае ўзьдзеяньне, і Кастусь Каліноўскі здабываў усё больш і больш прыхільнікаў у сваім змаганьні за незалежнасьць Літвы-Беларусі. Як сьветчыць, напрыклад, той-жа В. Ратч, Людвік Зьвяждоўскі, які «настойваў на праекце канфэдэратыўнай Польшчы з нацыянальным прадстаўніцтвам Літвы», і якога Кастусь Каліноўскі дакараў у тым, што ён «забыў пра сваю Жмудзь», у далейшым прымкнуў да нацыянальнай праграмы Кастуся Каліноўскага, «стаўшыся абаронцам самастойнасьці Літвы».[36] Людвік Зьвяждоўскі, які служыў у чыне капітана ў расейскай арміі, у часе паўстаньня быў ваенным начальнікам Магілеўскай губэрні. Кіруючыся рэвалюцыйнымі прынцыпамі Кастуся Каліноўскага, у красавіку 1863 г., калі ўжо Каліноўскі быў адсунуты ад кіраўніцтва паўстаньнем і да ўлады прыйшла прапольска-панская група, ён аддаў загад павесіць «найбольш злосных па-

---

[35] Г. Кісялёў, цыт. артыкул, б. 131—132.
[36] Тамсама, б. 133.

ноў». Таксама, перш, чым перайсьці да агляду нацыянальнай практыкі Кастуся Каліноўскага, трэба тут сьцьвердзіць, ці запраўды ён залічаў Беларусаў да Палякаў. У «Мужыцкай Праўдзе» ён гэтага не рабіў, хоць, праўда, і зьвяртаўся да беларускага народу ў безназоўнай форме — зьвяртаўся да «мужыцкага народу». Аднак Кастусь Каліноўскі раней ачольваў **Літоўскі**, а ня **Польскі** камітэт, потым **Часовы правінцыяльны ўрад Літвы й Беларусі,** пазьней, калі другі раз прыйшоў да ўлады, стаў на чале **Камітэту, які кіруе Літвой.** Праўда, у далейшым ён змушаны быў пагадзіцца выступаць ад імя **Ўраду польскага,** але ад «Ураду польскага над усім краем **Літоўскім і Беларускім»,** выдаючы адначасна адозвы **«Да народу зямлі Літоўскай і Беларускай».** Нідзе, такім чынам, няма й напаміну пра «польскі народ». Вышэй мы прывялі доўгую вытрымку з аднаго ягонага асьветчаньня Сьледчай камісіі. У ім таксама гаворыцца толькі пра **Літву** з падкрэсьленьнем ейнай нацыянальнай апрычонасьці й навет «большай сур'ёзнасьці». Адначасна ў гэтым паказаньні Кастусь Каліноўскі ўжо называе свой народ ягоным собскім назовам: «Пакуль урад (расейскі — П. У.) не здабудзе спачуваньня ў запраўды адукаванай праслойцы тутэйшага насельніцтва, — зазначае ён, — датуль слова Расеі ня знойдзе адгалоску ў сэрцах **Літоўцаў».**[37]

Нацыянальныя спрэчкі між польскімі й літоўскімі (беларускімі) рэвалюцыянэрамі ўзьніклі яшчэ ў студэнцкіх колах Пецярбургу й Масквы, дзе да лютага 1861 году знаходзіўся таксама Кастусь Каліноўскі з братам Віктарам. Пра гэта, напрыклад, сьветчыць у сваіх успамінах вядомы гісторык М. І. Кастамараў, які добра быў знаёмы зь Віктарам Каліноўскім. Успамінаючы пра Віктара Каліноўскага, ён піша:

> ...Будучы знаёмы зь гісторыяй сваей бацькаўшчыны значна глыбей тых верхаглядных патрыётаў, якія, ня вывучаючы грунтоўна мінулага, складалі сабе пра яго лятуценныя вобразы, Каліноўскі ў васяродзьдзі сваіх суродзічаў выклікаў навет незадаваленьне за тое, што сьмела гаварыў рэчы, якія тагачасным польскім патрыётам былі не да спадобы.[38]

Яны пачалі разгарацца больш з заснаваньнем рэвалюцыйных арганізацыяў у Вільні й Горадні й асабліва з заснаваньнем Літоўскага Камітэту летам 1862 году. У выніку гэтых спрэчак найбольш пасьлядоўныя польскія дэмакраты ў прынцыпе прызнаюць за Літвой права вырашаць самастойна свой нацыянальна-палітычны лёс, аднак у практыцы й яны ня здолелі парваць з польскай традыцыяй распаўсюджваньня апякунства на Літву-Беларусь. Тым больш гэтымі традыцыямі жылі польскае шляхоцтва й менш дэмакратычны польскі элемэнт. Як сьветчыць у сваіх запісах О. Авэйдэ, «зь ведама й на загад Варшаўскага Камітэту» яшчэ ў першай палавіне 1862 году «рабілі спробу зарганізаваць змову ў Літве Несьцер Дзюлёран, Браніслаў Шварцэ й Ёзэф Дэмантовіч».[39] Як ведама, Б. Шварцэ праводзіў рэвалюцыйную працу ў Беласточчыне, дзе ён заснаваў паралельна

---

[37] А. И. Лясковскій, цыт. праца, б. 175.

[38] Н. И. Костомаров. Литературное наследие, СПб., 1890, б. 111.

[39] А. Ф. Смирнов. Революционные связи народов России и Польши в 30—60-х годах XIX века, б. 227—228.

з рэвалюцыйнай беларускай арганізацыяй апрычоную прапольскую ды потым перадаў яе ў падпарадкаваньне польскага Цэнтральнага Нацыянальнага Камітэту. Н. Дзюлёран дзеіў у Вільні, спачатку ў якасьці прадстаўніка Варшаўскага камітэту, потым польскага Цэнтральнага Нацыянальнага Камітэту. Як агент ці камісар апошняга Камітэту, ён быў дапушчаны прыймаць удзел у паседжаньнях Літоўскага Камітэту. Як піша ў першым томе сваіх «Зьвестак» генерал В. Ратч, Н. Дзюлёран, бязумоўна, не бязь ведама Варшавы, падобную змову ці пераварот рыхтаваў таксама дзесьці пад восень таго-ж 1862 году. Дзеля гэтага ён зьвязаўся з прапольска-панскім элемэнтам («белымі») і хацеў ужо стварыць апрычоны камітэт, які быў-бы ў поўнай залежнасьці ад Варшавы. Аднак і апошняя змова была раскрытая, сам Дзюлёран быў выгнаны зь Літоўскага Камітэту й на загад Кастуся Каліноўскага высланы ў Варшаву.[40] Дакладнае пацьверджаньне мы знаходзім таксама й у запісах О. Авэйдэ:

> Між тым, — піша ён, — Дзюлёран, вучань і прыхільнік варшаўскай школы дзясятак, ня толькі быў супраць такога, згодна ягонай думкі, **белага злоўжываньня** (мова ідзе аб тым, што Літоўскі камітэт, ня ў прыклад Варшаве, адмовіўся ад прынцыпу ўтварэньня паўтэрарыстычных адзінак — «дзясятак» — і зьвярнуў увагу на падрыхтоўку да паўстаньня беларускага сялянства, засноўваючы ў сельскай мясцовасьці так званыя «прыходныя» ці «акружныя» рэвалюцыйныя арганізацыі — П. У.), але пад крылом Камітэту (польскага ЦНК — П. У.) пачаў дзеіць згодна свайго, варшаўскага спосабу, шкодзячы на кажным кроку разумным літоўскім імкненьням. Апрача гэтага, Шварцэ й ягоныя агенты ў Горадзенскай губэрні яшчэ больш стваралі перашкодаў. Будучы ня ў сілах ні пераканаць, ні прыпыніць Дзюлёрана, віленскі камітэт наважыў станаўкім спосабам аднавіць нарушаны парадак і дзеля гэтага выгнаў із свайго асяродзьдзя Дзюлёрана, забараніў сябром арганізацыі пад страхам пакараньня слухацца каго-небудзь із варшаўскіх агентаў і загадаў забіць Шварцэ пры першым ягоным зьяўленьні ў межах Літвы. Жадаючы, аднак, у той час быць у цесным адзінстве з Варшавай, Камітэт накіраваў туды Вярыгу з дакладам пра становішча арганізацыі ў Літве й з рознымі сваімі патрабаваньнямі.[41]

Эдмунд Вярыга, сябра Літоўскага Камітэту, прыбыў для перамоваў у Варшаву ў другой палавіне лістапада 1862 году. Гэтыя перамовы меўся праводзіць Б. Шварцэ, аднак, калі Вярыга адмовіўся навет бачыць яго, тады ЦНК выдзяліў О. Авэйдэ. Як паведамляе апошні, патрабаваньні ўпаўнаважанага Літоўскага Камітэту палягалі ў наступным: 1. апрацаваць статут, які дакладна вызначаў-бы ўзаемныя дачыненьні абодвых камітэтаў; 2. абодвы яны павінны быць прызнанымі зусім роўнымі, а Цэнтральны (польскі — П. У.) можа ўважацца, як першы сярод роўных; 3. упаўнаважаныя ад абодвых Камітэтаў, сталыя агенты ці камісары ўва ўсім павінны карыстацца роўнымі правамі й мець аднолькавыя абавязкі; 4. канчатковая дата паўстаньня павінна быць удакладненая із згоды абодвых камітэтаў; 5. Вар-

---

[40] Тамсама, б. 249.
[41] Показания и записки о польском восстании 1863 года Оскара Авейде, б. 487—488.

шава не павінна высылаць у Літву ніводнага свайго агента, апрача сталага віленскага; 6. неадкладна адклікаць Дзюлёрана, а таксама неадкладна зьвярнуць Беластоцкую арганізацыю ў падпарадкаваньне Літоўскага камітэту.[42]

Цэнтральны камітэт, — сьветчыць далей О. Авэйдэ, — спачатку адкінуў усе пункты, якія прадставіў Вярыга. Аднак ён загадаў мне ўсімі магчымымі спосабамі дамкнуць згоды й напісаць жаданы статут. Пасьля некалькіх сустрэчаў мне нарэшце пашчасьціла пераканаць Вярыгу зрабіць значныя ўступкі; Камітэт уступіў таксама, і мы склалі статут, які быў прыняты абодвымі бакамі. Галоўнымі пунктамі гэтага статуту былі: 1. пяршынство й улада Цэнтральнага камітэту заставаліся непарушнымі; 2. ягоны камісар у Вільні карыстаўся шмат шырэйшымі правамі, чымся ўпаўнаважаны літоўскі агент у Варшаве; 3. улада правінцыяльнага камітэту ў межах правінцыі застагалася поўнай і выключнай; аднак-жа яна абмяжоўвалася загадамі Цэнтральнага камітэту, наглядам камісара й неабходнасьцяй ягонай згоды ў пытаньнях першараднай важнасьці. Дзеля гэтага была выпрацавана асобная камісарская пячатка; 4. было вырашана больш не пасылаць з Варшавы агентаў у Літву; 5. было вырашана таксама тэрмін паўстаньня ўдакладніць із згоды літоўскага ўпаўнаважанага агента; у іншым выпадку Літва вызвалялася ад абавязкаў прызнаць яго. Апрача гэтага Дзюлёран быў адкліканы; на ягонае месца часова быў назначаны Юльян Верашчынскі, а Беласток павінен быў перайсьці ў падпарадкаваньне правінцыяльнага камітэту зразу-ж пасьля зацьверджаньня ўмоваў абодвымі бакамі.[43]

Хоць Вярыга на мае просьбы й намаганьні прыняў статут, — піша далей О. Авэйдэ, — аднак-жа выпрацаваны недавер да Варшавы з прычыны мінулых недарэчнасьцяў ейных агентаў быў гэтакі вялікі ў Літоўцаў, што правінцыяльны камітэт не зацьвердзіў умоваў, якія заключыў ягоны ўпаўнаважаны, не дапусьціў Верашчынскага на свае паседжаньні й выслаў іншага свайго сябру, Длускага, для новых перамоваў, трымаючыся сваіх ранейшых дамаганьняў. Длускі прыехаў у Варшаву ў пачатку сьнежня й знаходзіўся тут да самага паўстаньня. Аднак-жа, нягледзячы на такі доўгі час, нягледзячы на ўсемагчымыя ўступкі з боку Цэнтральнага камітэту й на мае самыя станоўчыя намаганьні, згоды між намі не адбылося. Недавер і настойлівасьць правінцыялаў былі сьляпымі, а Длускі быў чалавекам упартым, цьвёрдым да закаранеласьці Літоўцам, пры гэтым чалавекам тупаватым і разгубленым у дробязях.[44]

Пайменна гэтая нацыянальная прынцыповасьць Літоўскага камітэту, ачоленага Кастусём Каліноўскім, а таксама радыкальная сацыяльная праграма апошняга, а ня што іншае, былі прычынай таго, што польскі Цэнтральны Нацыянальны Камітэт у самым пачатку паўстаньня пастанавіў пакончыць з гэтым «літоўскім сэпаратызмам», зарганізоўваючы зрадніцкім спосабам урадавы пераварот у Літве-Беларусі. Як О. Авэйдэ, так і А. Гілер у многіх выпадках прыхільна адклікаюцца пра Кастуся Каліноўскага й

[42] Тамсама, б. 488.
[43] Тамсама, б. 488—489.
[44] Тамсама, б. 489.

рэвалюцыйную дзейнасьць Літоўскага камітэту. Напрыклад, А. Гілер заўважае: «Кастусь Каліноўскі — галоўны, найвыдатнейшы з усіх на Літве арганізатар... Каля Каліноўскага згуртавалася многа здольнай моладзі, і патрыятычная прапаганда разам зь імкненьнямі палепшыць лёс сялянства дасягнула-б жаданую мэту, калі-б паўстаньне не перашкодзіла гэтаму. Яно ўспыхнула перадчасна, прыносячы гэтым самым вялікую шкоду Русі й Літве».[45] Аднак, каб нейкім чынам апраўдаць гэты прапольска-панскі ўрадавы пераварот у Беларусі, яны адначасна вінавацяць Літоўскі камітэт у рэвалюцыйнай «бязьдзейнасьці» й «нежаданьні» прымкнуць да паўстаньня.[46] Тым часам О. Авэйдэ піша, што яшчэ да пачатку паўстаньня ў Варшаву прыбылі літоўская й украінская дэлегацыі, якія «прасілі не пачынаць паўстаньня раней красавіка ці навет травеня 1863 году», папярэджваючы пры гэтым, што, калі-ж паўстаньне ўспыхне ў студзені, дык ні Літва, ні Русь «ня прыймуць ніякага ўдзелу ў паўстаньні да палавіны сакавіка».[47] А. Гілер паведамляе навет, што пасьля таго, як паўстаньне пачалося ў Польшчы, у Варшаву прыяжджала некалькі дэлегацыяў ад Літоўскага камітэту з просьбай не дамагацца прысьпяшэньня паўстаньня ў Літве, на што Варшава «дала сваю згоду».[48] Дарэчы зазначыць, што хоць Беларусь была зьнянацку захоплена польскім паўстаньнем, якое ўспыхнула 22 студзеня (н. ст.) 1863 году, і ня гледзячы на сваю непадрыхтаванасьць, Кастусь Каліноўскі ўсё-такі кідае кліч, што «Польская справа — гэта наша справа. Гэта справа свабоды!» і ўжо 1 лютага (н. ст.) у Маніфэсьце абвяшчае пра пачатак паўстаньня ў Беларусі, перайменоўваючы адначасна Літоўскі камітэт у «Часовы правінцыянальны ўрад Літвы й Беларусі».

Такім чынам, з гледзішча на супрацоўніцтва ў паўстаньні не магло ўзьнікнуць паважных канфліктаў між польскімі й літоўскімі (беларускімі) рэвалюцыянэрамі. Гэты канфлікт узьнік на чыста нацыянальнай глебе, праўдзівей у сувязі зь імпэрыялістычнымі тэндэнцыямі польскіх рэвалюцыянэраў, пра што сьветчыць таксама А. Гілер. Пайменна ён піша, што, хоць Варшава згадзілася не патрабаваць прысьпяшэньня паўстаньня ў Літве, «тым часам тут і там на зямлі Ягайлы й Вітаўта хапаліся за зброю, а кліч 'На Літву! На Літву!' над Віслай быў таксама ўсеагульным і аднолькавым у 1863, як і ў 1831 годзе».[49] Гэты кліч польскіх рэвалюцыянэраў ужо ў самым пачатку паўстаньня ў Польшчы зарганізаваў значны паход польскіх паўстанцкіх аддзелаў «на Літву», які, аднак, быў прыпынены 6 лютага ў бітве каля Семяцічаў. Пасьля гэтае бітвы, у якой расейскім генералам Манюкінам было разьбітае польскае паўстанцкае войска, у Літву здолелі пранікнуць толькі невялікія аддзелы польскіх паўстанцаў, якія таксама хутка змушаныя былі вярнуцца ў Польшчу. Вось-жа, не зрэалізаваўшы гэтага «паходу на Літву», варшаўскі Тымчасовы рэвалюцыйны ўрад зноў высылае ў Вільню ведамага нам Несьцера Дзюлёрана з мэтай падрыхтоўкі тут ура-

---

[45] A. Giller, op. cit., p. 176, 177.

[46] Id., p. 175—176; Показания и записки о польском восстании 1863 года Оскара Авейде, б. 522.

[47] Показания и записки о польском восстании 1863 года Оскара Авейде, б. 490.

[48] A. Giller, op. cit., p. 177.

[49] Тамсама.

давага перавароту. Пішучы пра гэты пераварот, О. Авэйдэ зазначае, што быццам Н. Дзюлёран дзеіў «бязь ведама Варшавы», што, бязумоўна, мы павінны адкінуць хоць-бы з гледзішча на практыку з 1862 году. Адным словам пра гэты пераварот у запісах О. Авэйдэ мы знаходзім наступнае паведамленьне:

> Між тым былы наш агент Несьцер Дзюлёран, адхілены чырвонымі Літоўцамі, пасьпеў зблізіцца зь белымі, ня меўшы пры гэтым загаду з Варшавы... Пасьля гэтага ў палавіне лютага Дзюлёран прыехаў у Варшаву, дзе ён прадставіў Бабро́ўскаму неабходнасьць ліквідацыі існуючага Правінцыянальнага камітэту і, выкарыстоўваючы згоду белых, магчымасьць перадачы ім высілкаў па арганізацыі й кіраўніцтву паўстаньнем у правінцыі. Старая аксіёма, што бяз шляхты ніхто нічога ня зробіць у Літве, і відавочная слабасьць камітэту чырвоных падахвоцілі Бабро́ўскага прыняць рэкамандацыі Дзюлёрана. Дзюлёран і пан Ковенскай губэрні Якаў Гейштар былі ўпаўнаважаны падаць на зацьварджэньне Часовага ўраду кандыдатаў у сябры новага Літоўскага камітэту. Праз тыдзень кандыдаты былі пададзеныя й зацьверджаныя. Імі былі: названы Гейштар, пан Віленскай губэрні Аляксандр Аськерка, пан Менскай губэрні (Напалеон ці Антон) Еленскі, жыхар Вільні Францішак Далеўскі й Дзюлёран. Апошні атрымаў таксама назначэньне камісара Часовага ўраду ў Літве. Новы камітэт быў названы «Аддзелам (Часовага ўраду), які кіруе правінцыямі Літвы». Ягоныя правы, абавязкі й залежнасьць ад Варшавы былі азначаныя інструкцыяй Бабро́ўскага, складзенай у духу дарэвалюцыйнага літоўскага ўставу, які тады не пашчасьціла ажыцьцявіць. У той-жа час было загадана сябром старога камітэту прыпыніць іхную дзейнасьць і перадаць сваім наступнікам пячатку, дакуманты, карэспандэнцыю й грошы.[50]

Падрыхтаваны такім парадкам coup d'Etat адбыўся ў сярэдзіне сакавіка. У сваіх запісах О. Авэйдэ лякані́чна заўважае ў зносцы, што «яны (сябры Літоўскага камітэту ці ўжо «Часовага ўраду Літвы й Беларусі» — П. У.) некаторы час ставілі супраціў, але пазьней змушаныя былі ўступіць, напісаўшы пратэст».[51] У васьветчаньні Сьледчай камісіі пра гэта ён гаворыць крыху больш, але цяпер зьвернем увагу на паведамленьне генэрала В. Ратча.

> Сябры, якія выганяліся, заявілі, — піша ён, — што яны не прызнаюць падобнае пастановы Варшавы й што Варшава ня мае ніякага права імі распараджацца, але ім было катэгарычна аб'яўлена, што ў выпадку непадпарадкаваньня імёны іх будуць апублікаваны ў газэтах і што яны, з аднаго боку, будуць трымаць адказнасьць перад урадам, а з другога... выставяць сябе здраднікамі народнай справы. Адзін Каліноўскі выказваў пратэст на імя ўраду. Дзюлёран паклаў гэты пратэст у кішэню й пранасіў там больш трох месяцаў.[52]

У вадным з асьветчаньняў Сьледчай камісіі О. Авэйдэ таксама цьвердзіць:

---

[50] Показания и записки о польском восстании 1863 года Оскара Авейде, б. 522.
[51] Тамсама.
[52] А. П. Смірноў. Кастусь Каліноўскі ў паўстаньні 1863 года, б. 112.

З утварэньнем аддзелу Гейштара правінцыянальны камітэт не хацеў здацца некаторы час і ўступіў толькі на наш загад, выдаўшы наступнікам паперы, тайны і інш. Уступіўшы аднак-жа, Каліноўскі зрабіў ад імя сваіх таварышаў пратэст пры дапамозе, здаецца, Дзюлёрана й Аськеркі й прасіў перадаць яго ў Варшаву. Пратэст, між іншым, гаварыў, «што правінцыянальны камітэт уступае й слухаецца галаву паўстаньня таму, папершае, што не жадае пачынаць згубных для рэвалюцыі разьдзелаў і нязгодаў і, падругое, таму, што не адчувае сябе дастаткова моцным, каб вырваць кіраўніцтва спраў з рук сваіх праціўнікаў. Аднак-жа сябры камітэту лічаць абавязкам сваім аб'явіць разам з тым, **што яны лічаць гібельлю й здрадай рэвалюцыі** перадачу кіраўніцтва ў рукі контррэвалюцыянэраў — заўсёдашніх ворагаў і рэвалюцыйнага руху наагул і пачатку Маніфэста з 22 студзеня ў асаблівасьці, што яны (г. зн. Каліноўскі й сябры) пратэстуюць супраць такога рашэньня Цэнтральнага камітэту, ськідаюць зь сябе ўсю адказнасьць перад будучым за ўсе памылкі й за ўсе страты й няшчасьці, якія прынясе супрацьлеглае духу й тэндэнцыі паўстаньня кіраўніцтва Літоўскай справай». Ні Дзюлёран, ні іншыя сябры Віленскага аддзелу не прадставілі ў Варшаву гэтага пратэсту, і мы дазналіся пра яго толькі потым, калі Дзюлёран паспрачаўся з сваімі новымі сябрамі. Знаходзячыся ў Вільні я даведаўся, што па патрабаваньню Дзюлёрана Каліноўскі, як аўтар пратэсту, быў аддадзены пад суд новага аддзелу, пачатае было навет маленькае па гэтаму поваду сьледзтва; аднак-жа сябры аддзелу, разважыўшы справу, пакінулі бескарысныя спрэчкі й пагадзіліся неяк з Каліноўскім. Ён быў у выніку гэтай згоды назначаны Горадзенскім камісарам.[53]

Сам О. Авэйдэ прызнае, што Варшава ў гэтым выпадку «здорава памылілася» й загубіла паўстаньне ў Літве-Беларусі.[54] Таму ўжо ў пачатку чэрвеня Кастусь Каліноўскі адклікаецца ў Вільню, дзе ён у цяперашнім «Выканаўчым аддзеле» абыймае сэктар нутраных справаў, фактычна бярэ кіраўніцтва паўстаньнем у свае рукі. У сярэдзіне чэрвеня Кастусь Каліноўскі наважвае нарэшце канчаткова парваць з апякунствам Варшавы. На скліканым ім паседжаньні «Выканаўчага аддзелу» ён і В. Малахоўскі, начальнік места Вільні, рэзка выступаюць з крытыкай умяшаньня Варшавы ў справы Літвы ды абвяшчаюць разрыў з Варшавай, у пацьверджаньне чаго выкладаюць на стол новую пячатку з гэрбам «Пагоня» й надпісам: «Камітэт, які кіруе Літвой». Я. Гейштара, які зрабіў пратэст, ніхто не падтрымаў, і дамаганьне Кастуся Каліноўскага й В. Малахоўскага было прынятае. Гэта пацьвярджае таксама й О. Авэйдэ, хоць ён усю віну за гэты «пераварот» звальвае на В. Малахоўскага.

У дадатак Малахоўскі, — піша ён, — будучы мацнейшым за іншых сваіх сяброў, як начальнік места Вільні, не перагаварыўшы ні зь кім, хацеў сам выратаваць ад згубы літоўскую рэвалюцыю й падрыхтоўваў нам новы пераварот: ён наважыўся адхіліць усіх сяброў аддзелу, ня вылучаючы й нашага камісара, перайменаваць назоў Выканаўчага аддзелу на Літоўскі камітэт і ўстанавіць ад-

[53] Тамсама, б. 113.
[54] Показания и записки о польском восстании 1863 года Оскара Авейде, б. 541-542.

носіны Вільні з Варшавай на іншых асновах. Згодна жаданьня Малахоўскага, Літоўскі камітэт меўся ўвасабляць **самастойную** правінцыянальную ўладу, які знаходзіўся-б у больш фармальнай, чымся фактычнай залежнасьці ад Нацыянальнага ўраду. Мы яшчэ ў час дазналіся пра гэтыя спробы Малахоўскага й пасьпелі ўстрымаць яго ад гэтага неабдуманага кроку.[55]

Запраўды, гэты незалежніцкі крок Кастуся Каліноўскага й В. Малахоўскага не на жарты ўстрывожыў Варшаву. Як паведамляе В. Ратч у першым томе сваіх «Зьвестак», «партыя Каліноўскага, верная сваім прынцыпам, вырашыла канчаткова вызваліцца ад Варшаўскай апекі... Жонд (Польскі Нацыянальны ўрад — П. У.), каб перад Эўропай утрымаць Паўночна-Заходнюю Русь за сабой, разьлічваў паправіць справу інтэрвэнцыяй у Беларусь і Літву сфармаваных у Польшчы аддзелаў».[56] Пра падрыхтоўку падобнае інтэрвэнцыі сьветчыць таксама й О. Авэйдэ, хоць ён яе й называе, як «дапамогу Літве»: «У канцы чэрвеня ці пачатку ліпеня Траўгут прыехаў у Варшаву. Ваенны дэпартамант... назначыў яго зараз-жа начальнікам дзьвюх літоўскіх губэрняў: Горадзенскай і Віленскай. Аднак-жа вырашыў накіраваць яго ў Літву ня інакш, як на чале 2 000-га аддзелу, які было загадана падрыхтаваць і сфармаваць у Аўгустоўскай губэрні». У іншым месцы ён дабаўляе: «Назначэньне Траўгута не ажыцьцявілася. Бачучы бездапаможнае палажэньне ваеннай літоўскай справы, Нацыянальны ўрад яшчэ да прыезду Дзюлёрана ў Варшаву вырашыў дапамагчы гэтаму палажэньню. З гэтай мэтай мы наважыліся сфармаваць у Аўгустоўскай губэрні два моцныя аддзелы зь дзьвюх тысячаў чалавек кажны й хацелі накіраваць іх у Літву: адзін у Горадзенскую, а другі ў Ковенскую губэрні».[57] Згодна ягонага далейшага асьветчаньня, гэтая падрыхтоўка польскай інтэрвэнцыі ў Літву праводзілася навет і тады, калі сам О. Авэйдэ сьпешна быў накіраваны ў Вільню для вядзеньня перамоваў з новым «Камітэтам, які кіруе Літвой».[58] Бясспрэчна, у гэтым выпадку трэба згадзіцца зь цьверджаньнем генэрала В. Ратча, бо не магло быць і мовы пра нейкую «вайсковую дапамогу Літве». Падобную дапамогу ў той час патрабавала сама Польшча, і яна не магла раськідвацца так проста сваей нешматлікай вайсковай сілай.

Адначасна з падрыхтоўкай гэтай інтэрвэнцыі ў Літву-Беларусь для перамоваў быў высланы сам О. Авэйдэ, уплывовы сябра Польскага нацыянальнага ўраду. У Вільню ён прыбыў 8 жніўня (н. ст.), і ў выпадку палагоджаньня зь Літоўскім камітэтам на ранейшых асновах павінен быў тут заступіць выгнанага Н. Дзюлёрана. Хоць, як ён зазначае, «яму пашчасьціла ўгаварыць Малахоўскага адмовіцца ад выкрытага намі сваечасова намеру зрабіць пераварот»,[59] ранейшага палажэньня ён ужо ня мог аднавіць. З прычыны ўзмоцненага тэрору й арыштаў, якія з кажным днём прыносілі новыя ахвяры й гэтым аслаблялі паўстаньне ў Беларусі, а таксама, магчыма, пад узьдзеяньнем гэтае пагрозы інтэрвэнцыяй, Кастусь Каліноўскі й

---

[55] Тамсама, б. 597.
[56] А. П. Смірноў. Кастусь Каліноўскі ў паўстаньні 1863 года, б. 142.
[57] Показания и записки о польском восстании 1863 года Оскара Авейде, б. 578, 598.
[58] Тамсама, б. 599.
[59] Тамсама, б. 616.

ягоныя рэвалюцыйныя сябры змушаныя былі пайсьці на некаторыя ўступкі ды адмовіцца ад назову «Камітэт, які кіруе Літвой». Аднак яны не згадзіліся з прапановамі аднаўленьня ранейшага палажэньня, і О. Авэйдэ павінен быў перадаць свае паўнамоцтвы й абавязкі ўлучна зь пячаткай Кастусю Каліноўскаму.[60] У сувязі з гэтым і сам О. Авэйдэ меўся пакінуць Вільню й зноў вярнуцца ў Варшаву, але пры выезьдзе ён быў арыштаваны царскай паліцыяй на Віленскай станцыі. Вось-жа з гэтага часу Кастусь Каліноўскі й пачынае выступаць ад імя «Ўраду польскага над усім краем Літоўскім і Беларускім», выдаючы загады «Да народу зямлі Літоўскай і Беларускай». Гэта значыць, што Кастусь Каліноўскі змушаны быў пагадзіцца із зьверхніцтвам Варшаўскага ўраду, аднавіўшы, як цьвердзіць О. Авэйдэ,[61] першапачатковы «Аддзел». Аднак, як, напрыклад, сьветчыць у сваей запісной кніжачцы, што захавалася ў архіве генерала В. Ратча, прадстаўнік Варшавы й сябра апошняга «Аддзелу» Язэп Каліноўскі, «пасьля перавароту (coup d'Etat) Кастусь Каліноўскі атрымаў правы запраўднага дыктатара Літвы. Хоць тады назоў «Аддзел» застаўся, але не адпавядаў першапачатковай праграме».[62] Такім парадкам прызнаньне зьверхніцтва Варшаўскага ўраду было фармальным; у запраўднасьці-ж і пасьля апошніх уступак Кастусь Каліноўскі ачольваў як-бы самастойны Літоўскі рэвалюцыйны ўрад ці той-жа «Камітэт, які кіруе Літвой».

Вось-жа, гэтая экскурсія ў гісторыю ўзаемадачыненьняў між Літоўскім Камітэтам і польскім Цэнтральным Нацыянальным Камітэтам як перад паўстаньнем, так і ў часе паўстаньня 1863 году выразна сьветчыць пра тое, што з нацыянальнага пункту гледжаньня ні «Пісьмо ад Яські гаспадара з-пад Вільні да мужыкоў зямлі польскай», ні **першая частка** «Пісьма з-пад шыбеніцы Кастуся Каліноўскага да народу беларускага» не належылі Кастусю Каліноўскаму. Яны выйшлі з польскіх ці літоўскіх прапольска-панскіх колаў і былі звычайнай падробкай пад Кастуся Каліноўскага, каб, у першым выпадку, выкарыстаць імя Кастуся Каліноўскага для ўзбуджэньня беларускага народу да паўстаньня для польскае ці прапольскае справы, у другім-жа выпадку, — пасьмертна зрабіць яго польскім патрыётам.

У сувязі з тым, што побач з тэрмінамі «Літва», «літоўскі» тут часта сустракаюцца таксама тэрміны «Беларусь» і «беларускі», трэба й у гэтым выпадку зрабіць некалькі заўвагаў. Падобнае паралельнае ці дабавачнае ўжываньне апошніх тэрмінаў вынікала з наступнага. Гістарычна й дзяржаўна Беларусь выступала, як Вялікае Княства Літоўскае ці проста Літва. Народ таксама называўся **Ліцьвінамі**, у той час, як сучасныя Літоўцы зваліся Жмудзінамі. У большасьці выпадкаў так разумелася Беларусь і ў часы паўстаньня 1863 году. Пра гэта сьветчаць шматлікія гістарычныя крыніцы, у тым ліку й расейскія, і асабліва гэта відаць з наступнага асьветчаньня Браніслава Шварцэ. Гаворачы пра падзеі таго часу ў Польшчы й Беларусі, ён зазначае ў сувязі з азначэньнем заданьняў паўстаньня: «масавае народнае паўстаньне, цесны саюз з расейскай рэвалюцыяй, уцягненьне ў рух

[60] Тамсама, б. 8, 617.

[61] Тамсама, б. 617.

[62] Г. Кісялёў, цыт. артыкул, б. 135.

**літоўскага,** праўдзівей — беларускага й маларускага, насельніцтва».[63] Вось чаму ў сваей першай адозьве з пачаткам паўстаньня польскі Цэнтральны Нацыянальны Камітэт гаворыць: «Заклікаем Літву й Жмудзь да паўстаньня».[64] Аднак, з тае прычыны, што пісьменства прыйшло зь Кіеўскай Русі, мова народу звычайна звалася «рускай», «русінскай», а пазьней і «беларускай». У народзе-ж гэтая мова звалася «крывіцкай», пра што сьветчыць, напрыклад, Віктар Каліноўскі. Так, у сваім лісьце да Адама Кіркора з 1857 году, апісваючы старабеларускія акты Пецярбурскай публічнай бібліятэкі, ён пісаў: «напісаныя крывіцкай (беларускай) гаворкай»[65]. Такім чынам, «беларуская» ў гэтым выпадку была для яго толькі паясьненьнем. Таксама, у сувязі з рэлігійнымі закалотамі й пачаткам палянізацыі краю з пачаткам XVII стагодзьдзя на ўсходзе Вялікага Княства Літоўскага (Літвы) пачалі пашырацца тэрміны «беларускі» й «Беларусь». Гэта было выкарыстана расейскім урадам, і з прылучэньнем Вялікага Княства Літоўскага да Расеі яно было штучна разьдзелена на «Літву» й «Беларусь» ці на «літоўскія» й «беларускія» губэрні. У «Літоўскую губэрню» спачатку ўваходзілі Заходняя Беларусь і Жмудзь ці сучасная Літва. «Беларускую губэрню» тварылі Полаччына, Віцебшчына й Магілеўшчына. Меншчына была выдзеленая ў апрычонную «Менскую губэрню». Потым-жа ў «Літву» ўвайшла гэтая Менская губэрня, але зь яе была вылучаная Жмудзь, якая ў нацыянальным значаньні пачала тварыць апрычоную «самагіцкую» вобласьць, зь якой у 1842 г. узьнікла Ковенская губэрня. Да Віцебскай і Магілеўскай «беларускіх губэрняў» у сваю чаргу была далучаная яшчэ й Смаленская губэрня. Такім парадкам, у часы Кастуся Каліноўскага Літву афіцыйна тварылі Горадзенская, Віленская й Менская губэрні, і ад нядаўнага часу, але толькі фармальна — таксама Ковенская губэрня. У афіцыйную Беларусь уваходзілі Віцебская, Магілеўская й Смаленская губэрні. Аднак гэтыя назовы «Літва» й «Беларусь» паралельна ўжываліся таксама для абазначаньня ўсяго краю.

Усе гэтыя зьмены й практыка адлюстраваліся таксама й у практыцы Кастуся Каліноўскага. Пайменна, спачатку беларускім нацыянальна-вызвольным рухам кіруе «Літоўскі правінцыянальны камітэт», потым утвараецца «Часовы правінцыянальны ўрад Літвы й Беларусі», за ім ідзе «Камітэт, які кіруе Літвой», і нарэшце Кастусь Каліноўскі ўвасабляе «ўрад польскі над усім краем Літоўскім і Беларускім». Народ у цэласьці ён называе **Ліцьвінамі.** Бязумоўна, было-б вялікай памылкай рабіць такі выснаў, быццам у вапошнім выпадку й запраўды выступалі сучасная Літва й сучасная Беларусь. Між іншым, апрача А. Сьмірнова, такія выснавы робяцца ўсімі савецкімі гісторыкамі, і яны такім парадкам штучна хвальшуюць гісторыю беларускага народу. Бясспрэчна, для Кастуся Каліноўскага «Літвой» была Заходняя Беларусь і «Беларусяй» — Усходняя Беларусь. У большасьці-ж выпадкаў ён ламаў гэтую тагачасную афіцыйную тэрміналёгію й увесь край называў **Літвой.**

---

[63] Восстание 1863 года и русско-польские революционные связи 60-х годов, б. 133.

[64] А. Ф. Смирнов. Революционные связи народов России и Польши 30—60-х годов XIX века, б. 267.

[65] Г. Кісялёў, цыт. артыкул, б. 138.

# Да пабудовы навуковае гісторыі беларускае літаратуры

Ант. Адамовіч

Як асобная галіна веды, гісторыя літаратуры наагул прадстаўляецца вельмі маладою. Адно напрыканцы XVIII ст. зьявіўся першы ў сьвеце больш-менш годны свайго назову адмысловы нарыс гісторыі асобнае літаратуры — гісторыя Італьянскае літаратуры сэньёра Тырабошчы, выданьне якое было скончанае ў 1781 г. На гэткую мерку маладосьці гісторыя беларускае літаратуры выглядае і зусім у горка-дзіцячым веку. Аж толькі ў 1910 г. Сяргей Палуян пачаў быў, далёка ня скончыўшы аднак, першую спробу агульнага нарысу яе, і адно дзесяць год мінуўшы, у 1920—22 г. г. зьявіліся на сьвет ужо скончаныя, больш-менш фундамэнтальныя працы-агляды Максіма Гарэцкага, праф. М. Янчука, праф. акад. Я. Карскага. Зь іх усіх «Гісторыя беларускае літаратуры» Максіма Гарэцкага найбольш заслугоўвае на гістарычную годнасьць запачаткавальніцы дадзенае галіны веды — яна бо тут і храналягічна, часам свайго выданьня ў 1920 г., найпершая, і абсягам фактычнага матар'ялу найпаўнейшая, і дачыненьнем да гэтага матар'ялу найбеспасераднейшая.[1]

---

[1] Максім Гарэцкі. Гісторыя беларускае літаратуры. Беларускае Выдавецкае Таварыства. Вільня, 1920 г. – Сяргей Палуян свае няскончаныя нарысы друкаваў паўкраінску («Білоруська література в її типових представниках») у часапісе «Наша Хата» ў 1910 г. Нашаніўскай парою гісторыяй беларускае літаратуры займаўся яшчэ бібліяграф Рамульд Зямкевіч (гл., прыкладам, ягоны нарыс «Ян Баршчэўскі, першы беларускі пісьменьнік XIX ст.» – у «Нашай Ніве» й асобнай адбіткай у 1911 г. і інш.; нябожчык Максім Гарэцкі пераказваў аўтару гэтых радкоў, што выхад ягонае кнігі Зямкевіч спаткаў як свайго роду асабістую абразу, уважаючы, што першую гісторыю беларускае літаратуры мог напісаць толькі ён... Нарысам беларускае гісторыі літаратуры была фактычна й выдадзеная ў 1914 г. парасейску брашура Максіма Багдановіча «Белорусское возрождение». Яшчэ можна адзначыць нарыс Л. Леўша «Гісторыя беларускага пісьменства» у ягонай анталёгіі «Дыямэнты беларускага прыгожага пісьменства» (Выдавецтва «Зорка», Кіеў, 1919 г.). Успомненыя тут працы праф. М. Янчука – гэта ягоныя нарысы беларускае літаратуры навейшае парасейску (Н. А. Янчук. Очерки белорусской литературы. Выпуск I. Новейшая литература. Москва, 1920 г.)

Запачаткаваньне гісторыі беларускае літаратуры як асобнае галіны веды ня значыла яшчэ аднак заснаваньня яе як навукі. Дый самі запачаткавальнікі выразна й ня ставілі нат перад сабою мэтаў пабудовы навуковае гісторыі беларускае літаратуры. Усім ім, кажучы словамі аднаго зь іх — акад. Карскага, карцела «галоўна) зарэгістраваць паэтычны матар'ял з мэтаю азнаямленьня зь ім чытачоў»;[2] Максім Гарэцкі, апрача таго, выразна меў перад сабою й заданьні чыста пэдагагічныя, ня так у вузка-школьным, як у шырокім нацыянальным сэньсе, і надзвычай памыснае выкананьне гэтых заданьняў надало ягонай працы тае суцэльнасьці, якое не стае часта вельмі разрозьненым, запраўды «нарысам», ато й проста нататкам-зацемкам іншых запачаткавальнікаў. Да заснаваньня гісторыі беларускае літаратуры як навукі не дайшло й бліжэйшымі наступнымі гадамі, і ў 1927 г., прыкладам, літаратурны крытык Ул. Дзяржынскі меў поўныя асновы адмаўляць існаваньне яе наагул, даючы пры гэтым суровую, але ў васноўным трапную характарыстыку й ацэну першым спробам пабудовы гісторыі беларускае літаратуры з гледзішча навуковасьці іх:

> Гісторыі беларускае літаратуры, як навукі, няма. Мала таго: дагэтуль амаль што няма навет подступаў да яе стварэньня, дагэтуль адсутна сама яе навуковая канцэпцыя. Тыя працы, большыя й меншыя, якія так ці йначай адносяць сябе ў рубрыку гісторыі беларускае літаратуры, абсалютна не адпавядаюць гэтай назове, паралічэньне зборнікаў яго твораў (творы, што не ўвайшлі ў гэтыя рызму, што ім не ўласьцівы гістарычны аспэкт вывучэньня літаратурных фактаў. Біяграфічныя нататкі (не дасьледзіны, а нататкі, і прытым агульнага й неправеранага характару) аб пісьменьніку, пералічэньне зборнікаў яго твораў (творы, што не ўвашлі ў гэтыя зборнікі, так і застаюцца паза рамкамі іх «гісторыяў»), вольны пераказ, або крытыка-імпрэсіяністычны аналіз іх выключна з пункту погляду данае сучаснасьці (а не тагачаснасьці), пры поўным ігнараваньні дыялектычнага спосабу мысьленьня, — вось што дагэтуль замяняе ў нас гісторыю беларускае літаратуры.[3]

Праўда, ня так у вабарону першых гісторыкаў беларускае літаратуры, як дзеля ўстанаўленьня аб'ектыўнае пэрспэктывы выпадае тут-жа зазначыць, што гісторыя беларускае літаратуры ў дадзеным дачыненьні і тады не станавіла сабою нейкага вынятку спасярод гісторыяў іншых літаратураў наагул. Аж блізка чверці веку мінуўшы пасьля сьцьверджанага Дзяржынскім у дачыненьні да гісторыі беларускае літаратуры, у 1949 г., вельмі аўтарытэтныя на Захадзе літаратураведы мусілі канстатаваць для гісторыяў літаратураў наагул:

---

і старадаўнае (пабеларуску, у Менску, 1922 г.), а праф. Карскага – ягоныя «Белорусы» III тому (том III, выпуск 2 – Старая западно-русская письменность, Петроград, 1921 г., том III, вып. 3 – Художественная литература на народном языке, Петроград, 1922 г.; паасобнымі ўрыўкамі друкаваліся ў розных выданьнях перад тым, былі знаныя й выкарыстаныя Максімам Гарэцкім, кніжка якога, сваім парадкам, была знаная й выкарыстоўваная й праф. Карскім).

[2] Е. Ф. Карский. Белорусы. Том III. Выпуск 3 – Художественная литература на народном языке. Петроград, 1922 г., б. VIII.

[3] Ул. Дзяржынскі. Янка Купала ў крытыцы нашаніўскіх сучасьнікаў. *Полымя*, 1927 г., № 8, б. 136.

> Бальшыня гісторыяў літаратураў, трэба прызнаць, гэта або сацыяльныя гісторыі, або гісторыі думкі, як яна праілюстраваная ў літаратуры, або ўражаньні й меркаваньні пра пэўныя творы, расстаўленыя ў больш або менш храналягічным парадку. Бальшыня кіраўнічых гісторыяў літаратуры — гэта або гісторыі цывілізацыяў, або зборнікі крытычных нарысаў. Першы тып — гэта ня гісторыя **мастацтва**, другі — ня **гісторыя** мастацтва.

— і няма вялікіх адзнакаў, каб і на сяньня палажэньне йстотна зьмянілася.[4]

Адылі, на гэтым мамэньце нам яшчэ давядзецца спыняцца больш і асобна. Тутака-ж зазначым адно, што й Дзяржынскі, пры сваім адмаўленьні йснаваньня гісторыі беларускае літаратуры як навукі, ня быў ужо гэтак катэгарычным у запярэчаньні наяўнасьці «подступаў да яе стварэньня», абмежавальна засьцярогшыся, што іх толькі «амаль што няма». Гэтак не адмаўляныя начыста й Дзяржынскім для ягонага часу, «подступы» гэтыя бо ня спыняліся й пасьлейшымі часамі, хоць і зь вельмі зьменнаю напорнасьцяй і памыснасьцяй, і гэта ад разгляду іх і даводзіцца пачынаць, шукаючы дарогаў да навуковае пабудовы гісторыі беларускае літаратуры.

Запачаткаваньне гісторыі беларускае літаратуры як асобнае галіны веды ў 1920—22 г. г. ня сталася заснаваньнем яе як навукі ў ладнай меры таму, што на той час на Беларусі ня было яшчэ належнае базы на гэта — адпаведных адмысловых вышэйшых навуковых інстытуцыяў. Адылі якраз запачаткаваньне гэтае супала ў часе з заснаваньнем гэткіх інстытуцыяў: 30 кастрычніка 1921 г. у Менску быў адчынены Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт, а мінуўшы год — 20 лістапада 1922 г. пачаў сваю працу Інстытут Беларускае Культуры, у 1929 г.ператвораны ў Беларускую Акадэмію Навукаў. Першыя «подступы да стварэньня» навуковае гісторыі беларускае літаратуры й зьвязаныя зь дзейнасьцяй гэтых Інстытуцыяў.

Адзін з запачаткавальнікаў гісторыі беларускае літаратуры, ак. Карксі, якраз браў вельмі дзейны ўдзел у рыхтаваньні да адчыненьня ўнівэрсытэту на Беларусі, што асабліва разгарнулася па рэвалюцыі 1917 г. Шмат хто, калі ня ўсе наагул, ужо бачылі ў ім, калішнім рэктару Варшаўскага ўнівэрсытэту, першага рэктара будучага беларускага ўнівэрсытэту; пераказвалі, што гэткае было жаданьне й нат пэўнасьць і ў яго самога. Улетку 1921 г., перад самым адчыненьнем Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, Карскі наведаў Менск і прачытаў пры менскім пэдагагічным інстытуце курс лекцыяў беларускае мовы й літаратуры, адчынены й для шырэйшае публікі.[5] Тады-ж сталася ведама, што ён залучыў на працу ў Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт колькі іншых калішніх прафэсароў таго-ж Варшаўскага ўнівэрсытэту, знаных яму з часоў ягонага рэктарства тамака, і спаміж іх — двух выдатных у цэлай імпэрыі літаратураведаў, праф. А. Еўлахава й І. Замоціна. Хоць неспадзявана для ўсіх сам ак.

---

[4] *Theory of Literature.* By René Wellek and Austin Warren. Harcourt, Brace and Company. New York, 1949, p. 263—264.

[5] Лекцыі тыя слухаў і аўтар гэтых радкоў, і сярод нялічных і дзіўнымі выпадкамі захаваных рэліквіяў у яго — сваяручна напісаная праф. Карскім даведка аб вытрыманьні калёквіюму па іх.

Карскі ня стаўся ня толькі рэктарам, але нат і прафэсарам новаадчыненага Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту,[6] прыцягнутыя ім прафэсары Еўлахаў і Замоцін абнялі катэдры ў ім, прычым першы зь іх уладзіў прафэсарамі на літаратураведныя катэдры і трох із сваіх вучняў — А. Вазьнясенскага, А. Барычэўскага й М. Пятуховіча. Апошні зь іх, сам родам з Магілеўшчыны, Беларус, адразу-ж і цалком прысьвяціўся працы над беларускай літаратурай, пераважна над гісторыяй яе. Ладную ды ўсё большую ўвагу пачалі прысьвячаць гэтай літаратуры й праф. Вазьнясенскі ды Барычэўскі, хоць напачатку яны, як і іхны настаўнік праф. Еўлахаў, больш займаліся мэтадалягічнымі ды іншымі агульнымі літаратураведнымі справамі. Гэтак пачала стварацца база для навуковага дасьледваньня беларускае літратуры й ейнае гісторыі ўпаасобку.

Праф. А. Еўлахаў быў, бадай, найвыдатнейшым зь нявельмілічных літаратураведаў даваеннае царскае Расеі, што адмыслова займаліся распрацоўваньнем самое мэтадалёгіі літератураведы й нат асабліва — гісторыі літаратуры ды больш таго, ставілі на гэтым асаблівы націск.[7] Дык і беспасярэдня й праз уладжаных ім прафэсарамі сваіх вучняў ён выдатна прычыняўся да разбудовы тае базы пад беларускую літаратурную навуку, асабліва рыхтаваньнем для яе новых мэтадалягічна кваліфікаваных навуковых працаўнікоў, і з гэтае школы праф. Еўлахава, што першымі гадамі, можна сказаць, манапалізавала ў сваіх руках літаратураведу ў Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце, выйшлі такія літаратурныя дасьледнікі й крытыкі, як цытаваны вышэй Ул. Дзяржынскі ды асабліва Адам Бабарэка.

Варта тут адразу-ж адзначыць цікавую, а для будучыні й заломлівую асаблівасьць: праф. Еўлахаў і ягоная школа ня толькі ніколі ня былі хоць як блізкімі да марксызму, але наадварот, займалі ў дачыненьні да тарнаваньня гэтага мэтаду да вывучэньня літаратуры нат горка-няспрыяльнае становішча. Сам праф. Еўлахаў разглядаў марксыстаўскі мэтад у тарнаваньні да вывучэньня літаратуры адно як адменьнік мэтаду публіцыстычнага, залічанага ім да ненавуковых мэтадаў у літаратураведзе,[8] ды ці раз зьнішчальна крытыкаваў такіх стаўпоў як даваеннае, так і пасьлейшае «марксыстаўскае літаратураведы», як П. Коган ды А. Фрычэ.[9] І ягоны вучань, праф. А. Вазьнясенскі, у ўступной лекцыі да свайго курсу мэтадалёгіі літератураведы на тэму «Мэтад вывучэньня літаратуры», прачытанай 5 лістапада 1921 г. у новаадчыненым Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце, падчыркваў канечнасьць плюралізму ў мэтадалёгіі літаратураведы[10]

---

[6] Масква паставіла за рэктара праф. У. Пічэту, зь Беларусяй і з навукай аб ёй зьвязанага, бясспрэчна, куды-куды менш, але, відаць, надзяйнейшага за праф. Карскага ў ейных вачох. Самому-ж праф. Карскаму пастараліся прадставіць гэта, як інтрыгу няўдзячных Беларусаў, і пераказвалі, што ён даў гэтаму веры й адказаў з свайго боку цэлым радам зусім неспадзяваных выпадаў супраць беларускага нацыянальнага руху ў вапошнім выпуску сваіх «Белорусов»...

[7] Гл., прыкл., ягонае *Введение в философию художественного творчества.* Опыт историко-литературной методологии – тры тамы, Варшава – Ростов на Дону, 1910–1917.

[8] Гл. паказаны твор, том II, Варшава, 1912 г., Методы ненаучные, б. 241–601.

[9] Тамсама, б.б. 301–313, 362, 374, 411, 515.

[10] А. Н. Вознесенский. Метод изучения литературы. *Труды Белорусского Государственного Университета,* Менск, № 1, 1922 г., б. 132.

(наўсуперак ведамаму марксыстаўскаму вымаганьню мэтадалягічнага манізму), а пра марксыстаўскі ды наагул сацыялягічны мэтад нат і ня ўспамінаў зусім, хоць у дачыненьні да мэтаду «публіцыстычнага, інакш званага палітычным» (да якога, паводля праф. Еўлахава, як ужо адзначалася, уваходзілі гэтыя мэтады як адменьнікі) быў ужо крышку мякчэйшым за свайго настаўніка, адзначыўшы адно «няўстойлівы й суб'ектыўны характар» гэтага мэтаду, не адмаўляючы ўсё-ж яму ў «пэўнай навуказгоднасьці», у вадрознасьць ад катэгарычнага цьверджаньня пра поўную «ненавуковасьць» яго ў праф. Еўлахава.[11]

На першых пачатках праф. Еўлахаў і ягоная школа мелі поўную свабоду ў дачыненьні да тарнаваньня й разьвіваньня сваіх немарксыстаўскіх і нат часам антымарксыстаўскіх мэтадалягічных канцэпцыяў, пра што сьветчаць тагачасныя працы і старых і новых вучняў гэтае школы.[12] Мелі тады такую-ж свабоду й іншыя, аж нат практыкі таго «мэтаду публіцыстычнага, званага палітычным» дый зусім неадпаведных для савецкае палітыкі кірункаў пры гэтым. Пра гэта сьветчыць, прыкладам, праца Язэпа Лёсіка, што так сама пачаў выкладаць у Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце, — «Беларуская Энэіда навыварат». Дармо, што ў заключнай частцы гэтае працы было поўна мамэнтаў нацыяналістычнага антырасейскага характару, да таго-ж афармаваных зырка публіцыстычна, яна ў поўнасьці зьявілася ў друку ў часапісе «Вольны Сьцяг», напрыканцы 1921 г.[13] Але на далейшай долі гэтае працы якраз выявіліся ўжо першые адзнакі звароту на горшае: асобных адбіткаў яе выдавецтву часапісу выпусьціць не дазволілі, хоць пра выйсьце іх ужо й зьявіліся анонсы, а іншыя, адначасна анансаваныя адбіткі, выйшлі бесьперашкодна. Гэтак уваходзіла ў дзеяньне савецкая паліцыйная цэнзура ў васобе створанага 6 чырвеня 1922 г. Галоўліту, адначаснымі ахвярамі якое сталіся й некаторыя творы мастацкае беларускае літаратуры (верш Янкі Купалы «Перад будучыняй», выразаны з часапісу Інстытуту Беларускае Культуры «Адраджэньне»[14] і інш.).

Зварот гэты не адразу аднак пашырыўся на сфэру непубліцыстычнае, непалітычнае дзейнасьці. Тутака ён нарастаў куды павальней і неўсьцеражней, набыўшы форму сталага й усё большага ціску ў кірунку абмежаньня свабоды дасьледаваньня. У ўнівэрсытэце гэта быў найперш ціск чыста адміністрацыйнага парадку, ужыцьцяўляны праз г. зв. «прадметныя камісіі», інспэктаваньне й абежнікавае ліставаньне «з цэнтру» — г. зн. з Масквы, якой Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт падлягаў нейкі час нат беспасярэдня[15] (наўсуперак усяму афіцыйнаму заканадаўству пра каміса-

---

[11] Тамсама, б. 137.

[12] Е. И. Боричевский. О природе эстетического суждения. *Труды Белорусского Государственного Университета,* № 4–5, 1923, б. 212; М. Пятуховіч. Прырода ў творчасьці Якуба Коласа. *Вольны Сьцяг,* Менск, № 6(8), сьнежань 1921 г., б. 30; ён-жа, Якуб Колас як нацыянальны беларускі паэта. *Адраджэньне,* Менск, № 1, 1922 г., б. 269; У. Дзяржынскі. Максім Багдановіч як апісальнік прыроды. *Вольны Сьцяг,* № 1(9), студзень 1922, б. 30; ён-жа, Максім Багдановіч як стылізатар беларускага вершу. *Адраджэньне,* № 1, б. 204.

[13] Гл. № 4(6). лістапад 1921 г., б. 31, ды № 5(7), сьнежань 1921 г., б. 20.

[14] Гл. Anthony Adamovich. *Opposition to Sovietization in Belorussian Literature.* Scarecrow Press, Inc., New York, 1958, pp. 15, 59.

[15] Гл. афіцыйнае выданьне *Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт да 10-й гадавіны Кастрычніцкай Рэвалюцыі.* Менск, 1927 г., б. 16.

рыяты асьветы, як зусім незалежныя, «незадзіночаныя» ў кажнай саюзнай рэспубліцы), а таксама пры дапамозе стварэньня адпаведнае агульнае атмасфэры ў акадэмічным і літаратурна-крытычным друку й грамадзкасьці. У дачыненьні да гістарычных дысцыплінаў ціск гэты меў за свой выходны пункт ведамае палажэньне камуністычнага гісторыка М. Пакроўскага, у гэных гадох пратэгаванага самым Ленінам і пастаўленага на высокім становішчы ў савецкай сыстэме асьветы, асабліва вышэйшай, — ягонае цьверджаньне, што гісторыя — гэта палітыка, перакінутая ў мінуўшчыну (палажэньне, дарэчы, фактычна актуальнае ў савецкай практыцы ўвесь час, нат у пэрыядзе асуджэньня тэорыяў Пакроўскага за Сталінам). У тарнаваньні да вывучэньня літаратуры гэта зводзілася найперш да фарсаваньня тэндэнцыі да абмежаньня сфэры гэтага вывучэньня адно да аўтароў і твораў, «сугучных», у кажным разе не варожых «рэвалюцыйнай сучаснасьці» пры дыскрымінацыі фактаў «рэакцыйнага» з гледзішча гэтай сучаснасьці характару (праўда, часьцей у форме палітычнага публіцыстычнага зганьбаваньня, чымся поўнага ігнараваньня). Пры гэтым у якасьці вызначальнікаў тае «сугучнасьці» ці «нясугучнасьці» часта-густа прапанаваліся мамэнты вонкавага ў дачыненьні да самога літаратурнага творства, чыста біяграфічнага парадку, як сацыяльнае паходжаньне аўтароў, іхная палітычная актыўнасьць і настаўленасьць, грамадзкія сымпатыі й сувязі ды да г. п. Гэткаму глыбака нягістарычнаму падыходу раілася надаваць рамкі сацыялягічнага, а яшчэ лепш марксыстаўскага мэтаду, хоць у дачыненьні да фактаў, пакіданых у сфэры вывучэньня, дапушчалася й тарнаваньне вельмі моднага на той час мэтаду «фармальнага» ў якасьці дапаможнага, прызнаванага за годны да такое ролі гэткімі палітычнымі «правадырамі», як Троцкі, а за ім Бухарын, што тады карысталіся яшчэ непахісным аўтарытэтам.[16]

У вабліччы такога ціску гістарычнае вывучэньне беларускае літаратуры, не пасьпеўшы яшчэ як сьлед разгарнуцца, апынілася ў вельмі цяжкім стане, і тыя «подступы да стварэньня» навуковае гісторыі гэтае літаратуры, пра якія вышэй казалася, рабіліся проста не да падняцьця. На самой рэчы, паводля сэнсу паданых вышэй рэкамэндацыяў, беларуская літаратура часоў сярэднявечча падлягала адно дыскрымінацыі дзеля свайго «рэакцыйнага» — пераважна рэлігійнага характару, як у мала меншай меры й літаратура XIX веку — пераважна «прыгоньніцкая» й «шляхоцкая», усяго адзінкі пісьменьнікаў, асабліва з тых, што прыйшлі ў літаратуру ў рэчышчы рэвалюцыйнага ўздымку 1905 г., заслугоўвалі на вывучэньне, але-ж і яны, асабліва па рэвалюцыі 1917 г., выявілі сваю «рэакцыйнасьць» у «няпрыняцьці Кастрычніка», у апазыцыі да саветаў і бальшавізму, аж да чыстае «контррэвалюцыі» часам . . . Сфэра вывучэньня звужалася да сьмехувартае ці жалюгоднае, і пры жаданьні захаваць яе ў больш-менш прыстойных межах даводзілася шукаць нейкіх шляхоў выхаду або абыходу вытваранага палажэньня.

Найбольш простым зь іх выглядаў шлях фальсыфікацыі дадзеных для тых вызначальнікаў, паводля якіх устанаўляліся тыя межы, каб за цану

---

[16] Л. Д. Троцкий. *Литература и революция.* Москва, 1924 г., б.б. 119, 124; Н. И. Бухарин. О формальном методе в искусстве. *Красная Новъ,* Москва, № 3, 1925 г., б.б. 248–257 (асабл. 256–257).

гэткага хвальшаваньня, якому паддаваліся-б, у істоце, адно вонкавыя ў дачыненьні да самога літаратурнага творства мамэнты, купіць права на вывучэньне самога гэтага творства. Шлях гэты, апрача таго, выглядаў тым больш простым, што ён быў ужо й грунтоўна назначаны некаторымі беларускімі палітычнымі дзеячамі з актыўнага й уплывовага яшчэ тады нацыянал-камуністычнага лягеру. Дзеячы гэтыя яшчэ ад самых пачаткаў бальшавіцкае рэвалюцыі, імкнучыся прадставіць свой беларускі народ у якнайвыгаднейшым сьвятле з гледзішча гэтае рэвалюцыі, пачалі тварыць адмысловую тэорыю, што пасьля была зганьбаваная з афіцыйнага боку як тэорыя «бязбуржуазнасьці», ато й зусім «бясклясавасьці» беларускае нацыі. Выходзячы з факту моўнае й культурнае асыміляцыі сацыяльных вярхоў беларускага народу з польскай або расейскай нацыянальна-культурнымі сфэрамі, яны абвяшчалі гэты народ «чыста працоўнай», вылучна «работніцка-сялянскай» і зусім «бязбуржуазнай», фактычна нат бясклясавай нацыяй, прычым усё, што не ўкладалася ў гэткую схэму, падганялася пад яе пры дапамозе поўнай або часткавай фальсыфікацыі фактаў. Адзін з найпершых і найдзяйнейшых прапанэнтаў гэткае тэорыі, З. Жылуновіч (Ц. Гартны), сам літаратар больш і перш як хто іншы, запачаткаваў тарнаваньне яе да літаратуры. У сваіх гістарычных, а характарам публіцыстычных аглядах беларускае літаратуры яшчэ з 1918, а асабліва 1924 г.,[17] ён пісьменьнікаў XIX в., у камуністычным разуменьні «прыгоньнікаў», перарабляў на «народнікаў», узыдатняючы некаторыя гуманітарныя й дэмакратычныя мамэнты ў іхных паглядах, а неадпаведныя мамэнты і біяграфіі і ідэялёгіі пісьменьнікаў XX в., асабліва ня гэтак шырака зnative, і зусім абмінаў. Жылуновічавымі сьлядамі адразу-ж пайшоў праф. Пятуховіч, пашырыўшы гэтую тэхніку фальсыфікацыі й на старую беларускую літаратуру,[18] і нат найбольш далёкі, ато й прост антаганістычны і да Жылуновіча і да Пятуховіча малодшы літаратуравед Ул. Дзяржынскі, цытаваны намі вышэй, завуалявана дый нат выразна «контррэвалюцыйныя» творы Купалы, Коласа, Бядулі інтэрпрэтаваў як бадай «архі-рэвалюцыйныя», у кажным разе — «сугучныя рэвалюцыйнай сучасьнасьці»...[19]

Гэтак беларускія літаратураведы неўсьцярэжна ўзыходзілі на шлях фальсыфікацыі, можа й даволі «бязьвіннай», паколькі не закранала яна яшчэ самое істоты літаратурных фактаў як такіх, але ў кажным разе, з чыста маральнага боку вельмі сумлеўнай ды ўжо праддзьвернай да тае поўнае дэмаралізацыі, што запанавала пасьля ў дадзенай галіне. Што праўда, ня ўсе літаратураведы Беларусі безвагальна абралі сабе гэткі сьлізкі шлях. Некаторыя зь іх пачалі хапацца за іншы выхад, што пасьля дастаў назоў «перабудовы». Гэтак праф. Вазьнясенскі пачаў «перабудоўвацца» ў бок,

---

[17] З. Жылуновіч. Беларуская літаратура (лекцыя, чытаная ў Беларускім Народным Унівэрсытэце ў Маскве ўлетку 1918 г., тэкст у зборніку *Зажынкі,* Масква, 1918 г., а таксама ў зборніку *Курс белоруссоведения,* Масква, 1919-1920 г.); ён-жа — Беларускае пісьменства — у зборніку *Беларусь,* выданьне Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР, Менск, 1924 г., б. б. 287-321).

[18] Гл. прыкладам, ягоныя артыкулы пра Францішка Скарыну ў часапісе *Малады Араты,* № 11, 1925 г., б. 1, у часапісе *Асьвета,* № 7, 1925 г. ды ў зборніку *Чатырохсотлецьце беларускага друку,* Менск, 1926 г., б. 284.

[19] У. Дзяржынскі. Беларуская літаратурная сучаснасьць, *Полымя,* Менск, 1925 г., № 1, б. 136 ды № 2, б. 160.

праўда, не марксыстаўскага, але дапушчанага яшчэ «фармальнага» мэтаду. У сваёй новай працы 1924 г., «Клясыфікацыя мэтадаў гістарычна-літаратурнае навукі» — г. зн. на тэму, насьветленую ім у згадванай вышэй яго-най уступной лекцыі з 1921 г. — ён ужо знаходзіць патрэбным заквэстыянаваць самыя асновы мэтаду свайго настаўніка праф. Еўлахава, выказваючы найбольшыя свае сымпатыі да мэтаду «фармальнага»,[20] хоць вялікае «перабудовы» ў гэтым яшчэ й ня было, паколькі сам праф. Еўлахаў ужо падыйшоў быў да асноўнага палажэньня гэнага мэтаду ў ваднэй з найважнейшых для яго тэзаў пра тое, што «гісторыя літаратуры — гісторыя паэзіі, гісторыя паэзіі — гісторыя формаў».[21] З другога боку, праф. Вазьнясенскі прысьвячае ўжо колькі балонаў выкладу асноваў сацыялягічнага й марксыстаўскага мэтадаў, раней нат зусім ня згадваных ім, хоць, ізноў-ткі, усьцяж пардчырквае ўсю нявыразнасьць іхнае «тэарэтычнае фізіяноміі, што ня вызначылася яшчэ цяперашнім часам у канчальным і дакладным выглядзе».[22] Аднак, у вацэне мэтаду публіцыстычнага ён ужо суравейшы, як раней, фактычна, варочаючыся цалком да сьцьверджаньня праф. Еўлахава пра «суб'ектыўнасьць і ненавуковасьць» гэтага мэтаду ў яго-най цэласьці;[23] а таксама ў характарыстыцы г. зв. «гістарычна-палітычнага мэтаду»[24] выразна вычуваецца адмоўная рэакцыя на ціск у кірунку да палітызацыі навукі. За пару год аднак праф. Вязьнясенскі, «перабудоўваючыся» далей, пачынае ўжо выказвацца за спалучэньне «фармальнага мэтаду» з сацыялягічным, разумеючы ў вапошнім і марксыстаўскі.[25]

На гэткую камбінацыю й пачынае арыентавацца больш а больш літаратураведаў. Пры гэтым некаторыя зь іх, асабліва тыя, што ўзыйшлі ўжо на шлях фальсыфікацыі, спрытна знаходзяць і тут дарогу ў вабход. Яшчэ знаны францускі філёзаф Эрнэст Рэнан зрабіў быў вельмі трапнае назіраньне, што

> ў эпохі аўтарытэту людзкі дух бярэць рэванш за накладаныя на яго ланцугі ў пераасэнсаваньні; гэта пратэст супраць тэксту. Тэкст нязгрэшны — вельмі добра! Але яго можна розна інтэрпрэтаваць, і яго ізноў устанаўляе разнастайнасьць інтэрпрэтацыі — падабенства да свабоды, якою здавальняюцца, як няма іншае. Гэтак у рэжыме Арыстотэля або Бібліі можна было мысьліць блізу гэтулькі-ж свабодна, як і нашымі днямі — трэ было адно давесьці, што пэўная думка запраўды ёсьць у Арыстотэля або ў Бібліі, а гэта ніколі не станавіла вялікае цяжкасьці.[26]

Гэткім шляхом выкарыстаньня «нязгрэшных тэкстаў», у дадзеным выпадку, марксызму-ленінізму й пайшоў ці адзін літаратуравед, а найпершым зь іх — ці ня той-ж праф. Пятуховіч: ужо бо ў 1924 г. пачаў ён

---

[20] А. Н. Вознесенский. Классификация методов историко-литературной науки. *Труды Белорусского Государственного Университета*, № 6-7, 1925, б.б. 52-54.
[21] А. Евлахов, твор, паказаны ў зацемцы 7 вышэй, том I, б. 374.
[22] А. Н. Вознесенский, твор, цытаваны ў зацемцы 20, б. б. 78-80.
[23] Тамсама, б. 64.
[24] Тамсама, б. 77.
[25] А. Н. Вознесенский. Поиски объекта (к вопросу об отношении метода социологического и формального). *Новый Мир*, Москва, 1926 г., б. б. 116, 125, 128.
[26] Ernest Renan. L'Avenir de la science, Paris, 1890, p. 58.

апэравацъ у сваіх працах тэкстамі, калі яшчэ не адразу Маркса, дык Леніна, а нат і мала яшчэ тым часам папулярнага Сталіна,[27] як-бы прачуваючы неўзабаўнае нябывалае ўзвышэньне апошняга ў якасьці найвышэйшага марксыстаўскага аўтарытэту (што, зрэшты, не ўратавала прафэсара ад сталінскае «ліквідацыі», калі надыйшла ягоная часіна...)

Нарэшце, некаторыя зь літаратураведаў абралі й яшчэ больш наважны выхад — не «перабудовы», а поўнае перакваліфікацыі. Першым з гэткіх быў, фактычна, ужо Язэп Лёсік, які, пасьля апісанага вышэй выпадку зь ягонай працай пра «Энэіду навыварат», зусім закінуў літаратуру, сусяродзіўшыся вылучна на мове. Але яшчэ зырчэйшы выпадак самога заснавальніка школы літаратураведаў Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, праф. Еўлахава. Ужо пры першых адзнаках палітычнага ціску на літаратураведу ён, не пакідаючы свае катэдры, адначасна падаецца звычайным студэнтам на мэдычны факультэт таго-ж Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту, а па сканчэньні яго ў 1925 г. перабіраецца зь Менску ў Баку, заняўшы тамака ў Азэрбайджанскім Дзяржаўным Унівэрсытэце ўжо катэдру псыхіятрыі, а не літаратураведы. Што, праўда спрабаваў ён яшчэ займацца й літаратураю, але ўжо адно з гледзішча біялёгіі:[28] «калі ня эстэтыка й псыхалёгія, дык біялёгія, абы не сацыялёгія» — гіранізавала пасьля з гэтага поваду савецкая «Літаратурная Энцыкляпэдыя».[29] Гэтак найбольш сумленныя літаратураведы, ня здольныя ні да фальсыфікатарства, ні да «перабудовы» спрабавалі знайсьці сабе іншую галіну навукі, што здавалася ім (вельмі наіўна, як гэта неўзабаве выявілася) больш, ато й зусім забясьпечанай ад «марксызацыі», «сацыялягізацыі» й наагул палітызацыі.

Спаміж гэткіх найбольш сумленных навучоных былі аднак і менш наважныя, што пачалі асьцеражней спрабаваць выхад ня поўнай, а толькі частковай «перакваліфікацыі», ня выходзячы за межы свае галіны літаратураведы, а толькі стараючыся ў ёй знайсьці больш палітычна нэўтральныя, як здавалася ім (таксама наіўна), дзялянкі, што маглі-б стацца ў прыгодзе як свайго роду «запасныя пазыцыі», адыходам на якія можна было-б ратавацца ды там адседжвацца. Да гэткіх належаў, прыкладам, успомнены вышэй праф. І. Замоцін, разам з праф. Еўлахавам залучаны ў Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт з прафэсуры былога Варшаўскага ўнівэрсытэтту. Гісторык расейскай літаратуры ў сваёй асноўнай спэцыяльнасьці, праф. Замоцін, як і іншыя ягоныя калегі, пачаў займацца й літаратурай беларускай,[30] мэтадалягічна-ж ня толькі ня быў антаганістым мэтадаў сацыялягічных і публіцыстычных, як праф. Еўлахаў, а наадварот, быў да іх

---

[27] М. Пятуховіч. Франьцішак Багушэвіч як ідэолёг беларускага адраджэньня й як мастак. *Працы Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту*, Менск, 1926 г., № 6-7, б. 24.

[28] Гл. ягонае – Психология творчества как биологическая проблема. *Журнал теоретической и практической медицины*. Азербайджанский Государственный Университет. Баку, 1925 г., том I, кн. III-IV.

[29] *Литературная Энциклопедия*. Изд. Коммунистической Академии, Москва-Ленинград, 1930 г., том IV, б. 13.

[30] Гл., прыкл., ягоныя — Пуціны беларускае літаратуры (Якуб Колас — «Новая Зямля»), *Полымя*, 1924 г., № 1 (9); Паэма Якуба Коласа «Сымон Музыка» як аўтахарактарыстыка, *Полымя*, 1926 г., № 8.

вельмі блізкім. Тым ня менш, пад сярэдзіну дваццатых год ён выразна бярэ кірунак на працу вузка-тэксталягічную, якой раней ніколі не займаўся. Узначаліўшы Літаратурную камісію Аддзелу мовы й літаратуры Інстытуту Беларускае Культуры, ён аддаецца хоць і не цалком, але бадай пераважна рыхтаваньню да акадэмічнага выданьня твораў Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна, Цёткі, «Сялянкі» В. Дуніна-Марцінкевіча й інш.[31]

У гэткіх абставінах адбылася ведамая ў Менску Акадэмічная канфэрэнцыя 14-21 лістапада 1926 г., якая, хоць афіцыйна й была прысьвечаная справе рэформы беларускага правапісу й азбукі, ладны час свае працы аддала «агляду беларускае літаратуры», як гэта было сфармулявана ў ейным парадку працы.[32] Агляд гэты можа даць найбольш уяўленьня аб тых «подступах да стварэньня» навуковае гісторыі беларускае літаратуры, пра якія У. Дзяржынскі налета, у 1927 г., зазначыў, што іх «амаль што няма». Таму даводзіцца на гэтым аглядзе спыніцца больш падрабязна.

«Агляд беларускае літаратуры» на Акадэмічнай канфэрэнцыі пачаўся дакладам праф. М. Пятуховіча — «Асноўныя этапы разьвіцьця новай беларускай літаратуры». Ужо ў самым загалоўку зварачае на сябе ўвагу абмежаньне разгляду да аднае толькі новае беларускае літаратуры — навочнае сьветчаньне тае фактычнае дыскрымінацыі старадаўнае пары гэтае літаратуры дзеля «нясугучнасьці» яе з «рэвалюцыйнай сучаснасьцяй», пра што казалася вышэй і што на той мамэнт сталася ўжо агульна прынятым. У цэлым аглядзе праф. Пятуховіча пара гэная згадваецца ўсяго аднэй фразаю — праўда, яшчэ не нэгатыўна-ганьбавальнага, як гэта сталася прынятым пасьля, а нат высака-пазытыўнага зьместу.[33] У дакладзе-ж С. Некрашэвіча на тэй-жа канфэрэнцыі пра сучасны стан вывучэньня беларускае мовы сьціпла канстатавалася, што «трохі горш стаіць у нас справа з вывучэньнем нашай стражытнай літаратуры», прычым з названых усяго толькі чатырох пазыцыяў-твораў з апошняга вывучэньня аніводная не належала аўтару з Савецкае Беларусі.[34]

Праф. Пятуховіч у сваім дакладзе ставіў сабе задачу «даць агульную характарыстыку літаратурнага працэсу на Беларусі»,[35] паясьняючы, што

> Гісторыя беларускае літаратуры — дысцыпліна маладая, яна пачала сыстэматычна разьвівацца толькі з утварэньнем Інстытуту Беларускае Культуры й Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту. На маю долю выпала высокая, але адначасна цяжкая й адказная задача пабудовы першага ўнівэрсытэцкага курсу гісторыі беларускае літаратуры. Я й хацеў-бы пазнаёміць высакапаважаную канфэрэнцыю з агульнай схэмай і асноўнымі падставамі пабудовы гэтага курсу.[36]

---

[31] Гл. *Працы Акадэмічнае Канфэрэнцыі 14-21 лістапада 1926 г.* Інстытут Беларускае Культуры. Менск, 1927 г., б. 68.
[32] Тамсама, б. б. 311-387.
[33] «Наша пісьменства ў прошлым, у XVI в., якое мела такіх выдатных прадстаўнікоў, як Франьцішак Скарына, Васіль Цяпінскі, Сымон Будны й інш., цяпер, у пачатку XIX в., уяўляе зь сябе амаль што чысты аркуш» — тамсама, б. 314.
[34] Тамсама, б. 69.
[35] Тамсама, б. 311.
[36] Тамсама-ж.

Гісторыя наагул ніколі не запярэчыць таго факту, які тут з гордасьцяй адзначае на сваім коньце сам праф. Пятуховіч — факту «пабудовы першага ўнівэрсытэцкага курсу гісторыі беларускае літаратуры», што адказала доля якраз яму. Інося, наколькі аказаўся гэты ўнівэрсытэцкі курс навуковым, наколькі можна вызнаць яго за нейкі «подступ да стварэньня» навуковае гісторыі беларускае літаратуры па дадатным баку таго «амаль што няма» ў вызначэньні Дзяржынскага. Даклад праф. Пятуховіча на Акадэмічнай канфэрэнцыі пры ўсёй сваёй агульнасьці й абегласьці дае досыць матар'ялу для першага высьветленьня гэтага пытаньня. Перш як што ён засьветчвае выразную наяўнасьць у прафэсара таго «імкненьня да навуковага асэнсаваньня», якое прызнаецца яму цяпер ужо й савецкімі дасьледнікамі, што пачалі адкопваць пакрысе й гэтую бязьвінную «ахвяру культу асобы».[37] Тут-жа аднак і ня менш выразна вырысоўваецца, як імкненьне тое ўсьцяж разьбіваецца, найперш аб той навал мусовае «сацыялягізацыі», што ўсё больш прыдушваў літаратураведу ў гэным часе.

Праф. Пятуховіч пачынае свой даклад ад найпершага й найгрунтаўнейшага для навуковае пабудовы гісторыі літаратуры пытаньня пэрыядызацыі. Тутака ён зусім у курсе тых падыходаў да гэтага пытаньня, што былі ў навуцы ягонага часу, і каротка рэфэруючы іх, выказвае й свае сьціслыя крытычныя меркаваньні пра паасобныя з гэтых падыходаў. Так, пра «зьмешаны тып пэрыядызацыі», пры якім «у васнову падзелу кладуцца розныя факты і гістарычна-культурнага і фармальна-мастацкага парадку», ён зазначае з поўнай рацыяй, што «паколькі пры дадзенай сыстэме адсутнічае адзінае fundamentum divisionis, яна супярэчыць элемэнтарным патрабаваньням лёгікі й асабліва ўвагі не заслугоўвае».[38] Гэтым фактычна, хоць і маўкліва, адкідаецца тая пэрыядызацыя, што была датуль у гісторыі беларускае літаратуры, найдэтальней распрацаваная ў Максіма Гарэцкага, такія бо рубрыкі ейныя, як «царкоўнаславяншчына», «залатая пара», «несьвядомае адраджэньне», «народніцкая пара», «нашаніўская пара», й інш., якраз зраджаюць той грэх супраць «адзінага fundamentum divisionis» ды «элемэнтарных патрабаваньняў лёгікі».

Далей праф. Пятуховіч таксама адкідае «аналістычную, або храналягічную» сыстэму пэрыядызацыі дзеля «поўнай умоўнасьці падзелу» ў ёй ды ставіцца вельмі крытычна да таго прынцыпу пэрыядызацыі, які ён завець «гэтэрагенным» і які прыпісвае, між іншых, якраз такім пачынальнікам і «стаўпом» (асабліва на той час) «марксыстаўскае літаратураведы», як Коган і Фрычэ, што іх, як згадвалася ў сваім месцы вышэй, так зьнішчальна крытыкаваў ягоны настаўнік, праф. Еўлахаў; прынцып гэты, паводля праф. Пятуховіча, «выклікае супярэчаньні», паколькі ім «не абхапляюцца спэцыфічныя адзнакі літаратуры як мастацкае творчасьці».[39] Затым прафэсар з найбольшай грунтоўнасьцяй ды выразнай прыхільнасьцяй спыняецца на прынцыпе, названым ім «аўтагенным», падчыркваючы, што

---

[37] Гл. рэцэньзію д-ра філялягічных навукаў М. Ларчанкі на кніжку М. А. Лазарука й інш. «Янка Купала. Сэмінарый» у газэце «Літаратура і Мастацтва», № 1 (1846) ад 3 студзеня 1964 г., б. 3 («Мала толькі цытаваць», пад рубрыкай «Сярод кніг»).

[38] *Працы Акадэмічнае Канфэрэнцыі*, б. 311.

[39] Тамсама, б. 312.

ён найбольш пашыраны ў заходня-эўрапейскай навуцы; тут ён прыводзіць і ўзор пэрыядызацыі паводля гэтага прынцыпу з тады якраз сьвежай працы Робэрта Рымана пра XIX век нямецкае літаратуры, дзе ўстанаўляюцца такія рубрыкі, як рамантыка, пэсымізм, палітычная паэзія, клясыцызм і рэалізм, натуралізм і імпрэсіянізм.[40]

І зьнячэўку ды зьнеспадзеўку, як-бы схамянуўшыся, прафэсар пачынае ўсхваляць прынцып сацыялягічны, як нейкі прынцып прынцыпаў, зь якім хіба можна злучыць (ці мо, лепш, пад яго падлучыць) іншы які, ды зараз-жа даець і сваю пэрыядызацыю новае беларускае літаратуры паводля гэтага найвышэйшага прынцыпу, устанаўляючы для яе:

1) Пэрыяд прыгоннае гаспадаркі, які храналягічна ў вагульных рысах супадае зь першай паловай XIX стагодзьдзя;
2) Пэрыяд ліквідацыі прыгоннай гаспадаркі, які падае, прыблізна, на другую палову зазначанага сталецьця;
3) Пэрыяд рэвалюцыі 1905—06 г. г.;
4) Сучаснае пісьменства, якое пераважна разьвіваецца пад знакам Чырвонага Кастрычніка.

У сярэдзіне-ж гэтых пэрыядаў устанаўляюцца падразьдзельныя рубрыкі, ужо ў згодзе з гэным, выразна любым прафэсару «аўтагенным» прынцыпам, як, прыкладам, у першым пэрыядзе «водгукі клясыцызму», да якіх залічаюцца паэмы «Энэіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», сантымэнталізм, пад які падводзіцца В. Дунін-Марцінкевіч — абедзьве гэтыя пазыцыі надоўга перажылі свайго аўтара ў пасьлейшых савецкіх гістарычна-літаратурных схэмах (а храналягічнае межаваньне самых пэрыядаў, дарэчы, жывець у некаторых зь іх аж дасюль, хоць «сацыялягічныя» агалоўкі-«шапкі» іх ужо й пазаменьваныя на таксама храналягічныя, як «Першая палова XIX ст.», «Другая палова XIX ст.», «Пачатак XX ст.).[41]

Пілнуючыся ўсіх гэтых сваіх рубрыкаў, праф. Пятуховіч ня даў аднак у іх задакляраванае ім на самым пачатку «характарыстыкі літаратурнага працэсу на Беларусі», а калі й спыняўся на якіх працэсах, дык толькі хіба на сацыяльна-эканамічных, прывязвачы да іх паасобныя літаратурныя факты, але не як факты таго «літаратурнага працэсу», а як толькі ідэялягічныя адлюстроўкі гэных іншых працэсаў ізь сяды-тады, ды далёка не заўсёды адзначанымі «фармальна-мастацкімі», г. зн. фактычна літаратурнымі асаблівасьцямі. Сацыялёгія й ідэялёгія, а не сама літаратура й мастацтва апынііся ў цэнтры прафэсаравае ўвагі. Між іншага, цікава, што праф. Пятуховіч тут адным зь першых (а ў тарнаваньні да літаратуры хіба й найпершым) пачаў ужываць тэрмін «нацыянал-дэмакратызм», хоць і не надаючы яму яшчэ таго злавеснага крымінальнага зьместу, што ён набыў за пару год па тым, яшчэ за колькі гадкоў бумэрангава, казаў той, прыстаўшы й да самога прафэсара, «аформіўшы» й ягоную «ліквідацыю» як навукоўца, як грамадзяніна, а мо й як фізычнае асобы . . .[42]

---

[40] Тамсама-ж.

[41] Гл., прыкл., Інстытут Літаратуры й Мастацтва Акадэміі Навук БССР. *Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры.* Дапаможнік для студэнтаў ВНУ. Рэдакцыйная калегія: Барысенка В. В., Броўка П. У., Лынькоў М. Ц. Дзяржаўнае Вучэбна-пэдагагічнае Выдавецтва Міністэрства Асьветы БССР. Менск, 1956.

[42] *Працы Акадэмічнае Канфэрэнцыі,* б. 321.

Палажэньні праф. Пятуховіча не знайшлі запярэчаньня і ў двух наступных дакладах на канфэрэнцыі — самога запачаткавальніка гісторыі беларускае літаратуры Максіма Гарэцкага, які проста нат заявіў, што яму «застаецца толькі ў пэўнай меры дэталізаваць агляд нашае літартуры», зроблены праф. Пятуховічам,[43] ды замежнага гасьця, польскага славістага праф. Ю. Галомбэка, якому вельмі спадабаліся Пятуховічавы вызначэньні рамантызму й асабліва сантымэнталізму ў беларускай літаратуры XIX в.[44] Найбольшым апанэнтам праф. Пятоховічу выступіў у спрэчках Ул. Чаржынскі (носьбіт празрыстага псэўдоніму «Ул. Дзяржынскі» ў друку), зьвінаваціўшы прафэсараў даклад у схэматычнасьці.

> Мы ведаем, — казаў ён , — што ў літаратурнай навуцы йснуе надзвычайная тэндэнцыя да схэматызацыі. Ёсьць старыя літаратурныя схэмы, шаблёны, табліцы, да якіх ёсьць нахіл падганяць літаратурныя факты. Усім вядома, напрыклад, такая схэма: клясыцызм, сантымэнталізм, рамантызм, рэалізм і г. д. Гэтая агульная схэма, пабудаваная пераважна на літаратурным разьвіцьці заходня-эўрапейскіх літаратур, гэтая самая схэма ў праф. Пятуховіча была дакладна вытрымана й дапасавана да беларускае літаратуры.[45]

Вінавацячы праф. Пятуховіча ў тым, што ён «апэруе гэтымі няяснымі тэрмінамі» — як клясыцызм, рамантызм, сантымэнталізм, апанэнт трапна выкрыў ягонае

> жаданьне пабудаваць рамантычную школу ў беларускай літаратуры, бо як безь яе абыйсьціся! Была-ж яна ў іншых эўрапэйскіх літаратурах таго часу! Спачатку быў клясыцызм, за ім павінен быў ісьці сантымэнталізм, але ў нас ён трохі пераскочыў, пераскочыў праз рамантызм . . .

— фактычна, старое яшчэ нашаніўска-адраджэнскае жаданьне «каб і ў нас было ўсё, як у людзей», як гэта сфармуляваў калісь Сяргей Палуян.[46] Вельмі трапна былі скрытыкаваныя й паасобныя канкрэтныя мамэнты Пятуховічавае схэмы, як, асабліва, падводжаньне «Энэіды навыварат» пад «водгукі клясыцызму», што доўга трымалася й у савецкіх гістарычна-ліатаратурных схэмах, тымчасам як, паводля апанэнта,

> на «Энэіду навыварат» трэба глядзець як на першую ластаўку барацьбы рамантыкі з клясыцызмам на беларускім груньце. «Энэіда навыварат» ёсьць прадукт барацьбы рамантыкі з клясыцызмам, на яе толькі й можа быць такі погляд.[47]

Крыху асьцяражней, дзеля зусім зразумелых абставінаў, але ня менш трапна, быў заатакаваны й Пятуховічаў «сацыялягізм».

> Мне думаецца, — казаў апанэнт, — што якраз дасьледваньне гісторыі літаратуры ляжыць ня ў выяўленьні толькі сацыяльна-

[43] Тамсама, б. 325.
[44] Тамсама, б. 333-334.
[45] Тамсама, б. 362.
[46] Тамсама, б. 364.
[47] Тамсама, б. 363.

> палітычнага базысу, на якім яна разьвіваецца, бо гэта справа другой навуковай галіны, а ў выяўленьні літаратурнай паэтыкі, літаратурных прыёмаў і стыляў, якія ўтвараюцца на тэй або іншай сацыяльна-палітычнай базе, —

што, паводля апанэнта, праф. Пятуховіч у сваім дакладзе зусім «мінуў».[48] Нарэшце. таксама трапна падгледзеў апанэнт і найбольш характэрнае праф. Пятуховічу захапленьне далёкімі й штучнымі прыраўнаньнямі й аналёгіямі (прыкл., між Багушэвічам і Дантэ).[49]

Некаторыя канкрэтныя крытычныя заўветы да дакладу праф. Пятуховіча былі і ў выступленьнях іншых на канфэрэнцыі — У. Дубоўкі, Я. Пушчы, З. Жылуновіча.[50] Агульна-крытычнае становішча да самога ягонага падыходу занялі ў сваіх выступленьнях прафэсары Вазьнясенскі й Замоцін. Першы выступіў на канфэрэнцыі з дакладам «Паэтычнае мастацтва навейшае беларускае літаратуры», адразу-ж заявіўшы, што

> навука аб літаратуры ня выканала тэй навуковай, канкрэтнай задачы, якую яна сабе ставіла. У сучасны момант усё больш і больш аказваецца ўсьвядомленай тая думка, што пабудаваць гісторыю літаратуры не ўдалося,

і таму ўся ўвага мусіць быць сьціраваная «на вывучэньне самога твору»;[51] самы даклад свой ён і прысьвяціў вынікам прыведзенага ім вывучэньня творчасьці Максіма Багдановіча, Янкі Купалы й Якуба Коласа.

Праф. Замоцін меў апошняе заключнае слова ў цэлай дыскусіі над усімі дакладамі. Яшчэ больш асьцярожны, як Чаржынскі-Дзяржынскі ў дачыненьні да «сацыялягічнага мэтаду», засьцярогшыся яшчэ й тым, што сам ён, дзей, «у сваіх навуковых працах карыстаецца гэтым мэтадам», праф. Замоцін фактычна далучыўся тут да таго галоўнага апанэнта праф. Пятуховіча, выдаючы гэткі прысуд прадэманстраванаму на канфэрэнцыі ўжываньню гэтага мэтаду:

---

[48] Тамсама, б. 362.

[49] Тамсама, б. 366. Між іншага, апошні мамэнт быў спарадыяваны Зьмітраком Бядулем у ваповесьці «Салавей», дзе праф. Пятуховіч выведзены ў васобе ксяндза Курачковіча, а ягоны апанэнт Чаржынскі-Дзяржынскі — у васобе «аднаго маладога клерыка» (гл. разьдзел IX аповесьці ў першым друкаваным тэксьце, у «Узвышшы», 1927 г., № 3, б. б. 45-46; асоба Курачковіча зьяўляецца ўжо ў папярэднім разьдзеле VIII, б. б. 42-43). Зь Бядулевае лёгкае рукі праф. Пятуховіч на пэўны час стаўся адным з улюбёных гэрояў літаратурных твораў тае пары. Так, у рамане «Крывічы» Міхася Зарэцкага ён выводзіцца пад блізкім да вынайдзенага Бядулем імём Кураўкевіча (гл. *Полымя*, 1931, № 2, б. б. 79-80); у паэме Уладзімера Дубоўкі «I пурпуровых ветразяў узьвівы» ён — «пятушок» у ваднэй з устаўных «казак» (гл. *Узвышша*, 1929, № 2, б. 31); нарэшце, у эпіграме Крапівы на «асэнізацыйны абоз» тагачаснае «крытыкі», пасьлей улучанай у ягоную паэму «Хвядос Чырвоны Нос», ён — Падхаповіч, які «хоча зьверыць, параўнаць, ці няма што пераняць» (гл. *Узвышша*, № 9-10, 1930, б. б. 118-119).

[50] У выступленьні апошняга вельмі важнае для гістарычна-літаратурнай пэрыядызацыі зазначэньне, што «пэрыяд нашаніўскага рэнэсансу супадае з 1910-11 г.», а «першыя творы народных пісьменьнікаў Янкі Купалы й Якуба Коласа выпалі ў пэрыяд, які адносіцца да папярэдняга таму, які ўзьняў сабой 1905 г.» (*Працы Акадэмічнае Канфэрэнцыі*, б. 369).

[51] *Працы Акадэмічнае Канфэрэнцыі*, б. 335.

Слухаючы гэтыя даклады, — сказаў праф. Замоцін, — я зразумеў, што й сацыялягічны мэтад, мэтад даволі чытэльны і, здавалася-б, зусім даступны ў сэньсе свайго ажыцьцяўленьня, прыкладваецца да беларускае літаратуры ня зусім угрунтавана, без належна падрыхтаванага навуковага апарату, без выстарчаючага аналізу ўласна літаратурнага матар'ялу...

..Я, адным словам, хачу сказаць, што сацыялягічны мэтад у поўным навуковым абхваце й такім прыкладаньні, як гэта мы наглядалі ў праслуханых дакладах, ня можа даць моцных вывадаў для вывучэньня беларускае літаратуры. Такі шырокі абхват годны, быць можа, для агульна-даступных нарысаў літаратуры або для школьных падручнікаў — і толькі.[52]

Гэтак вельмі дакладна азначыўшы тагачасны ўзровень пабудовы гісторыі беларускае літаратуры як узровень «агульна-даступных нарысаў літаратуры або школьных падручнікаў», праф. Замоцін надзвычай сьцісла й выразна сфармуляваў асноўныя выходныя пункты для тае, ягонымі словамі, «вялікае папярэдняе працы», на шляху якое толькі й мог той узровень узьняцца да навуковага:

1) неабходнасьць зьбіраньня й філялягічнага вывучэньня тэксту твораў беларускае мастацкае літаратуры,

2) неабходнасьць фармальна-мастацкага дасьледваньня твораў беларускае мастацкае літаратуры,

3) неабходнасьць манаграфічнага вывучэньня беларускай літаратуры па эпохах, кірунках і паасобных пісьменьніках, пачынаючы з старой літаратуры й народнай творчасьці.

Гэтая трохпунктовая праграма праф. Замоціна й легла ў васнову рэзалюцыі, прынятай канфэрэнцыяй, а апрацаванай абранай на ёй адмысловай камісіяй пад старшынством таго-ж праф. Замоціна, а ў складзе праф. Пятуховіча, З. Жылуновіча, У. Чаржынскага (Дзяржынскага) ды А. Бабарэкі (апошні аднак ня мог узяць удзелу ў працы камісіі й быў заступлены ў ёй У. Дубоўкам). Аднак, у рэзалюцыі гэтай пункты праф. Замоціна былі ладна разрэджаныя, галоўна засьцярогамі ў бок таго-ж «сацыялягізму», які праф. Замоцін так добра высьветчыў, а ў сваёй праграме й зусім памінуў быў. Гэтак, пункт 1) быў разьбіты на два:

а) зьбіраньне ўсіх патрэбных для асьвятленьня творчасьці паасобных беларускіх пісьменьнікаў матар'ялаў як уласна-літаратурных, гэтаксама й матар'ялаў сацыяльна-культурнага зьместу,

б) філялягічнае абсьледаваньне тэксту літаратурных твораў у мэтах навуковага выданьня іх поўнага збору па паасобных аўтарах.

Пункт 2) дазнаў найбольшае «сацыялягізацыі»:

в) паступовае й дэтальнае правядзеньне ў адносінах да матар'ялу літаратурных твораў як сацыялягічнага, гэтак і фармальна-мастацкага мэтаду, паколькі апошні зьяўляецца падсобным для пабудовы сталай сацыялягічнай схэмы гісторыі беларускай літаратуры.

А апошні пункт 3), прыведзены ў вадпаведнасьць з гэтым пунктам, наагул быў пакінуты не адрэдагаваным належна нат з чыста-вонкавага боку:

[52] Тамсама, б. 386.

г) тапаграфічнае (манаграфічнае?) вывучэньне паасобных эпох народнай творчасьці (?) як старажытнай, гэтак і новай літаратуры, яе кірунку і паасобных пісьменьнікаў на падставе філялягічнага абсьледаваньня данага літаратурнага матар'ялу й дэтальнага дапасаваньня да яго сацыялягічнага й фармальна-мастацкага мэтаду.[53]

Зрэфэраваную тутака дыскусію й асабліва рэзалюцыю Акадэмічнай Канфэрэнцыі толькі й даводзіцца хіба паставіць у тыя «амаль што» ня зробленыя на той час «подступы да стварэньня» навуковай гісторыі беларускае літаратуры. З пару-другую наступных па Акадэмічнай Канфэрэнцыі год разьвіцьцё й запраўды як-бы пайшло тымі лініямі, што былі назначаныя ў ейнай рэзалюцыі, асабліва ў першым, найбольш рэчавым і акуратным іхным сфармуляваньні праф. Замоцінам. Гэтак, найперш гэтымі гадамі разгарнулася найфундамэнтальнейшая для пабудовы гісторыі літаратуры справа зьбіраньня матар'ялаў, першым чынам самых тэкстаў літаратурных твораў (пункт 1 у праф. Замоціна, пункт а) рэзалюцыі канфэрэнцыі). Гэта якраз да тых год належыць найкаштаўнейшая для гісторыі нашае літаратуры першых трацінаў XIX в. знахадка рукапісаў Аляксандра Рыпінскага зь перапісанымі ў іх тэкстамі шмат якіх нязнаных і надзвычай важных твораў (як, прыкл., другой паэмы аўтара «Тараса на Парнасе» — «Два д'яблы», твораў Арцёма Вэрыгі-Дарэўскага, як п'еса «Адвячорак» і інш., розных нязнаных пісьменьнікаў, як Грамыка й інш.), пасьлейшая страта якіх сталася й дасюль застаецца аднэй з найцяжэйшых і неадшкадаванейшых стратаў для тае гісторыі. Тады-ж былі знойдзеныя нязнаныя датуль творы В. Дуніна-Марцінкевіча — «Травіца Брат-Сястрыца», «Быліцы», «Халімон на каранацыі», на шчасьце, пасьля не затрачаныя, хоць і прамарынаваныя, казаў той, каля дваццацёх год і апублікаваныя ўпяршыню адно ў 1945—46 г.г.[54] Тады-ж былі выцягнутыя з архіву праф. Б. Эпімах-Шыпілы, перададзенага ім Беларускай Акадэміі Навукаў, Багушэвічава «Тральлялёначка» (пасьля такжа затрачаная, і толькі нядаўна зноў знойдзеная й апублікаваная савецкімі дасьледнікамі) і «Скрыпачка» (пасьлейшая страта яе належыць да тых-жа цяжкіх і неадшкадаваных стратаў — савецкія дасьледнікі дасюль адно жалюгодна варожаць, што гэта за яна была й ці была наагул, тымчасам як праф. Пятуховіч у сваім унівэрсытэцкім курсе 1929—1930 ак. г. выкарыстоўваў і цытаваў свабодна й яе й усе кагадзе ўспамянутыя рукапісы Рыпінскага, Марцінкевіча . . .[55]).

---

[53] Тамсама, б. 390.

[54] Гл. часапіс *Беларусь,* 1945, № 11-12, б. б. 20-23; *Полымя,* 1946, № 8-9, б. б. 94-127. Пра знаход новых Марцінкевічавых твораў першым, здаецца, паведаміў і абегла разгледзеў іх праф. Замоцін у вадным з выданьняў Беларускае Акадэміі Навукаў у 1929 ці 1930 г.; нажаль, аднак, таго ягонага артыкулу ў нашых абставінах знайсьці не ўдаецца, але крытыку гэнага артыкулу й новых твораў Марцінкевічавых можна знайсьці ў вартыкуле З. Жылуновіча «Як прыгоньнік стаў народнікам», *Полымя,* 1931, № 1, б. б. 139-143, 152-155. Тады-ж, або крыху раней, быў знойдзены рукапіс п'есы Марцінкевіча „Różna miłość bywa", пра які цяпер часам успамінаецца ў савецкіх крыніцах, як пра нязнаны; рукапіс гэты ў часе гітлераўскае акупацыі апыніўся ў прыватных руках, аўтар гэтых радкоў мае зробленую ім сваяручна копію, аднак вялікае цікавасьці рэч не становіць, бо гэта ведамая Марцінкевічава «Сялянка», адно пад іншым назовам (перапісаная нейкім В. Мешэеўскім для нейкае Ядзьвігі Сабалеўскае зь ягонай вершаванай прысьвятай папольску, датаваная 4 студзенем 1860 г.).

[55] «Тральлялёначка» была апублікаваная ў час. *Полымя,* 1960, № 6, б. 173.

Усе знахадкі, як і раней знаныя матар'ялы, паддаваліся таму філялягічнаму апрацаваньню й рыхтаваньню да выданьня, якое прадзначалася тым-жа пунктам 1 праф. Замоціна, а пунктам б) рэзалюцыі канфэрэнцыі. Нажаль, натуральная й нямінучая маруднасьць гэтае працы найбольш і спрычынілася да ўспамянутых вышэй неадшкадаваных стратаў, паколькі яна зацягнула выданьне да таго няспрыяльнага для ўсяе беларушчыны мамэнту, які надыйшоў з г. зв. «змаганьнем зь беларускім нацыянал-дэмакратызмам» і пахаваў гэтак шмат і матар'ялаў і людзкіх талентаў... Усё-ж гэтым часам яшчэ пасьпела ўжыцьцёвіцца філялягічна на свой час і магчымасьці ўзорна апрацаванае й дасюль запраўды адзінае акадэмічнае выданьне твораў Максіма Багдановіча, пра рыхтаваньне якога пад кіраўніцтвам праф. Замоціна ўспаміналася вышэй у сваім месцы, але ўжо творы Алеся Гаруна якраз і не пасьпелі на час, і хоць філялягічна ўжо дарыхтаваныя да выданьня, мусілі папоўніць сабою лік тых неадшкадаваных стратаў гісторыі для нашае літаратуры.[56] Творы Цёткі хоць сяк-так і выйшлі аж у 1934 г., але ў жалюгідным з акадэмічнага гледзішча стане...[57]

---

Як добра памятаецца, праф. Пятуховіч у сваіх лекцыях характарызаваў «Скрыпачку», як «рэакцыйны паварот» да «рэлігійнасьці й каталіцкасьці», даючы адпаведныя цытаты; гэтым ён тлумачыў факт нядрукаваньня зборніка, які мог-бы «дыскрэдытаваць вобраз Багушэвіча як рэвалюцыянера», на якім залежала пачынальнікам беларускага руху. Аўтар гэтых радкоў, за часамі гітлераўскае акупацыі спаткаўшыся з праф. Вацлавам Іваноўскім, адным з галоўных дзеячоў выдавецкае супалкі «Загляне сонца і ў наша ваконца», што першымі сваймі выданьнямі выпусьціла якраз Багушэвічавы «Дудку» й «Смык», дастаў ад яго поўнае пацьверджаньне ўсяго гэтага. І «Скрыпачку» і рукапісы Рыпінскага праф. Пятуховіч заўсёды меў із сабою й нікому ў рукі не даваў; выразна вычувалася, што ён хацеў захаваць за сабой магчымасьць пяршынства ў камэнтаваньні дый у вапублікаваньні іх. Аўтару гэтых радкоў аднойчы ўдалося на перапынку між лекцыямі выпрасіць у прафэсара й мець у сваіх руках пры ім-жа рукапісы Рыпінскага на працягу каля 10-х часінаў. Гэта былі два грубыя сшытыя томікі на пажоўклай ужо, але яшчэ ня сыпкай паперы. Найбольш цікавым тады здаваўся перапісаны там «Тарас на Парнасе», паколькі ў камэнтары да яго падавалася імя аўтара — Канстантын Вераніцын — з зазначэньнем, праўда, што гэта псэўдонім, дата — 1856 г., і галоўнае — зазначалася, што паэма становіць сабою водгук на зьяўленьне ў літаратуры Тараса Шэўчэнкі, адкуль і ейны назоў; ня менш цікавыя былі й «Два д'яблы» таго-ж аўтара, але іх удалося адно перагартаць, прычым кінулася ў вочы, што адзін з «д'яблаў» мае рэплікі парасейску, а другі — папольску, уся-ж рэч пабеларуску й крышку большая за «Тараса». Яшчэ, гартаючы, успала на вока, што ў п'есу Вэрыгі-Дарэўскага ўваходзіць ведамы верш «Вясна, голад, перапала», зь якім там выступае нейкі «Магілеўскі мешчанін»... Пра рукапісы Рыпінскага мусілі-б памятаць іншыя тагачасныя студэнты праф. Пятуховіча, зь якіх у сучасным савецкім друку спатыкаюцца, прыкладам, прозьвішчы Пятра Глебкі, цяпер ужо аж акадэміка, моваведаў Кастуся Гурскага й Лявона Шакуна, бібліяграфа Ніны Ватацы (у вапошняй, як у вельмі акуратнай студэнткі сэайго часу, можа й захаваліся запісы лекцыяў праф. Пятуховіча?) Калі толькі праф. Пятуховіч увесь час захоўваў гэтыя рукапісы ў сябе, яны маглі-б трапіць пры ягоным арышце ў рукі НКВД, добра было-б, каб савецкія беларускія дасьледнікі спрамагліся як-небудзь пашукаць у гэных архівах...

[56] Першы том твораў Максіма Багдановіча выйшаў у 1927 г., другі — у 1928. Пра выданьне твораў Алеся Гаруна падрабязьней гл. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Алесь Гарун. *Матчын Дар і іншыя творы.* Пад рэдакцыяй Ант. Адамовіча й Ст. Станкевіча. Выдавецтва «Бацькаўшчына». Нью-Ёрк-Мюнхэн, 1962, б. б. 7-8.

[57] Беларуская Акадэмія Навук. *Творы Цёткі.* Менск, 1934 г. Тутака проста ў вапошнюю часіну, відаць, выкінутыя такія вершы, як «Лета», «Вера Беларуса»,

Памалу пачала разгортвацца праца і ў кірунку апошняга пункту праф. Замоціна й рэзалюцыі — у кірунку манаграфічнага вывучэньня. Старой літаратуры, пэўна-ж, тут і не магло лучыць з увагі на адзначаную вышэй дыскрымінацыю яе, але нат і зь ейнага абсягу зьявіўся невялікі, ды вычарпальны й дасюль адзіны ў сваім родзе, а ня выкарыстаны як сьлед гісторыкамі літаратуры манаграфічны нарыс З. Даўгялы пра Цыпрыяна Камуніяку, гіпатэзаванага дасьледнікам аўтара гэткіх твораў, як «Прамова Мялешкі» й «Ліст да ваяводы Абуховіча» (1927).[58] Найбольш-жа, і зусім прыродна ў дадзеных абставінах, зьявілася манаграфічных досьледаў зьяваў навейшых часоў, як, прыкладам, нарыс праф. Замоціна пра Максіма Багдановіча (1927 г.), праф. А. Барычэўскага пра «Матчын Дар» Алеся Гаруна (1928 г.), друкаваная паасобнымі часткамі ў выглядзе артыкулаў вялікая манаграфія Адама Бабарэкі пра Ўладзімера Дубоўку; сюды-ж уваходзіць і першая большая праца аўтара гэтых радкоў пра Максіма Гарэцкага, гэтак і падзагалоўленая, як «спроба манаграфіі творчасьці».[59]

Ня спыняліся таксама й спробы гістарычна-літаратурных нарысаў агульнага й абагульняльнага характару, найцікавейшымі зь якіх і дасюль застаюцца Бабарэкавы «Беларуская літаратура да X гадавіны БССР» (1928 г.) і «Ўзвышэнская паэзія» (19Р29 г.).[60] Сфармуляваць «асноўныя прынцыпы пабудовы беларускай навукі аб літаратуры», у тым ліку й гісторыі літаратуры, з гледзішча прапагаванага ім «фармальнага» мэтаду спрабаваў праф. Вазьнясенскі (1927 г.).[61] Нарэшце, у 1928 г., па цэлых двух гадох друкаваньня, выйшла ў сьвет і першая частка «Нарысаў гісторыі беларускае літаратуры» праф. Пятуховіча з характэрным падзагалоўкам: «Агляд *літаратурна-ідэялягічных* плыняў XIX і пачатку XX ст.» (падчыркнена намі. А. А.). Як можна здагадацца ўжо з гэтага падзагалоўку, станові-

---

«Мужык не зьмяніўся», «На чужой старонцы», «Восень», «Наш палетак» — з заўвагай на б. 91 відаць, што ўсе яны меліся ў выданьні быць. У ўступным артыкуле (б. б. 12-13) некаторым з гэтых рэчаў вытыкаюцца «мінорныя ноткі», «захапленьне сельскай ідыліяй у час разгулу рэакцыі» – відаць, падобныя «жахі» ўжо сталіся матывамі «нецэнзурнасьці» твораў нат для «акадэмічнага» выданьня . . .

[58] Дацэнт Зьм. Ів. Даўгяла. Зь беларускага пісьменства XVII ст. *Працы Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту ў Менску,* 1927, № 16, б. б. 169-211.

[59] І. І. Замоцін. Максім Багдановіч. Крытычна-біяграфічны нарыс. *Узвышша,* 1927, № 2, б. б. 102-156; № 3, 129-136; № 5, б. б. 147-155, перадрукавана ў томе II акадэмічнага выданьня твораў М. Багдановіча, б. б. VII-LIX.

Аўг. Барычэўскі. «Матчын Дар» Алеся Гаруна. *Узвышша,* 1928, № 2, б. б. 167-183.

Адам Бабарэка. Аб разуменьні мастацкае творчасьці й аб некаторых пытаньнях у вывучэньні беларускае літаратуры, *Узвышша,* 1927, № 5, б. б. 127-146; Творчасьць Уладзімера Дубоўкі, як форма нацыянальнай сьвядомасьці пралетарскага характару, — *Узвышша,* 1927, № 6, б. б. 146-171; Творчасьць Уладзімера Дубоўкі, – *Узвышша,* 1928, № 1, б. б. 134- 170; Аквітызм у творчасьці Ўладзімера Дубоўкі, — *Узвышша,* 1928, № 2, б. б. 111-131.

Ант. Адамовіч. Максім Гарэцкі. *Узвышша,* 1928, № 1, б. б. 117-133; № 2, б. б. 132-156; № 3, б. б. 116-121; № 4, б. б. 101-127; № 5, б. б. 130-172; № 6, б. б. 155-175.

[60] *Узвышша,* 1928, № 6, б. б. 93-103 ды 1929, № 6, б. б. 75-95.

[61] А. Н. Вазьнясенскі. Асноўныя прынцыпы пабудовы беларускае навукі аб літаратуры. *Працы Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту ў Менску,* 1927, № 16, б. б. 137-157.

шча аўтара не зьмянілася супраць таго, што было задэманстраванае ім на Акадэмічнай канфэрэнцыі — мала таго, засталося тым самым ня толькі ў вагульным, але й у дэталях, не зважаючы на гэткі паважны час «выходжаньня з друку» кніжкі. Дык і адзіная рэцэнзія на гэтую кніжку (праўда, пашыраная, у форме даволі вялікага артыкулу) — таго-ж апанэнта яшчэ з канфэрэнцыі, Ул. Дзяржынскага — адно паўтарыла ў пашыраных памерах тую-ж самую дыскусію.[62]

Згадванае ўжо «змаганьне зь беларускім нацыянал-дэмакратызмам», разгарнуўшыся на ўсю ў друку ўжо ў 1929 г., абарвала ўсё гэтае каротка-трывалае разьвіцьцё, што йшло ўжо выразна ў кірунку тых «падступаў да стварэньня» навуковае гісторыі беларускае літаратуры. Кампанія ў друку ўжо на самых сваіх пачатках зачапіла й беларускіх літаратуразнаўцаў. Першым, і яшчэ паважнейшым супраць пасьлейшых, пачаў атакаваць іх камуністы, дацэнт Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту У. Бухаркін, высьцерагаючыся нат яшчэ ўжываньня агульнага палітычнага штампу «нацыянал-дэмакратызм», а апэруючы больш «навуказгоднымі» «ізмамі», як «ідэялізм», «эклектызм» і да т. п. Выкрываючы гэткія ў «літаратуразнаўцаў з Б.Д.У.» (як быў загалоўлены адзін із сэрыі ягоных «выкрывальных» артыкулаў) — прафэсароў Вазьнясенскага, Барычэўскага, Пятуховіча, дацэнтаў Дзяржынскага, Бабарэкі ды нат аўтара гэтых радкоў, тады яшчэ ў самым пачатку ягонае літаратуразнаўчае дарогі, ён патрабаваў ад іх самага артадаксальнага марксызму.[63] Тым-жа часам пасыпаліся выпады й менш паважныя ў існасьці, але напару яшчэ цяжэйшыя дзеля адмысловага становішча тых, ад каго яны выходзілі. Гэтак, найвышэйшы партыйны аўтарытэт таго часу на Беларусі, першы сакратар ЦК КП(б)Б В. Кнорын, што й адчыніў ды ўзначаліў цэлую тую «антынацдэмаўскую» кампанію, уваднэй з сваіх прамоваў заявіў, што «беларуская літаратура бярэ свой пачатак не ад сярэднявяковага манаха Скарыны» (што, як ведама, ніколі ніякім манахам ня быў), «а ад кастрычніцкай рэвалюцыі».[64] Заява гэтая была адразу-ж успрынятая найперш як сыгнал да завяршэньня пераводу ўсяе беларускае «дакастрычніцкае» літаратуры з клясы аб'екту вывучэньня ў клясу аб'екту дыскрымінацыі, часта нат абсалютнае, як, прыкладам, у дачыненьні да старое літаратуры, да якое ўваходзіў і той «сярэднявечны манах Скарына» — на гэтай аснове курс гэтае літаратуры быў зусім зьняты з акадэмічнага пляну Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту. Дыскрымінаваная-ж адно часткава літаратура XIX—XX вв. пачала разглядацца ўсяго ў якасьці аб'екту асуджэньня як «буржуазна-нацыяналістычная», а зь ёю разам — і ўсе літаратуразнаўцы, што калі-небудзь вывучалі яе з пазытыўнага гледзішча. Усялякія фальсыфікацыі, ужытыя сваім

---

[62] У. Дзяржынскі. «Нарысы гісторыі беларускае літаратуры» праф. М. М. Пятуховіча, *Узвышша*, 1929, № 5, б. б. 67-95. Яшчэ гады два перад тым у тым самым духу супраць праф. Пятуховіча выступіў С. Замбржыцкі ў артыкуле пад вельмі трапным загалоўкам «Нацягваньне чужога халата», *Узвышша, 1927,* № 3, б. б. 181-188.

[63] У. Бухаркін. Марксызм і эклектызм. *Маладняк*, 1929, № 5-6; Літаратурныя вопыты праф. Барычэўскага, *Маладняк*, 1929, № 10; Літаратуразнаўцы з Б. Д. У. *Маладняк*, 1929, № 11-12.

[64] В. Кнорын. Аб рашаючых «дробязях» у вялікім пытаньні. *Асьвета*, 1928, № 4, б. 4.

часам з мэтаю захаваньня гэтае літаратуры ў якасьці аб'екту вывучэньня, а ня асуджэньня, безаглядна выкрываліся, хоць, з другога боку, самы спосаб фальсыфікацыі, што аказаўся, як відаць, гэтак спакусьлівым, пачаў выкарыстоўвацца ўжо ў вадваротным кірунку пашырэньня дыскрымінацыі, а не аховы ад яе. Не ратавала больш і выкарыстаньне «нязгрэшных тэкстаў» марксызму-ленінізму. Гэтак, калі дацэнт Адам Бабарэка ўваднэй з сваіх працаў спрабаваў выкарыстаць ведамую тэзу Маркса пра «працэс ператварэньня матар'яльнага ў ідэяльнае, які адбываецца ў людзкой галаве», ягоны «выкрывальнік» высокае партыйнае рангі сябры ЦК пагрубіянску абсёк яго на гэтых-жа Марксавых словах: «Што адбывалася ў галаве Бабарэкі ў той час, калі ён гэта пісаў, меркаваць цяжка, але з усяго больш-*менш ясна, што* Бабарэка стаіць за адрыў паэзіі ад сацыяльных працэсаў»,[65] і Бабарэкава праца ня была дапушчаная да друку . . . Нарэшце, перастала ратаваць і каяньне, «прызнаньне памылак» з абяцанкамі «перабудовы»: праф. Вазьнясенскі, прыкладам, як ні каяўся і ў тым, што «трымаўся ў груньце памылковага г. зв. аб'ектыўнага гледзішча», і ў тым, што «не паставіўся з належнай крытычнасьцяй да тых плыняў, што былі варожымі да марксызму (фармалізм, фрэйдызм і інш.), ня выкрываў іхнае клясавае існасьці», а быў пазбаўлены прафэсуры ды па нейкім часе арыштаваны й высланы . . .[66]

Якраз у часе гэтае пагромнае кампаніі, у сувязі з кароткатрывалым, але буйным росьцьвітам у савецкай літаратуразнаўстве ведамае школы праф. В. Перэверзева, што з часоваю ўдачаю прэтэндавала на годнасьць адзінае артадаксальна-марксыстаўскае, Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт запаланілі былі ў якасьці лектароў маладыя адэпты гэтае школы (У. Фохт, В. Саўсун, Е. Гальперына, Я. Бранштэйн), якія на некаторы, хоць і вельмі кароткі час, бадай манапалізавалі ў сваіх руках літаратураведу ў гэтым унівэрсытэце, падобна як раней зрабіла гэта школа праф. Еўлахава сваім часам. Некаторыя зь іх узялі ўдзел і ў атаках на мясцовых літаратуразнаўцаў, асабліва на праф. Вазьнясенскага. Пачалі зьяўляцца — праўда, яшчэ толькі паадзіночныя — беларускія пасьлядоўцы Перэверзева, зь якіх трэба адзначыць, як найбольш выдатнага, Фэлікса Купцэвіча, але ў нікога зь іх да гісторыі беларускае літаратуры тады яшчэ, казаў той, рукі не даходзілі,[67] дый наагул бадай адначасна з разгромам «беларускіх нацдэмаў» у Менску пачаў шпарка разгортацца й разгром «перэверзіянцаў» у Маскве; некаторыя зь іх (Фохт, Саўсун) зусім зьніклі, і ня толькі зь менскага кругагляду, іншыя пасьпешна й дасьпешна «перабудоўваліся» (Гальперына, Бранштэйн), беларускі-ж «перэверзіянец» Купцэвіч быў арыштаваны ў ліку «нацдэмаў», як і іншыя літаратуразнаўцы (Максім Гарэцкі, У. Дзяржынскі-Чаржынскі, А. Бабарэка, аўтар гэтых радкоў), і хоць тады яшчэ й быў выпушчаны, але да літаратуразнаўства больш не варочаўся, у 1933 г. быў арыштаваны йзноў ды высланы ў Сібір (у г. Мінусінск).

---

[65] О. Канакоцін. *Літаратура — зброя клясавай барацьбы*. Менск. 1931, б. б. 80-81.

[66] Гл. *Полымя*, 1931, № 4, б. б. 146-147.

[67] Найвыдатнейшыя працы Ф. Купцэвіча: Аб маністычным разуменьні творчасьці Цішкі Гартнага, *Узвышша*, 1928, № 6; Супраць эклектызму, *Узвышша*, 1929, № 3; Пра творчасьць Міхася Зарэцкага, *Узвышша*, 1929, № 8.

Рэпрэсіі — арышты, высылкі й нат расстрэлы, пачаўшы сыпацца на беларускіх літаратуразнаўцаў, як і на іншых працаўнікоў культуры, ад 1930 г., спынілі дзейнасьць адных зь іх, тэрарызавалі іншых і на год зь дзесяць зусім прыпынілі ўсялякую навуковую працу над беларускай літаратураю, ня толькі тыя толькі-толькі пачатыя «подступы да стварэньня» навуковае гісторыі яе. Пасьля кагадзе пералічаных Максіма Гарэцкага й інш., арыштаваных у 1930 і высланых у 1931 г. як «нацдэмаў», у 1933 г., апрача Купцэвіча, быў высланы заходня-беларускі літаратуравед д-р Ігнат Дварчанін, які на той час апыніўся ў Савецкай Беларусі, а таксама малады літаратуравед Сідарэнка-Пеначкін, што падаваў вялікі надзеі, але, як на тое, паспрабаваў рэдыскрымінаваць некаторыя мамэнты творчасьці Янкі Купалы. Парою «яжоўшчыны» быў «зьліквідаваны» й сам элястычны праф. Пятуховіч, дый таксама асьцярожны праф. Замоцін, што пайшоў ужо быў і раней абмінанаю сьцежкаю «перабудовы» і ў 1934 г. дайшоў быў на ёй да жалюгоднага (асабліва для такога паважнага наўчонага) «мэтаду» разгляду літаратурнае творчасьці пісьменьнікаў з гледзішча выкананьня імі партыйных дырэктываў.[68] Тады-ж быў расстраляны й Я. Браншэйн, што, здавалася, так памысна «перабудаваўся» быў зь «перэверзіянца» ў зусім артадаксальнага марксыстага ды пачаў быў падыходзіць, і ў некаторых дэталях не бяз пэўных удачаў, да праблемаў і гісторыі беларускае літаратуры; зьнік і яшчэ адзін малады літаратуравед П. Хатулёў, што таксама пачынаў падаваць надзеі. «Ліквідаваных» даўжэйшы час «прапрацоўвалі» ў друку, пасьля «ліквідавалі» й «прапрацоўнікаў»,[69] пакуль нарэшце ўсё не аціхла, і ў галіне гісторыі беларускай літаратуры аціхла аж на даўгія гады. Праўда, некаторыя практыкаваньні ў гэтай галіне часам адбываліся, але ня вышэй як на школьна-падручнікавым узроўні дый таго адцэньня, якое пасьля дастала й цяпер захоўвае нат афіцыйна характарыстыку «вульгарызатарства» (Бэндэ, Кучар).

Новыя подступы да гісторыі беларускай літаратуры, больш ці менш навуказгодныя, пачаліся ў Савецкай Беларусі пакрысе адно перад пачаткам II сусьветнай вайны, а больш разгарнуліся пасьля яе й асабліва па сьмерці Сталіна. Але гэта ўжо асобны разьдзел тэмы, і яму будзе прысьвечаны наступны артыкул зь яе.

---

[68] Гл., прыкл., ягоныя артыкулы: Творчасьць Крапівы, Творчы шлях П. Глебкі — у зборніку *Літаратура й мастацтва*, выд. Беларускае Акадэміі Навук, Менск, 1934, б. б. 7-46 ды 81-108.

[69] Бадай ці каму «пашчасьціла» больш у гэтым дачыненьні, як аўтару гэтых во радкоў: ягоны «ідэалізм», «эстэтызм» (часам яшчэ й зь дзівоснай прыкладкай «нашаніўскі»), «фармалізм» ды, пэўна-ж, «буржуазны нацыянал-дэмакратызм» расьцягла «прапрацоўвалі» ў друку ўжо па ягоным выгнаньні зь Беларусі й зь літаратурнае дзейнасьці — і ў 1931 г. (гл. С. Куніцкі, — сам «зьліквідаваны» ў 1936 г. – Крытычныя артыкулы Ант. Адамовіча як адлюстраваньне буржуазнай нацыянал-дэмакратычнай ідэялёгіі. *Полымя,* 1931, № 2, б. б. 128-147), і ў 1932 г. (гл. Я. Шарахоўскі. Гімн жыцьцю й сонцу. *Маладняк,* 1932, № 4, б. б. 67-89), спамянулі былі й у 1936 г., прыпісаўшы яму ў «вучні» якраз «ліквідаванага» тады П. Хатулёва...

# Хрышчоныя ймёны вялікалітоўскія (беларускія)

Ян Станкевіч

## А. ІМЁНЫ ДАХРЫСЬЦЯНСКІЯ

У дахрысьцянскім пэрыядзе народу вялікалітоўскага (беларускага) ня было хрышчоных імёнаў, бо ня было й хрысту. Але ймёны былі. Значэньням сваім імёны дахрысьцянскія тым розьніліся ад імёнаў пасьлейшых, хрысьцянскіх, што яны ня былі йменамі патрона. Часткавай розьніцаю было тое, што ўсі дахрысьцянскія йменамі нашых прадзедаў былі свайго вялікалітоўскага паходжаньня.

Усі тагачасныя йімёны нашы можна падзяліць на дзьве вялікія часьці. Адну часьць складалі назовы зьвяроў (Дзік, Ліс, Мядзьведзь, Воўк і інш.), птушак (Бусел, Зязюля, Ластаўка, Лебедзь, Пятух, Сакол, Верабей і інш.), статку (Бык, Казёл, Вол), расьлінаў (Хмель, Дуб, Ігруша, Клён, Краса, Краска, Кветка, Ляшчына, Рожа), рэчаў (Скарына, Дзежка й інш.).

Даючы такія й падобныя йімёны, бацькі йімёнамі выказавалі свае зычэньні ўзглядам дзецяняці, зычылі, каб сын быў дужы, як мядзьведзь, тур, вол; хітры, як ліс; адважны, як арол, сакол; цьвярды, як дуб; каб дачка была любовая, як зязюля; харошая, як ластаўка, краска, кветка; крамяная, як скарына, скарынка (а не такая, як мякіш).

З прыймом хрысьцянства, таковыя йімёны перасталі ўжывацца як імёны, але сталі мянушкамі і з часам прозьвішчамі або далі пачатак прозьвішчам (Валовіч, Бычкоўскі, Дубовік і інш.).

Другая часьць імёнаў вялікалітоўскіх дахрысьцянскага пэрыяду мела накшы выгляд. Тут зычэньні выказаваліся ня рознымі назовамі жывое прыроды або рэчаў, але накшымі словамі. Найбольш пашырыўшыся былі як імёны складаныя словы, у каторых другой часьцяй было слова «слава» (у імёнаў жаноцкіх) і «слаў» (у мужчынскіх), а часьцяй першай было слова, што паказавала, якое зычылі славы. Прыкл.: Усяслаў, Вячаслаў, Расьціслаў, Зьвіслава, Перадслава, Расьціслава.

Другой падгрупаю былі складаныя словы, у каторых другой часьцяй было слова «мер»: Казімер, Валадзімер.[1]

Меней пашырыўшыся былі як імёны словы нескладаныя, як Валадар, Ждан.

Імёнам гэтае другое часьці пашчасьціла захавацца й па прыйме хрысьцянства. Спачатку ладны час іх ужывалі побач із перанятымі йменамі хрысьцянскіх сьвятых, а пасьлей і бяз гэтых. Гэтак, прыкладам, пскоўскі князь, за каторага гаспадарстваваньня Пскоў вывальніўся ад Ноўгараду і стаў гаспадарствам незалежным у 1136 г., меў два йменьі, адно Гаўрыла — імя хрысьцянскага сьвятога, а другое сваё — Ўсевалад. Яго праваслаўная царква прызнала за сьвятога. Дзеля таго й другое імя ягонае, Усевалад, стала імям хрысьцянскага сьвятога. Падобна было зь іншымі йменамі вялікалітоўскага паходжаньня.

## Б. ХРЫШЧОНЫЯ ЙМЁНЫ

### СКУЛЬ ПРЫХОДЗІЛА ХРЫСЬЦЯНСТВА ДА ВЯЛІКАЕ ЛІТВЫ (БЕЛАРУСІ)

Першымі хрысьцянамі на Ўсходзе Эўропы былі некаторыя зь вялікалітоўскага плямені Севяран. Да Севершчыны хрысьцянская вера праточавалася із Закаўказьзя (з Грузіі) за пасярэдніцтвам северскае калёні Цьмутаракані ля Азоўскага мора. Гэтаму прыяла тое, што княства Цьмутараканскае гранічыла ля р. Кубані з грузінскай епархіяй.[2]

Прыймо-ж масавае хрысьцянскае веры, з прынукі адбылося пасьлей, у канцы X і XI стагодзьдзях, ужо зь Бізантыі пераз Кіеў, ад каторага тады залежыла бальшыня земляў вялікалітоўскіх.

Хрысьцянская вера зь Бізантыі прышла да нас у вабрадзе ўсходнім, грэцкім, адылі з моваю старабаўгарскай, бо яшчэ ў стагодзьдзю IX навучоныя Грэкі із Салуня ў Македоні, браты Кастанцін (у мністве Кірыла) а Мяход пераклалі літургічныя кнігі з мовы грэцкае на мову старабаўгарскую. У IX а ў X стагодзьдзях у гэтай-жа мове была створана цэлая рэлігійная літаратура.

З прыймом хрысьцянства вялікай хваляю паплылі да Вялікае Літвы ймёны грэцкія а таксама ўсходнія, болей-меней зьмененыя Грэкамі, асабліва гэбрэйскія. Прышлі яны, адылі, да нас не беспасярэдне з мовы грэцкае, але пасярэдніцтвам мовы старабаўгарскае і да некаторае меры зьмененыя ў ёй.

---

[1] Дыкжэ было «-мер», а ня «-мір». Расійскія-ж а ўкраінскія хормы такіх імёнаў зьмянілі спачатнае «мер» на «мір» (Володимир) пад уплывам слова «мір».

[2] Пр. Монгайт А. — Рязанская скульптура, б. 63 (Краткие сообщения Инст. Ист. матер. культуры, XVIII, 1927).

Іншым жаралом, з каторага паплылі да нас імёны чужыя, была мова лацінская і, у малой меры, іншыя мовы заходнія. Пачалося гэта адгэнуль, як Вялікаліцьвіны пачалі прыймаць хрысьцянскую веру із Заходняе Эўропы. Відавочна ўжо ў стагодзьдзю X былі ў Вялікай Літве грудкі хрысьцян заходняга абраду. У стагодзьдзю XIV за вялікага князя Гедыміна а Альгерда былі ў Ноўгарадку а Вільні рымска-каталіцкія манастыры. Калі ў канцы XIV і на пачатку XV стагодзьдзя была ахрышчана Жмуйдзь у рымска-каталіцкую веру, тады й часьць Вялікаліцьвіноў стала рымскімі каталікамі, мяняючы дагэнулешні ўсходні абрад свой, і пераходзячы з праваслаўя на каталіцтва.

Устагодзьдзю XVI, сярод вялікалітоўскае шляхты а мяшчанства, была вельмі пашырыўшыся рэформаца (кальвінізм, лютаранства а сацынянства); але ў тым-жа а наступным стагодзьдзю усі, з выняткам лічаных радзімаў, вялікалітоўскія пратэстанты сталі каталікамі-лацiньнiкамi.

Задзіночаньне з Рымам часьці праваслаўных Вялікаліцьвіноў ня ўчыніла зьмены ў дагэнулешнім іменным слоўніку вялікалітоўскім, бо вуніяты й далей ужывалі тых самых імёнаў хрысьцянскіх, што й да вуні. Але прымуснае касаваньне вуні — часткавае ад 1772 і агульнае ў 1839 г. — вельмі ўзмоцніла ў нас пашырэньне йменаў лацінскага тыпу, бо шмат якія вуніяты, баронячыся ад залічэньня іх маскоўскай адміністрацай да праваслаўных, прыкідаваліся рымскімі каталікамі і патай пераходзілі ў лацінства. Малая-ж часьць былых вуніятаў — звыш паўмілёну — перайшла на рымскае каталіцтва ў 1905 г., як быў дазволены пераход з праваслаўя на іншую веру.

Да Вялікаліцьвіноў-лацiньнiкаў прыходзілі хрысьцянскія ймёны ў хорме лацінскай. Былі гэта ймёны лацінскія й іншыя заходне-эўропскія, а таксама злацінізаваныя грэцкія (як арыґінальныя грэцкія, так і згэленізаваныя гэбрэйскія і ў малой меры іншыя ўсходнія).

Імёны, перанятыя з мовы грэцкае пераз старабаўгарскую, розьняцца ад тых-жа ймёнаў грэцкіх а згэленізаваных, перанятых пераз мову лацінскую. Розьніца наступная:

1. замест старабаўг. **і** ё лацінск. **е**: Ісус — Езус (у лаціны **ё е** із старагрэцкага даўгога **е**, бізанцкага **і**);
2. замест старабаўг. **с** ё лац. **з**: Амрос, Пратас — Амброз, Пратаз;
3. замест старабаўг. фіты, вымаўлянае як ф, ё лац. th; зь першага ё вялікалітоўскае **х** (Ходар) або **хв** (Хведар) або **п** (Апанас), з другога — **т** (Тодар, Атаназ);
4. замест старабаўг. **в** ё лац. **б**: Васіль — Базыль;
5. замест старабаўг. **к** ё лац. **ц**: Купрыян — Цыпрыян;
6. замест старабаўг. зьмякчанага сугуку перад **е** ё лац. цьвярды сугук: Венямін — Банямін (**а** з **э** з прычыны аканьня);
7. У стб. перад **е, і** былі мяккія **д, т, з, с**, з каторых у мове белар. сярэдне-язычныя dź, ć ź, ś (Цімох, Сідар, Сьцяпан); у лац. і іншых заходніх неславянскіх перад **э** сугукі **д, т, з, с** цьвярдыя, а перад **і** — сярэднія; — у вабодвых прылучаёх у блр. яны цьвярдыя (Зыдор, Юстын, Стапан із Стэпан);

 

8. Перад **а, о, у** замест баўг. **л** цьвярдога (Пёкла зь Пекла) ё лац. **ль** мяккое (Тэкля).

Хормы йменаў, паўсталыя з хормаў старабаўгарскіх, пашырыўшыся галоўна сярод Вялікаліцьвіноў праваслаўных, а хормаў, паўсталых із хормаў лацінскіх, ужываюць пераважна Вялікаліцьвіны-лаціньнікі.

Некаторыя Вялікаліцьвіны ўважаюць, што ня добра, калі йменьі грэцкія ёсьць у мове вялікалітоўскай зь дзьвюма хормамі. Адныя зычылі-б, каб засталіся ў нас толькі хормы згодныя з моваю старабаўгарскай; другія ўважаюць, што маюць быць у нас толькі хормы заходнія, значыцца згодныя з моваю лацінскай, бо мы народ заходняе цывілізацы, і ўсі навуковыя й тэхнічныя тэрміны, паколькі яны ў нас не свае, дык пераняты із Заходу ў хорме заходняй. Вось, кажуць, поэта Кастанцін Міцкевіч, сам праваслаўны, а даў сабе мянушку **Якуб** Колас. **Ё** ў нас і шмат прозьвішчаў ад імені «Якуб», як Якубеня, Якубёнак, Якубовіч, Якубоўскі. Гэта праўда, але вось, другі поэта, каталік, Альбэрт Паўловіч, дарма што не раўня К. Міцкевічу, піша ў вадным із сваіх вершаў у зборніку «Снапок» — «не пазьніся-ж **Якаў».** Я меў школьнага сябру Яковіча, каталіка зь Лідчыны, знаю й Якаўлюка з Горадна. Заходняй цывілізацы не перакажаюць гукі **і, х, хв, к, п, с, в** грэцкіх іменаў. Усялякія тэрміны, паколькі яны ў нас перанятыя, а таксама заходнія хормы чужых ґеоґрафічных назоваў у нас нормальныя, бо мы заўсёды былі із Захадам і складаем часьць Захаду. Але-ж гэтаму ані не перакажаюць старабаўгарскія хормы грэцкіх а зэленізаваных іменаў. Прыймаючы хрысьцянскую веру з моваю старабаўгарскай, сусім прыродна было прыняць старабаўгарскія хормы хрышчоных іменаў. Хормы гэтых іменаў гістарычна ўрасьлі ў наша жыцьцё, ё ня толькі старабаўгарскія хормы грэцкіх іменаў, але й прозьвішчы зь іх і ґеоґрафічныя назовы. Тое самае трэба сказаць праз хормы лацінскія грэцкіх іменаў. Аддаліўшы адну з хормаў, старабаўгарскую або лацінскую, грэцкіх іменаў, мы самы сібе перасталі-б пазнаваць. Такія прозьвішчы, як Апанасовіч, Панасовіч, Панасеня, Панасёнак, Панасюк або Васіленя, Васілёнак, Васілевіч, Васілеўскі, мы адчувалі-б як чужыя, калі-б аддалілі старабаўгарскую хорму грэцкіх іменаў. Поэты й непоэты могуць даваць сабе якія-хоця мянушкі, могуць таксама зваць іншых якой-хоця хормаю гэтых іменаў. Таксама аўтары сваіх гэрояў. Гэта прыватная справа кажнага. Робячы гэтак, яны нічагусенькі ня ўзрушаюць у мове вялікалітоўскай, бо як адныя, так і другія хормы ё складовай часьцяй нашае мовы, памеж іх ня толькі ня можа быць зялезнае заслоны, але нат лягкое запінахі. Але адна рэч свабода прыватнага ўжываньня кажнаму тае або іншае хормы грэцкіх іменаў, а сусім што іншае вылучэньне з мовы аднае зь дзьвюх хормаў грэцкіх хрышчоных іменаў, або, што тое самае, вымаганьне ўжываць адну з гэтых хормаў замест другое.

Вялікаліцьвіны ўсходняга абраду гістарычна прывыклі ў сваім рэліґійным жыцьцю да хормаў старабаўгарскіх грэцкіх хрышчоных іменаў. Таксама Вялікаліцьвіны абраду рымскага, лаціньнікі прывыклі ў сваім рэліґійным жыцьцю да хормаў лацінскіх тых- жа іменаў. Дзеля таго ў літаратуры рэліґійнай праваслаўнай а вуніяцкай маюць ужываць толькі хормаў старабаўгарскіх грэцкіх хрышчоных іменаў. А ў літаратуры рэліґійнай, прызначанай дзеля рымскіх каталікоў, маюць ужываць адно хормаў лацінскіх тых самых іменаў. Рабіць накш значыла-б сіліць іншых ужываць



 

тую або іншую хорму разгляданых імёнаў, вулучаць із агульнага ўжываньня адну з хормаў. Вынятак із гэтага мог-бы быць, як мне здаецца, адно тады, калі ўжываючыя якоесь хормы якога-колечы імені прынамся на 90 працэнтаў заступілі яе хормаю іншай.

## ХОРМЫ ЗВЫЧАЙНЫЯ, ПАМЯНШАЛЬНЫЯ, ЛЮБОСНЫЯ А ПАВЯЛІЧАЛЬНА-ПАВАЖАЛЬНЫЯ ХРЫШЧОНЫХ ІМЁНАЎ ВЯЛІКАЛІТОЎСКІХ

У мове вялікалітоўскай, як і ў іншых мовах славянскіх, а ў некаторых і неславянскіх, ёсьць у спакменьнікаў, апрача хормаў звычайных, яшчэ хормы памяншальныя й любосныя, а рэдчас і павялічальныя. Хормаю звычайнай завем спакмень звычайнае велічыні, ня выказуючы нашага пачуцьця да яго. Хормаю памяншальнай паказуем меншую меру спакменя. Хормаю любоснай зазначаем свае пачуцьці да спакменя, наймя, што ён любы, прыемны. Памяншальныя хормы могуць быць заразом і любоснымі, а любосныя могуць памяншацца. Такім парадкам маем яшчэ хормы памяншальна-любосныя і любосна-памяншальныя. Прыклады: **брат** — хорма звычайная; **браток** (Ар)[3] — хорма памяншальна-любосная. Міл жа мне, дзевачкі, ды мой родны **брахнейка**[4] (Косіч, 246); **бра́тухна** (Гсл.), **бра́ту́ля;** Не давай ты, **бра́цітка,** усяму гору гараваць (Нк.-старцы, 95); **брацейка** (Тм.), — хормы любосныя. **Брату́лька** — хорма любосна-памяншальная.

**Дзед** — хорма звычайная; **дзядок, дзедка** (Папаўся, **дзедку,** у клетку. Прык. Рапан., 46), — хормы памяншальныя. **Дзядуля,** я гатоў з табою плысьці (Крушына); Звару сала, сьпяку блін, каб мой **дзедзька** дома быў (Вял.), — хормы любосныя. Ой ты, **дзедзечка,** глянь на палічку (Косіч, 59) — хорма любосна-памяншальная.

**Рыба** — хорма звычайная; **рыбка, рыбачка** — хормы памяншальныя; Рыбу́ля — хорма любосная А мая-ж ты, **рыбулька** (Гарун) — любосна-памяншальная.

**Сястра** -- хорма звычайная. Дадушы, мая **сястрыца,** праўда! (КСЛ.) — памяншальная. Разлучылася я із сваею **сёстранькаю** (Нсл 578), **сястру́хна** (тм.), **сястру́ля,** — хормы любосныя. **Сяструлька** мая, жыва ты будзеш. (Ксл.) — любосна-памяншальная.

Шмат радзей пашырыўшыся хормы павялічальныя. Павялічальныя на -ішча (дамішча) рэдка сустракаюцца. Шмат часьцей ужываюць хормаў на -юга (па зацьвярдзелых -уга) з грэблівым адценьням: дамюга, зладзюга, ваўчуга, п'янчуга; ад гэтых творацца й хормы памяншальныя — зладзюжка, п'янчужка. Цікавыя хормы павялічальна-паважальныя, але яны яшчэ не дасьледаваны.

Калі спакменьнікі наагул, у тым ліку асобавыя, маюць менаваныя хормы, то ня могуць ня мець іх хрышчоныя ймёны, бо яны таксама спакмень-

---

[3] Скарачэньне ля імені паказуе, дзе яно запісана.
[4] У проказях падчыркнены спакменьнікі на адну з хормаў.

нікі. І яны маюць. Кажная з хормаў хрышчоных імёнаў добрая на сваім месцу. Хормаю звычайнай або поўнай імені ня выказуем ніякага пачуцьця, гэта толькі імя людзіны, падобна да агульных назоваў людзёў, жывёлы, рэчаў. Дзеля таго звычайнай хормаю імені завем звычайна людзёў выраслых, сталых, а ў дакумэнтах і ўсіх чыста. Таксама звычайнай хормаю імені завуць сьвятых. Хормаю памяншальнай імені паказуем, што людзіна яшчэ малая, зн. дзяцё, хлапец, дзяўчо. Любосная хорма выказуе любосьць, што нам хтось падабаецца, яна выказуе зычлівыя, прыязныя пачуцьці да кагось. Дзеля таго любоснай завем усіх, як малых, так і выраслых, сталых, але тады, калі ў нас да іх блізкія асабістыя дачыненьні.

Нельга тут не зьвярнуць увагі, што колькі «неабмыльных ведамцаў» у чужой ім галіне веды пашыраюць у нас ужываньне хормаў любосных замест звычайных. Зьява гэтая вельмі шкодная, бо аддаляюць хормы звычайныя хрышчоных імёнаў; ужываючы-ж замест звычайных хормаў любосных, аддаляюць і іх як любосных. Значыцца, страта падвойная. Мова-ж із нацыянальнае стаець радзімнай (сямейнай). Гэтым шкода не канчаецца. Любосныя хормы патрэбныя. Калі-ж любосных хормаў вялікалітоўскіх (беларускіх) ужываюць як звычайных, дык, замест вялікалітоўскіх хормаў любосных, пачынаюць людзі балей а балей ужываць любосных хормаў расійскіх. Калі «Пятрусь» хорма поўная, звычайная, дык любоснай ё расійскі «Пеця»; калі «Міхась» хорма звычайная, дык за любосную бяруць расійскага «Мішу», «Мішку»; калі «Алесь» «Алеся», «Марыля» хормы звычайныя, дык любоснымі ё «Саша», «Шура» «Маша», і г. д. Дык трэба з гэтай дурнотаю скончыць.

Абмыльнаму ўжываньню любосных хормаў прыяе тое, што бацькі, дый часта чужыя, завуць звычайна малыя дзеці памяншальнымі й любоснымі хормамі хрышчоных імёнаў. Тое-ж бывае памеж самых дзяцей. А калі прывыкнуць, дык завуць так ужо й выраслых, сталых і старых. Дык можа здавацца, што хорма памяншальная і асабліва любосная ё хормаю звычайнай.[5] Дзеля таго трэба навуковая помач адрозьневаць розныя хормы хрышчоных імёнаў. Патрэбны таксама вялікалітоўскі (беларускі) меньнік (слоўнік хрышчоных імёнаў).

Мававеды могуць добра скумаць, арыентавацца ў хормах імёнаў подле нарасьняў (суфіксаў).[6]

У поўных або звычайных хормах хрышчоных імёнаў нарасьняў (з гледзішча мовы вялікалітоўскае) няма.

### Нарасьні памяншальныя

А. У йменаў мужчынскіх: -ік, -ык: Паўл-ік, Гаўр-ык; -ут -а, -ют -а: Як-ут-а, Макс-ют-а, Паўл-ют-а; -ёк, -ок: Васіл-ёк, Зьмітр-ок; -ец: Іван-ец; -чык: Іван-чык; -ук, -юк: Яз-ўк, Міхал-юк; к-а: Юр-к-а, Міхал-к-а.

Б. У йменаў жаноцкіх: -к-а: Гап-к-а, Юль-к-а, Язэп-к-а, Тацян-к-а.

---

[5] З гэтае прычыны В. Ластоўскі ў сваім «Падручным расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку», пачаўшы добра разважаць праз хрышчоныя ймены, у меньніку іх чыста заблытаўся.

[6] Нарасьням або суфіксам завецца тая часьць слова, што стаіць памеж караня й канчатку, каторы ё зьмяняльнай (пры скланеньню, спражэньню) часьцяй слова. Гэтак, у імені «Ганупя» карэнь ё *ган-*, нарасьцень *-ул-*, канчатак -я.

### Нарасьні любосныя

А. У йменаў мужчынскіх: -сь, -усь: Ада-сь, Анто-сь, Але-сь, Вінц-усь; -ль, -уль, -ул-я, -юль: Ігна-ль, Вінц-уль, Ян-ул-я, Міс-юль; ьк-а: Лявон-ьк-а, Дзямідз-ьк-а.

Б. У йменаў жаноцкіх: -с-я, -ус-я, -юс-я: Ка-с-я, Але-с-я, Кар-ус-я, Такл-юс-я; -л-я, -ул-я: Анто-л-я, Ган-ул-я, Наст-ул-я.

### Нарасьні павялічальна-паважальныя

ёсьць у йменаў мужчынскіх. Нáрасьцень у іх -ш, адзін або зь пярэднім сугукам: Адаш, Багуш, Януш, Іваш.

Іншыя нарасьні павялічальна-паважальных хормаў недасьледаваны.

## МЕНЬНІК ВЯЛІКАЛІТОЎСКІ

Хормы кажнага імені падаюцца ў гэткім парадку: спачатку поўнае імя, адлі за стацьцявой рысаю хормы *памяншальныя* а *памяншальна любосныя*, тады другая рыса, за каторай ё хормы любосныя а любосна-памяншальныя, па іх трэйцяя рыса, а за ёй хормы павялічальна-паважальныя. Калі якое хормы няма ў слоўніку, дык месца яе пакінена пустым. Калі, з прычынаў фонэтычных, любосная хорма аднолькавая з хормаю памяншальнай, дык падана толькі гэтая, памяншальная (Азарка). Усі хормы, зн., як звычайныя, так і іншыя, паданы ізь зьясьненьнямі пад першай хормаю звычайнай, а на месцу, ідзе маглі-б быць подле абэцады, яны паказаны з даданьням адсылу скарачэньням **гл.** + імя, да каторага адсылаецца.

Бяз хормы звычайнае іншыя хормы ў меньніку звычайна не паданыя.

Пры колькіх хормах поўнага імені першая хорма падаецца чорным друкам, засталыя — звычайным. Стаячыя беспасярэдне адна за аднэй розныя хормы поўнага імені адлучаны коскаю; а калі другая хорма стаіць па скарачэньню жарала пярэдняе хормы, дык ад яго яна не адлучана коскаю (Грыгор. Ксл. 364. Рыгор. БГсл.). Таксамá ёсьцека з памяншальнымі а іншымі хормамі. Пры патрэбе падаецца па злучку хорма дакладнага (роднага) склону імені (Паўла -лы). Калі ў жарала, скуль узята імя, не паданы пераклад яго, дык па імені ставіцца бодка (пункт), а па ёй жарало ў скарачэньню; просьле гэтага стаіць працяжнік, а па ім пераклад (Мялет. БГсл.; МГсл. — Мелетий). Калі ў жарале ё пераклад, дык назоў жарала стаіць скарачэньням па перакладзе (Міхайла -лы — Михаил. Ксл. 365). Пры паказаньню жарала скарачэньням назову мясцовасьці, узятага зь літаратуры, адразу ў дужках падана скарачэньням літаратура (Лаўрэн. Ст (Шсл. пад «адбіваць») — Лаврентий. БГсл.). Пры колькіх жаролах яны адзьдзелены бодкаю з коскаю (Аляксандра — Александр. Ар.; Дабрсл.). Калі імя мае дзьве або больш хормаў, і толькі па апошняй стаіць пераклад, дык ён тарнуецца й да хормаў

пярэдніх (Амброз. Кушляны Аш. Амброс — Амвросий. Ксл. 363). Пры дзьвюх хормах перакладу хорма другая адзьдзелена коскаю нат тады, калі па першай хорме перакладу стаіць жарало (Асіп — Осип. Нсл. 367, Иосиф). Пераклад імёнаў (ня ўсіх) зроблены на мову расійскую, яна ж у імёнаў звычайна й старабзўгарская (царкоўна-славянская, але падаецца бяз **ъ** на канцы). Імя перакладу відаць із правапісу яго, а калі не, дык паказаная скарачэньням **р.** або **стб.**

## А. ІМЁНЫ МУЖЧЫНСКІЯ

**Абакум** — р. Аввакум. БГсл.

**Абрагам** — Авраам.

**Абрам** (адг. прозьвішча Абрамовіч). Смл. (Дабрсл. 4) — р. Аврам. БГсл.; Ар. | Абрамец, Абрамка, Абрамчык.

**Авунд** — Авундий.

**Агап** — Агапий. БГсл. | Агапка.

**Агапон.** Шсл. 270. Гапон (адг. прз. Гапановіч) — стб. Агафон. БГсл.; Ксл. | Гапук. Лсл. Гапонка. Лсл. | Гапонька.

**Агей** — стб. Аггей Ксл. 363; Бгсл. | Агейка. Ксл. 363.

**Адам.** Ідзі, Адаме, на земны край. Дабрсл. 4. | Адамка. Дабрсл. 5. | Адась, Адаська, Адасюк. Уважаю, што апошнюю хорму ад «Адам» можна вывесьці з прз. Дасюкевіч. Копцевічы Аш. | Адаш, адг. прз. Дашкевіч (з адпалым пачатным **А**). Першы чалавек Адаш. Хмара. Адашута (выводжу гэту хорму з прз. Дашута, ведамага ў Горадзеншчыне, у каторым **А** адпала).

**Адоль**, Адольпа -пы — р. Адольф. Віленшч. | Адолік. Міх. Адолька.

**Адрыян** — Адриан. БГсл.

**Азара** — Азария. | Азарка, адг. і прз. Азарка.

**Акепс** — Акепсий.

**Аксён.** — Раўнапольле Сьміл. (Шсл. пад «біржак») — Авксентий. Дабрсл.; Нсл.; Ксл. 363. Аксён выбег із сянец. Ельн. (Дабрсл.). | Аксёнка. | Аксенька.

**Алекс** — Алексий.

**Алелька,** Алесь, Алехна — гл. Аляксандра.

**Алёз.** БГсл. Алёйза. Лсл. — Алоизий.

**Алёкса.** Шсл. 270; Ксл. 363. Лёкса. Ксл. 364. Аляксей. Ар. Ляксей. БГсл.; Ксл. — р. Алексей. БГсл.; Ксл. 365. Алёксы — сьвята 17 сакавіка. Нк.-Пособ. 109. | Аляксейка, Ляксейка, Аляксюк, Аляксюта (адг. прз. Аляксютовіч), Ляксюта. || Ляксаха. Ксл. 365.

**Алізар** — Олизарий. Лсл.

**Аліп** — Алипий.

**Альбэрт** (Альбэрта?).

**Альгерд** (Альгерда?).

**Альхім.** Ст. (Шсл. 229), адг. прз. Альхімовіч.

**Альхон** — Альфонс. Луні Брсл.

**Аляксандра,** Ляксандра — р. Александр. Ар.; Дабрсл.; Раст.-Северск. 88; Ксл. 365. Аляксандра выцягнуў вялікае жэрабя. Ст. (Шсл. пад «жэрабя»). Як паехаў Аляксандра сваё войска глядзець. Дабрсл. Князь Александро. Пск. (Каринский — Язык Пскова, 68). || Алехна (адг. прз Аляхновіч і мест. Алёхнавічы). Алесь. БГсл.; Ксл. 363. Алелька. Ксл. 364.

**Аляксей,** Аляксейка, Аляксюк, Аляксюта — гл. Алёкса.

**Амброз.** Кушляны Аш. Амброс — Амвросий. Ксл. 363.

**Амілян** — Емилиан.

**Амос.** БГсл.; Ксл. 363.

**Амхілох** — Амфилохий.

**Анан** — Ананий. Ксл. 363. Анан наш чысты ахрак. Ст. (Шасл. 24).

**Ананя** — Анания.

**Анатоль** — Анатолий. БГсл. | Анатолька, Толік.

**Андрон** — Андроник (? ЯС). БГсл.

**Андрыян** (першае **н** зьявілася пад уплывам **н** апошняга або пад уплывам «Андрэй») — р. Адриан. Ксл. 363.

**Андрэй.** | Андрук. Лсл. Андрэйка. Прыехаў Андрэйка к варотам. Косіч 240. Андрэйка едзе, паненку вязець. Дабрсл. (пад «Антонька»).

**Аніс** — Анисий. | Аніска. | Анісь, Аніська. Ксл.

**Анісіпар** — Онисифор.

**Анопрый** — Ануфрий. Нсл. 363. Аддай Анопрыю. Нсл. На (сьвята сьв.) Анопрыя абачымся. Жывем пад Анопрыям (пад царквою сьв. Анопрыя). Нсл.

**Анта.** Іўе Л. Антон — Антоний. БГсл. Прыехаў Анта Чухнаўскі. Ар. | Анцік. Лсл. Антук. Лсл. | Антонька. Дабрсл. Антонька едзе, дзеўку вязець. Дабрсл. Антось. Ар.; БГсл.; Ксл. 363. Антоська.

**Антон,** Антонька, Антось, Антук, — гл. Анта.

**Анцік** — гл. Анта.

**Анціп** нашаму бацьку родны Мікола. Прык. Рапан. 244.

**Апанас.** Нсл.; Ксл. 363. За ім сьледам, як за дзедам, б'ець у бубен Апанас. Купала — Адвечная песьня. Адг. прз. Апанасовіч. Белявічы Аш. Хванас (з адпадам **А**). Прышчаўск. в. Росл. п. (Дабрсл. пад «Афанасий»). Панас. Дабрсл.; Раст.-Северск.; БГсл. У Панаса на дварэ зялёная елка. Крапіўнае (ПНЗ, 43), адг. прз. Панасёнак. Дз. Апанас, Панас, Хванас — Афанасий. | Панук. Лсл. | Панась, Панаська.

**Апель** — Аппелий.

**Аркад** — Аркадий. Лсл. | Аркадка. | Аркадзька.

**Арсен** — Арсений. Лсл. Зьвяровічы Красьн. (Дабрсл.).

**Артук** — гл. Арцём.

**Архіп.** | Архіпка.

**Арцём** — Артемий. БГсл.; Ксл. 363. Арцём Вярыга-Дарэўскі, вялікалітоўскі (беларускі) паэта XIX стг. і паўстанец 1863 г., зь Віцебшчыны. | Арцік. Лсл. Артук. Лсл. Арцёмка. | Арцісь. | Арціш. Лсл., адг. прз. Арцішэўскі.

**Арцік,** Арцісь, Арціш — гл. Арцём.

**Арэнт** — Орентий.

**Арэхва** -вы — р. Ареф.

**Асіп** — Осип. Нсл. 367, Иосиф. Ад «Асіп» ё прз. Асіповіч а (з адпалым А) Сіповіч і наз. места Асіпавічы. Язэп — Иосиф. БГсл.; Ксл. 366. | Асіпка — Осипушка. Нсл. 367. Асіпчык. Нсл. 367. Ёска. Дрыс. (Нк.-Пособ., 105);Ксл. 364. Язэпка, Язук.| Язуль.

**Астап** — Евстафий. Нсл. 9; Ксл. 363; БГсл. | Астапка. | Астась. Лсл. | Асташ. Ксл. 363.

**Аўгуст** — Август. БГсл. | Аўгустук. Лсл.

**Аўгустын** (адг. прз. Аўгустыновіч) — Августин. МГсл.

**Аўд** — Авдий.

**Аўрагам** — Авраамий.

**Аўрэль** — Аврелий. БГсл.

**Аўстрат** — Евстратий. БГсл.

**Багдан** (Гордз. акты), адг. прз. Багдановіч.

**Багуслаў.** | Багук Лсл., Божка. | Багусь. Лсл. | Багуш, адг. прз. Багуш а Багушэвіч.

**Базыль.** БГсл.; ПНЗ, Васіль, — Василий. Ксл. 363; БГсл.; ПНЗ.; Ар. | Васілёк. Ксл. 363. | Базылька. Лсл. Васілька. Ксл. 363.

**Баляслаў.** | Болька. А маршалка-

 

ваў на Сойме наш Ліцьвін, князь Болька Сьвірскі. Ст. акты. | Болесь.

**Баніхват** — Бонифатий. БГсл. | Боґька. Ксл. 363.

**Банямін** — Вениамин. БГсл.

**Барыс** -са́ -су́, **мц.** -су́, **кл.** Бары́се, **мн.** — сы́ -соў -сом -соў -са́мі -сох. БГсл.; Сьвержань Стаўп. Барысе, Барысе, сам бараніся. Прык. Рапан. 188. | Борка. Лсл. Барук. Лсл. Барыска. Ксл. 363. | Барыська.

**Баўтрамей** — Варфоломей. Лсл. | Баўтрук. Ар. | | Бутрым. БГсл.

**Божка** — гл. Багуслаў.

**Болька** — гл. Баляслаў.

**Бонька** — гл. Баніхват.

**Борка** — гл. Барыс.

**Брачыслаў,** адг. наз. места Браслаўе.

**Бэра** — Берия. Пярвей Жыда звалі Бэрай. Багушэвіч. | Бэрка. Крэва Аш.

**Вавіла.** Ксл. 363.

**Вадзім.** БГсл.

**Вайце́х,** адг. прз. Вайцяховіч і (пасярэдніцтвам наз. мсц. Вайцехава) Вайцяхоўскі. | | Вайцюль, з чаго прз. Вайцюлевіч. Шастакі ля Тургеляў Віл. п.

**Валадар.** Ксл. 363. | Валадарка.

**Валадзімер.** | Валодзік. Лсл. | Валодзька.

**Валадзіслаў** — чэск. Vladislav, з чаго пол. Władysław.

**Валента** — Валентин. БГсл. | | Валюсь. Ар.

**Валер** — Валерий. БГсл. | Валерка.

**Варлам** — Варлаам.

**Варнава,** -ы.

**Варсаноп** — Варсонофий. БГсл.

**Васілёк,** Васіль -ька — гл. Базыль.

**Вікента** -ты. БГсл. — Викентий. | Вінцік. Лсл. Вінцук. Ар. | Вінцу́ль. Л. Вінцу́сь. Ксл. 363. Вінцэсь Ар.; БГсл. Бацька Вінцэся Гужэвіча. Дудзіцкі. Бацьк. № 1-2 (437-438). Вінцэська.

Вінцэські нямашака. Тм.

**Віктар.** Ксл. 363. Вікторы. Ар. — Виктор. | Вікцік, Віктук. | Віктось. Ар. Віктусь.

**Вінцік,** Вінцук, Вінцуль, Вінцусь, Вінцэсь, Вінцэська — гл. Вікента.

**Вісон** — Вісоний.

**Віт.**

**Віталь** — Виталий. БГсл.

**Вітаўт.**

**Вося** -сі — Осия.

**Вячаслаў.** | Вячка.

**Габра**. Лсл. Габрэль. БГсл. Гаўра. Лсл. Гаўрыла, — Гавриил. БГсл. Не адзін Гаўрыла ў Полацку. Прык. Рапан. 260. | Габрык. Лсл. Гаўрык. Ксл. 363; Багацькаўка Імсь. Не ўсякаму па Якаву, каму-колечы й Гаўрык. Прык. Рапан. 44. Габрук. Ар. Гаўрук. Лсл. | Габрусь. БГсл. Гаўрусь. Лсл. Габрысь. Ксл. 363. Захварэў Габрусь. Гарун.

**Гай** — Гаий.

**Галакцён** — Галактион. БГсл.

**Галяш** — Лебедзева Мал., адг. прз. Галяшэвіч. Тм. Ільля -лі, — р. Илья. ПНЗ., 15; БГсл. Сьвята Ільлі. Ільля наробе гнільля. Прык. На Ільлю поўну печ нальлю. Прык.

**Гананя** — Генания.

**Ганнад** — Геннадий. БГсл.

**Гапон,** Гапонка, Гапонька, Гапук — гл. Агапон.

**Гарасім** — Герасім. БГсл. || Гарусь. Міх.

**Гарвас** — Гервасий.

**Гаргон** — Горгоний.

**Гарман** — р. Герман БГсл., пр. прз. Гармановіч. Гальшаны Аш. Гарусь — гл. Гарасім.

**Гаўра,** Гаўрук, Гаўрусь, Гаўрык, Гаўрыла — гл. Габра.

**Гелас** (Галас? — Я. С.) — Геласий.

**Гіляр.** Міхневічы Мал. Ларывон



 

— Илларион. БГсл. З памяткаў пскоўскіх: Ларивонович. Зб. Сынод. бібл. № 154, бб. 202, 203; Паґодзінск. Пск. лет. 186; ліст 1463—4 г. (ИРЯС, XVII, 3—4, 1912 г., б. 349). | Гілік, Гілюк. Лсл. Гілярка, Ларывонка. | Ларывонька.

**Гіпаліт** — Ипполит. БГсл. | Гіпалюк. Лсл. | Гіполюсь (Гіпалюсь. Я. С.). Лсл.

**Гірад,** Гэрад — Ирод.

**Глеб,** адг прз. Глябовіч | Глебка.

**Глікер,** Ліцэр — Гликерий, пр. Ліцэра.

**Горд** — Гордий.

**Грыгор.** Ксл. 364. Рыгор. БГсл.; Ксл.; ЗСД 68, 398, — Григорий. Ксл.; БГсл. Стаіць Рыгор памеж гор, вілямі падперты (стоўп:. Рапан. 339. | Грынь Івановіч, друкарскі майстра вялікалітоўскі XVI стг. Рыгорка.

**Гур** — Гурий.

**Гурбан** — р. Урбан.

**Гэрад** — гл. Гірад.

**Дабраслаў.**

**Дабрыла.** Гэтае імя можна вывесьці з прз. Дабрыловіч. Як і Д а б р ы н я, было гэта імя яшчэ дахрысьцянскага паходжаньня.

**Дабрыня.** Вайвода Дабрыня, брат Малушы, маці Валадзімера Сьвятаславіча, князя Кіеўскага ў X стг.

**Давід.** |Давідка. | Давідзька.

**Дамет** — Дометий.

**Дамінік.** | Домка. Лсл.

**Данат** — р. Донат. БГсл.

**Данель.** Лсл. Даніла. БГсл.; Ксл., — Даниил. Паехаў сын Даніла ды на Русь на вайну. З нар. песьні. | Данук. Лсл. | Дануль. Лсл. Данюсь. Міх. | Данюш, адг. наз. сяла Данюшава, Жойдзішнае вол. Вял.

**Дар** — р. Дарий.

**Дарох** — р. Дорофей. | Дарук. Лсл. || Дарош, адг. прз. Дарашэвіч.

**Дас** — Дасий.

**Даўмонт.**

**Даўнар.** О, гэты Даўнар, ён ніколі ня стоміцца. (Бацьк. 36-37 | 115-116). Адг. і прз. Даўнар. Даўнар-Запольскі, выдатны гісторык вялікалітоўскі.

**Дзямід** — Диомид. БГсл.; Ксл. 364. | Дзямідка. | Дзямідзька.

**Дзямян** — Демьян. Ксл. 364.

**Дзяніс** — Дионисий. БГсл.; Ксл. | Дзяніска. | Дзяніська.

**Епімах** — Епимах. Епімах-Шыпіла, прз. выдатнага дзеяча вялікалітоўскага пары «Нашае Нівы».

**Еранім** — Иероним. БГсл.

**Ерма** — ы — Ерм.

**Еўпла** — лы — р. Евпл.

**Ёна** — ны. Гордз. акты. Івона, — Иона. БГсл. «Івона» паўстала з прычыны няправільнага вымаўляньня «Иона», як Іона (із складатворным І).

**Ёў** — Иов. Гордз. акты.

**Ждан,** з чаго прз. Ждановіч. | Жданюк, яно-ж і прз. Чухны Аш.

**Засіма.**

**Захар** — Захарий. Ксл. | Захарка.

**Захара** — Захария. БГсл.

**Зіна,** Зінаіда.

**Зыгмон** — Сигизмунд. Дз. | Зыгмонка. | Зыгмонька.

**Зыдор.** Кушляны Аш. Сідар. БГсл. — Исидор.

**Зянон** — Зинон. БГсл.

**Зяноў** (адг. прз. Зяновіч. Лебедзева Мал.) — Зиновий.

**Зяслаў** — Изяслав.

**Зьвініслаў.**

**Зьмітра** — Димитрий. Ксл. 364. У Зьмітры на руках адны бародаўкі. Ст. (Шсл. 30, пад «бародаўка»). | Зьмітрок -трыка. Ксл. 364; БГсл. Зьмітрок Бядуля. Зьмітрук.

**Іван,** адг. прз. Івановіч і (пасярэдніцтвам наз. мсц. Іванова) Іва-

ноўскі. *Ян,* — стб. *Иоан.* Слухай, Іване, паночку, блага ты робіш, браточку. Гарун (в. «Іванку»). Ян ізь Пётрам ходзяць ды жыта агляда-юць. З валач. песьні. Нсл. Яны правяць ляны. Прык. Рапан. 70. | Янук — р. Ванька. Яне́ц (адг. прз. Янцэвіч), Іване́ц. Пашлі Іванца. Нсл. 233. Прышлося Іванцу к аднаму канцу. Прык. Тм. Іванчык. Скуль узяўся тый Іванчык, дзявоцкі спадманчык. Зь песьні. Войш. Янка. Нсл. 727; Малявічы Аш.; Гсл. (адг. прз. Янкоўскі) Іванка. Чуеш ты, чуеш, Іванку. Гарун. (в. «Іванку»). Яначка, Іванечка. Во то-ж табе, Яначка, увядзёнка Ганначка. Нсл. 727. Узяла коніка ды за павадочак, маладога Яначку за ручаньку. Горц. (Кот, 208). Падкуй, Іванечка, варанога каня. Імгл. (Косіч 240). Янь, адг. назоў сяла Яневічы, Мал.| Януля. Ксл. 366. Піліп Януля не азваўся. Дудзіцкі (Бацьк. І-2 (437-438). Стукаў у дзьверы Піліп Януля. Тм. № 49-50 (435-436). Іванька. Куды-ж ты гэта, Іванька? Нк.-Сбягі, 8. Пайшоў Іванька дый знайшоў. Рылавічы Нз. (ПНз., 41). Іванька коніка сядлае. Водзьвінка Імгл. (Косіч 240). Ясь. Нсл. 727. Яська, Ясенька. Нсл. Ясечка. Нсл. Ясюк. Нсл. 727. Ясюль, Ясюля. Нсл. 727. Ясюленька. — Дазволь, дазволь, Марусенька, на двор! — Не дазволю, Ясюленька. Нсл. Ясюта. Жалаваў на Ясюту. Гордз. акты, 7. Івась. Ксл. 364. | Іваш. Лсл. Івашка, адг. прз. Івашкевіч. Івашка Гарнастай быў пісарам Вялікага Княства Літоўскага.

**Ігнат** — Игнатий. БГсл. Ігнат Буйніцкі наснудзіў разьездны тэатр беларускі за «Нашае Нівы». | Ігнатка. | Ігналь, Ігнась, Ігнацька.

**Ігор.** Ар.; Іг. | Ігорка.

**Ізмайла** -ы — Измаил, Исмаил.

**Ільля** — гл. Галяш.

**Імсьціслаў** — Мстислав. БГсл.; Купала (пераклад Слова аб палку Ігоравым, у Менску, 17). Да Імсьціслаў Расьціславу Кіеў. Радзівілаўскі летапісец (Гонцов, 211). Смаленскі князь Імсьціслаў склаў умову зь Немцамі ў 1229 г. 400-лецьце бел. друку, 76.

**Іпат** — Ипатий. БГсл.

**Ісак** — Исаакий. БГсл.; Ксл. 364, Исаак. Зь Ісак ё прз. Ісакоў і (з адпалым І) Сак, Саковіч.

**Казімер** — Казимир. БГсл.; Ар. | Казюк. Ар.; Ксл. 364.

**Каліста** — Каллист. БГсл.

**Каліcтрат** — Каллистрат. БГсл.

**Кандрат** (адг. прз. Кандратовіч. Белявічы Аш.) — Кондратий. БГсл. Ксл. | Кандрук. Лсл. | Кандрась. Лсл. | Кандраш. Лсл.

**Карніла** (з чаго прз. Карніловіч) — Корнилий. БГсл.; Ксл. 364. Генэрал Бэз-Карніловіч, гісторык вялікалітоўскі XIX стг.

**Кароль** (адг. прз. Кароль, Каралевіч) — Карл. Ксл. 364; Ар. | | Карусь. Ксл. 364.

**Карпа** -пы — Карп. БГсл.; Гсл.

**Каспар,** Касьпер, адг. прз. Касьпяровіч, аўтара слоўніка Віцебшчыны.

**Карусь** — гл. Кароль.

**Кастанцін,** Касьцянцін. | Косьцік. Лсл. Касьцюк. Ксл. 364, адг. прз. Касьцюк, Касьцюкевіч. | Кастуль. Лсл. Кастусь. Ар. | Касьцюша. Ксл. 364. Касьцюшка.

**Касян** — Кассиян. БГсл.

**Кельс** — Кельсий.

**Кір.**

**Кірак** — Кириак.

**Кірыла.** БГсл.; Ксл. 364. Курыла Тм. Посадник Кюрила. Пск. зб. Сынод. бібл., б. 124, адг. і прз. Курыла, Курыловіч (апошняе ў Пятровічах Аш.). | Курылка.

**Клім.** БГсл. (адг. прз. Клімовіч) Кляймон. Міх. Клямэнта. Ксл. 364. — Климентий.|Клімук. Лсл. Клім-

 

ка, адг. прз. Клімковіч. | Клімась. Лсл. | Клімаш. Лсл., адг. (за пасярэдніцтвам наз. мсц. Клімашэва) прз. Клімашэўскі.

**Конан.**

**Копра** — Коприй.

**Косьцік** — гл. Кастанцін.

**Крыстук,** Крыстусь — гл. Крыстын.

**Крыстын** — Кристин. Лсл. | Крыстук. | Крыстусь.

**Крыштоп** — Христоф. | Крыштопка.

**Крыштапор** — Христофор. Лсл.

**Кузьма** — Косьма. Ксл. 364; БГсл.

**Купрыян** (адг. наз. мясц. Купрыянішкі, 5 км. ад Вільні), Цыпрыян, — Куприан. | Купрук. Лсл. Цупрук. Міх.; Ксл. 366. Цыпрук. Лсл.

**Курыла,** Курылка — гл. Кірыла.

**Лазар.** | Лазарка.

**Ларывон,** Ларывонка, Ларывонька — гл. Гіляр.

**Лаўра** -ры — Лавр. Косіч, 29.

**Лаўрын,** Лаўрынец — гл. Лаўрэн.

**Лаўрэн.** Ст. (Шсл. пад «адбіваць») — Лаврентий. БГсл.; Ксл. 364. Другой поўнай хормаю ё Лаўрын (**ы** зам. **э** пад уплывам такіх словаў, як «дрыжэць», «крышыць»), адг. прз. Лаўрыновіч. | Лаўрынец. Гордз. акты.

**Леў,** Лява, Ляву й г. д. (заўсёды зь **я** па **л**), Лявон. Ар.; Раст.-Северск., 157, — р. Лев. Леў Сапега, канцлер Вял. Кн. Літ. | Лявонка. Лявонка! — азвалася Мар'яна. Дудзіцкі (Бацьк. 49—50 (435—436). | Лявонька.

**Леў** — р. Левий.

**Леўк** — Левкий.

**Лёкса** — гл. Алёкса.

**Лівер** — Ливерий.

**Лімн** — Лимний.

**Ліцэр** — гл. Глікер.

**Лічарда** -ды — Ричард. БГсл.

**Логін** (з Лонгін, распадабненьням двух н). БГсл.

**Лука,** Лукаш. БГсл.; Ксл. 364, адг. прз. Лукашонак, Лукашэвіч і наз. сяла Лукашоўка, Бешанкаўскага р. Ксл. (пад «удзень»).

**Лук'ян** (адг. прз. Лук'яновіч) — Лукиан. | Лук'янец, Лук'янчык.

**Луц.** Лсл., адг. прз. Луцэвіч (прозьвішча Я. Купалы). | Луцка, адг. прз. Луцкевіч.

**Людзьвік** — Людовик.

**Ляксандра** — гл. Аляксандра.

**Ляксаха,** Ляксей -сейка, Ляксюта — гл. Алёкса.

**Мадэст** — Модест. БГсл.

**Макар** — Макарий. Ксл. 365; БГсл. На беднага Макара ўсе шышкі валяцца. Рапан. 258. | Макарка.

**Максім.** | Максімка, Максюта. Нсл.

**Максімілян** — Максимилиан. БГсл.

**Малах** — Малахия. БГсл.

**Мануйла** -лы — Мануил. БГсл.

**Мардар** — Мардарий.

**Мардон** — Мардоний.

**Марка** -кі — Марк. БГсл.; Л.; Ксл. 365; Раст.-Северск. 88. писал Марко. Пск. Параклітык 1369 г., запіс. Таўпечыцца, як Марка ў пекле. Рапан. 48.

**Маркел** — Маркелл. БГсл. Другая хорма вялікалітоўская ё М а р ц е л ь, пр. Марцэля.

**Маркіян** — Маркиан. БГсл.

**Мартук** — гл. Марцін.

**Мартыр** — Мартирий.

**Марух** — Маруф.

**Марцін** -нá. | Мартук. Лсл. Марцінка, адг. прз .Марцінкевіч. | Марцінька. | Марціш, што відаць із прз. Марцішонак. Сыч (Бацьк. № 8 (608).

**Масей** — Мойсей. Ксл. 365; БГсл. Масей Сяднёў, вялікалітоўскі паэта. А ці чуў, браток, якога каня



 

забратаў сабе Масей? Нк.-Бабы, 23 | Масюк, Масейка.

**Матод,** Махтод (паўстала скрыжаваньням Матод і Мяхвод). Ксл. 365. Мяхвед. Гордз. акты. Мяхвод. БГсл. Мяхед. Нсл., — Мефодий || Мяхведзька.

**Матус** (з лац. Mathaeus) — Матфей. Імя Матус стала й прозьвішчам Матус (Равы Гальшанск. в. Аш.), з чаго адлі Матусэвіч.

**Матэва** -вы. Стаўп.

**Маўра** -ры — р. Мавра. БГсл.

**Маўрык** — Маврикий. Лсл.

**Махтод** — гл. Матод.

**Мацей.** БГсл.; Ксл. Мацьвей. Ксл. — Матвей. | Мац, адг. прз. Мацавіч. Равы Аш. Мацка, з чаго прз. Мацкевіч. Матук. Лсл. Мацейка, Мацьвейка.

**Мерт** — Мертий.

**Мікалай.** Ксл. 365. Мікола -лы. БГсл.; Ксл. 365. Мікула (з чаго прз. Мікульскі), — Николай. | Міколка. Нсл. — р. Коля. Ой рана, рана пеўні папелі, Шчэ й раней таго Міколка ўстаў. Росуха Імгл. (Косіч, 56). Мікалайчык — Николушка. Нсл. Табе крайчык, каб быў сын Мікалайчык. Мікалайка. Нк. — Дудар, 187.

**Мікіпар** — Никифор. БГсл. | Мікіпарка -кі. Микифорка... заехал и воевода Луцкии того Микифорка арабіл (аграбіў). Пск. ліст. 1480 г. (Беляев — Рассказы из рус. ист. III. Псков, б. 44). Ивана Микифоровича. Зь лісту блр. шляхціча 1655 г. (Полымя, 1927, № 1, 188). У вабодвых прыведзеных прыкладах **м** беларускае, але **ф** захавана ц.-слав.

**Мікіта** -ты — Никита. Ксл. 365; БГсл.; Ар.; Стдуб. (Живая Старина, 1909, 184). Ведае Мікіта, каму каптан пашыты. Рапан 251. | Мітка, адг. прз. Міткевіч, Міцька, адг. прз. Міцкевіч (Мікалаўшчына Стаўп. п.) і наз. мясц. Міцькавічы. Мал. Кастанцін Міцкевіч (мянушка Якуб Колас а Тарас Гушча) — вялікі поэта вялікалітоўскі.

**Мікод** — Никодим. БГсл. Мікодым Сташэўскі. Полымя, 1931, верасень, 40 і інш. Быў жа меж фарызэяў чалавек, на імя Мікодым, князь жыдоўскі. Тат.: Ванэлі, 387, 417.

**Мікодым** — гл. Мікод.

**Мікола,** Міколка — гл. Мікалай.

**Міль** — Милий.

**Міна** -ны — Мина. БГсл. | Мінук. Лсл. Мінка, адг. назоў сяла Мінкі Смаргонск. в. Аш.

**Мірась,** Міраш, Мірук — гл. Мірон.

**Мірон.** | Мірук. Лсл. | Мірась. Лсл. | Міраш. Лсл.

**Місайла** — Мисаил. || Місюль.

**Мітка** — гл. Мікіта.

**Мітрапан** — Митрофан. БГсл.

**Міхайла** -лы — Михаил. Ксл. 365. Міхайлы Вялікія — сьвята 8 лістапада. Нк.-Пособ. 10. Адг. прм. Міхайлаўскі (Міхайлаўскае піва. Нк.-Очерки, 68), з чаго прз. Міхайлоўскі. Сымон Рак-Міхайлоўскі — выдатны дзяяч вялікалітоўскі. Міхал. БГсл., адг. пасярэдніцтвам мсц. Міхалава, прз. Міхалоўскі. Баруны Аш. Міхаль, з чаго прз. Міхалевіч. Гальшаны Аш. Вітвіцкі ажаніўся зь беларускаю дзяўчынаю зь недалёкіх Міхалёў. Акула, 226. | Міхалка. Ксл. 365. Міхалюк. Ар.; Міх. | Міхась. Ксл. 361; БГсл. Міхалька. Зьбегай, Міхалька, к дзядзіне, хай адкіне табе вогнік. Ст. (Шсл. пад «адкідаць»). Міхна, адг. прз. Міхневіч.

**Міхал,** -лка, -ль, -лька, -люк, Міхась, Міхна — гл. Міхайла.

**Міцька** — гл. Мікіта.

**Мялет.** БГсл.; МГсл. — Мелетий. || Мялеш, Мялешка.

**Мянандра** -ры — Менандр.

**Мяркур** — Меркурий.

**Мяхвед,** Мяхвод, Мяхед — гл. Матод.

**Навум** — Наум. Ксл. 365; БГсл. Другая вялікаліт. хорма Нагум.

**Назар** — Назарий. Ксл. 365; БГсл.

**Нарцыз** — Наркисс. БГсл.; Сур. (Нк.-Дудар, 179).

**Настаз** — Анастасий. БГсл. Другая хорма Настас.

**Нафанайла** — Нафанаил.

**Нектар** — Нектарий.

**Несьцер** (адг. прз. Несьцяровіч) — Нестор. БГсл.; Ксл. 365. | Несьцерка. Ксл. 365.

**Нікандра -ры** — Никандр. БНсл.

**Ніл.** Ніл Гілевіч — беларускі паэта ў БССР.

**Нямпод** — Анемподист. БГсл.

**Паіс** — Поисий. БГсл.

**Палад** — Палладий. БГсл.

**Палікар** — Поликарп.

**Палінар** — Аполлинарий. Ар. | Полька. Ар.

**Паліхрон** — Полихроний.

**Полька** — гл. Палінар.

**Памхіл** — Памфил.

**Панас,** Панась, Панаська, Панук — гл. Апанас.

**Панкрат** — Панкратий. БГсл.

**Панцялей** — Пантелеймон. БГсл.

**Пап** — Папий.

**Парамон.**

**Пархвен** (адг. назоў м. Пархвенава блізка Докшыцаў) — Парфений. БГсл. | Пархута (?). Яраслаў Пархута, вялікалітоўскі поета.

**Пархвір** — Порфирий. БГсл.

**Пархута** — гл. Пархвен.

**Парыгор** — Паригорий.

**Патап** — Патап, Патапий. Ксл. 365.

**Патрык** — Патрикий.

**Паўка** — гл. Паўла.

**Паўла -лы** — Павел. БГсл.; Ксл.; Міх. Паўла апостал выразьліва кажа. Т. Р. (Сяўбіт № 23). | Пашка, адг. прз. Пашкевіч. Паўка. Ксл. 365. Паўля. Ксл. Паўлюк. Ксл. 365; БГсл.; Ар. Паўлюта. Тросьнікі Вял. Пацька. Павел, накш званы Пацько . . . полацкі мешчанін. В. Стар. V, 1, 15 (Лсл. 769).

**Паўлін** — Павлин. БГсл.

**Паўлюк,** Паўлюта — гл. Паўла.

**Пахнут** — Пафнутий.

**Пахом** — Пахомий. БНсл.

**Пацька** — гл. Паўла.

**Пашка** — гл. Паўла.

**Петрык** — гл. Пётра.

**Пётра** -ры — Петр. БГсл.; Ксл. 365. Пётра шчупаў на поясе ў брата наган. ЗСД., 392. Пётры ня было. Тм. Сьв. Памяці Пётра Русак. Бацьк. № 45 (580). Сьвяты Пётра, Божы ключнік ты ласкавы. Нк.-Старцы, 79. | Петрык. Лсл., адг. наз. м. Петрыкаў. Пятрок -рыка. Міліца ў Пятрыка ўсё ператрэсла. Ст. (Шсл. пад «ператрэсьці»). Пятрук. Ар. | Пятрусь. Ар.; Ксл. 365.

**Пігас** — Пигасий.

Піліп — Филипп. БГсл.; Ксл. 365; Раст.-Северск., 60; Семца ля Почапа (Сержп. — Отчет, 4). Хвіліп. Пск. Хіліп. Тм. Піліп Януля не азваўся. Дудзіцкі (Бацьк. 1—2 (437—438). | Піліпка. Піліпка даражэнькі, упражы ж ты мне гэтага крывалапага. Тм.

**Піман** — Пимен. БГсл.

**Платон.** | Платонка. | Платонька.

**Помпа** -пы — Помпий.

**Понт** — Понтий.

**Пракоп** — Прокофий. БГсл.; Ксл. 365; Нсл. 523. Ці з Пракопам, ці без Пракопа ўсё роўна. Прык. Нсл.

**Прантас** — Фронтасий.

**Пранук** — гл. Пранціс.

**Пранціс.** Лсл. Пранціска, -кі, — Франц. | Пранук. БГсл.; Ксл.; Ар. | Пранцісь. | Пранціш. Лсл.

**Пратаз** — Протасий. БГсл. Другая хорма Пратас, адг. прз. Пратасэвіч, Пратасевіч.

**Прахор** — Прохор. Ксл. 365 | Прошка.

**Прокла** -лы — Прокл.

**Пятрок,** Пятрук, Пятрусь — гл. Пётра.

**Радаслаў.** || Радась. | Радаш, Радашка, адг. прз. Радашкавіч, з чаго наз. м. Радашкавічы.

**Радзівон** — Родион. БГсл.; Ксл. 365 — Иродион. | Радзюк, Родзька.

**Раман.** | Раманка. Рамук. | Рамась. Лсл. Раманька. | Рамаш. Лсл.

**Расьціслаў.** | Росьцік.

**Рахвал** — Рафаил. БГсл.; Нсл. | Рапук. Лсл. | Рапась.

**Рогвалад.**

**Родзька** — гл. Радзівон.

**Рох.**

**Рурык.**

**Рыгор,** Рыгорка — гл. Грыгор.

**Сава -вы** — Савва. БГсл. Адг. прз. Савіч. | Саўка. Ксл. 365. Галосе бедны Саўка. Колас. | Савось. Зваўся хлопчык наш Савось. Колас. Савоська. Ай, Савоська, сакол мой! Тм.

**Сават** — Савватий.

**Савель** — Савелий. Лсл.

**Савер** — Саверий.

**Савось** — гл. Сава.

**Сазон** (адг. прз. Сазановіч) — Созонт. БГсл. | Сазонка. | Сазонька. Нк.-Дудар, 189.

**Салямон** — Соломон.

**Самойла** -лы — Самуил. Лсл. Самуйла. | Самук. Лсл. | Самуль. Лсл. Самусь. БГсл.; Ксл. 365, з чаго прз. Самусёнак. Дз.

**Самсон.** БГсл. | Самсонка. | Самсонька.

**Самуйла,** Самук, Самуль, Самусь — гл. Самойла.

**Сапрон,** Супрон — Софроний. Еўлічы; Ксл. Сьпярша Супрону і Супронісе, каб не пакрыўдзіць хоць. Крушына (Зьніч, 1951, № 14-15). | Супрук. Лсл. | Супрусь. Лсл.

**Сарахвім** — Серафим. БГсл.

**Сасіпатра** -ры — Сосипатр.

**Сасон** — Сасоний. | Сасонка. | Сасонька.

**Саўка** — гл. Сава.

**Саўла** -лы — БГсл. — Саул.

**Сахоня** -ні — Софония.

**Севасьцян** — Севастиан.

**Сенька** — гл. Сымон.

**Сідар** — гл. Зыдор.

**Сіла** -лы — Сила. | Сілка. Нсл. 579. Сілюк (выводжу з прз. Сілюк. Л.). || Сілаш. БГсл.

**Сілан** — Силуан. БГсл.

**Сілівон.** | Сілівонка. Сілівончык. | Сілівонька.

**Станіслаў.** | Станка, адг. прз. Станкевіч. | Стануль, адг. прз. Стагнулевіч. Равы, Гальшанск. в. Аш. Стань, адг. прз. Станевіч. Стась, Стаська, адг. прз. Стаськевіч. Стасюк. | Станіш, адг. прз. Станішэўскі (пасярэдніцтвам наз. мсц. Станішэва).

**Стапан,** Стахван — Степан. Ксл. 366. Сьцяпан. Тм. | Стэпа (адг. прз. Стаповіч), Сьцёпа, Сьцёпка, Стахванка, Сьцяпанка. | Сьцяпанька.

**Стась,** Стаська, Стасюк — гл. Станіслаў.

**Стах** — Стахий.

**Судзіслаў.**

**Сумон,** Сумонечка, Сумонька — гл. Сымон.

**Супрон,** Супрук, Супрусь — гл. Сапрон.

**Сыльвэстра** -ры — Сильвестр. Віленшч.

**Сымон** — Семен. Ксл. 366, Симеон. БГсл., Симон. Іншыя поўныя хормы вялікалітоўскія: Сумон. НК. Шымон, хорма беспасярэдне з мовы гэбрэйскае, з чаго прз. Шыманец і (пасярэдніцтвам наз. мсц. Шымонава) Шыманоўскі. | Сымонка. | Сенька (адг. прз. Сянькевіч, Сянкевіч), Сымонька, Сумонька, Сумонечка. НК.

**Сысой** — Сисой. БГсл., адг. і прз.

Сысой. Рыгор Сысой, беларускі эмігрант у Нямеччыне.

**Сьвірыд.** БГсл., адг. і прз. Сьвірыд. Наваградак.

**Сьвятаслаў.**

**Сьпірыда** -ды. Лужышча Гальшанск. в. Аш.

**Сьцёпа** -пка, Сьцяпан -нька — гл. Стапан.

**Тадзей,** Хвадзей — Фаддей. БГсл. | Тадзейка, Хвадзейка, Тадэўка. Ар.

**Тадос.** Ст. (Шсл. 110). Хадос (адг. прз. Хадасевіч). БГсл.; Нсл. 675. Хвядос. Ксл. 366; БГсл.; Танакіна Росл. (Дабрсл.); Нсл. 677 — Феодосий. Падняўся Хвядос да самых нябёс (дым). Нсл. | Тадоска, Хадоска, Хвядоска. | Тадоська, Хадоська, Хвядоська.

**Тамаш.** БГсл.; Ар., адг. прз. Тамашэвіч. Чухны Краўск. в. Аш. Тумаш. Міх. Хама. Косіч 88; ПНЗ. 15; Смл. (Даль, LXIX). Хома. Ліст 1388 г. (Карскі II-1, 433), — Фома. Баба Еўка, дзед Тумаш паехалі на кірмаш. Віцебшч. (**у** замест **а** пад уплывам вуснавога **м**).
| Хомка. НК. — Очерки, 42; Ксл. 366. Як той Хомка няверны. ЗСД. 304. Тамашка, адг. прз. Тамашчык.

**Тарас** — Тарасий. БГсл. Тарас. | Тараска. | Тараська.

**Тарэнта** -ты — Терентий. Тарэнта пашоў у дагон за ім. Вяжышча Беш. (Ксл.) | Церах. Ксл. 366; БГсл. Помню, Церах, помню . . . Макаёнак — Каб людзі ня журыліся. | Цярэшка. Ксл. 366; Еўлічы. Радзе калгасьніку, камуністаму Цярэшку. Макаёнак — Каб людзі ня журыліся.

**Тахвіль,** Хахіл. Ивана Хахиловича. Пск. (Каринский — Яз. Пскова 72). Хахіль. При попе Иване Хахилеве. Тм. 85 — Феофил. Цьвярдое **л** побач ізь мяккім **ль** у гэтым імені паказуе, што прышло яно да нас з дваякай вымоваю **л**, хіба залежна ад месца, скуль прыходзіла, або якой — вуснай ці пісомай — дарогаю.

**Тодар,** Ходар, Хведар. Семца ля Почапа (Сержп. — Отчет 4); ПНЗ 15; БГсл.; Валожына; Ксл. 366; Ст. (Шсл. 39) — р. Феодор, Федор. БГсл. | Ходзька (адг. прз. Ходзька), Хвядук. Лсл., адг. прз. Федуковіч (з «паправаю» **хв** на **ф** подле стбаўг.), Хведарка. Ст. (Шсл. 80). Ой рад-радзенек Хведарка. Расуха Імгл. (Косіч 242).

**Трахім** — Трофим. БГсл.; Ксл. 366. Адг. прз. Трахімоўскі (пасярэдніцтвам наз. мсц. Трахімова). | Трахімка.

**Трывім** — Тривимий.

**Трыхіль** — Трихилий.

**Трыхвон,** Трыхон — Трифон. БГсл. | Трыхонка. | Трыхонька.

**Тыт,** Ціт — Тит.

**Улас** — Власий. Ксл. 363 | Уласка. Ксл. 363. | Уласька.

**Усевалад.**

**Усяслаў.**

**Хадос** і інш. — гл. Тадос.

**Халімон** — Филимон. БГсл.; Ксл. 366; Нсл. 675.

**Хама** — гл. Тамаш.

**Харлам** — Харлампий. БГсл.

**Харытон.** | Харытонка, Харытончык. | Харытонька. Ксл. 366.

**Хванас** — гл. Апанас.

**Хвядос** і іншыя — гл. Тадос.

**Хвядот** — р. Федот. Ксл. У нашага Хвядота ня клеіцца работа. Прык. Цішчанка «Беларусь») 1959, № 2).

**Хвядук** — гл. Тодар.

**Хвядул, Хвядуль** — стб. Феодул. Пр. Хвядуля.

**Хілон.** Філон Кміта-Чарнабыльскі, аршанскі вайвода XVI стг. Даўней у правапісе вялікалітоўскім ня было правіла, каб замест чужога **ф**

пісаць свае вымаўлянае **п, х** або **хв;** пісалі, як хто хацеў. Дзеля таго й Кміта-Чарнабыльскі пісаў сваё імя з цсл. **ф.**

**Хлёр** — Флор. БГсл.

**Ходар,** Ходзька — гл. Тодар.

**Хока** — р. Фока. БГсл.

**Хота** — Фотий. БГсл.

**Хрол** — Флор. Нсл. 683. Хралы — Сьвята Хрола а Лаўры. Нсл. 683. Гэта на Хралы было. Нсл. Малебен адправіў Хралом. Нсл.

**Хрумент** (Хрумента? — ЯС) — Фрументий.

**Хрыса́н** -на́ — Хрисанф. БГсл. | Хрысанка. | Хрысанька.

**Церах** — гл. Тарэнта.

**Цімох** — Тимофей. БГсл.; Еўлічы; Ксл. 366. А Цімох толькі аблізуецца, як кот. Ст. (Шсл. пад «аблізаваць»). Прм. Цімахоў -ова. Ёмкая Цімахова сякера. Ст. (Шсл. пад «сякера»). Другой поўнай хормаю ё **Цімоха.** Ксл. 366. || Цімошка. Ксл. 366. Вось багат Цімошка. Прык. Рапан. 45.

**Ціхон** — Тихон. Ксл. 366; ПНЗ. II; Еўлічы; Ар.

**Цупрук,** Цыпрук, Цыпрыян — гл. Купрыян.

**Цярэшка** — гл. Тарэнта.

**Шымон** — Сымон.

**Ювеналь** — Иувеналий.

**Юда,** -ды — Иуда. БГсл.; Ксл. 366.

**Юль** — Юлий.

**Юлян** — Иулиан. | Юлюк. | Юлясь. Ар. | Юляш.

**Юн** — Июний (пр. ж. Юня), адг. прз. Юневіч.

**Юр** -ра і (пад уплывам цсл.) Юры, — Георгий. | Юрка. БГсл.; Ар.; Ксл. 366. Не па Юрку шапка. Ар.

**Юстын** — Иустин. Ксл. 366; Ар.

**Юстынян** — Иустиниан.

**Язахват.** Ксл. 64. Ясапат — Иосафат. Семярнікі Гальшанск. в. Аш. Ясапат Кунцэвіч вялікалітоўскі вуніяцкі архібіскуп XVII стг.

**Язук,** Язуль, Язэп, Язэпка — гл. Асіп.

**Якавуля** — гл. Якаў.

**Якаў,** Якуб. | Якута — р. Яша. | Якавуля. Якавулю, Якавулю, татулька ты наш! Із жыдоўскае песьні павялікалітоўску. Вял.

**Якім** — Иоаким. Ксл. 366.

**Якін** — Иоакинф.

**Якуб,** Якута — гл. Якаў.

**Ялпід** — Елпидий.

**Ян,** Янец, Янка, Яначка, Янук, Януля, Янь — гл. Іван.

**Януар** — Януарий.

**Ярапалк. БГсл.**

**Яраслаў.**

**Ярмойла.** Лсл. Ярмола. БГсл., — Ермолай.

**Ярох.** — р. Ерофей. Растсл. ||| Ярош, адг. прз. Ярашэвіч.

**Ярэма** (адг. прз. Ярэміч і наз. м. Ярэмічы) — Иеремия.

**Ясап** — Иосаф. БГсл.

**Ясапат** — гл. Язахват.

**Ясь,** Яська, Ясенька, Ясечка, Ясюк, Ясюль, Ясюля, Ясюта — гл. Іван.

**Яўген** — Евгений. Ксл. 366. Склаў Яўген Рапановіч. Рапан. 2 | Ганюк. || Ганюш.

**Яўдокс** — Евдоксий.

**Яўкар** — Евкарий. | Яўкарка.

**Яўлам** — Евлампий.

**Яўлог** — Евлогий.

**Яўмен** — Евмений. Ксл. 366; Клятное Пух. (Шсл. 41).

**Яўпсіх** — Евпсихий.

**Яўсіх** — Евсихий.

**Яўстох** — Евстохий.

**Яўтроп** — Евтропий.

**Яўхім.** Гсл.; Пушк. р. Пск. акругі; Раст.-Северск. 60. — Евфимий. | Яхімка, Яўхута. Горадзенш.

**Яхім,** Яхімка — гл. Яўхім.

**Яц,** адг. прз. Яцэвіч. | Яцка (адг. прз. Яцкевіч), Яцута (безь Яцуты, зь Яцутаю). Гордз. акты, 6.

## Б. ЖАНОЦКІЯ ЙМЁНЫ

**Агапа.** Ксл. 363. Гапа. ПНЗ., 15. Агата. Ар.; Ксл. 363; Нсл., — Агафия. Бабка Агапа завойкала. Дудзіцкі (Бацьк. № 49-50 (435-436). Гуляй, Агата, — заўтра сьвята. Прык. Рапан., 117. | Агапка. БГсл. Гапка. Растсл.; Ксл. 363. Агатка. Ксл.; Ар. Гапачка. Да клеці, Гапачка, да клеці. Север. Сур. (Шэйн. 1-2, 500). | Гапуля. Ксл. 363. Гапулька.

**Агата, Агатка** — гл. Агапа.

**Адэля** — Аделаида. БГсл.; Ксл. 363.

**Александрына** — гл. Аляксандра.

**Алена.** — Ар.; Ксл. 363. Алёна. БГсл. Галена. Лсл. — р. Елена. | Аленка. Ар. Гэля, Гэлька. Ар.

**Алеся** — гл. Аляксандра.

**Алімпа** — Олимпия. Чатыркі Краўск. в. Аш.; Янавічы Нясьв.; Лоск. Вал. | Алімка. Ар.

**Альжбета.** Ар.; Ксл. 363; БГсл. Лізавета. БГсл. | Альжа. Калюга — Лиза.

**Аляксандра,** Александрына. Ксл. 363. || Алеся. БГсл.

**Аміля** — Эмилия. БГсл.; Ар.; Янавічы Нясьв.; Клецак. | Амілька. Ар.

**Ананя** — Анания. БГсл.

**Анеля.** Ар. | Анелька.

**Аніся** — Анисья. (Анисия. ЯС.). Ксл. 363; БГсл.

**Антаніна** — Антонина. БГсл. | Анця. Ар. | Антоля. Ар. Жыла Антоля. Гарун. — Два каханьні. Антося. Ксл. 363.

**Аршуля** — Урсула. Ксл. 363; Ар.| Аршулька. Успомню Аршульку. Гарун — Варажба.

**Арцема** — Артемия.

**Аўгуста.** | Аўгута. Лсл. | Аўгуся. Лсл.

**Аўдоця.** | Аўдотка. | Аўдоля. На старасьці лет зьдзівіла Аўдоля белы сьвет. Прык. Рапан., 81. Аўдуля БГсл.

**Аўрэля** — Аврелия. Лсл. | Рэлька. Лсл. | Аўруся. Лсл.

**Багуслава.** | Багута. Лсл. | Багуся. Лсл.

**Баляслава.**

**Барбара.** БГсл.; Ксл. 363. Варвара. | Варка. Ксл. 363; Нсл. 44. Варачка. Нсл. 44. | Варуся. Лсл.

**Брачыслава.**

**Валадзіслава** — чэск. Vladislava, пол. Władysława.

**Варвара,** Варка, Варачка — гл. Барбара.

**Вароніка** — Вероника. БГсл.

**Васіліса.** | Васюта. Маз.

**Вера.** БГсл. | Верка. Ксл. 363.

**Вікта,** Віктора БГсл., — Виктория. | Вікця. Ксл. 363. | Віктося.

**Вольга** — Ольга. БГсл.; Ксл. 363; Косіч, 21.

**Вуляна** — Ульяна.

**Вячаслава.**

**Галена** — гл. Алена.

**Галіна.** БГсл. | Галя, Галька, Галечка. Галечка прыбіралася. Росуха Імгл. (Косіч, 56).

**Ганна** — Анна. Ар.; Косіч, 19; Растсл.; БГсл. | Ганя, Ганька. Ар.; Ксл. 363. Ганка. Тм. Ганначка. Во тож табе, Яначка, увядзёнка Ганначка. Нсл. 727 (пад «Яначка»). | Ганнуля. Ксл. 363. Гануля. Гсл. — р. Аннушка. Ганулька. Успомне Ганульку. Гарун — Варажба.

**Гапа,** Гапка, Гапачка, Гапуля, Гапулька — гл. Агапа.

**Гаяня** — Гаиания.

**Глапіра** — Глафира. БГсл.

**Глікера,** Ліцэра — Гликерия. Ксл. 364.

**Грыпіна.** Ксл. 364. Рыпіна. Ксл. 365. — Агриппина.

**Гэля,** Гэлька — гл. Алена.

**Дабраслава.**
**Даміцэля.** Ксл. 364.
**Дара** — Дария. Купіск. Н.
**Дарацэля** — Дорофея (? — ЯС). БГсл.
**Дарота.** Ксл. 364.
**Домна.** БГсл. — р. Домна.

**Ева** — БГсл.; Косіч, 87. | Еўка. Ар.; БГсл.; Ксл. 364. Баба Еўка, дзед Тумаш паехалі ня кірмаш. Зь песьні. Віц. Евачка. Ар.

**Еўпрасіня,** Прасіня, Прасіньня. Ксл. 365. Прузына. Вял.; Ксл. 365; БГсл.; Дудзіцкі (Бацька, № 376-377), — Евфросиния.|Прося. БГсл.; Ксл. 365. Проська. Тм. Просечка. Растсл. Прасінка. Ксл. 365. **Проня,** Пронька, Пронечка. Ішла Пронечка круг столу. Водзьвінка Імгл. (Косіч, 239)

**Зіна,** Зінаіда — Зинаида.

**Зохва,** Сохва, Зохія, Сохвія (у **-ія** ўплыў чужы, найбольш стб., але тут у дачыненьню да сьвятых і сьвятасьцяў зь ім давядзецца лічыцца, — София. | Зося. БГсл. Ксл. 366; Ар. | Сонька.
**Зоя.**
**Зузанна.** Міх. Сусанна. Л.||Зуля Ар. Зулька.
**Зьвініслава.**
**Зянова.** БГсл. — Зиновия.
**Зяслава.**

**Імсьціслава.**
**Ірына.**

**Казімера.**
**Калера** — Калерия.
**Капітоля** — Капитолина (? — ЯС). БГсл.
**Караліна.** | Карута. БГсл. | Каруся. Ксл. 364; Ар.
**Кастанца** (?). | Косьця. | Кастуля. Лсл. Кастуся. БГсл.

**Катрына** — Екатерина. Міх. Кацярына. БГсл. | | Кася. | Катруна. Гордз. акты.
**Кляўда** — Клавдия. БГсл.; Нсл. 736.
**Крыста.** БГсл. Крыстына. БГсл.; Міх.; Ар. Хрыста. Ксл. 366 — Христина. || Крыстуся. Лсл.
**Ксеня.** Клецак Нсьв.; Вільня — Ксения.
**Куліна** — Акулина. БГсл.; Ксл. 364. | Куліта. Лсл.

**Ларыса.**
**Леваніда** — Леанида. БГсл.
**Леваніла** — Леонила. БГсл.
**Ліда** — Лидия. Ксл. 364; БГсл.
**Лізавета** — гл. Альжбета.
**Ліцэра** — гл. Глікера.
**Лукера** — Лукерья. На парозе хаты Андрэя переняла ягоная суседка Лукера. Дудзіцкі (Бацьк., № 45-46 (431-432). | Лукірка (**і** заместа **е** пад уплывам **р**). Паеду па тую Лукірку красную. Водзьвінка (Косіч, 20). Лукута. Ксл. 364.
**Любоў -ові і г. д.** (заўсёды з **о**) — Любовь. БГсл. | Любка. Ксл. 364.
**Людзьвіка.** || Людзьвіся.

**Магарэта.** Лсл. Мальгрэта. БГсл. (адно **р**, а ня два, і **ль** замест **р** — з прычыны распадабненьня двух **р** у слове). Мугарэта (**у** пад уплывам вуснавога **м**), — Маргарита. БГсл.
**Магда.** БГсл.; Ксл. 365. Магдалена. Ар., — Магдалина. | Магдзя. Лсл. | Магдуся. Лсл.
**Макрына.** Лоск Вал.
**Маланя** — Мелания. | Маланка. Гордз. акты.
**Малуша.** Малушаю ў X стг. звалася Севяранка зь Любеча, маці Валадзімера Сьвятаславіча, князя Кіеўскага.
**Мальвіна.** Ар.
**Мальгрэта** — гл. Магарыта.
**Марта.** Ксл. 365; БГсл.; Ар. Мархва. Ксл. 365, — р. Марфа. Мархва вышыла ручнік з узораў. Ст.

(Шсл., 285, пад «узор»). | Мархвачка, Мархвута, Мархвутачка. Мархвутачка, падай татухне вадзіцы. Расуха Імгл. (Косіч 239).

**Марцэля.** Ар.; Ксл. 365 — Маркелла.

**Марына.** Ксл. 365. — Марина. БГсл. | Марынка. Выхвалялася Марынка. Косіч, 250.

**Марыя.** | Марута. Ксл. | Маруся. Ксл. 365. Марыля. Тм.; Ар. — р. Маша. Марыля свайму Янку кажа. Гарун. — Два каханьні. Марыся. Ар.

**Мастрыда** — Мастридия.

**Матруна,** Матруся — гл. Мотра.

**Міхаліна.** Ар.

**Мотра.** Ксл. 365. — Мотрена. || Матруся. Лсл. | Матруна. Ксл.; БГсл. Матруна — добрая жняя. Ст. (Шсл. 94, пад «жняя»).

**Мугарэта** — гл. Магарэта.

**Надзея** — Надежда. Ксл. 365. | Надзя.

**Наста.** Ар.; Ксл. 365; БГсл. Настася. Ксл. 365, — Анастасия. Жандару ўдалося залучыць сабе ў вагенты нейкую паненку Настасю. Васілеўскі — Арцём Вярыга (Полымя, 1929, VI, 192). || Настуля. Ксл. 365. Чаму так позна, Настуля? Кулакоўскі — Дабрасельцы. Настулька — р Настасьюшка, Настенька. Нсл. 320.

**Наталя** — Наталия. Янавічы Нясьв.; БГсл. Сымон а Наталя пайшлі ў глыб лесу. Жывіца (Прыйсьце, № I). | Наталька. | Натася. Лсл. — р. Наташа.

**Няніла** — Неонила. БГсл.

**Палакта** — Полактия.

**Паліксеня** — Поликсения.

**Палінара** — Аполлинария. | Палута. Ксл. 365; БГсл. Палута Бадунова. Гомельск. пав.

**Панася** — Афанасия. Чатыркі, Краўск. в. Аш.

**Параска** — Параскева. Ксл. 365. Ідзі, Параска, калі людзі здараюцца. Прык. Л.

**Паўліна.** Ар.; БГсл.

**Пекла.** ПНЗ. 15. Пёкла. Косіч 88; Нк.-Старцы 92; Ксл. 365; БГсл. Тэкля. Ксл. 366; Ар.; Ст. (Шсл. 286); Нсл.; БГсл. Хвекла. Косіч 88. Хёкла. Пск. — Фекла. Успомне Тэклю. Гарун — Варажба. | Тэклечка. Ксл. 366. | Таклюся. Таклюся-сухотніца. Ядвігін Ш. Таклёна. Лоск. Вал.

**Перадслава.** В се время пришла бе весть от Передславы. Іпацк. Лет., выд. 1871 г., б. 94. «Предслава» — ж — хорма баўгарская.

**Праксэда.** Ксл. 365. Яўпракся. — Евпраксия. БГсл.

**Прасіня,** Прасінка — гл. Еўпрасіня.

**Проня,** Пронька, Прося, Проська — гл. Еўпрасіня.

**Прузына** — гл. Еўпрасіня.

**Пульхера** — Пульхерия. БГсл.

**Рагнеда.**

**Радаслава.**

**Разаля.** Багданава Вал.

**Раіда** — Ираида. БГсл.

**Раіна.** БГсл. — Регина. Ксл. 365; Равы Гальшанск. в. Аш.

**Раіса.** | Рая.

**Расьціслава.**

**Рожа** — р. Роза.

**Рыпіна** — гл. Грыпіна.

**Рыпсіма** — Рипсимия.

**Рэлька** — гл. Аўрэля.

**Сонька,** Сохва, Сохвія — гл. Зохва.

**Станіслава.** || Стася, Стаська.

**Стахваня**, Сьцяпаня, — Стефания. Як прыдзе сьвятая Сьцяпаня, дык і я тады паня. Нк. — Пособники, 112. | Стэпа, Стэпка.

**Судзіслава.**

**Сьвятаслава.**

**Сьвятохна.** Гордз. акты.

**Сьцяпаніда** — Стефанида. Ксл. 366.

**Сьцяпаня** — гл. Стахваня.

**Тадора.** БГсл.; Ксл. 366. Хадора. Ксл. 366; Нсл. 675; Ст. (Шсл. 26) — Феодора. У бабкі Хадоры. ЗСД. 60. Не завязаў аборы — не бяжы да Тадоры. Прык. Рапан. 261. | Тадорка. Хода, Ходка, Хадорка. Ксл. 366; Нсл. 675 .

**Тадося.** БГсл. Хадося, Хвядося. БГсл.; Янавічы Нясьв.; Семярнікі Гальшанск. в. Аш. — Феодосия. Крычэла Хвядося. Бацьк. № 49-50 (435-436).|Хадоска-Федосьюшка. Нсл. 675; Ксл. З Богам, Хадоска, калі людзі прапіліся. Прык. Нсл.

**Таклюся** — гл. Пекла.

**Тамара.** | Тамарка.

**Тарэса** — Терезия. Ар. | Тарэска.

**Тацяна** — Татьяна (Татиана. ЯС); БГсл.; Ар. Тацяна справіла сабе чаравікі. Ст. (Шсл. 281). | Тацянка, Тацяначка. Не праўдзівая Тацяначка, казала: Замуж не пайду. Жукава Імг. (Косіч 239).

**Тэкля** — гл. Пекла.

**Усяслава.**

**Хадора,** Хадорка — гл. Тадора.

**Хахіла** — Феофила. Пр. Хахіл.

**Хвекла,** Хвёкла. Хёкла — гл. Пекла.

**Хвядося** — гл. Тадося.

**Хвядота** — Феодотия.

**Хвядуля** — Феодулия.

**Хіма,** Хімка — гл. Яўхіма.

**Хода,** Ходка — гл. Тадора.

**Хоўра.** Нк. — Пособники 100; БГсл. Хаўроня — Феврония. | Хоўрачка. Цябе Хоўрачка жджэць. Косіч 244.

**Хрума.** Еўлічы Сц. Хрумента — Фрументия. Пр. Хрумент.

**Хрыста** — гл. Крыста.

**Цыцыля** — Цецилия. Лсл.

**Юда** — Юдия.

**Юля** — Юлия. Гальшаны Аш.; Тросьнікі Вял.; Янавічы Нясьв.; Менск; БГсл. Юля — ягоная дачка. Макаёнак — каб людзі ня журыліся. Васіль утаропіўся на Юлю. Тм.| Юлька. БГсл.

**Юстыня** — Устинья. Янавічы Нясьв.

**Ягнеша** — Агнеса. Равы Гальшанск. в. Аш., Ар. Ягнеша сем сёл абрэша і назад прычэша. Прык. Рапан., 161.

**Ядзьвіга** — Ядвига. || Ядзьвіля, Ядзьвіся.

**Язэпа.** | Язэпка.

**Янка.** У XI стг. дачка Ўсевалада Яраслвіча мела імя Янка. Соловьев. III. 85. Все лето иде Янка в Грекы, дщи Всеволожа . . . и приведе Янка митрополита. П.С.Р.Л., I, 2-ое выд. Л. 1926, б. 208 || Югася. Ой, Югася, у каго-ж ты ўдалася, ці ў матулю ці ў вайца? Зь песьні.

**Яраслава.**

**Ярэма.** — Иеремия.

**Ясапата.** Семярнікі Гальшанск. в. Аш.

**Яўгеня** — Евгения. Калгасьніца Яўгеня з калгасу Мазырскага р. Зь Менскага радыя. |Геня. | Гянюся.

**Яўдокся** — Евдоксия.

**Яўлаля** — Евлалия.

**Яўлампа** — Евлампия.

**Яўпракся** — гл. Праксэда.

**Яўстоля** — Евстолия.

**Яўхіма.** Янавічы Нясьв. Хіма. БГсл.; Ксл. 366 — Евфимия. | Хімка. Ксл. 366. Хімка з Агатай, дзьве маладзіцы, у дар Хрысту далі дзьве галавіцы. Калядка (Божым Шляхам). Хімачка. Ці ты, Хімачка, — сіраціначка, Што ня ўся радзіначка? Рылавічы. Нз. (ПНЗ, 41).

Меньнік няпоўны як у звычайных хормах, так і асабліва ў іншых.

## ДАДАТАК ДА МЕНЬНІКА

**Васюта** -ты, **пам. ад** Васіль — Васенька. Нсл. 730, **гл.** Базыль.

**Войцік** (ад і прз. Войцік), **пам. ад** Вайцех (гл.).

**Ісакуля** -лі, **люб. ад** Ісак (гл.). Із жыдоўскае рэліґійнае песьні павялікалітоўску. Вял.

**Косьцік.** Арл. (Лесков — Собр. соч. выд. 1956 г., II, 45.).

**Нарцыз.** Арл. (тм. б. 46).

**Тодка, пам. ад** Тодар (гл.) — Федя. Нсл. 636.

**Марголя,** люб. **ад** Магарэта (гл.). Марголя нарадзіла блізьняты. Ст. (Шсл. 81).

**Паўлюта** -ты, **пам.** ад Паўліна. Стаўп. п.

## РАЗГЛЯД КОЛЬКІХ ІМЁНАЎ

**Зяслаў** (а не Ізяслаў), бо першая часьць яго пачыналася прыймём-прыросткам jьz-, каторы ў мове вялікалітоўскай перайшоў у **з** (зь лесу, з дому), у расійскай-жа а баўгарскай — у **из** (из лесу, из дому). Ад «Зяслаў» пад уплывам прыймені «за» паўстаў назоў местачка «Заслаўе».

**Іван а Ян.** Абедзьве гэтыя хормы таго самага імені ўзьніклі з гэбрэйскага імені «Ёганан», відавочна перанятага пераз мову старабаўгарскую. З прычыны аканьня вялікалітоўская вымова баўгарскае хормы «Иоаннъ» гэтага імені мусіла быць «Яан» (Йаан), каторае, сьцягненьням двух **аа** ў вадно **а,** дало Ян. Што да двух **нн,** дык, па шчэзьненьню канцавога **ъ,** замест **нн** падвойнага ў «Иоанн» вымаўлялі **н** адно; два **нн** тут былі толькі правапісным адбіцьцём хормы гэбрэйскае. Іншае зьясьненьне паўстаньня хормы «Ян» мусіць быць у мовах, каторыя ня знаюць аканьня.

Другая хорма (Іван) магла гэтак узьнікці. И ў **Иоанн** некаторыя абмыльна вымаўлялі як **і** складатворнае, ды, стараючыся, заразом вымаўлялі ненацісьненае **о** ў ім як **о,** перад каторым, як перад кажным **о** на пачатку складу, мусіла ў мове нашай узьнікці прыстаўное **в (Івоан).** Ненацісьненае **о,** адылі, было штучным у мове акаючай, не магла такая вымова ўдзяржацца, і яго пачалі вымаўляць як **а** (Іваан), што, сьцягненьням двух **аа** ў вадно, дало Іван.

Таксама ўзьнікла Івона замест і побач із **Ёна.**

Абедзьвіх хормаў (Ян а Іван) гэтага імені ў нас ужывалі незалежна ад абраду. Прывяду колькі прыкладаў ужываньня іх належачымі да абраду ўсходняга. У летапісу захаваліся йімёны наступных гэрояў часу Валадзімеравага (X—XI стг.): **Яна** Усмовіча . . .[9] Апрача братоў Вышацічаў — Яна

---

[9] Соловьев С. — История России с древнейших времен, I, 209.

а Пуцяты, з мужоў Сьвятаполкавых . . . мянуюць Васіля, Славуту, **Іванку.**[10] (Дзьве гэтыя цытаты прыведзены ў перакладзе). Пад 1106 г. у кіеўскім летапісе чытаем: «Преставися **Ян,** старец добрый».[11] Янь же поиде самъ оружья.[12] Жаноцкая хорма **Янка** (гл. ў меньніку).

Прыходзіла гэтае імя да нас і пераз мову лацінскую, зн. ад лацінскае хормы Johannes; праз гэта сьветча жаноцка-любосная хорма яго «Югася». **Ю** ў гэтай хорме, відавочна, дзеля таго, што стараліся вымаўляць **ё,** бо ў мове вялікалітоўскай, калі стараюцца вымавіць ненацісьненае **о** (або **ё**), дык адзержуюць **у** (або **ю**).

**Імсьціслаў.** Гэтае імя складаецца зь **мьсть** а **славъ.** У мове-ж вялікалітоўскай, калі слова пачынаецца гукам **м, р, л** зь ерам (**ь** або **ъ**) па іх, дык, па шчэзьненьню слабога еру, перад менаванымі сугукамі разьвілося **і-:** Імглін (паветавае места на Севершчыне:, імжа, імклівы, імкненьне, імсьлівасьць, імшар, ірзаць, іржа, ірваць, іржышча, ілцы, ірдзель, ірты і інш. Рэдчас у такім прылучаю бывае **і, ы** па менаваных сугуках (мыгла, мыглець). Дзеля таго мае быць **Імсьціслаў,** што й пацьвярджаецца фактамі.

Па прыростку-ж перад менаванымі сугукамі ня бывае **і-,** а па прыймені ня бывала тады, калі толькі слабыя еры пачыналі чэзнуць і гэтая асаблівасьць (развой **і** перад **м** з **мь, мъ, ръ** і г. д.) разьвівалася; тады ў назове гэтага места лучала хорма «увамсьціслаўлю» (на пытаньне дзе?). Дзеля таго ў некаторых мясцох пачалі думаць, што **а** належа да назову ( а не да прыймені) і зваць «Амсьціслаў», зн. абмыльна думалі. Таксама абмыльна думае тый, хто прымае гэтую хорму замест правільнае «Імсьціслаў» (як імя, так і назоў места).

**Кастанцін, Касьцянцін** (бяз **н** па **Ка-**). Дзеля таго што ў імені «Канстанцін» было аж тры **н**, чаго ня бывае ў словах сваіх мовы вялікалітоўскае, дык сталася распадабненьне, першае **н** выпала.

## Станіслаў і прозьвішчы ад гэтага імені

Надзвычайна тэндэнцыйны да Вялікаліцьвіноў (Беларусаў) гісторык польскі Г. Лаўмянскі (Łowmiański) даводзіў у вадным із сваіх артыкулаў, што радзімы, каторых прозьвішчы могуць быць выводжаны ад розных хормаў імені «Станіслаў» — жмуйдзкага (а не вялікалітоўскага) паходжаньня. Ішло яму праз тое, каб паменшыць колькасьць Вялікаліцьвіноў, запісаных у сьпісаньню 1529 г. войска Вялікага Княства Літоўскага. Як аргумэнт Лаўмянскі прыводзе тое, што па хрысту Жмуйдзі, у канцу XIV і пачатку XV стг., была пастаўлена ў Вільні каталіцкая катадра пад імям сьв. Станіслава. Вось-жа, піша ён, Жмуйдзіны (завець іх Ліцьвінамі), як ката-

---

[10] Там-жа, II, 85.
[11] Там-жа, III, 130.
[12] Ипатская летопись, 1871 г., 123.

лікі, пад уплывам назову катадры, пачалі даваць сваім сыном а дачкам імя «Станіслаў». Адгэтуль, выводзе ён, усі прозьвішчы, паўсталыя ад гэтага імені, жмуйдзкія і нашэньнікі гэтых прозьвішчаў — Жмуйдзіны.

Я прывяду некаторыя факты й довады, каторыя пярэчаць такому пагляду.

Фонэтыка слова «Станіслаў» такая, што яно можа быць імям у кажнага народу славянскае мовы. Дыкжэ ў Вялікай Літве (Беларусі) і ў суседніх краёх, на'т у Суздальшчыне, як найраней звалася Маскоўшчына, былі свае Станіславы за доўга да віленскае катадры. Як сьветчаць летапісы, князям у крывіцкім Смаленску быў у XI стг. Станіслаў, сын Валадзімера Сьвятаславіча, князя кіеўскага.[13]

У двананцатым стагодзьдзю ў Пераяслаўлю Северскім быў Станіслаў Тукіевіч. Ён, разам із тысячнікам Раціборам, мяняў уставу праз працэнты.[14]

У 1148 г., на Севершчыне ў бітве Імсьціслава Зяславіча кіеўскага з Глебам Юравічам «Станислава ту яша и казниша казнью злою».[15]

У часе Ліпецкае бітвы 1216 г. Крывічоў (Смальнян а Псковічаў) і Наўгарадцаў, на чале із тарапецка-смаленскім князям Імсьціславам Удалым (меў удзел у Тарапцу), із Суздалцамі, у войску суздальскім быў баярын Андрэй **Станіслававіч.**[16]

У 1321 г., калі Гэдымін, вялікі князь літоўскі, пайшоў з войскам на Кіеў, дзяржаў яго нейкі князь Станіслаў.[17]

Дзеля таго што ніводзін Станіслаў ня быў прызнаны праваслаўнай царквою за сьвятога, то пасьлей у Маскоўшчыне гэтага імені не давалі дзяцём. Але ў Вялікай Літве (Беларусі) гэта пераказаю ня было, і імя «Станіслаў» было пашырыўшыся сярод вернікаў розных цэркваў. Вось, прыкладам, блізкім супрацаўнём Б. Хмяльніцкага быў праваслаўны Вялікаліцьвін, палкоўнік Міхайла **Станіслаў** Крычэўскі.

Забраўшы Вялікую Літву, Масква русыфікавала ў ёй праваслаўную царкву і ўсё мяняла ў ёй на свой капыл. Тады і ў нас, як у Маскоўшчыне, праваслаўныя сьвятары пачалі ў рэлігійным жыцьцю што раз болей дзяржацца літары чымся зьместу, і ўзглядам імёнаў вымагалі, каб дзецяняці на хрысьце давалі імя таго сьвятога, каторага дня яно радзілася. У нас, адылі, гэта ў поўнай меры ніколі ня было праведзена. На гэта можна прывесьці шмат фактаў. Прыкладам, у вялікім царкоўным сяле Гародзькі Валожынскага пав. ўсі праваслаўныя і блізу ўсі Станкевічы, каторыя дзеляцца на тры групы, зь іх адна — **Станіслаўчыкі.** Паколькі тут прозьвішча «Станкевіч» можа быць старшага паходжаньня, то мянушка «Станіслаўчык» мусіць быць сусім сьвежая. У сяле Арлянятах Ашмянскага пав. было шэсьць радзімаў праваслаўных. З дазволам, у 1905 г., пераходзіць із праваслаўя на

[13] Соловьев С. — Ист... I, 211; III, 116.
[14] Там-жа, II, 85.
[15] Ипат. лет., 1871 г., 256.
[16] Соловьев, II, 338.
[17] Там-жа, III, 294.

іншую веру усі яны, з выняткам аднаго Габрэля Станкевіча, перайшлі ў каталіцтва, а гэты адзін, што застаўся праваслаўным, меў сына **Станіслава.**

Лаўмянскі зіґнараваў факт, што яшчэ да прыйма хрысьцянства Жмуйдзяй, сярод Вялікаліцьвіноў былі каталікі--лаціньнікі. Колькасьць іх шмат павялічылася ў часе хрысту Жмуйдзі, калі й дынастыя з праваслаўнае сталася каталіцкай, а вялікі князь Ягайла на'т абавязаўся навярнуць усіх на каталіцтва. Дыкжэ тады і з часьці Вялікаліцьвіноў адныя зьмянілі свой усходні абрад на заходні, другія перайшлі з праваслаўя на каталіцтва. Праўда, і просьле гэтага колькасьць каталікоў лаціньнікаў у Вялікаліцьвіноў, раўнуючы зь вернікамі «грэцкае веры» сярод іх, была невялічкая; але, раўнуючы із Жмуйдзінамі, ня была такая малая. У тым, адылі, часе колькасьць каталіцкіх Вялікаліцьвіноў ня мела значэньня дзеля пашырэньня імені «Станіслаў», бо да гэтага імені тады аднолькава ставіліся ўсі ў Вялікай Літве, бяз розьніцы веры.

Што да самае катадры сьв. Станіслава ў Вільні, дык значэньне яе дзеля пашырэньня імені «Станіслаў» Лаўмянскі вельмі перацэнуе. Яна і ў малой часьці ня мела таго значэньня, якое меў субор сьв. Сохвіі ў Полацку або суборная царква ў Пскове. У іх суборныя цэрквы былі патранальнымі цэрквамі краю. Палачане на'т у бітву йшлі з крыкам «За сьвятую Сохвію». Віленская-ж катадра ня толькі ня была патронам краю, але на'т ня была патронам Віленшчыны ў найвужшым значэньню гэтага слова.

Нельга не зьвярнуць увагі, што назоў віленскае каталіцкае катадры надзвычайна мала ведамы ў Віленшчыне. Гэтак цяпер, і няма ніякае прычыны думаць, што ў мінуласьці было накш.

Калі віленская катадра сьв. Станіслава й мела якое-колечы значэньне дзеля пашырэньня імені «Станіслаў», дык магла мець яго толькі ў Вільні. А Вільня на этноґрафічнай тэрыторы вялікалітоўскай, і ніякага там жыцьця жмуйдзкага ня было чуваць. Ня толькі Вільня была сталіцаю нашага гаспадарства і цэнтрам палітычным яго, але таксама культурным і гаспадарскім цэнтрам вялікалітоўскім.

Наапошку, калі-б прозьвішчы, выводжаныя ад розных хормаў імені «Станіслаў» належылі Жмуйдзіном, дык тыя хормы, ад каторых гэтыя прозьвішчы паўсталі, мусілі-б быць хормамі жмуйдзкімі. Прымеж таго ня толькі такія прозьвішчы ўзьніклі суфіксамі вялікалітоўскімі (найчасьцей -іч, -овіч), але й хормы, ад каторых тварыліся гэтыя прозьвішчы маюць суфіксы вялікалітоўскія, ё хормамі вялікалітоўскімі. Прозьвішча «Станкевіч» узьнікла ад «Станка», Станевіч — ад Стань, Станькевіч — ад Станька, Станулевіч — ад Стануль, Стаськевіч — ад Стаська, Стасюлевіч — ад Стасюль, Станюковіч — ад Станюк, Стасюкевіч — ад Стасюк і інш.

Можна думаць, што сваё пашырэньне імя «Станіслаў» заўдзячуе свайму этымолёґічнаму значэньню. Хто ня зычыў, каб дзяцё ягонае стала слаўным? Гэтае значэньне было зразумелым Вялікаліцьвіном, а Жмуйдзіном слова «Станіслаў» нічога не казала. Другой прычынаю пашырэньня ягонага магла быць множасьць памяншальных, любосных а павялічальна-паважальных хормаў яго, хормаў, як зацемлена, вялікалітоўскіх, Жмуйдзіном чужых, незразумелых.

# ЗАЦЕМЫ ДА НЕКАТОРЫХ ХОВМАЎ

## Імёны мужчынскія без канчатку ў наз. адз. л.

Грэцкі канчатак -іос, лацінскі -іус, каторыя ў мове старабаўгарскай а расійскай перадаюць пераз -ий, у мове вялікалітоўскай адпаў. Ё гэта ў поўных хормах імёнаў мужчынскіх (Парфений — Пархвен). Адныя сугукі перад гэтым адпалым канчаткам бываюць цьвярдыя, другія — мяккія.

Цьвярдым ё **р**, бо яно ў мове вялікалітоўскай ё толькі цьвярдое: **Алізар,**[7] **Захар, Ліцэр, Назар, Нектар, Палінар, Пархвір, Рыгор, Савер, Валер** і інш.

Цьвярдымі ё вуснавыя **б, м, п,** бо яны ў мове вялікалітоўскай зацьвярдзелі на канцу слова і перад сугукам: **Агап, Арцём, Астап, Аўрагам, Пахом, Версаноп** і інш. А **в** на канцу слова пераходзе ў **ў** — **Зяноў.**

Цьвярдымі ё **д, т, з, с, н,** бо, зьмякчаючыся, яны ў мове вялікалітоўскай пераходзяць у сярэднеязычныя dź, ć, ź, ś, ń.[8]

Дзеля таго што ў мове вялікалітоўскай мяккіх **д, т, з, с, н** няма, дык чужыя сярэднія (паўмяккія) **д, т, з, с, н** бліжшыя да вялікалітоўскіх **д, т, з, с, н** цьвярдых, чымся да сярэднеязычных **dź, ć, ź, ś, ń,** дык і пераняты яны да мовы нашае як цьвярдыя на канцу слова, а **д, т, з, с** у кажным месцу. Прыклады: **Аркад, Аўстрат, Баніхват, Ганнад, Ігнат, Іпат, Матод, Махтод, Кандрат, Мяхед, Мяхвод, Мялет, Палад, Панкрат, Сават** і інш. Адхінаў ад гэтага мала ды ўсім ім ё паралельныя хормы з **д, т.** Гэтак, ё «Аркадзь», «Гянадзь» побач «Аркад», «Ганнад». Дзеля таго гэтыя адхіны надабе ўважаць за паўсталыя толькі ў некаторых мясцох пад уплывам расійскім, дзе ё **д, т** мяккія (Аркадий, Геннадий, Мелетий). **Алёз, Амброз, Амброс, Аніс, Апанас, Панас, Хванас, Хадос, Хвядос, Тадос, Дзяніс, Настаз, Паіс, Пратаз, Пратас, Улас** і інш. Адхінаў няма.

**Анан, Арсен, Яўген, Яўмен, Пархвен, Сапрон, Супрон** і інш. Ё колькі з **-нь** на канцу — Яўмень, Арсень, але тыя-ж імёны ё з **н** цьвярдым. Дык і тут гэтыя адхіны трэба ўважаць за паўсталыя пад уплывам расійскім.

**л** перад адпалым канчаткам **-ий** ё толькі мяккое: **Анатоль, Аўрэль, Базыль, Васіль, Савель, Віталь, Ювеналь** і інш.

---

[7] Паказана ў меньніку, дзе імя запісана, або скуль выпісана.

[8] З тае прычыны, што гэтыя сярэднеязычныя сугукі пішам кірыліцаю зь мяккім знакам (*дзь, ць, зь, сь, нь*) або з *е, ё, я, і,* ю па іх, зн. так, як пішам сугукі мяккія, Вялікаліцьвіном здаецца, *што* ў мове іхнай ё мяккія *дз, ц, з, с, н.* Але правапіс рэч умоўная. Калісь пісалі й *д, т* перад *е, ё, я, і, ю,* але вымаўлялі **dź, ć.**

## Мужчынскія йімёны на -ра, -ла

Мужчынскія йімёны, як і спакменьнікі наагул, з **р, л** на канцу із сугукам або паўсамагукам **й, ў** перад імі адзяржалі канчатак **-о,** каторае, з прычыны аканьня, перайшло ў мове літаратурнай і на каля 9/10 прасьцягу мовы народнае ў **-а,** і самыя такія спакменьнікі перайшлі з -о асноваў (з такіх, як **стол, хвалько)** да а- асноваў (такіх, як Мікіта, вайвода): **Аляксандра, Габра, Гаўра, Зьмітра, Лаўра, Нікандра, Пётра, Сыльвэстра, Паўла, Саўла, Мануйла, Міхайла.** Дык із старабаўг. «Самуил» будзе **Самуйла,** праз што сьветча прз. Самуйлёнак, а таксама «Шмуйла», жыдоўская хорма гэтага імені ў Вялікай Літве. Але ё хорма й «Самойла», і можна думаць, што й яна правільная. Што **у** ў нашай мове можа ў перанятых імёнах рэдчас пераходзіць у **о,** сьветча **о** ў Анопрый, Зыгмон (гл. ў меньніку).

Такія-ж, як у менаваных хрышчоных імёнаў, ё хормы па **р, л** зь пярэднім сугукам альбо паўсамагукам у спакменьнікаў агульных: зубра, сябра, швагра, тыгра і інш.

**Марка.** Зь іншае прычыны ё **-а** ў «Марка». Гэта імя з устаўным ерам (ъ), з каторага ,прыкл. у мове польскай ё -э — (Марэк), і сваёй хормаю яно памяншальнае, а такія памяншальныя маюць у нас хорму на **-ка** (Саўка, Грышка).

**Гэбрэйскія складаныя йімёны з -эль** у другой часьці, калі перайшлі да мовы вялікалітоўскае пераз мову лацінскую зь ненацісьненым **э** ў **эль,** дык, з прычыны аканьня, **-э-** перайшло ў **-а-, і** паўстала хорма з **-аль:** Міхаэль > Міхааль > Міхаль (сьцягненьням двух **аа** ў вадно), або з -ал: Міхал, Рахвал (**л,** а ня **ль,** відавочна, дзеля таго, што перанятыя былі дарогаю пісомай, зн., пішучы, лац. **l** перадалі кірылічным **л**).

Тыя-ж імёны гэбрэйскія, калі перайшлі да мовы вялікалітоўскае з мовы грэцкае пераз старабаўгарскую, дык маюць хорму на **-йла** — Мануйла, Міхайла, або на **-ла** — Гаўрыла, Даніла. Лучылі таксама хормы із захаванай бязь зьмены другой часьцяй імені гэбрэйскага — **Данель;** відаць у такім прылучаю, пераймаючы, вымаўлялі з націскам на э.

## Канцавыя вуснавыя адпалі па сугуках

У мове вялікалітоўскай канцавыя вуснавыя сугукі па вуснавых-жа або па **л, р,** рэдчас па сугуках іншых адпадаюць або дастаюць на канцу -а: **Адоль, Арэхва, Харлам, Хрысан, Карпа, Палікар** (з Адольф, Ареф, Харламп, каторае з Харлампий, Хрисанф, Карп, Поликарп). Таксама ё ў спакменьнікаў агульных — **жандар** із жандарм. Калі-ж вуснавы сугук апынецца памеж сугукаў, дык ён выпадае — **Алімка** (Ар.), памяншальнае ад **Алімпа.**

## Хормы на «а» мужчынскіх імёнаў

Апрача хормаў на **-а** ў імёнаў на **-р, -л** зь пярэднім сугукам альбо паўсамагукам, ё яшчэ ў вышменаваным меньніку гэткія хормы на **-а** (замест на сугук): **Алейза, Алёкса, Лёкса, Анта, Хота, Клямэнта, Лічарда, Сьпірыда, Тарэнта, Валента, Вікента.**

### Да памяншальных хормаў мужчынскіх

**Памяншальныя хормы ад складаных** із **-слаў** або **-мер** у **другой часьці** творацца ад часьці першае складанага імені: Божка (ад Багуслаў), ведамнае цяпер як прозьвішча, Болька (ад Баляслаў), Вячка (ад Вячаслаў), Валодзька (ад Валадзімер), Казюк (ад Казімер).

**Памяншальныя дву- а трыскладовыя** ніколі ня маюць у мове вялікалітоўскай хормы на **-ак** або на **-эк, ек** (Пранак, Юрак, Болек, Міхалак). Рэдчас чутыя такія хормы ё чыстым полёнізмам. Замест такіх хормаў ё звычайна вялікалітоўскія хормы на **-ка: Бонька, Цішка, Полька, Хомка, Клімка, Міхалка, Сымонка.** Зь няймёнаў «маршалак» — полёнізм (пол. маршалэк), павяліт. **маршалка.** І «маршала» у мове нашай нямашака.

Памяншальныя двускладовыя на -ка — Янка, Яцка, Болька, Глебка, Ходзька, Родзька, Вячка, Юрка — у ладнай меры страцілі значэньне памяншальнасьці і хіба могуць быць ужываны ў значэньню імёнаў поўных. Прыклад: А маршалкаваў на сойме наш Ліцьвін, князь Болька Сьвірскі. Адылі страцілі ня сусім і, прыкладам сьвятых, нельга было-б зваць гэтымі хормамі. З ужываньня ў значэньню йменаў звычайных маюць быць сусім чыста вылучаны любосна-памяншальныя з **сь** перад -ка (Яська, Стаська і інш.), бо іх любосна-памяншальнае значэньне выразьліва чуецца.

### Памяншальныя на -ук, -юк

Побач із памяншальнымі хормамі на **-ок, ёк** (Зьмітрок, Пятрок, Сыманок, Васілёк), больш пашырыўшыся памяншальныя на **-юк (Аляксюк, Ясюк, Гіпалюк, Касьцюк, Масюк, Міхалюк, Паўлюк, Радзюк, Стасюк, Юлюк),** на **-ук (Аўгустук, Артук, Язук, Янук, Хвядук, Данук, Клімук, Крыстук Мартук, Матук, Мінук, Панук, Пранук, Радук, Рапук, Рамук, Самук, Віктук** і інш.). Таксама ў спакменьнікаў агульных: *пястук* (вялікі палец рукі), *відук* (дзікі мак). На **-ук** па зацьвярдзелых: **Андрук, Габрук, Гаўрук, Дарук, Зьмітрук, Купрук, Цупрук, Цыпрук, Мірук, Пятрук, Супрук, Вінцук.**

Суфікс **-юк,** зн. **-ук** із пярэднім мяккім сугукам, ясны, ён славянскавялікалітоўскі. Але суфікс **-ук** із пярэднімі сугукамі цьвярдымі, каторыя наагул могуць зьмякчацца, выглядае на тый самы суфікс, **што -ок,** адно што ў хорме балцкай.[18] Ён мог быць прынесены да мовы вялікалітоўскае ад вялікалітоўскіх (беларускіх) Балтаў. Гэтым была-б таксама зьясьнена дзіўна малая колькасьць памяншальных імёнаў із суфіксам **-ок.**

Суфікс **-ук** із зацьвярдзелым сугукам перад ім можа быць у вадных імёнах із суфіксу **юк,** у другіх — быць суфіксам із спачатным сугукам цьвярдым перад **-ук.**

**Цікавыя памяншальныя на -ута, -юта:** Адашута, Якута, Ясюта, Яўхута, Яцута, Максюта, Пархута, Паўлюта.

---

[18] Індаэўропскае а балцкае *у* кароткае перайшло ў мове праславянскай у ъ, з чаго ў мове вялікалітоўскай *о.*

## Хормы скланеньня хрышчоных імёнаў мужчынскіх

Гэтта на месцу будзе зацеміць празь некатрыя канчаткі ў скланеньню хрышчоных імёнаў мужчынскіх. Ня толькі хрышчоныя ймёны, але ўсі асобавыя спакменьнікі мужчынскага роду канчаюцца ў мясцовым скл. адз. л. на **-у** (па мяккіх сугуках **-ю**). Узглядам дыялекту пскоўскага гэта сьцьверджана подле памяткаў XIV стг.[19] Прыклады: При Федосу, Пролог 1383 г., запіс. Сабалеўскі — Очерки из ист. рус. яз. II. Псковский говор в XIV в., 127 (Унив. изв., у Кіеве, 1884 г. № 1-2); при Борису, Параклітык 1369 г., запіс; при Борису, адрывак Парамейніка 1313 г.; о сыну, Палея 1477 г., 384; о сыну, Палея 1494 г., 304 (Карынскі — Язык Пскова, 59, 145). Ув Аль кітабе, каторага мова адбівае рысы віленска-ашмянскае гаворкі, множасьць прыкладаў асобавых спакменьнікаў у мясцовым скл. адз. л., і ўсі яны канчаюцца на **-у, -ю.** Іншыя жаролы дабрусенька сьветчаць, што гэтая рыса ўсевялікалітоўская.

Ня толькі хрышчоныя ймёны, але і ўсі спакменьнікі мужчынскага роду ізь цьвярдым сугукам на канцу, канчаюцца ў клічным скл. адз. л. на **-е** (па зацьвярдзелых у клічным скл. — на **-а**). Выняткам із гэтага ё памяншальныя на **-к**, каторыя маюць канчатак **-у**. Таксама спакменьнікі із спачатным цьвярдым **р** на канцы канчаюцца на **-у** ў кл. скл. Спакменьнікі зь мяккім або зацьвярдзелым сугукам на канцу назоўнага склону, канчаюцца ў кл. скл. на **-ю** (па зацьвярдзелых — на **-у**). Слова «сын» мае ў кл. скл. хорму сыну. Прыклады: Слухай, **Іва́не, паночку,** блага ты робіш, браточку. Гарун. (в. «Іванку»). Чуеш ты, чуеш, **Іванку?** Тм. **Языча, языча,** ліха цібе кліча. Чаму, **коню,** вады ня п'еш, ці дарожку чуеш? чаму, **сы́нку Ясюлё́ньку,** дома не начуеш? Зь песьні. Чаму ў цябе, **малойчыку,** кашулька ня бела? Зь песьні. Па што, **воўча,** йдзеш? іграй, **ігрaчу.** З прыпеўкі. Ходару, што ганяеш? Спада́ру Божа мой! Аль кітаб. Дарма што ў спакменьнікаў на **-ц** (хлапец, Іванец) сугук **ц** зацьвярдзелы, яны ў кл. скл. маюць хорму на **-а** (хлопча, Іванча), бо **ц** іх паходзе з **к.**

Звычайныя мужч. на **-ра, -ла** із сугукам або паўсўмагукам перад імі, а таксама памяншальныя на **-ка** скланяюцца гэтак у вадз. л.:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Назоўны | Пётра | Паўла | Глебка |
| Дакладны, каго няма? | Пётры | Паўлы | Глебкі |
| Прызначальны, каму? | Пётру | Паўлу | Глебку |
| Прымальны, каго (бачу)? | Пётру | Паўлу | Глебку |
| Снадзіўны, зь кім? | Пётрам | Паўлам | Глебкам |
| Мясцовы, пры кім? | пры Пётру | пры Паўлу | пры Глебку |
| Клічны | Пётру | Паўле | Глебку |

Мужчынскія ймёны із спачатным канчаткам **-а** ў назоўным скл. адз. л., значыцца такія, як Мікіта, Ёна, Юда, Ільля, розьняцца ў сваім скланеньню тым ад парэдніх (ад паданае гэтта зразы), што ў прызначальным склоне канчаюцца на **-е**, і (Мікіце, Ільлі), у снадзіўным маюць кан-

[19] Соболевский А. — Лекции по ист. рус. языка.

чатак **-аю, -яю** (пад націскам **-ою, -ёю**): Мікітаю, Ільлёю. Хормы клічнага склону яны ня маюць.

**Неславянскія йімёны на -іа,** як жаноцкія, так і мужчынскія адзяржалі ў мове вялікалітоўскай хорму на **-а** зь цьвярдым альбо мяккім сугукам перад **-а**, зн., на пісьме ў кірыліцы ё хормы на **-а** або на **-я. Цьвярды сугук** ё тады, калі ён мяккім ня бывае ў мове вялікалітоўскай. Такім ё, першае, **р: Глікера, Дара, Ліцэра, Лукера, Пульхера, Валера** і інш.; другое, **д, т: Кляўда, Ліда;** з мужчынскіх: **Азара, Бэра, Захара** і інш.

Вуснавыя сугукі вымаўляюцца цьверда перад сугукам і на канцу слова. Тут таксама яны цьвярдыя: **Агапа, Гапа, Алімпа, Яўхіма, Хіма, Зянова** і інш. З мужчынскіх: **Ярэма.**

Усі іншыя сугукі перад менаваным канчаткам — мяккія, зн. канчатак ё **-я: Аміля, Аніся, Аўрэля, Хадося, Хвядося, Тадося, Яўгеня, Ксеня, Маланя, Настася, Наталя, Панася, Прасіня, Разаля, Сьцяпаня, Цыцыля, Юля, Юстыня** і інш. З мужчынскіх: **Ананя, Гананя, Сахоня, Вося** й інш.

Відавочна, на канцы перад **-а** было **і** нескладатворнае (а ня **і** і ня **й**), дзель таго ня ўзьнікла хормы на **ія** ані на **-йа,** пры каторай было-б здваеньне, але на **-а -'а** (на **а** зь мяккім сугукам перад ім, як і вымаўляюцца напісаньні **ля, ня, ся**).

Ня сусім так, але падобна ё ў сярэдзіне слова: тут ё **Юляна,** але **Тацяна** (зн., **т** перайшло ў **ц**) і інш. пад. Таксама ў сярэдзіне імёнаў мужчынскіх: **Галакцён, Дзямян, Дзямід, Дзяніс, Касян, Максімілян.**

Надабе адрозьневаць **л, н, с** перад канчаткам імёнаў поўных ад такіх-жа гукаў перад канчаткам імёнаў любосных. У першых гэтыя гукі належаць — з гледзішча вялікалітоўскага — да караня (Юля, Юстыня, Настася), у другіх — да суфіксу (нарасьню) (Антоля, Настуля, Каруся).

Здваеньне сугуку (Натальля, Хадосься) замест аднаго мяккога (Наталя, Хадося) ня ё правільнай хормаю вялікалітоўскай. Здваеньне ў імёнах ё ў вадзіночных прыпадках і паўстала пад пасьлейшым расійскім уплывам, гэта — расійска-вялікалітоўскі сымбіёз. На хорму рас. на **-ья** (Наталья) мова вялікалітоўская рэаґавала так, што хорму рас. мяккі сугук **+ й + а** ператварыла ў мяккі падвойны сугук **+ а** (пішацца **-я**). Побач із прыпадкамі із здваеньням ё — і ў вялікай бальшыні — прыпадкі без здваеньня, з адным мяккім сугукам перад **-а** (пішацца **-я**).

**Памяншальныя на -ута, -юта. Як** і ў імёнаў мужчынскіх, таксама ў жаноцкіх ё памяншальныя хормы на **-ута, -юта**: Аўгута( да поўнага імені Аўгуста), Багута (да Багуслава), Карута (да Караліна), Лукута (да Лукера). Мархвута (да Мархва), Марута (да Марыя), Палісюта, Палюта, Палута, Васюта.

**Скарочаныя хормы жаноцкія,** як **Хоўра, Хіма, Хрыста, Крыста, Домна, Магда, Наста, Вікта, Юста**, яшчэ ў большай меры, чымся мужчынскія двускладовыя на **-ка** (Глебка), могуць быць ужываны ў значэньню хормаў поўных.

**Імёны з адпалымі пачатнымі гукамі.** Імёны з адпалым пачатным **I** (Раіда зам. Іраіда і інш.) нельга ўважаць за неправамерныя ў мове вялікалітоўскай.

І тут адпала пад уплывам такіх словаў вялікалітоўскіх, як **мецы, грацы, мянушка.** Характар гуку **г** такі, што ён можа адпадаць і (радзей) выпадаць. Дык хормы «Ліцэра» зам. «Гліцэра», «Рыгор» і інш. з адпалым **г** сусім добрыя. Пачатнае **а** можа таксама адпадаць. Прыкл. «гаспадар» адпадам **г** перайшло ў «аспадар», адлі (адпадам **а**) у «спадар», ды сталася розьніца ў значэньнях дзьвюх хормаў. Дык хормы **Ляксандра, Ляксей** і пад. інш. такія самыя добрыя, як **Аляксандра, Аляксей.**

**Што да скланеньня,** дык усі — поўныя, памяншальныя, любосныя а павялічальна-паважальныя йімёны жаноцкія на **-а, -я,** скланяюцца сусім так, як агульныя асобавыя спакменьнікі жаноцкага роду на **-а, -я.** У ўсіх іх прымальны (адказуе на пытаньне каго? што?) склон множнага ліку аднолькавы із склонам назоўным таго-ж л.: бачу, вучу Алімпы, Юстыні, Ганны, Ганулі, Марысі, Настулькі.

## СКАРАЧЭНЬНІ ЖАРОЛАЎ

*(мясцовасьцяў і літаратуры)*

*Ар.* — сяло Арляняты Краўское в. Ашмянскага пав.
*Арл.* — Арлоўшчына.
*Аш.* — Ашмянскі пав.
*Бацьк.* — Бацькаўшчына, газэта, выдаваная ў Мюнхэне ад 1948 г.
*БГсл.* — М. Байкоў і М. Гарэцкі: Практычны расійска-беларускі слоўнік, выд. 2-гое, у Менску 1926.
*Брсл.* — Браслаўскі пав.
*Гарун* — Алесь Гарун (Аляксандра Прушынскі), розныя творы ягоныя.
*Гсл.* — Максім Гарэцкі: Невялічкі Беларуска-маскоўскі слоўнік, выд. 2-ое, у Вільні 1921.
*Дабрсл.* — В. Добровольский: Смоленский облостной словарь, у Смаленску, 1914.
*Дрыс.* — Дрысенскі п.
*Еўлічы* — Сяло Еўлічы, Слуцк. пав.
*Дз.* — Дзісенскі п.
*ЗСД* — М. Зарэцкі: Сьцежкі-Дарожкі.
*Імгл.* — Імглінскі п. на Севершчыне.
*Імсь.* — Імсьціслаўскі пав.
*Калюга* — з твораў Калюгі.
*Косіч* — М. Косич: Литвины-Белорусы Черниговск. губ. (Живая Старина, II-IV, 1901).
*Красьн.* — Красьненскі п. Смаленшчыны.
*Крушына* — Рыгор Крушына, розныя вершы ягоныя.
*Ксл.* — Касьпяровіч: Краёвы слоўнік Віцебшчыны.
*Маз.* — Мазырскі п.
*Мал.* — Маладзечанскі п.
*Міх.* — Сяло Міхалкавічы Лагойскага п.
*Н.* — Наваградзкі п.
*Нк.* — Н. Никифоровский, розныя этногр. працы ягоныя зь Віцебшчыны.
*Нк.: Очерки* — Н. Никифоровский: Очерки простонародного жытья-бытья в Витебской Белорусии.

*Нк.: Пособники* — Н. Никифоровский: Пособники жихара.
*Нсл.* — Беларуска.-рас. слоўнік І. Насовіча.
*ПНз* — А. Полевой: О языке населения Новозыбковского у.
*Пск.* — Пскоў, Пскоўшчына.
*Рапан.* — Яўген Рапановіч: Беларускія прыказкі, прымаўкі й загадкі, у Менску 1958.
*Растсл.* — Слоўнічак у працы П. Расторгуева «Северско-белорусский говор».
*Сержп.: Отчет* — Сержпутовский: Отчет о поездке в Гомельскую губ. в 1926 г.
*Север.* — Северщчына.
*Сян.* — Сянскі п.
*Смл.* — Смаленшчына.
*Ст.* — Сяло Старына Ігуменскага п. (імёны ўзяты з краёвага слоўніка Чэрвеншчыны М. Шатэрніка).
*Стаўп.* — Стаўпецкі п.
*Стдуб.* — Старадубскі п.
*Сур.* — Сураскі п. Северщчыны.
*Сц.* — Слуцкі пав.
*Шсл.* — М. Шатэрнік: Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны (Ігуменшчыны).
*Вал.* — Валожынскі п.
*Валожына* — Валожына, паветавае (памеж дзьвюх сьветных войнаў) места.
*Вял.* — Вялейскі п.
*Віленш.* — Віленшчына.
*Чаш.* — Чашніцкі раён.

*Іншыя скарачэньні*

*адг.* — адгэтуль.
*адз.* — адзіночны лік.
*ж.* — жаноцкае, жаноцкага роду.
*л.* — лік.
*наз.* — назоў.
*пр.* — прыраўнуй.
*прз.* — прозьвішча.
*прм.* — прыметнік.
*прык.* — прыказь.
*р.* — расійскае.
*стб.* — старабаўгарскае, накш царкоўна-славянскае.
*Тм.* — там-жа.

# Прыстаўное «в» у мове беларускай

Праф. Я. Станкевіч

Кажнаму адразу кідаецца ў вочы, што перад пачатнымі й пачынаючымі склад самагукамі ў мове вялікалітоўскай (беларускай) часта бывае прыстаўное (протэтычнае) **в.** Б. Тарашкевіч у сваёй граматыцы гэтае **в** завець прыдыхальным (бач. 117 віленскага выданьня 1929 г.). Разглядае яго й Я. Карскі (Белорусы, II-I, бач. 420—422 і 426—428). Наагул зьява гэтая ў мове беларускай вельмі ведамая, каб трэба было яе даводзіць.

Трэба, адылі, **зьясьніць,** перад **якімі** самагукамі і пры **якіх умовах** прыстаўное **в** ў мове вялікалітоўскай (беларускай) зьяўляецца. Б. Тарашкевіч (там жа) кажа: «Калі слова пачынаецца з галосных (зн. самагукаў — Я. С.) **а, о, у** або **э,** то перад ім можа стаяць прыдыханые **в** або **г:** вока, востры, вугаль, вуліца, гэты, гарэх».[1] З гэтага «правіла» Тарашкевічавага мы не даведуемся, перад якімі самагукамі бывае **в,** а перад якімі **г;** з прыведзеных ім прыкладаў можна падумаць, што **в** бывае перад **о, у,** а **г** перад **э, а.** Апрача таго, Б. Тарашкевіч кажа, што «можа стаяць прыдыханьне», значыцца выходзе, што можа й не стаяць, а прымеж таго нійдзе ніякі Вялікаліцьвін (Беларус) ня скажа «узкі», «уліца», ока» й пад. Праз прыстаўное **в** у сярэдзіне слова Тарашкевіч кажа: «Аб „прыдыханьні" ў сярэдзіне слова гл. § 77» (там жа). А прымеж таго праз гэта нічагусенькі не знаходзім у § 77; праўда, крышку праз гэта ёсьць у § 80, ідзе кажацца «складовае (доўгае) **у** ніколі не стаіць беспасярэдне пасьле галоснага, хіба толькі ў выклічніку **аў!** і ў рэдкіх чужаземных словах, прыкл. Тадэуш.[2] Заўсёды **у** або скарачаецца на **ў,** або аддзяляецца ад папярэдняга галоснага «прыдыханьням» **в**: сяброўка, цівун, аблавухі, аўтар, аэронаўт». Праз прыстаўное **в** перад **о** ў сярэдзіне слова ў Тарашкевіча нічога не знаходзім.

---

[1] **Г** ў гарэх, як і наагул прыстаўное **г** перад **а,** ёсьць асаблівасьцяй мясцовай, агульна вялікалітоўскім ёсьць **арэх.**

[2] Зацемлю, што Вялікаліцьвіны вымаўляюць Тадэвуш (Запісана ў Ар.), а замест рас. **ау** гукáюць гу! **гу-гу! гу-гу-гу!**

Карскі (II—I, 426) кажа: «пануе прыстаўны **в** у мове беларускай: у ёй перад кажным пачатным **о**, а рэдчас і перад **у**, можа разьвівацца **в**». Тут таксама «можа разьвівацца». Няма ведама таксама, ці Карскі мае наўвеце этымолёґічнае **о**, ці толькі **о** націсьненае.

На бач. 417 (там жа) Карскі прыводзе прыклады прыстаўнога **в** у сярэдзіне слова.

Дык разгледзім перад якімі самагукамі на пачатку слова або складу бывае прыстаўное **в** у мове вялікалітоўскай заўсёды.

Прыстаўное **в** перад у з праславянскага вялікага юса: вусы, вусаты, вузёл, вузлаваты, вугол, вугольны, вугаль, вугальле, вугальны, вуда, вудзіць, вудзільно, вудаль, вуж, вужака, вужачы, вузкі, вузіць, вузіня, вугор, вутлы (гл. ў Купалы ў «Раськіданым гнязьдзе»), павук, павукоў, павучыньне.

Менаваныя словы агульнаведамыя (апрача мо' «вутлы»), дзеля таго нямаш патрэбы прыводзіць месца ўжываньня іх або запісу.

Што ў менаваных словах **у** з праславянскага вялікага юса, кажны можа даведацца, раўнуючы да мовы польскае, бо ў ёй вялікі юс захаваўся і перадаецца літарамі **ą** або **ę**: wąsy, węzeł. У прыведзеных прыкладах **в** ё перад **у** як націсьненым, так і ненаціснеьным, як на пачатку, так і ў сярэдзіне слова.

Колькі бы мы ня бралі словаў з **у** з **праславянскага вялікага юса** на **пачатку слова або складу, заўсёды** перад ім будзем мець прыстаўное **в**.

*Прыстаўное* **в** *перад* **у**, *адпавядаючым* **у** *праславянскаму.*

Перад **у** старым (зн. ня зь юса) націсьненым, пачынаючым склад, заўсёды знаходзім прыстаўное **в.** Прыклады: вуха, вун (паказальнае прыслоўе), вусны, вуліца, вутка, навука, вуча (3-яя ас. адз. л.), вучанік (Дубіна Вал.); таксама ў словах, узядзеных із чужых моваў: Навум, цівун.

Перад старым **у** ненацісьненым у вадных словах або хормах ё прыстаўное **в**, а ў другіх няма. Побач з — вучыць (неазначаны лад), **навучыць, вучыцель, вушаты, вушак, вугналь,** маем **наўчаць, наўчоны, добры ўчынак,** на **ўме** (у прыказі: што каму на ўме, той тое даўбе), услон, урад.

У вадных словах на цэлым прасьцягу нашае мовы ё (або няма) прыстаўное **в** перад **у** ненацісьненым (вучыцель, вушак, але **ўчынак, урад, урадовы**), у другіх — ё розьніца ў гаворках, зн., у вадных гаворках ё прыстаўное **в** перад у ненацісьненым (навучыць), у другіх у тых самых словах яго няма (наўчыць). Значыцца, што да пачынаючага склад **у** ненацісьненага, дык ня можа быць агульнага правіла, калі перад ім ужываць прыстаўнога **в,** тут трэба карыстаць із пачуцьця, чаго Вялікаліцьвіном у даным прыпадку бывае даволі.

Ведама, *што калі перад пачынаючым склад ненацісьненым* **у** *няма прыс*таўнога **в,** дык такое **у,** па самагуку пярэдняга слова або складу, заўсёды пярэйдзе ў **ў** (яны ўмеюць, да ўраду, наўчоны).

*Прыстаўное* **в** *перад* **о.**

Перад націсьненым **о** на пачатку слова або складу бывае прыстаўное **в:** воддаль, вожыг, вожык, возера, вока, вочны, вочнік, відавочна, восень, вось (у калёсах), во, вось (прыслоўе), воспа, вотрубы, волава, восець, войкала (во, калі даў Бог войкалу. Нсл. 63), **войкаць (тм.), воміга (тм.), вопадзь (тм.),** вопрамець (тм.); **таксама ў словах узятых із чужых моваў: воцат, півоня,** Лявон, Сілівон, Ларывон, Радзівон, Вольга, Волька. Якое-б слова мы не ўзялі, заўсёды перад націсьненым **о** на пачатку слова або складу будзе прыстаўное **в.** Праўда, у слоўніку Насовічавым ё колькі словаў з націсьненым **о** на пачатку слова бяз **в,** але гэныя словы бяссумлеву лучылі ў такой хорме да слоўніку з прычыны недагляду пры запісах іх. Гэтак, у Насовіча ёсьць «обліў», а ў БНсл. «вобліў»; «обліг» (пісьменнае абавязаньне) Нсл., як слова чужое, ды нядаўна перанятае адно некаторымі, магло быць чутае ў вымове чужой, а на'т ад людзіны, што старалася гаварыць пачужому; словы обак, обач, огнік, ойчанька, окліп, опадзь, оцэт ёсьць у Нсл. і з **в** на пачатку, зн., адныя запісалі так, як чулі павялікалітоўску, а другія, як вымаўляецца або запісалася-б парасійску; побач «одпуст» (Нсл.) у іншых запісах ёсьць «водпуст» (Ар.), побач рус. «оченно» (Нсл.) там жа гэты русыцызм ё з **в** — воченно; «оргіч» а «ошуст» (пол.) бяссумлеву былі запісаны ў вымове чужой. Словы, што ня маюць прыстаўнога **в** перад **а** зь ненацісьненага **о,** адзержуюць яго перад **о** націсьненым, калі яно зьявіцца пры зьмене слова. Прыкладам у вадзін. ліку ёсьць **асва, асвы, асьве** і г. д., але ў ліку мн. — **восвы, восваў** і г. д.; **айцец, айца, айцу, айцовы** і г. д., але ў клічным склоне адз. л. **войча,** любоснае **войчанька** (Нсл.); адзін, аднаго, аднаму і г. д., але калі па пярэчаньню **ні, ані** націск пераходзе на адзін склад наперад, маем — ні водзін, ні водны, ані водны, *ні воднага, ні воднае і г. д.; абады й вобад* (Нсл.). На'т адна й тая самая хорма таго-ж слова, у залежнасьці ад націску, мае то **а** бяз **в,** то **во:** войчым (Нсл.; БНсл.) і айчым (БНсл.), асець (Гсл.) і восець (Ар.). Розьніца ў націску ў такіх прыпадках залежа ад асаблівасьцяў дыялектных альбо ад чужога ўплыву. Тое самае бывае ў словах аднакарэнных: апраніха, апратацца, апрануцца, але — вопратка; агонь, але — вогнік (Нсл.), вогнішча (тм.); адзёр (БНсл.), але водрык (Нсл.), водра (Ар.); аглядацца, але воглядка (Ар.); абувацца, але вобуй (Ар.); азірацца, але вочірк (БНсл.); акладаць і вокладка (тм.); адгукнуцца й водгук (тм.) і г. д.

З вышменаванага відаць, што перад пачынаючым склад націсьненым **о** заўсёды ё прыстаўное **в.**

Але ў прыведзеных прыкладах перад **а** зь ненацісьненага **о** прыстаўнога **в** нямашака. У слоўніку Насовічавым на 2270 словаў, што пачынаюцца гукам **а** зь ненацісьненага **о** (бач. 62—67 і 344—389), ё прыстаўное **в** перад **а** толькі ў 22-х, значыцца 1%. Разгледзім гэныя 22 словы: ваблачок (б. 62). Як відаць із прыведзенага прыкладу («сядзь у ваблачку»), **в** перад **а** ў гэтым слове ўзьнікла, — абмыльна ў запісаваньніка, — пад уплывам прыймя **у** (праз значэньня гэтага прыймя ўзглядам прыстаўнога **в** перад **а** гл. ніжэй), вайстрэньне 63, вайстрыць 63, вайструсенькі 63, вастрыня 67, вастрыць 67, вастрыцца 67, вастрагон 67, вастрэць 67, ваструсенькі 67. Але ў тым-жа слоўніку знаходзім (бач. 370) бяз **в:** астрабрамскі, астравокі, астрагон, астракол, астрыня. Дык застануцца толькі — вайстрэньне, вайстрыць, вайструсенькі (або тыя-ж словы бяз **й**), вастрэць, у каторых будзем мець **в** перад **а,** а ў словах іншых гэтага караня **в** перад **а** магло лучыць да слоў-

ніка як рэзультат уплыву на запісаваньніка тых словаў аднакарэнных, у каторых прыстаўное **в** ё перад **о** націсьненым. Падам із іншых жаролаў прыклады без пtypст. **в** перад пачатным **а: астрова** — нетаўстая елка із суччам 10—15-ёх цм. удаўжкі. Янк. I, **астрамок** — вузкі й высокі воз сена або штось падобнае. Гсл.; **астравіна** — прылада да сушэньня гароху, лёну. Ксл.; **астравінка** — невялічкая сенажаць сярод лесу, або зарастаючага кустамі балота. Нк. — Очерки, № 888; **астраўкі** — збудаваньне да сушэньня снапоў. Тм. № 287. Але ё й **айстрыць, айстрэньне** (з пачатным а бяз пpыст. **в**). Відаць гэта з такіх словаў як — **зайстрыць** (Нсл. 169), зайстрыць кольле (тм.), **зайстраны** (тм.), зайстраны кол, зайстраны алавік (тм.), **пайстрыць** (Ксл.), пайстры мне ножык (тм.). **Зайстрыць, зайстраны, пайстрыць** узьніклі із **заайстрыць, паайстрыць** сьцягненьням двух **а** ў вадно. Падаю далей з Нсл. словы з прыст. **в** перад **а:** вакеньніца, вакно, ваконка, ваконьніца, ваконца, вакошка (усі на б. 64); некаторыя зь менаваных словаў палёнізмы й русыцызмы, але гэта тут не слабене іх значэньня. У тым-жа слоўніку, адылі, ё — акеньніца 361, акенічны 362. Ё ў іншых запісах і **акно** (Ар.), **аконца** (Ар.), загляне сонца і ў наша аконца. Прык. Рапан. 132, аконьніца. З гэтага відаць, што прыведзеныя з Насовіча прыклады з **ва** (вакеньніца і інш.) былі абмыльна запісаны пад уплывам аднакарэнных словаў, або іншых хормаў таго-ж слова, з во- (вокны, вокнамі, на вокнах). Валавянік (64), валавяны 64. У таго-ж Насовіча, адылі, на б. 363 ё: алавянік (алавяная судзіна), алавянічак, алавянка, алавяньнік (майстра алавянага судзьдзя); алавяны ё ў БНсл. Дык і ў грудку словаў, што паходзяць ад «волава», калі дзе й запісана **в** перад **а,** дык гэта абмылка запісуючага пад уплывам **во-** ў «волава».

Значыцца, калі слова з прыстаўным **в** перад націсьненым **о,** мяняючы хорму, мяняе й націск ,дык перад **а** зь ненацісьненага **о** прыстаўнога **в** ня бывае. Прывяду яшчэ колькі прыкладаў: воўцы воўцам (Нсл. 62), але — авец (тм.), авечка (Ар.). Таксама ўваднакарэнных: воспа, але — асьпянік (хто шчэпе воспу). Нсл. 369, асьпяны (тм.); вольха, але — альховы, Альхоўка (назоў мясцовасьці), альшэўнік, алешнік; восьмі, восьмы, але — асьміна, асьмінанцаць, асьмідзясят (Аль кітаб, 14а10), асьмак (Нсл. 31); восень, восенскі, але — асянчук, асянча (трава, засталая на сенажаці да восені. Войш.) Ворша, але аршанскі.

Дык ясьнюсенька, што перад **а** зь ненацісьненага **о** на пачатку слова або складу прыстаўнога **в** ня бывае.

Таксама ня бывае прыстаўнога **в** перад **а** этымолёґічным (а не паўсталым із ненацісьненага **о**). Перад кажным **а** на пачатку слова або складу ё прыстаўное **в** на прыймені й прыростку **у** або **ў**, але праз гэта ніжэй.

### *Прыстаўное* **в** *перад* **а** *па прыймені* **у, ў.**

Яўхім Карскі кажа: «Калі прыймені **у,** што паўстала ў ведамым палажэньню з **въ** = **ў**, даводзіцца стаяць перад **о** альбо **ы** (а рэдчас **у** і на'т зрэдку перад іншымі самагукамі), дык яно разьвівае пасьля сібе другое **в,** каторае зьяўляецца такім парадкам быццам прыстаўным перад наступным самагукам (увадно, увайшоў, увусі)». Белор. II—1, 420.

З гэтым, адылі ,нельга згадзіцца.

Наўперад трэба зацеміць, што перад пачатным **у** прыймя **у, ў** з **въ** ня можа разьвіваць **ь**, бо, як паказана вышэй, пачатнае **у** зь вялікага юса

заўсёды мае прыстаўное **в** незалежна ад прыймені **у**, **ў** з **въ;** таксама пачатнае **у** націсьненае; а пачатнае **у** ненацісьненае ізноў або мае перад сабою прыстаўное **в**, або пераходзе ў **ў** (**у** нескладатворнае).

*Перад* **ы** *яшчэ* ў пару праславянскую зьявілася прыстаўное **в**, дык цяпер няма словаў із пачатным **ы** з выняткам выклічніка **ыт**, **ых** ды ад гэтага дзеяслова **ыхаць** — **ыхнуць**, перад каторымі ня бывае прыстаўнога **в**. Што да у вусі (або у **вусе**), дык тут ё прыстаўное **в** незалежна ад прыймені у, ў з въ, бо маем-жа **вуха, вухам, на вусе**, дык і ў **вусе** або (дыялектычна) **у вусі.** Праз **у вадно** будзе зараз сказана. Што да хормаў «увайшоў, увыйшоў», дык адсылаю да J. Stankievič — Mova rukapisu Al kitab, бб. 36—39, асабліва апошняя.

Па прыймені **у** або **ў** ё **в прыстаўное** перад **а.** Прыклады: адзін, але — у ваднаго; адзін кажа адно, а другі — другое, але абодва кажуць у вадно; **агонь, на агню, пад агнём, з агнём,** але — **у вагню; адзежа, на адзежы, з адзежаю, пад адзежай, у харошай адзежы,** але — моль у вадзежы; **авес, на аўсе, з аўсом, у нашым аўсе,** але — гусі ў ваўсе; азярод — у вазяродзе. І г. д. Множасьць прыкладаў прыводзе Карскі (II—1, 421—422).

Ня толькі па прыймені **у**, **ў** ё прыстаўное **в** перад **а** зь ненацісьненага **о,** як у менаваных прыкладах, але й перад **а** этымолёгічным. Прыкл.: Адам, але — у Вадама, Абрам — у Вабрама (у Вабрама новыя боты), Аляксандра — быў у Валяксандры, Антон — кніга ў Вантона, Амэрыка — жывем у Вамэрыццы. На пісьме, адылі, каб не мяняць выгляду собскага імені, валей **в** дадаваць не да спакменьніка, але да прыймені **у** або **ў**, ставячы за ім. Зн., прыкл., замест «быў у Вамэрыццы» пісаць «быў ув Амэрыццы». Як відаць із прыведзеных прыкладаў, ня толькі па прыймені **у**, **ў** з **въ,** але й па прыймені **у** старым перад пачатным **а** зьяўляецца прыстаўное **в.**

Калі па прыростку (прэфіксу) **у** або **ў** стаіць **а**, дык перад ім таксама будзе прыстаўное **в.** Прыкл.: як бы ўвасабленьням. У. Дзяржынскі — Выпісы зь белар. літаратуры, 154; хмара фантазяй паэты ўвасабляецца ў вабразе панурае, вялізнае жывёлы. М. Пятуховіч — Нарысы гіст. белар. літ., 199, а ўвасоблены. Я. Колас у літ. крытыцы. Тм. 77.

Разгледжаная зьява вельмі старая. Яшчэ ў мове праславянскай, у пару яе супоўнае суцэльнасьці, былі прыстаўныя **у**, **і** нескладатворныя, паходзячыя спачатна з канчаткаў пярэдняга слова, каторыя мелі на канцу **ъ, у кароткае, ь, і.** Паўстаўшы ў проказным злучэньню (sandhi), гэтыя протэтычныя гукі пасьлей загульніліся і ўжываліся таксама на пачатку проказі а мовы. З гэтае пары паходзе прыстаўное **в** перад пачатным **ы** (**ы**кці, пры**ы**каць) а **ъ** (въз-).[3] Прыстаўное **в** перад **ы** а **ъ** ёсьць у ўсіх мовах славянскіх.

Пасьлей, у пару дыялектнай дыфэрэнцыяцы мовы праславянскае, у ёй разьвілося прыстаўное **в** перад пачатным вялікім юсам. Абняло яно ў мове праславянскай дыялект вялікалітоўскі, польскі а баўгарскі; дзеля таго

---

[3] Прыймя-прэфікс **въз-** ёсьць у мове вялікалітоўскай у хорме **ваз-** (вазьму), **воз-** (возьме з възьме), калі **ъ** у **въз-** ёсьць у палажэньню моцным, і ў хорме **уз-** (узнор з възноръ, усход з възходъ), калі **ъ** слабы, бо тады ён чэзьне, а **в** пераходзе ў **у** або **ў.**

й ё цяпер у мовах із гэтых дыялектаў прыстаўное **в** перад вялікім юсам або самагукамі паўсталымі зь яго (у мове вялікалітоўскай перад тым **у**, што зь вялікага юса).

Відаць, крыху пасьлей пашырылася прыстаўное **в** перад **о** а **у** ў дыялекце вялікалітоўскім, кашубскім, вышнім а дольнім лужыцка-сэрбскім а палабскім, з чаго й ё цяпер гэтая рыса ў мовах тых-жа назоваў.

Асаблівасьцяй вылучна вялікалітоўскай ё прыстаўное **в** перад **а** па прыймені **у, ў.**

Як прыстаўнога **г**, так і прыстаўнога **в** расійская а сэрбска-харвацкая мовы ня маюць.

У мове ўкраінскай ё прыстаўное **в** толькі перад **о** закрытым, каторае сталася такім з прычыны заніку еру ў наступным складзе (**він** з **вон**, каторае з **вонъ).**

Прыстаўное **в**, як вуснавое, магло разьвіцца толькі перад самагукамі вуснавымі **ъ**, **ы**, вялікім юсам, **у**, **о**, а перад **а** ў мове вялікалітоўскай ізноў толькі па вуснавым **у, ў.** Дзе гэтых умоваў нямашака, там і няма прыстаўнога **в.** Ужываньне прыстаўнога **в** вонках гэтых умоваў робе мову штучнай, карыкатурнай. Праўда, можна дапусьціць, што ў некаторых вельмі вузкіх мясцовасьцях пад уплывам прыстаўнога **в** перад **о** (вокны), паўстала ў іншай хорме таго-ж слова **в** перад **а** і не па прыймені **у, ў** (вакно), але нельга такое абмыльнае мясцовае ўжываньне пашыраць на мову ўсю, уводзіць яго ў мову літаратурную. Тыя-ж мававеды без навукі мовы ўважаюць, што калі ў мове стаяць два **а** адно ля аднаго, ё так званы гіят (рас. зияние), дык гэта брыдка, трэба тут мову папправіць, уставіўшы **в** памеж двух **а**, і пішуць «на вакне» і пад. Яны ня ведаюць, што два **а** побач ё толькі на пісьме, а ў нормальнай (а ня ў штучна расьцягненай) вымове два такія **а** сьцягнуцца ў вадно **а.** Пішуць «на акне», «на адным», «за акном» і пад., а вымаўлюць «на кне», «на дным», «за кном». Калі два **аа** належаць да двух словаў, як у прыведзеных прыкладах, дык пісаць іх нельга накш як два, дарма што вымаўляюцца як **а** адно. Калі, адылі, два **аа** ё ў вадным слове, дык ня толькі вымаўляем, але й пішам адно **а.** Гэтак, прыкл., **захоціць, захочаваць** паўсталі із **заахоціць, заахочаваць** сьцягненьням двух **аа** ў вадно. Прывяду фразы: Захоціў яго ў маскалі йсьці (Нсл. 191); Ня трэба захочаваць, калі сам ня хоча (Тм). **Зачы** — рас. заочно, за глаза. Гсл.; Міх; Нсл. 193. Прыкл.: Ты мне кажы ў вочы, а ня зачы. Міх. Зачы і ў вочы скажу. Нсл. Начы — на глаза. Нсл. 325, Начы не паказаўся мне. Тм. Натрапіўся начы. Тм. **Зачы, начы** паўсталі із **за ачы, на ачы** (у старую пару мовы нашае націск быў на прыймені, а не на спакменьніку) сьцягненьням двух **аа** ў вадно. Таксама вышменаваныя **зайстрыць, пайстрыць** паўсталі із **заайстрыць, паайстрыць** сьцягненьням двух **аа** ў вадно **а.** Прыведзеныя прыклады заразом добра сьветчаць, што **не** па прыймені **у, ў**, перад **а** няма прыстаўнога **в.**

Дык правіла што да прыстаўнога **в** будзе гэткае: **На пачатку слова або складу прыстаўное** в **ё перад кажным, націсьненым і ненацісьненым, тым** у, **каторае паходзе зь вялікага юса (вусы вусаты); прыстаўное** в **ё заўсёды перад** у **старым націсьненым (вуха, вуліца); перад** у **старым ненацісьненым прыстаўное** в **ў вадных словах і хормах бывае, а ў другіх не (вучыцель, вучыць, але учынак, урад, урадовы, наўчоны); перад** а **як этымолёґічным, так**

**із ненацісьненага** о **прыстаўное** в **ё толькі па прыймені** у **або** ў **і па гэтымжа прыймені-прэфіксе (акно, аконьніца, айстрэць, айстрыць, айструсенькі, адзежа, на адзежы, але — у вадзежы; асоба, але — ўвасабленьне). На пісьме прыстаўное** в **перад А собскіх імёнаў дадаецца не да спакменьнікаў, але да прыймені** у **або** ў **(Быў ув Адама). Перад націсьненым пачатным і пачынаючым склад** о **ё заўсёды прыстаўное** в **(вока, восень, Вольга).**

## СКАРАЧЭНЬНІ ЖАРОЛАЎ (МЯСЦОВАСЬЦЯЎ І ЛІТАРАТУРЫ)

**Ар.** – сяло Арляняты Ашмянскага павету.

**БНсл.** – М. Байкоў і С. Некрашэвіч. Беларуска-расійскі слоўнік, Менск, 1926.

**Вал.** – Валожынскі павет.

**Войш.** – сяло Войштавічы Валожынскага павету.

**Гсл.** – Максім Гарэцкі. Невялічкі Беларуска-маскоўскі слоўнік, выд. 2-ое, Вільня, 1921.

**Ксл.** – Касьпяровіч. Краёвы слоўнік Віцебшчыны.

**Міх.** – сяло Міхалкавічы Лагойскага раёну.

**НК.: Очерки** – Н. Я. Никифоровский. Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии, Віцебск, 1895.

**Нсл.** – Слоўнік Насовічаў.

**Рапан.** – Яўген Рапановіч. Беларускія прыказкі, прымаўкі й загадкі, Менск, 1958.

**Янк.** I – Ф. Янкоўскі. Дыялектны слоўнік I, Менск, 1959.

### Іншыя скарачэньні

**пол.** – полёнізм.

**прык.** – прыказь.

**рус.** – русыцызм.

**тм.** – там-жа.

*МАТЭР'ЯЛЫ*

# Прыказкі й асаблівыя выказы з Лагойшчыны ў Меншчыне

Адам Варлыга

**Ад Рэдакцыі:** Зьмешчаныя ніжэй «Прыказкі й асаблівыя выказы» былі Аўтарам чутыя з 1897 па 1930 гг. у Лагойскім раёне Меншчыны. Але запісваць іх Аўтар пачаў з памяці адно з 1945 году, калі знаходзіўся ў ДП-лягеры Заходняе Нямеччыны. Яны адноўленыя з памяці й запісаныя паводля тэй вымовы й слоўніцтва, як іх чуў Аўтар і як гавораць у Лагойшчыне. Аўтарскія аб'ясьненьні да прыказак былі напісаныя шмат пазьней, пачынаючы прыблізна шэсьць год таму.

Як фальклярыстычная, гэтак і моўная каштоўнасьць гэтых прыказак бясспрэчная. Дык не зважаючы на тое, што многія зь іх наагул шырака ведамыя й надрукаваныя ў розных этнаграфічных зборніках у розных варыянтах, уважаем карысным надрукаваць іх тут поўнасьцяй. Гэтта друкуецца адно палавіна ўсіх прыказак, запісаных Аўтарам. Другая-ж палавіна будзе зьмешчаная ў наступнай кнізе «Запісаў».

## А

1. **А братачка мой, зьела сучка лой.** Жартаўлівая гульня словаў. Гэтак прыказваюць, каб перабіць пустую гутарку.

2. **Аб свайго гаварыць — галава баліць.** Гэтак наракае той, хто мае блізкіх з радні людзей, якія дрэнна сябе паводзяць і гэтым зьнеслаўляюць усю радню.

3. **Аб воўку памоўка, а воўк тут.** Гэтак прыказваюць, калі ў гутарцы некага ўспамінаюць, а ён у гэты час зьяўляецца.

4. **Абадранцы пусьціліся ў танцы.** У простым сэньсе гэтак прыказваюць тым, што ў непрызваітым выглядзе выступаюць перад людзьмі. Гэтак-жа прыказваюць людзям, якія бяруцца за справу, да якое непадрыхтаваныя й няздольныя.

5. **Абедаў, абедаў, а жывот ня ведаў.** 1) Гэтымі словамі гаспадары перапрашаюць гасьця ці робяць яму вымову, што ён хоць доўга сядзеў за сталом пры ядзе, а страва ўся цэлая. 2) Гэтымі словамі работнік наракае на гаспадара, калі ён хоць і доўга сядзеў за сталом пры абедзе, але галодны, бо ежа была або няпрыгодная, або яе было мала.

6. **Абіваць парогі.** Часта да некага хадзіць і надакучаць гаспадару.

7. **Аблізаў таўкач.** Гэтак высьмейваюць таго дзяцюка, які езьдзіў да дзеўкі ў сваты, ды дзеўка адмовілася выйсьці за яго замуж.

8. **Або ірай, або грошы аддай.** Гэткія патрабаваньні ставяць да таго, хто ўзяў наперад плату, ды ня хоча выконваць умоўленай работы.

9. **Або пан, або прапаў.** Гэтак прыказвае той, хто рыхтуецца да рызыкоўнага чыну. Калі чын удасца, дык будзе ў павазе, славе й багацьці: будзе панам, а калі ня ўдасца, дык загіне, прападзе.

10. **Або сена клок, або вілкамі ў бок.** Тут у простым сэньсе гаворыцца аб быку. Гэтак прыказваюць таму, хто рыхтуецца да рызыкоўнага чыну з малой выгранкай.

11. **Абоя — рабоя.** Гэтымі словамі робяць параўнаньне, калі абое роўныя, адзін варты другога.

12. **Абсьліненая ваўком авечка ў лес бяжыць.** Былі такія назіраньні, што калі воўк злове авечку ды нясе ў лес і зь перапуду кіне яе ды ўцякае, дык яна не варочаецца да стада, але па сваей авечай дурноце бяжыць у лес за ваўком. Гэтак прыказваюць тады, калі нехта збаламучаны сваім ворагам-злачынцам, ідзе за ім на сваю пэўную загубу. Гэтак кажаць і аб тых, што ідуць навосьлеп за ворагамі-чужынцамі на сваю нацыянальную загубу.

13. **Абуў у лапці.** Гэтак прыказваюць, калі нехта моцна некага ашукаў.

14. **Абхадзіў туркі-баркі й воўча балотца.** Гэтак прыказвае той, хто шмат хадзіў, нечага шукаючы ці прапытваючы.

15. **Абы была галава на карку.** Гэтак прыказваюць таму, калі нехта бядуе, што таго ці іншага не хапае, бо калі будзе галава на карку, дык з часам усё набудзе.

16. **Абы біда, а грошы будуць.** Гэтак прыказваюць, калі неўспадзеўкі на беднага чалавека звалілася бяда й патрэбныя грошы, бо ён або нешта патрэбнае прадасьць, або пазыча, але грошы дабудзе.

17. **Абы біда, а шыя будзе.** Гэтак прыказваюць, калі навальваецца бяда на грамаду, бо яна калі не аднаго, дык другога прыдуша. Прыклады: Калі воўк нападзе на вясковыя авечкі, дык нейкую авечку панясе. Або, калі з Райкому прыйдзе загад: «Даць з кажнага калгасу па сям'і для высылкі на Далёкі Усход» — дык тую ці іншую сям'ю зь вёскі хопяць.

18. **Абіцаная шапка на вушы ня лезя.** Гэтак упікаюць таму, які шмат абяцаў за аказаную дапамогу, але нічога ня даў.

19. **Абіцанкэ-цацанка, а дурному радасьць.** 1) Гэтак высьмейваюць паслухмянага-наіўнага чалавека, што вера абяцанкам ліхвяра-ашуканца.

2) Гэтак прыказвае ашуканы чалавек, калі ашуканец не аддае, што вінаваты, а цеша абяцанкамі.

20. **Ад Бога грэх і ад людзей сьмех.** Гэтах наракае чалавек сам на сябе, калі зрабіў нейкі праступак праз сваю сваволю.

21. **Ад вастрогу й ад торбы ні адмовішся.** І нявінны можа папасьці ў вастрог і кажны можа зьбяднець ды стацца ўбогім.

22. **Ад Грамніцаў зімы траціна, а да хлеба палавіна.** Сялянская заўвага Ад Грамніцаў, 2-га лютага застаецца зімы адзін месяц, але да новага хлеба трэба чакаць паўгода, бо толькі ў жніўні бывае новы хлеб.

23. **Ад капусты ногі клусты.** Паводля сялянскага разважаньня капуста самая пажыўная й сытная ежа, калі да яе дадаць хлеб і сала.

24. **Ад летка да летка чакай, маё дзетка.** Прыказваюць, калі тэрміновую справу суляць адкласьці на неазначаны час.

25. **Ад ліха ціха, алі й дабра німа.** Жартаўлівы адказ, калі пытаюцца аб жыцьці, аб навінах.

26. **Ад Міколы правая зіма й правая лета.** Сялянская заўвага аб тым, што запраўдная зіма пачынаецца ад зімовай Міколы, 6 сьнежня, а лета ад Міколы веснавой, 9 траўня.

27. **Ад напасьці ні прапасьці.** Прыказваецца калі на нявіннага чалавека ўзложаць напасьць, бо ня трэба тады ўдавацца ў роспач, але напасьць мужна пераносіць і ад яе бараніцца.

28. **Ад пекла адарваўся й да раю ні дастаўся.** Аб тым, хто з благога месца вырваўся, але й у добрае ня змог папасьці.

29. **Ад работы й коні дохнуць.** Гэтак прыказвае гультай, калі яго прымушаюць да работы.

30. **Ад роднага таткі дорагі й латкі.** Ня толькі тая спадчына дарагая ад блізкога чалавека, якая мае матар'яльную каштоўнасьць, але яшчэ даражэйшаю можа быць тая, што хавае ў сабе дарагі ўспамін аб блізкой асобе.

31. **Ад сьмерці рук ні падложыш.** Гэтак разважаюць таго чалавека, у каго памерла блізкая асоба.

32. **Ад сьніткі ногі як ніткі.** Гэтак прыказвалі даўней, калі раньняй вясной варылі мяцьва з травы сьніткі, зь якога целу ня было пажытку.

33. **Ад таго мы пагалелі, што соладка пілі й елі.** Часта людзей да беднасьці прыводзіць п'янства й смачная ежа.

34. **Ад хатняга злодзія ні ўсьціражэшся.** Прыказваецца тады, калі нехта жыве з злодзеям.

35. **Ад цяплосьці ні баляць косьці.** Прыказваюць найчасьцей старыя, калі маладыя ім прытыкаюць, што духата ў хаце, або калі стары надта цёпла адзеўся.

36. **Адвага або мёд п'е, або кайданы трэ.** Калі адважны чын удасца, дык чалавек будзе раскашавацца ў шчасьці, калі-ж не ўдасца, дык загіне ў кайданох.

37. **Адвага й гарады бярэ.** Толькі адважны можа лічыць на ўдачу.

38. **Адвага ні зьнівага.** Адвага заўсёды добрая прыкмета чалавечага характару.

39. **Адважны ні баіцца ніўдачы.** Адважны заўсёды пэўны ў сваей перамозе.

40. **Адважны — пан важны.** Адважнага паважаюць ня толькі ягоныя прыяцелі, але й ворагі.

41. **Адважны п'е мёд, а раздум ваду.** Людзі адважныя, сьмелае рызыкі звычайна жывуць у дастатку, а разважлівыя найчасьцей бедна, бо мала дзеюць.

42. **Адзін вырай вясны ня робя.** Першая навіна можа быць і хвальшывай. Лепш пачакаць і паглядзець, ці яна спраўдзіцца.

43. **Адзін дасуж ды ядуж.** Хоць адзін і можа абдумаць добра справу, але часта ня ў сілах зрабіць вялікае работы.

44. **Адзін з сошкай, а сямёра з ложкай.** Прыказваецца, калі аднаму працаўніку трэба пракарміць шмат дармаедаў або вялікую непрацаздольную сям'ю.

45. **Адзін і хлеб прыедліў.** Адно й тое самае, хоць і найлепшае, можа надакучыць, як і сам хлеб бязь іншай яды.

46. **Адзін сказаў на глум, а другі бярэ на вум.** Ня трэба захапляцца чужымі, хай сабе й прыгожымі словамі, а трэба іх пераўзважыць сваім розумам, ці няма ў іх нейкага кепства ці хітрасьці.

47. **Адзін хоць зьеж вала — усё адна хвала.** Толькі гасьціннасьць і сяброўства дае чалавеку пашану й славу, скупасьць-жа й зайздрасьць паніжае.

48. **Адклад ня йдзе ў лад.** Перасьцярога-рада не адкладаць работы ці справы на пазьней.

49. **Адкроіная ськівка ні прыліпня.** Прыказваюць, калі аддадзеная замуж дачка хоча вярнуцца да свайго бацькі: як ськівка ня можа прырасьці да булкі хлеба, гэтак і замужняя дачка ня можа вярнуцца да бацькавай сям'і й стацца ізноў семянінам.

50. **Адна біда да чалавека ні прыходзя, а па колькі разам.** Перакананьне, што адна бяда ў чалавека часта выклікае іншыя беды.

51. **Адна варона з куста, а сем на куст.** Калі адзін чалавек зьляціць з прыбытковай пасады, дык на ягонае месца зьяўляецца сем новых ахвотнікаў.

52. **Адна галава на карку.** Гэтак прыказваюць-разважаюць чалавека, які наракае на сваю беднасьць, бо мае ўсяго нейкую адну рэч ці жывёліну.

53. **Адна кашуля на мне, а другая ў кубля на дне.** Гэтак прыказваюць аб небагатым, але дбайным чалавеку, які не дапускаецца да аднэй кашулі, але мае заўсёды другую ў запасе.

54. **Адна паршывая авечка ўсё стада паскудзя.** Прыказваюць, калі адзін благі чалавек зьнеслаўляе ўсю сям'ю ці грамаду.

55. **Аднаму й у кашы няспорна.** Аднаму спору ў працы няма, як няма й у ядзе.

56. **Адно вока й тоя спаць хоча.** Аб нядбайным гаспадары, у якога ёсьць усяго адна нейкая рэч ці жывая істота, але й яе трэба дагледзіць. Прыкладам, ёсьць адно дзіця, якое трэба добра выхаваць і навучыць.

57. **Адно права праў.** Рабі адну работу. Прыказваюць, калі нехта за колькі работ зразу бярэцца. Прыклад: «Ты, хлопец, адно права праў — калі ясі, дык еш, а не — вылазь з-за стала ды чытай».

58. **Аднолькава, браця, гініш дык аддай мне й калапнініц.** Калі бедны чалавек гіне, дык ягоны багацейшы сусед ня толькі яму не памагае ў бядзе, але хоча загарнуць і апошнюю маемасьць. Калапнінец — месца, дзе сеюць каноплі, звычайна найлепшая ў гаспадарцы зямля.

59. **Аднолькава разбрахаўся, дык аб кросны папытаўся.** Аб гаварлівым чалавеку, які перапрашае, што памыліўся ў гутарцы, ці сказаў непатрэбнае слова. Талковы мужчына не павінен гаварыць аб жаночых справах, кросны-ж — жаночая работа.

60. **Адну авечку стрыгуць, а сем трасецца.** Прыказваюць, калі на аднаго зь вёскі спадзе раптоўная бяда, якая можа зваліцца й на кажнага іншага. Прыкладам: адну сям'ю апісалі й вывозяць на высылку, а ўся вёска дрыжыць ад страху, бо ўжо заўтра гэта-ж можа здарыцца з кажным іншым.

61. **Адну дзірку ладзь, а другая там-жа глядзь.** Старой благой рэчы ня варта ладзіць, бо не аплаціцца.

62. **Адных бацькоў дзеці ды няроўныя.** Прыказваюць, калі родныя браты маюць розныя характары ці розныя пагляды.

63. **Адпёк пірагі.** Прыказвае той, хто адпомсьціўся за сваю крыўду.

64. **Адрыгнуцца ваўку авяччы сьлёзы.** Прыйдзе час, калі й дэспаты будуць пакараны за свае злачынствы.

65. **Аднэй маткі дзеткі ды ніаднолькавыя песьні пяюць.** Хоць і аднаго краю людзі, але маюць розныя перакананьні.

66. **А ён будзя казаць.** «Чаму ты, Бронька, у калгас ня ідзеш? — запытаўся камсамолец. А Бронька будзе казаць: — Я лепі ў возеры ваду замучу (знача — утаплюся), як у калгас іці».

67. **А ён сваё права правя.** Прыказваюць, калі нехта ня слухае ні заўвагаў, ні перасьцярогаў, а робе тое самае, што й рабіў.

68. **Ай, ґвалт! Жыды Мэндаля б'юць!** Гэтак усклікаюць, калі пачуюць нязвычайную сьмешную навіну.

69. **Аж вочы на лоб лезуць.** Прыказваецца пры падыманьні нечага цяжкога.

70. **Аж вушы вянуць.** Прыказваюць, калі нехта пры грамадзе бяз сораму выказвае брыдотныя словы, а таксама калі чуецца дакучлівы плач.

71. **Аж зімля стогня.** Прыказваюць пры гарматняй страляніне ці грымотах.

72. **А касьнік вісіць? А дзяцюк глядзіць?** Гэтак жартуюць, калі дзяўчына доўга прыбіраецца перад люстэркам.

73. **Алé! Паехаў на валé.** Гэтак жыхары нашай ваколіцы прыказваюць жыхаром суседняй Гаенскай ваколіцы, калі пачуюць, што тыя патакаюць словам «Алé!», бо ў нашай ваколіцы патакаюць словам «Ага́!».

74. **А мой-жа ты ціляпень, ня бі мяне цяпер. Я жыла, ні была, і пamру ні пайду.** Гэтак прыказваюць, калі мала бывалы чалавек спалохаецца новага вынаходу — аўтамашыны, радыя ці чаго іншага. Паходзе гэта з казкі: Старая баба прышла першы раз да царквы ды стала пад званіцай. Калі звон над галавой зазваніў, яна спужалася звону й гэткімі словамі ў яго прасілася.

75. **А наш Андрэй за ўсіх мудрэй.** Гэтак прыказваюць на пахвалу рызыканта.

76. **Ані рухнуў, ані вухнуў.** Прыказваюць таму, які за зробленую ласку не сказаў ні «дзякуй», ні благога слова, бо-ж навет і сьвіня, калі адыходзіць задаволеная ад карыта, дык рухне, а калі незадаволеная, дык вухне.

77. **Ані той дух.** Прыказваецца аб чалавеку, які не даецца ўгаварыць.

78. **Ані тоя туды.** (Як і папярэдняя).

79. **Ані цыбулькі, ані ўкрышыць у што.** Калі няма чаго есьці, дык не галоўная бяда, што няма цыбулькі, але што няма ў што яе ўкрышыць.

80. **А Паўлачка, а бацячка, устань і паглядзі, што твой сын шэльма Мікалайчык робя.** Гэтак жартаўліва прыказваюць, калі бачаць відавочную несправядлівасьць. Гэты зварот гістарычны. Калі пры цары Мікалаю І у Барысаве забралі першага Жыда ў расейскае войска, дык ягоны бацька, галосячы, гаварыў гэтыя словы. Перад гэтым-жа Жыды ў Беларусі былі звольненыя ад ваеннай павіннасьці. Пры звадцы яны навет упікалі Бела-Веласа. Можна прыпускаць, што гэтая прыказка далёкай старасьвеччыны.

81. **Апёкся на малацэ, дык студзя й на вадзе.** Гэтак прыказваюць, калі чалавек меў нейкае балючае пашкоджаньне, дык посьля высьцерагаецца й там, дзе яго ніколі ня можа быць.

82. **Апошняга й у салдаты ні бяруць.** Прыказвае той, хто ня хоча нечага апошняга аддаваць. Да 1914 году ў Расейскай імпэрыі апошняга (адзінага) сына ў войска ня бралі.

83. **Апошняя ў папа жонка.** Прыказваюць таму, хто ня хоча нечага апошняга аддаць, бо ўсё можна набыць, толькі праваслаўны сьвятар другі раз ня можа жаніцца.

84. **Аржаная каша сама сябе хваля.** Прыказваюць таму, якога ніхто ня хвале, а толькі ён сам сябе.

85. **А там Бог бацька.** Прыказваюць тыя, што спадзяюцца на нейкае *паляпшэньне*.

86. **Атросься ды й панёсься.** Прыказваюць аб тым, які нарабіў крутнінпрыемнасьці й сам нейдзе ўцёк.

87. **А ў калгас!** Кліч-пагроза на свайго праціўніка ў 1930-31 гадох, калі сілком у калгасы заганялі.

88. **А ў сабакі хата была?** Гэткая заўвага ставіцца, калі нейкі прайдзісьвет выхваляецца аб сваім багацьці.

89. **Аўгіня нявінна й Ігнат ні вінават.** Прыказваецца, калі ў сям'і нейкая бяда ці дрэнная прыгода, калі кажны правуецца, што ён тут ня вінны ды звальвае віну на іншага.

90. **Аўлас ды ні ў нас.** Гэтак прыказвалі тыя бедныя людзі, у каго ня было скароміны, бо на Аўласа сытная ежа. Сьвята Аўласа ў чэсьць бога Веласа. Сьвята гэтае абходзілі ў вапошні чацьвер перад Масьляніцай.

91. **Аўдзей усё між людзей.** Прыказваюць аб хітрым бяссумленным чалавеку, які ўмее прыстасавацца да кажнае кумпаніі, каб пажывіцца.

92. **Аўлас па калені ў масьля.** Аўлас-Велас бог статку. Сьвята ў яго гонар адбывалася вясной, калі ўжо сьвежае масла. Магчыма, што перад балваном Веласа клалі масла ў вахвяру, што тое масла дасягала каленяў Веласа. Можна прыпускаць ,што гэтая прыказка далёкай старасьветччыны.

93. **Ах ты злодзі канавод, вадзіў коні праз гарод.** Жартаўлівая гульня словаў. Прыказваецца, калі спрытны апавядальнік усхваляе свае шальмоўскія прыгоды.

94. **Ах ты злодзі паяёк, цябе білі, а я ўцёк.** У простым сэньсе справа гэтак выглядае: Два злодзеі пашлі красьці яйкі. Аднаго злавілі ды білі, а другі ўцёк. Той, што ўцёк, лаяў свайго паплечніка й абвінавачваў яго ў зладзействе. Гэтак прыказваюць, калі прапышны злачынец абвінавачвае злачынцу другога, з малымі праступкамі. Гэты злачынец абвінавачвае не за самое злачынства, а за тое, што той ня мог канцоў пахаваць.

95. **Ахвотна горш няволі.** Гэтак прыказваюць таму, хто без развагі, па сваей волі й ахвоце наклікаў на сябе нейкае няшчасьце.

## Б

96. **Баба з калёс, калёсам лягчэй.** Прыказваюць, калі бескарысны чалавек адмаўляецца ад кампаніі, ці гультай адмаўляецца ад службы.

97. **Баба качаргу міняла й тры дні гуляла.** Прыказваюць ахвотнікі да дармавой выпіўкі, каб намовіць свайго сябру ставіць барыша, калі той нешта прадае ці купляе.

98. **Багатаму й чорт дзяцей калыша.** Багатаму ўва ўсім шанцуе.

99. **Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца.** Аб тым, што бедны, хоць мала мае, але нейк жыве, не паміpae.

100. **Багаты ня ведае, чым бедны абедая.** Аб тым, што багаты ня знае таго, што бедны часта ня мае чаго й зьесьці.

101. **Баіцца, як чорт крыжа.** Прыказваецца, калі нехта ня хоча спатыкацца з сваім працаўнікам і далёка яго абходзе.

102. **Бакі парваць.** Насьмяяцца ў вахвоту.

103. **Балазе таму жыць, чыя баба ўмее варажыць.** Добра таму разважаць аб жыцьці другіх людзей, чыя жонка добрая гаспадыня.

104. **Балота бяз чорта ня бывая.** Паганае месца бяз злыдняў ня бывае.

105. **Баліць у грудзях, ня быць у людзях.** Хацелася-б пабываць далей у сьвеце, але хвароба перашкаджае.

106. **Барада як у смурада́.** Высьмейваньне неахайнай барады.

107. **Балявалі пакуль голы сталі.** Аб тым, што частыя гулі ды балі даводзяць да беднасьці.

108. **Ба́хі забівая.** Аб чалавеку, які адпіраецца ад сваіх словаў ці чынаў: «Ён ба́хі забівае, што там ня быў і нічога ня ведае».

109. **Бацька зьбіраў войкаючы, а сын пуская гойкаючы.** Прыказваюць, калі бацька нажываў гаспадарку пры вялікіх турботах і пакутах, а сын яе прапівае.

110. **Бацька пайшоў сабакам сена касіць.** 1. Гэтак кажуць дзеці, якія ня знаюць свайго бацькі. 2. Гэтак кажуць і тыя дзеці, якіх бацька сядзіць у вязьніцы за крымінальныя злачынствы. 3. Гэтак кажуць і тыя, якіх бацька выракся й круціцца нейдзе па сьвеце.

111. **Бацька шапкі ні купіў — ніхай вушы мерзнуць.** 1. Прыказваюць да тых, якія, ня маючы моднай адзежы, будуць мерзнуць, але не апрануць адзежы простай. 2. Прыказваюць таксама тым ганарыстым людзям, што, калі ім не ўдалося заняць высокай паважнай працы, дык гатовы галадаць, але ня будуць працаваць на простай рабоце.

112. **Бацькі запазухі дзяруць дзецям хлеб хаваючы, а дзеці запазухі дзяруць ад бацькоў хлеб хаваючы.** Аб любасьці бацькоў да сваіх дзяцей і клопатах аб іх, і аб няўдзячнасьці благіх дзяцей да сваіх бацькоў.

113. **Бача вока, дзе пячэцца кока.** Прыказваюць, калі нехта цісьнецца да тога месца, дзе можна пажывіцца.

114. **Бача вока ды ісьці далёка.** Хоць відаць і панадная рэч, але шкада клопатаў на тое, каб яе дасягнуць.

115. **Бача вока, ды ляжыць высока.** Хоць рэч і панадная, але немагчыма яе дабыць.

116. **Бачыў Бог працу, алі пашкадаваў мазаля.** Прыказваюць гультаю, які хваліцца, што шмат работы зрабіў.

117. **Бачыў кум сонца?** Гавораць, калі паказваюць прастаку няхітры сакрэт пры працы, якога ён перш не разумеў.

118. **Беднай сіраце даварыцца ў жываце.** Аб тым, што гаротнай сіраце даводзіцца есьці страву абы як прырыхтаваную й не даватраную.

119. **Бедны ў балоце.** Гэтак даўней прыказваў той, каго называлі бедным, бо ніхто, апрача старцаў-убогіх, ня любіў, каб звалі яго бедным. Бедным называлі чорта, які прымушаны вечна сядзець у балоце.

120. **Белы, як сьнег на кузьні.** Жартаўлівае прыраўнаньне. На кузьні сьнег заўсёды чорны.

121. **Белыя рукі чужую працу любяць.** Гэтак прыказвалі сяляне багатым ліхвяром.

122. **Біз ахвоты німа й работы.** Прымусовая праца не дае пажаданых вынікаў.

123. **Біз вусоў, біз барады, як чорт малады.** Высьмейваньне блазна, якому ня можна давяраць.

124. **Біз навукі й лапця ні сплящеш.** Каб умець выконваць і самую простую работу, перш трэба яе навучыцца.

125. **Бі й таўкачом, абы было па чом.** 1. Можна чалавека цяжка караць, але перш трэба разабрацца, ці ён вінен. Тут «па чом» —, ці ёсьць за што. 2. Хоць чалавек і вінен, але калі слабы на здароўі, дык ня можна цяжка караць.

126. **Біцца ні гадзіцца, і лаіцца ні дазваляіцца.** Гэтак навучаюць дзяцей і падлеткаў, каб жылі ў згодзе.

127. **Благая зімля й ня родзе, і насеньня ня зводзя.** Гэта значыць, што колькі гаспадар высяяў на благой зямлі, толькі й намалоце. Калі-ж гаспадар мае насеньне, дык не адважваецца кінуць зямлі, бо мае работу й мае надзею на паляпшэньне.

128. **Благая зімля і прэч ня гоня, і хлеба ні дае.** Хлеба не дае, бо ня родзіць, прэч ня гоне, бо чалавек прывык да яе й ня мае адвагі пакінуць.

129. **Благая тая дамова, дзе вала бадзе карова.** Прыказваюць, калі жонка вядзе парадкі ў хаце ці гаспадарцы, а мужык сьлепа выконвае яе загады.

130. **Благая тая птушка, што сваё гняздо паскудзя.** Аб чалавеку, які высьмейвае й абняслаўляе сваю сям'ю, радню, народ.

131. **Благі грыб, а біз яго пушч.** Аб старым чалавеку, які хоць і ня здольны да працы, дык хоць хаты дагледзе.

132. **Благі сусед горш за скулу.** Скула баліць і дакучае, але скора зьгіне, а благі сусед будзе дакучаць да веку.

133. **Благоя палажэньне й добраму спакушэньня.** Добрая рэч не павінна ляжаць напаяўцы, бо на яе можа паквапіцца й добры чалавек. Калі добрая рэч будзе без дагляду, дык яна зьвядзе й добрага чалавека.

134. **Благому віду ды ўрэж і носу.** Тут прыводзіцца параўнаньне добрай рэчы ці чалавека з благой рэччу ці чалавекам. Калі прыгожы твар прыпсаваны трохі, дык гэта ня будзе заўважана, а калі да благой рэчы ці благому чалавеку дадаць новую загану, дык гэтая рэч ці чалавек стануць шмат горшымі, як брыдкі твар з урэзаным носам.

135. **Бог відзя, хто каго крыўдзя.** Прыказваюць пакрыўджаныя.

136. **Бог даў, Бог і ўзяў.** Гэтак разважаюць бацькі, калі дзіця памерла. Гэтак суцяшаюць і гаспадара, калі жывёла здохла.

137. **Бог душу сапсаваў: як у пень усадзіў.** Прыказваюць на дурнога ці недарэчнага.

138. **Бог зьвідзя чый баран, а чый певень.** Прыказвае пакрыўджаны, каб напомніць Богу, што ягоная шчырэйшая ахвяра. Прыказка паходзе ад казкі: Багаты прынёс у бажніцу Богу на ахвяру пеўня, а бедны прывёў барана. Калі трэба было здаваць ахвяры, дык багаты адабраў у беднага барана ды здаў на аўтар, а беднаму кінуў пеўня. Бедны, калі клаў на аўтар пеўня, выгукнуў: «Бог зьвідзя чый баран, а чый певень».

139. **Бог і лесу ні зраўняў.** Прыказваюць да таго, што людзі розныя: ёсьць прыгожыя й брыдкія, высокія й малыя, добрыя й благія, бедныя й багатыя.

140. **Бог маўчон, алі лучон.** Бог церпялівы, не адразу карае за праступкі й не адразу мілуе за заслугі, але судзіць справядліва.

141. **Бог ні гуляя ды людзі раўная.** Адны бяднеюць, а другія багацеюць, і гэта ўсё робіцца з волі Бога.

142. **Бог ня роўна дзеля.** Бог адным дае болей, а другім меней і дзеля гэтага ёсьць людзі разумныя й дурныя, шчасьлівыя й нешчасьлівыя, бедныя й багатыя.

143. **Бог ня слухая, што сьвіня рухая.** Прыказваюць, калі чуюць, як благі чалавек, клянучы, просе ў Бога ліха або пагібелі на іншага.

144. **Бог сваю пуньку адчыніў.** Прыказваюць, калі посьле цяжкой зімы стала цёпла й статак пайшоў на сьвежую траву.

145. **Божа памажы, а ты гультай ні ляжы.** Прыказваюць гультаю, каб не чакаў на Божую дапамогу, але каб сам браўся за работу.

146. **Болі заходу як работы.** Кажуць, калі болей часу страчана на падрыхтоўку да работы, як на самую работу.

147. **Бога хвалі, алі й чорта ні гняві.** Калі рабіць дабро добраму, дык ад яго можна спадзявацца яшчэ больш дабра. Але калі без патрэбы наклікаць на сябе гнеў благога чалавека, дык ён можа шмат пашкодзіць.

148. **Болі слухай, а мені гавары.** Гэтак напамінаюць дзецям і падлеткам, каб ня мяшаліся ў размову старэйшых.

149. **Брат з боку, а сусед на воку.** Трэба лепей дагаджаць суседу, як брату.

150. **Браць — сакольля вочы, а аддаваць — савіны.** Прыказваюць тады, калі нехта злуецца, як у яго спаганяюць доўг. Калі нехта нешта пазычае, ці бярэ падарунак, дык мае тады вясёлы погляд, а калі аддае, дык сумны й злосны.

151. **Брэша, як сабака на месіц.** Прыказваюць брахліваму, бессаромнаму чалавеку, які бяз сэнсу кідае брыдкія словы.

152. **Будзім варажыць, дзе галаву палажыць.** Прыказвае той, хто думае ўгадваць дзе ён памрэ.

153. **Будзім мучыцца, пакуль сьмерць лучыцца.** Прыказвае той, хто не спадзяецца папраўы ў сваім гаротным жыцьці да самай сьмерці.

154. **Будзіш біз пары зямлю парыць.** Гэтак старэйшыя перасьцярагаюць маладзейшых, каб шанавалі сваё здароўе або каб сьцерагліся небясьпекі.

155. **Будзіш дудкай хлеб піць.** Прыказваюць гэтак, каб перасьцерагчы некага ад благой сялібы, зямлі, ці благой і дрэнна аплачванай працы. «Дудкай хлеб піць» — гэта значыць хлеба ня будзе, а толькі зацірка ці поліўка.

156. **Будзіш ночы балькі лічыць.** Гэтак прыказваюць пры вячэры гасьцю, калі ён мала есьць, бо ночы ад голаду ня будзе спацца, дык ён будзе «балькі лічыць».

157. **Будзя кірмаш і на нашай вуліцы.** Прыказвае той, хто спадзяецца дачакаць лепшых, шчасьлівейшых часоў.

158. **Будзя пара, вырасьця й трава.** На ўсё будзе свой час, трэба толькі цярпліва чакаць.

159. **Будзя чым чужы пах ад вакна адагнаць.** Гэтак прыказвае бедны, калі зарэжа на мяса нейкую жывёліну.

150. **Буду жыць, як набяжыць.** Прыказваюць у роспачы, калі няма волі ці магчымасьці пакіраваць сваім жыцьцём.

161. **Будуць людзі.** Гаворыцца, калі дзіця ці падлетак падае добрыя надзеі.

162. **Бывалы! Быў раз у царкве й два разы ў млыня — і там гу-гу-гу, і там гу-гу-гу, і разабраць ні магу.** Прыказваюць, каб высьмяяць мала бывалага й мала дазнанага чалавека.

163. **Было ліха дый пагоршыла.** Чым далей, дык жыцьцё й часы горшаюць.

164. **Быў гэрман ды сыграў цыган.** Прыказваецца аб чалавеку, калі ён даўней жыў у багацьці й славе, але посьля зжыўся.

165. **Быў на кані й пад канём.** Прыказваецца аб тым, хто ў жыцьці й раскашаваўся й гараваў.

166. **Быў час, калі паважалі нас.** Гэтак прыказвае чалавек аб даўнейшых добрых часох у сваім жыцьці.

167. **Б'юць і плакаць ні даюць.** Аб пакрыўджаным, якому забаронена й скардзіцца.

168. **Б'юць (злодзея) ні за тоя, што ўкраў, алі што нядобра схаваў.** Гэтак прыказваюць, калі паліцыйныя ўрадоўцы бяруць ад зладзеяў магарыч (подкуп) ды пасылаюць іх красьці. Калі злодзея зловяць з крадзеным, дык гэтыя-ж паліцыйныя ўрадоўцы судзяць яго.

169. **Біда, калі ня п'ецца й вада.** Гэта гаворыцца аб безнадзейным хворым, які ўжо й вады не патрабуе.

170. **Біда па бядзе, як па нітачцы ідзе.** Прыказваецца тады, калі адна бяда выклікае другую.

171. **Біда хоць і муча, алі жыць вуча.** Людзі вучацца жыць на сваей або на чужой бядзе.

172. **Бяло, ні бяло, абы ў вадзе было.** Гэтак прыказваецца на неахайнае мыцьцё бялізны.

173. **Бяры свае цацкі, я з табой ня гуляю.** Гэтак прыказваюць сабе былыя сябры, між якімі сяброўства ўжо кончана й яны разыходзяцца.

174. **Бярэ на хітрыкі.** Аб тым, хто пачынае хітраваць, каб некага ашукаць.

175. **Бярэш кароўку, дык бяры й вяроўку.** У каго гіне гаспадарка, той аддасьць і дробную рэч, якая посьле страты гаспадаркі яму й так непатрэбная.

## В

176. **Вада па аднэй капца капая, алі ў каміні дзірку прабівая.** Заўсёды вынікі дасягаюцца, калі робіцца й надта паволі, але неадступна й зацята.

177. **Важыш на рыбку, дык важ і на юшку.** Калі нехта хоча браць нешта лепшае, дык хай возьме й горшага.

178. **Вазьмі вочы ў жменю.** Кажуць, калі нехта адмаўляецца, што ня бачыць вачавіднага: «Калі ня відзіш, дык вазьмі вочы ў жменю».

179. **Вазьмі дый пакінь.** Гэтак прыказваюць заміж «пакінуў»: «Яму нейкія матылі ў галаву ўбіліся, дык ён вазьмі дый пакінь жонку й дзіця ды пакруціўся ў сьвет».

180. **Валачашчы сабака да кожнага лашчыцца.** Прыказваюць аб распушчанай і занадта ветлівай да кажнага людзіне.

181. **Вар-варам.** Аб празьмернай гарачыні.

182. **Вастры, сучка, зубы — кухар костку дасьць.** Аб ліссьлівым падлізьніку, сквапным на падарункі.

183. **Ваўка баяцца, у лес ні хадзіць.** Прыказваюць таму, хто ставе малаважную прычыну, каб адмовіцца выканаць нейкую работу.

184. **Ваўка ногі кормюць.** Прыказваюць калі нехта парой прыйшоў на абед, ці бегаючы выстараўся нешта карыснае.

185. **Ваўком ваўка ні зацкуеш.** Калі злачынец не прыцягвае да адказнасьці другога злачынца.

186. **Ведаў Бог, што ні даў сьвіньні рог.** Каб благі й злосны чалавек меў сілу ды волю, дык чыніў-бы вялікую шкоду.

187. **Век аздобы ў вянку ні знасіць.** Прыказвае той, каму робяць закіды, што ён не прыбіраецца.

188. **Век веку падасьць.** Прыказваецца, калі рэч ці прылада моцна зробленая.

189. **Век жыві, век вучыся, а дурным памрэш.** Колькі-б чалавек ня жыў, колікі-б ня вучыўся, усіх мудрасьцяў сьвету не дасягне.

190. **Век зжыць — ня мех сшыць.** Прыказвае, хто шмат чаго пераЖыў.

191. **Век чыста ні перахадзіць, ласкава ні перажыць і смачна ні піраесьці.** Прыказваюць тыя, каму ўськідаюць, што ён ня чыста адзяецца, ці не заўсёды ласкавы або дрэнна харчуецца.

192. **Ветрам падшыт.** Прыказваюць на авантурніка-падшыванца.

193. **Ветрам прышоў, ветрам пашоў.** Аб тым, хто наляціць як віхор, наробіць нейкай крутні ці бяды ды ізноў панясецца.

194. **Вецер у галаве ходзя.** Аб чалавеку з частымі зьменамі ў паглядах або зь дзівоснымі паглядамі.

195. **Віда-й-нявіда.** У вачавдікі й у потайкі: «Ён віда-й-ня віда цягне з калгаснага сьвірна».

196. **Відаць, ды далёка дыбаць.** Калі нейкая рэч і панадная, але цяжка яе дасягнуць.

197. **Відна, хоць іголкі зьбірай.** Кажыцца, калі вельмі сьветла.

198. **Вясна й восінь на рабой кабыля езьдзюць.** Вясной і восеняй неба пакрытае часта воблачамі й добрая пагода чарадуецца з дажджом.

199. **Вісна ні місна, а восінь ні малочна.** Вясной няма мяса,бо за зіму выдаткавалася, а восеняй няма малака, бо каровы перастаюць даіцца.

200. **Вольнаму воля, а шалёнаму поля.** Прыказваюць, каб разрозьніць запраўдную волю ад шаленства злачынцаў, якія злачынства называюць воляю. Сваё шаленства чалавек павінен праяўляць у полі, а не між людзей.

201. **Воўк, воўк! Ідзі казлы драць.** Прыказваюць, калі нейкі манюка пачынае бяз сораму расхвальваць сябе гэтак, што ад гэткай гутаркі згадзіла-б ваўка, які мусіў-бы казла драць (ванітаваць).

202. **Воўк да лесу цягня.** Прыказваюць аб дзікаватым чалавеку, які ўхіляецца лучыцца да грамады.

203. **Воўк дзе плодзіцца, там ні бярэ.** Аб хітрых зладзеях і іншых злачынцах, якія там ня шкодзяць, дзе жывуць.

204. **Воўк і лічанае бярэ.** Прыказваюць аб прапышным злодзеі-бандыце, які бярэ апошняе й у беднага, і ў багатага.

205. **Воўк пасланцамі ні карысін.** Прыказваюць аб зладзеях і бандытах.

206. **Воўк сабакі ні баіцца, алі зьвягі ні любя.** Аб высокіх урадоўцах-хабарніках, якім ня страшна, што людзі аб іх злачынствах гаворацъ, але для якіх гэткая гутарка дакучлівая.

207. **Воўча доля расьце скора.** Ёсьць такое павер'е, што калі маладая жывёліна скора расьце, дык яе воўк зьесьць. Прыказваюць, калі прыгожая дзяўчына-падлетак хутка расьце, бо яе хутка замуж возьмуць.

208. **Вось вам і сьпіткі, і зьедкі.** Прыказвае гаспадыня, калі прынося ў хату апошнія запасы харчоў — апошняе масла, сала, бульбу ці іншае.

209. **Вось вядзець — негдзе дзець, вось біда біз хліва.** Прыказваюць, калі ў некага багацьце прыбывае, а яго няма дзе прыхінуць.

210. **Вось і гавары з кабылай паціры: ты «Войча наш», а йіна: «Сена німаш».** Прыказваюць, калі двох ня могуць дамовіцца: адзін пачынае гутарку аб ідэях, а другі перабівае яго штодзёншчынай.

211. **Вось хамут ваш і дуга, і я вам болі ні слуга.** Прыказвае парабак, калі без пары пакідае гаспадара.

212. **Вочы — ямы.** Гэтак як-бы спагадаюць зайздрываму, бо зайздрасьць быццам залежа не ад самога чалавека, а ягоных вачэй.

213. **Вусы белыя — рукі чорныя. Вусы белыя, бо ўжо стар, рукі чорныя, бо гаспадар.** Гэтак прыказвае аб сабе паважны й не малады вясковы гаспадар.

214. **Вучыся галіць на сваей барадзе.** Прыказваюць, калі малады майстра ўзяўся нешта рабіць ды папсаваў матар'ял.

215. **Выбачай, алі болі ні дакучай.** Гэтак жартам прыказвае госьць, калі гаспадар перапрашае яго словам «Выбачай». Госьць гэтым быццам перапрашае гаспадара, што надакучыў.

216. **Выбірай кабылу гарбатую, а жонку лупатую. Гарбатай кабылы ніхто ні ўкрадзе, а жонкі лупатай ніхто ні зьвядзе.** Парада гаспадару пры куплі кабылы. Парада дзяцюку пры жаніцьбе.

217. **Выбіў дух на рабоце.** Прыказвае той, што згубіў сілу й здароўе пры працы.

218. **Выбіўся з работы.** Прыказвае той, хто ня мае пільнай работы, або той, хто абы за якую работу ня хоча брацца.

219. **Выбіўся са сну.** Прыказвае той, каму ад нейкіх думак-клопатаў ня сьпіцца.

220. **Выбраў з гурту курту.** Прыказваюць на дзяцюка, які меў магчымасьць узяць сабе добрую дзеўку за жонку, выбіраў лепшую, ды выбраў нікуды ня вартую.

221. **Вывідзі з хлева апошнюю кароўку, дык на паляваньні будзя шанцаваць.** Каб быць добрым паляўнічым, трэба кінуць гаспадарку. Прыказваюць багатаму гаспадару, які наракае, што на паляваньні не шанцуе.

222. **Выплюнінага ні падніміш.** Прыказваюць таму, хто без патрэбы апастыляецца з чалавекам, да якога пазьней трэба будзе зьвярнуцца ў патрэбе. Найчасьцей гэтак прыказваюць, каб папярэдзіць некага, які без патрэбы пачынае апатыляцца зь нявінным чалавекам.

223. **Вырас вялікі — хоць на ім сучку павесь.** Прыказваюць на вялікага хлапца, які да нічога ня здатны.

224. **Вырыванская вуліца.** Гэтак называюць тое месца, дзе ўвачавідкі крадуць, з рук вырываюць.

225. **Высака лётаіш, алі нізка сядзіш.** Прыказваюць, калі ганарысты чалавек бярэцца за справу, на якой збанкрутуе.

226. **Выскачыў, як агню ўхапіў.** Калі нехта раптам уцёк ад сораму.

227. **Выскачыў, як Піліп з канапель.** Прыказваюць, калі нехта раптам

папаў у чужое сабе асяродзьдзе, ці калі нехта недарэчна ўмяшаўся ў чужую гутарку.

228. **Вышчараіцца, як кабыла на пасеі.** Прыказваюць, калі нехта без патрэбы сьмяецца.

229. **Вядома ня дома.** Гэтак патакуюць, калі нехта апавядае, што на чужыне было блага.

230. **Вясельля — чортава прысельля, а хрэсьбінкі-рады́ — дай Божа кожныя гады.** Прыказка старэйшых аб тым, што на вясельлі хоць можна дастаткам зьесьці й выпіць, але маладыя часта ўшчынаюць бойку. А на хрэсьбінах можна й выпіць, і закусіць, і ў дадатак спакойна.

231. **Вясной і качка прачка.** Прыказваюць, калі вясной у разводзьдзе ўсюды гэтак шмат вады, што навет і «качка» можа бялізну памыць.

232. **Вясной — кораб вады, а коўш гразі, а восеняй — коўш вады, а кораб гразі.** Сялянская заўвага аб тым, што вясной вада надта хутка высыхае, а восеняй надта марудна.

233. **Вясьнішча! — ці ты мяне, ці я цябе.** Прыказваюць, калі вясной вышлі харчы й наступае такі голад, што застаецца толькі адзін аднаго зьесьці.

## Г

234. **Гадзі яму, як благой скуля.** Аб благім суседзе ці благім чалавеку наагул, якому дагаджаюць ня зь любасьці да яго, але каб ня шкодзіў.

235. **Гадка зьесьці й шкода пакінуць.** Прыказвае той, у каго блізкі яму чалавек дрэнна сябе паводзе... прызнацца да яго няпрыемна, і кідаць шкода.

236. **Галава на век.** Развважаюць таго, хто бядуе па вялікай матар'яльнай страце.

237. **Галетная сірата.** Бездапаможная сірата бяз маткі й бяз бацькі.

238. **Галоднаму хлеб сьніцца.** Гаворацъ аб тым, хто займеў нейкае непазбытнае жаданьне нешта здабыць, ці нешта дасягнуць.

239. **Галодны ня думае пад'есьці.** 1. У простым сэньсе гэтак гаворацъ аб галодным чалавеку. 2. Прыказваюць, калі зайздрывы чалавек пачынае багацець.

240. **Галодны поля пярэйдзя, а голы ні за парог.** Прыказвае той, хто ня мае адзетку.

241. **Ганчар у чарапох есьці вара.** Прыказваюць аб рамесьніку, які незадаваляе самога сябе сваімі вырабамі.

242. **Гара з гарой ня сойдзецца, а чалавек з чалавекам можа сыйсьціся.** Прыказваецца пры выпадковым спатканьні даўных знаёмых.

243. **Га́рдую пыху Бог зь неба сьпіха.** Аб ганарыстых людзях.

244. **Гарую, бацюшка, гарую, з аднэй карчмы ў другую.** Жартаўлівая прыказка. Быццам гэтак п'яніца жаліўся сьвятару аб сваім горы.

245. **Гатовая, як дурноя — само ў рукі лезя.** Калі патрэбныя рэчы ляжаць напаяўку.

246. **Гэта віламі па вадзе пісана.** Калі пачуюць навіну, якая найскарэй ня спраўдзіцца.

247. **Гэта кветка ні для твайго носу.** Прыказваюць таму, хто хоча набыць нешта добрае, ці ўвайсьці ў сяброўства з паважнымі асобамі, але тыя рэчы ці асобы яму недаступныя.

248. **Гэта табе ні калёсы закідаць.** Прыказваюць таму, хто нешта лёгкае й непатрэбнае зробе ці скажа, бо «калёсы закідаць» даволі цяжкая работа. Калі на невялікім панадворку, ці іншым вузкім месцы трэба завярнуцца з калёсамі, дык зад калёсаў даводзіцца падняць на руках ды навокал паднесьці. Тымчасам каму-небудзь нейкую штуку падстроіць, нешта ўкрасьці, зманіць, ці высьмяяць некага, гэта справа лёгкая, а «ні калёсы закідаць».

249. **Гэта табе ня леташнія дразды.** Прыказваюць таму, хто абяцае моцна трымаць сакрэты, хоць раней ня раз гэтак сама абяцаў, але заўсёды выдаваў іх. Гэтая прыказка паходзе ад казкі: Хлопец пайшоў да сьвятара спавядацца. Сьвятар упэўніў хлопца, што ён будзе трымаць у сакрэце ўсё, што хлопец яму скажа на споведзі. На споведзі хлопец прызнаўся, што ведае драздова гняздо ў ліповым дупле. Калі назаўтра хлопец пайшоў глядзець сваіх драздоў, дык іх там ужо ня было. Калі на лета той-жа хлопец пайшоў ізноў да споведзі да таго самага сьвятара, дык той і цяпер пачаў упэўніваць, што ня выдасьць сакрэтаў сказаных на споведзі. На гэта хлопец выкрыкнуў: «Гэта табе ня леташнія дразды».

250. **Гэта як «Аман» у папірах.** Калі праўда не падлягае сумлеву.

251. **Гэтага віташка́ кожны з свайго гаршка.** З наступнага месяца кажны сам-сабой будзе харчавацца. Віташок — апошняя квадра месяца.

252. **Гэтыя пірагі будуць адпечаны.** Прыказвае той, хто абяцае адпомсьціцца за крыўду.

253. **Глухі калі ні дачуя, дык прыложыць.** Прыказваюць таму, хто добра не дачуў і пераблытаў сказанае, ці зьмяніў сэнс сказанай навіны.

254. **Глухому два здаецца.** Прыказваюць, калі нехта не дачуў і перапытвае.

255. **Гоінай раны ня трэба квялі́ць.** Ня трэба ўспамінаць перажытай крыўды ці пакуты.

256. **Голад і крадзе, і маніць.** Голад папіхае чалавека да розных злачынстваў.

257. **Голад ня цётка.** Прыказвае галодны, калі есьць і ня вельмі ласую страву.

258. **Голаму разбой ні страшан.** На голага ніхто нападаць ня будзе, бо ў яго няма чаго адбіраць.

259. **Голы зьбірайся, а голы гатоў.** Прыказваюць аб бедным, у каго няма чаго зьбіраць у дарогу.

260. **Голы як бізун.** Аб зусім бедным, што навет і з адзежы мае толькі тое, што на ім.

261. **Голы, як ясік.** Аб бедным чалавеку, які ня мае ніякой гаспадркі.

262. **Гора вытрываіш, а роскашы не.** Аб тым, хто жывучы ў роскашы праз распусту бяду нажыў.

263. **Гора й плача, і скача.** Прыказваюць, калі часам чалавек у горы пробуе загульваць.

264. **Горка рэдзька ды ядуць, ліха замужам ды йдуць.** Прыказваюць жанчыне, калі тая крыўдзіцца, што замужам блага.

265. **Госьць мілы й хлеба шкода.** Аб скупым гаспадары.

266. **Госьць — нявольнік.** Прыказвае гаспадыня, калі панукае гасьця выпіць ці зьесьці.

267. **Госьць першы дзень золата, другі дзесь срэбра, а трэці — медзь, і дамоў едзь.** Доўгія госьці непажаданыя.

268. **Госьць, як і рыба, на трэці дзень сьмярдзіць.** Калі ў гасьцях — не чакай трэйцяга дня.

269. **Граза ў лес ня йдзе.** Пры выхаваньні дзяцей пагроза дае пажаданыя вынікі.

270. **Гразь, гразь! Чаму ні гарыш? — Бо мокрая!** Аб тым, што незаслужана сябе расхвальвае, або так дрэнна сябе паводзе, што навет гразь на ягоным месцы гарэла-б ад стыду, калі-б ня была мокрая. Ён-жа паставіў сябе ніжэй гразі.

271. **Грозен рак, ды ззаду вочы.** Прыказваюць, калі слабы пагражае дужаму.

272. **Грызе прыступаючы.** Калі нехта дакарае бязупынку і лаецца.

273. **Гулі ні аднаго ў лапці абулі.** Перасьцярога маладым, каб не ўдаваліся ў празьмерныя гульні.

274. **Гультай за работу, а мазоль за руку.** Калі гультай наракае на цяжкую работу, якая быццам яго ў калецтва ўганяе.

275. **Гультай ляжыць, а доля бяжыць.** Прыказваюць, калі часам і гультаю пашанцуе.

276. **Гультай сем рэчаў разгадае.** Калі гультая клічуць на работу, дык ён шмат прычынаў знойдзе на тое, каб не працаваць.

277. **Гультаю хлеб на кію.** Гультая трэба кіям прыганяць да работы, каб зарабіў сабе на хлеб.

## Ґ

278. **Ґвалтам адабраць — адбярэш, алі даць — ні дасі.** Калі нехта адмаўляецца ад пачосткі ці нейкай матар'яльнай дапамогі.

279. **Ґрош кругал.** Дзеля гэтага ён раскачваецца на розныя бакі. Прыказвае гэтак селянін ,калі яму на розныя патрэбы патрэбныя грошы, а ён іх ня мае, бо грошы «раскаціліся».

280. **Ґрун ґру́ну вока ні дзяўбе.** Прыказвае пакрыўджаны, калі яму радзяць падаць скаргу да нейкага вышэйшага ўрадоўца на ўрадоўца ніжэйшага, які яго пакрыўдзіў.

## Д

281. **Да асеці! Да асеці! — Ды куды Бог панясеці!** Прыказвае той, у каго пытаюць, куды ён ідзе, а ён ня хоча сказаць праўды. Прыказка пайшла ад казкі аб цыгану: Цыган наняўся ў селяніна касіць, але ён сказаў што баіцца зыґу й дзеля гэтага папрасіў у селяніна кажух зь сярмягай і надзеў іх. Калі сонца стала падаграваць ды авадні пачалі лётаць каля цыгана, дык цыган пачаў тупаць ды кружка бегаць. Тады селянін яму крычыць: «Да асеці! Да асеці!» — гэта значыць: бяжы ў восець, бо там халадок. Цыган-жа яму на гэта адказвае: «Ды куды Бог панясеці!» — задраў на галаву кажух зь сярмягай, і пабег у лес і больш да селяніна не вярнуўся. З цыганом разам прапалі й кажух зь сярмягай.

282. **Да гатовай калоды добра й агонь класьці.** Прыказваюць, калі нехта пры пэўных запасах гаспадарку заводзе.

283. **Да нашага берагу нічога добрага ні прыплыве, — то трэска, то бруд.** Прыказваецца, калі малавартасны чалавек прыбудзе ў сям'ю, у суседзтва, або благі ўрадовец зьявіцца на грамадзкую працу.

284. **Да пары жбан ваду нося.** 1. Калі нешта старое паламалася. 2. Калі нехта памёр. 3. Калі зловяць злодзея, што доўга краў.

285. **Да Прачыстай намый, памяці, і пірапечаў напячы.** Прачыстая, або Спажа прыпадае 15 жніўня. Да гэтага часу жытняе жніва кончана, дык гаспадыні ёсьць час памыць бялізну й вычысьціць хату, ды ёсьць з чаго й перапечаў напячы, бо ёсьць мука новай уроды.

286. **Да Спаса** (6 жніўня) **сена сохня пад кустам, а посьля Спаса ня хоча сохнуць і на ку́сьця.** Напамінак гаспадаром, што трэба старацца, каб да канца ліпеня сена было пакошана.

287. **Давялося чарвяку на вяку.** Высьмейваюць таго, каму здарылася пабываць далей ад месца свайго сталага прабываньня, ды калі ён, вярнуўшыся, апавядае свае мала цікавыя прыгоды, як нешта асабліва важнае.

288. **Давяроная праўда.** Прыказваюць, калі хочуць упэўніць, што гэта праўда, якая не падлягае сумлеву.

289. **Дагледзіў на паповы сані.** Калі нехта некага так блага даглядаў ці лячыў, што той памёр.

290. **Дае, ды з рук ні пускае.** Калі нехта нешта абяцае даць, але доўгі час адкладае.

291. **Дажыліся кулікі, што ні хлеба, ні мукі.** Аб тых, што абяднелі ды ня маюць чаго есьці.

292. **Дажыліся палякі, што ні хлеба ні табакі.** Аб тых, што зжыліся, згалелі.

293. **Дай Божа гасьця, а гаспадар каля яго пажывіцца.** Прыказвае гаспадар, бо пры гасьцях і сам чарку вып'е ды лепшай ежы зьесьць.

294. **Дай Божа, каб пілося, елася й болі хацелася.** Гэтак жартуюць гаспадары, калі частуюць гасьцей.

295. **Дай Божа налета болі за гэта.** Прыказвае гаспадар, калі зьбірае апошняе збожжа з току на абмалотках.

296. **Дай Божа першым кусочкам удавіцца.** Пажаданьне мужчыны, каб з аднэй першай жонкай веку дажыць.

297. **Дай Божа тую зьвярыну, што ходзя дзьвярыма.** Лепей есьці мяса з свойскай, выгадаванай на гаспадарцы, жывёлы, чымся зь дзікой, забітай на паляваньні зьвярыны.

298. **Дай Божа ў добры час сказаць, а ў благі памаўчаць.** Прыказвалі сяляне, каб засьцярагчыся ад урокаў, бо верылі, што сам сваё можа ўрачы, калі скажа пад нядобры час. Прыказвалі гэтак і калі хвалілі сваю жывёлу ці збожжа.

299. **Дай Божа ўсё ўмець, але ня ўсё рабіць.** Добра разьбірацца ў розных работах, але рабіць іх толькі пры вялікіх няшчасьцях, калі сям'я пахварэе ці павымірае.

300. **Дай Божа хрысьціянскую сыць.** Гэтак даўней прыказвалі старыя перад ядой, калі сядалі за стол. Гэтак старыя напаміналі дзецям і падлеткам, калі тыя прагавіта хапалі ды елі.

301. **Дай Божа чутая відзіць.** Прыказваюць, калі пачуюць добрую, хоць і мала праўдападобную навіну.

302. **Дакажы славы.** Гэтак заахвочваюць выканаць цяжкую работу.

303. **Далі каляду́.** Прыказваюць, калі некага без пары адправілі з работы ці звольнілі з працы.

304. **Да́лі паложыш — бліжэй возьміш.** Калі нейкую рэч прыхаваеш, дык у патрэбе хутчэй яе знойдзеш.

305. **Да́лі ў лес — болі дроў.** Гэтак перасьцярагаюць, каб нехта ня ўступаў у доўгія спрэчкі або каб не заводзіў справы ў судзе.

306. **Дар за дар.** За зробленае дабро трэба адплаціцца дабром, або — за прычыненае ліха ліхам.

307. **Дар за дар, а дарма́ нічога.** Адплата строга па заслугах.

308. **Дараванаму каню ў зубы ні глідзяць.** Прыказваецца таму, хто прыглядаецца да даранай ці знойдзенай рэчы, ці яна добрай якасьці.

309. **Дарма́ й каза ваўку ні скача. Калі каза ваўку паскача, дык воўк яе зьесьць.** Прыказваюць таму, хто за зробленае дабро адплачвае злом свайму дабрадзею.

310. **Дарога ня сьпіць.** Прыказваюць таму, хто баіцца ночы адзін ехаць, ці йці ў дарогу, бо-ж на дарозе заўсёды знойдуцца падарожныя.

311. **Дасьць Бог дзень, дасьць і пажытак.** Для развагі таго, хто бядуе, як ён будзе жыць, калі пастарэе.

312. **Дасьць Бог доньку, дасьць Бог і дольку.** Прыказваюць бацьком, якія наракаюць, што ў іх родзяцца дочкі, а не сыны.

313. **Датуль маці міла, пакуль пяты мыла.** Упікаюць дзецям, якія ня хочуць дапамагаць старым бацьком.

314. **Даў лататы.** Уцёк.

315. **Даў рады.** Справіўся з работай ці заданьнем.

316. **Даў таўкача.** Прыказваюць таму, хто стаўся пераможцам, для прыкладу: калі маладзейшы брат перш школу кончыў за старэйшага, ці калі перш ажаніўся або калі маладзейшая сястра перш замуж вышла.

317. **Даў у пяту́.** Калі нехта павярнуў назад у гутарцы, чынах, палітыцы.

318. **Даў-бы шэліг на малебін, дык самому патрэбін.** І на добрую справу ня можна аддаць таго, што пільна патрэбна сабе.

319. **Даў цягу.** Пусьціўся ўцякаць.

320. **Два вякі жыць ня будзім.** Гэтак напамінаюць старому чалавеку, які зьбірае вялікія запасы.

321. **Два гады ні вячэрай, дык на трэці хлеба застанецца.** Гэтак жартуюць з таго, хто позьніцца на вячэру ды ня еўшы спаць кладзецца.

322. **Два каты на адным саля ня тоўпюцца.** Прыказваюць, калі два гаспадары жывуць на аднэй гаспадарцы або два зайздрывыя ўрадоўцы абслугоўваюць адну грамаду людзей.

323. **Двор па бор, вароты па балота.** Аб нядбайным гаспадары, якога панадворак неабгароджаны ды зямля ляжыць дзірваном па самы бор, няма ніякіх варотаў і варотамі балота, бо празь яго не пераедзеш.

324. **Дзе ахвота, там і работа.** Толькі тая работа вартасная й спорная, што выконваецца пры сваей ахвоце.

325. **Дзе баліць, там і лучаецца.** 1. Бывае часта, што ўдарацць ізноў раней пашкоджанае месца на целе. 2. Няпрыемныя выпадкі часта кранаюць кволыя, балючыя справы ў васабістым ці грамадзкім жыцьці.

326. **Дзе гэта чута? Дзе гэта відана?** Гэтак запярэчваюць апавядальніку, калі маюць сумлеў у праўдзе ягонага апавяданьня.

327. **Дзе добрыя дочкі дзяюцца, а дзе благія нявесткі бяруцца?** Гэтак разважае той, хто чуе, што кажная матка хвале сваю дачку, што па дабрацце няма ей раўні ў сьвеце. Калі-ж гэтая самая дзяўчына выйдзе замуж, дык сьвякроў яе гане, што гэткай благой няма другой у сьвеце.

328. **Дзе каму баліць, там той і студзе.** Кажны мае свае беды й клопаты й стараецца іх залагоджваць.

329. **Дзе кінь — там клін, дзе пала — там прапала.** Напамін, каб рупіліся аб сваей маемасьці ці гаспадарцы, бо калі здаць пад нагляд іншых — будзе ўбываць або й зусім прападзе.

330. **Дзе коратка, там і рвецца.** Калі тое ў гаспадарцы прападае, чаго й так не хапала.

331. **Дзе любюць, дык і туды ні ўчашчай, а дзе ня любюць, дык там і нагой ні бывай.** Навука бацькоў сваім дзецям, каб за часта ня бывалі там, дзе іх любяць, бо надакучаць і там.

332. **Дзе мы жывём, там пуга з вузлом.** Прыказвае той, каму дрэнна жывецца.

333. **Дзе дзень, дзе ноч — і тыдзень проч.** Аб валачашчым чалавеку, які жыве без аніякое мэты, абы пражыць.

334. **Дзе маё ні прапала.** Прыказвае той, хто нейкую невялікую рэч адступае другому. Прыказвае й той, хто мае нейкую невялікую страту ў гаспадарцы.

335. **Дзе начуя, там ня днюя.** Аб валачашчым чалавеку.

336. **Дзе няняк многа, там дзіця бязнога.** Аб гаспадарцы, дзе шмат работнікаў, але няма парадку, бо кажны спадзяецца, што нехта іншы зробе, а работа застаецца ня зробленай.

337. **Дзе піва п'юць, там і разьліваюць.** 1. Калі пры пачостцы разьліваецца пітво. 2 Прыказваюць, калі пры разьдзеле нейкай маемасьці здараецца невялікі ўбытак.

338. **Дзе піва варуць, там і п'юць.** Калі пры вырабе нейкай ежы ці харчовых прадуктаў там-жа іх і спажываюць.

339. **Дзе позная ральліца — родзя ґірса, мятліца.** Прыказваюць сяляне, калі позьняцца з часам воранкі.

340. **Дзе раньняя ральліца — родзе жыта, пшаніца.** Выказваюць сяляне аб паравой ворцы пад пасевы збожжа.

341. **Дзе рост, там і ўмалот.** 1. Калі парасло збожжа, дык зь яго можна спадзявацца й добрага ўмалоту. 2. Аб чалавеку, калі ён вялікі й моцнага складу цела, дык можна спадзявацца, што зь яго будзе добры работнік.

342. **Дзе сеў, там і прыліпеў.** Аб нярушным чалавеку, які, калі пашлюць яго за патрэбай, ён заседзіцца на доўгі час.

343. **Дзе сіраце бацьку браць.** Калі патрэбная нейкая рэч, а яе няма дзе дастаць, дык трэба прыдумляць, каб безь яе абыйсьціся.

344. **Дзе тут у вубоствя жывучы ды зь перцам есьці.** Калі нехта да благой адзежы, ці дрэннай снасьці ды аздабленьні вешае.

345. **Дзе ўжон, там і ўмалот.** Калі шмат нажата, дык можна спадзявацца, што шмат і намалоціцца.

346. **Дзе хвэст — і йіна там ест.** Гэтак, у простым сэньсе, высьмейваюцца ахвотнікі і наведваць хвэсты й кірмашы. Гэтак прыказваюць і да тых, хто бяз запрашэньня цісьнецца на чужыя балі-бяседы й хто ўмешваецца ў чужыя справы, калі яго ня просяць.

347. **Дзе чорт ні араў, там сеіць ні стаў.** Калі хто ня хоча рызыкаваць нечага, бо не спадзяецца ўдачы ў дадзенай справе.

348. **Дзе чорт ня зможа, там бабу пашле.** Перакананьне, што баба быццам мае большыя здольнасьці на тое, каб зьвесьці чалавека на благое, як сам чорт.

349. **Дзеля аднаго жыда кірмаш будзя.** Прыказвае селянін, калі паляніцца пайсьці ў воласьць на сходку.

350. **Дзеля аднаго салдата ня будзе войска шчарбата.** Прыказваюць, калі ў гаспадара просяць таго, чаго ён шмат мае. Калі ў яго драбніцу ўзяць, ад гэтага убытку ў гаспадарцы ня будзе.

351. **Дзеля дружбы й цыган вешаўся.** Жартуюць з таго дзяцюка, які на кірмашы палез бараніць свайго сябру й сам дастаў па карку.

352. **Дзісятая вада на кісялі.** Прыказваюць гэтак аб далёкім сваяцтве, калі яно часам ставіцца за перашкоду жанімства. Ваду на кісялі міняюць гэткім парадкам: Змолаты авёс разам з пасеямі намочваюць вадой. Праз 5-6 гадзін цэдзяць усё праз рэшата. Пасеі, што засталіся на рэшаце, выціскаюць рукамі ды ізноў намочваюць, а праз колькі гадзін ізноў працэджваюць ды выціскаюць. І калі гэтыя пасеі перамыюць гэтак разоў зь дзесяць, дык дзесятая вада будзе чыстая й зусім непадобная да першага цэду.

353. **Дзісятуха-сакатуха. Сакоча або мяцеліца каля вуглоў, або вада каля платоў.** Дзісятуха — дзесяты тыдзень па Калядах. Старадаўная сялянская прыкмета, што гэтым часам могуць быць і зімовыя завеі, і веснавыя паводкі.

354. **Дзіця трэба год качаць як яечка й пяць гадоў пасьціць, як авечку.** Аб пільнай, адданай працы маткі пры ўзгадаваньні дзіцяці.

355. **Дзядзька ні бацька, а цётка ні матка.** Блізкія й найлепшыя сваякі ня могуць дзіцяці замяніць бацькі й маткі.

356. **Дзяды вадзіць.** Гэтак прыказваюць, калі сваякі, суседзі й прыяцелі балююць па чарзе то ў ваднаго гаспадара, то ў другога.

357. **Дзяды ня мелі бяды, а ўнукі набраліся мукі.** Прыказка бадайшто гістарычная, з думкаю, што калі край быў вольны, дык дзяды жылі безь бяды, а ўнукі пад чужынцамі мучыліся і мучаюцца.

358. **Дзякуй! — Выбачай! — Алі болі ні дакучай!** Прыказваюць, калі частуюць ня прошаных, ці ня мілых гасьцей. Госьць дзякуе за пачостку, гаспадар для ветлівасьці перапрашае «Выбачай!», але ў думках дадае: «Алі болі ні дакучай!».

359. **Дзякуй за абед, што наеўся дармаед.** Жартам прыказвае гэтак госьць, калі дзякуе гаспадару за абед.

360. **Дзякуй за полудзінь: ні сыт, ні голадзін.** Гэтак, жартуючы, прыказвае гаспадар, калі госьць дзякуе за пачостку, а разам і перапрашае, што скромна частаваў.

361. **Дзякуям ні адбыць — трэба заплаціць.** 1. Прыказвае госьць і гэтым нібы запрашае гаспадароў даведацца да яго на пачостку. 2. Гэтак прыказ-

вае гаспадар публічнага харчаваньня, калі знаёмы наведальнік хоча адбыць самым «дзякуям» за абед.

362. **Дзяры лазу, калі дзярэцца.** Работу трэба рабіць тады, калі на яе адпаведны час.

363. **Дзяры лазу — я цябе зьвяжу.** Калі дэспатычны загад мае яўную мэту горш яшчэ паняволіць яго выканаўцаў. Гэта тое самае, што й каваць для самога сябе кайданы.

364. **Дзярэцца — на новая спадзяецца.** Калі адзежына пачынае дзерціся, дык гэта знак, што трэба паруліцца аб новую.

365. **Дзяціны хлеб горак**. Прыказваюць старыя бацькі, якіх часам крыўдзяць іхныя дзеці.

366. **Добра ў лю́дзях, алі цяжка ў гру́дзях.** 1. Аб тым, што хоць і добра часам жыць у чужым краі між чужых людзей у выгодзе, але ў грудзях баліць з нуды па родным краі. 2. Прыказваюць гэтак, калі на заработках добра зарабляецца, але ад цяжкой працы баляць грудзі. 3. Гэтак прыказвае нявестка, калі зайшла замуж у добрую хату, але ей там цяжка жыць, бо трэба кажнаму дагаджаць і за крыўды змоўчыць.

367. **Добраму чалавечку добра й у запечку, а благой благаце брыдка й на куце.** Заслужаны й паважаны чалавек свае павагі й славы ня траце й на другарадным месцы.

368. **Добрая далёка чуваць, а благоя яшчэ далей.** Напамінак маладым, каб яны ўстрымліваліся ад благіх паводзінаў і шанавалі сваю добрую славу.

369. **Добрая знаходка тапор за лавай.** Калі нехта хваліцца, што знайшоў рэч, якую гаспадар паклаў на сваім месцы.

370. **Добрая слава дома ляжыць, а благая далёка бяжыць.** Слава пра добрыя паводзіны гэтак далёка не рызыходзіцца, як пра паводзіны благія.

371. **Добры дзень вам! — Ці рады вы нам?** Прывітаюцца жартаўліва неспадзяваныя госьці.

372. **Добры сябра таго ні дасьць, што благая зямелька.** Сялянская прыказка аб благой зямлі, якая хоць і скупа родзіць, але з году ў год жывіць, чаго й найлепшы сябра ня зробіць.

373. **Дождж ідзе — грыбы будуць. Дзеўкі растуць — бабы будуць.** Гэтак жартуюць, калі нарасьце шмат маладых дзяўчат.

374. **Долках сядзь, а на зямлі ногі пастаўляй.** Жартам прыказваюць таму, хто ня мае дзе сесьці.

375. **Доля мая чубатая — ніхто мяне ні сватая!** Жартам прыказвае тая дзяўчына, якой замуж не бяруць.

376. **Дорага лыжка да абеду.** Прыказвае той, які можа й пераплаціў за рэч, безь якой мог абыйсьціся.

377. **Дорага ня тое, што ў год, алі тоя, што ў рот.** 1. Прыказвае той, хто прадае ўборы, ці іншыя дарагія рэчы, каб купіць харчоў. 2. Прыказвае той, хто пераплачвае за хлеб, ці за іншыя рэчы, якія вельмі патрэбныя.

378. **Дося блазнаваць, калі сталі й дзеці ўзнаваць.** Ня трэба вясьці пустой, няпрыстойнай гутаркі ў прысутнасьці дзяцей.

379. **Доўг ня грэя.** Селянін і ў пякучай патрэбе ня хоча залазіць у даўгі, а калі задаўжыўся — стараецца хутка яго вярнуць.

380. **Доўгі язык мая.** Прыказваюць аб тым, хто ня можа трымаць сакрэтаў.

381. **Доўгі, як жыдоўскі пачакай.** Ад жыда-гандляра часта доўга трэба чакаць заплаты-доўгу.

382. **Доўгія рукі мая.** Аб тым, хто любе хоць што ўкрасьці.

383. **Дуб, дуб, — дай шлюб!** Жартаўлівая гіронія да тых, што жывуць бяз шлюбу, — быццам шлюб даваў ім дуб у лесе.

384. **Дудар дудару дарма йіграя.** Калі людзі аднаго рамясла адзін другому дапамагаюць.

385. **Дурань дурня зная, дурань дурня й чапая.** Прыказваюць таму, хто зь недарэчным у жарты ўступае.

386. **Дурноя сяло.** Прыказваюць на асобу, якая нешта недарэчнае зробе ці скажа.

387. **Дурны, як рускі бот.** Прыказваюць на няцямкага ўбоістага чалавека.

388. **Дурны, як сала бяз хлеба.** Прыказваюць аб тым, у каго «ня ўсё дома» у галаве.

389. **Дурня доўга шукаць ня трэба — ён сам сябе пакажа.** Прыказваюць аб тым, хто пры грамадзе недарэчнае слова скажа.

390. **Дурня й у царкве б'юць.** Аб тым, што дурнога й у паважным месцы не шануюць.

391. **Дурня ня сеюць, ні пашуць, а ён сам раджаіцца.** За зьяўленьне на сьвет дурня ніхто ня вінен.

392. **Душа меру зная.** Прымаўка пры выпіўцы.

393. **Душа ня кораб.** Гэтак адказвае госьць, калі гаспадары наракаюць, што ён мала еў.

394. **Душа ў целя — у Бога надзея.** Гэтак разважаюць сваякоў, у якіх ёсьць хворы пры сьмерці.

395. **Душой загавеў.** Кажуць аб тым, хто памёр.

396. **Душы яго неба! — і нам уміраць трэба.** Прыказваюць на хаўтурох.

397. **Душы-ж ня выплюніш.** Гэтак часамі жартам адказваюць, калі ў каго пытаюцца як жывецца, бо як-бы ня жылося, а жыць трэба.

## Е

398. **Едзя ні на снасьці, а на шчасьці.** 1. Прыказваюць таму, каму пашэнціла праехаць на благой снасьці бяз выпадку. 2. Аб тым, каму пашэнціла выйсьці зь небясьпечнага палажэньня.

399. **Еду па дзівятую — судзі Божа** (= дай Божа) **па дзісятую!** Жартуюць з таго, у каго часта жонкі паміраюць, а ён ізноў жэніцца. Прыказка паходзе ад казкі: Чараўнік зачараваў свайго суседа, каб у яго жонкі ўміралі. Калі ён, аўдавеўшы восьмы раз, ехаў у сваты, дык чараўнік зьдзекліва спытаў яго, па каторую гэта ён жонку едзе. Удавец адказаў: «Еду па дзівятую, — судзі Божа па дзісятую!» Тады чараўнік папытаўся, ці яму ня шкода жонак, што гэтак часта ўміраюць. Удавец на гэта: «Каб гэткай бяды ды да веку! Я маю восем падушак, восем дзяружак, восем кублаў, восем кароў, восем авечак, восем сьвінак». Чараўнік, калі пачуў гэта, зьняў чары з свайго суседа.

400. **Еду ў Рыгу па соль, па скрыгу.** Адказвае той, у каго пытаюць, куды ён едзе, а ён ня хоча сказаць. Прыказка гістарычная, паходзіць з часоў, калі езьдзілі ў Рыгу па соль.

401. **Еж, дурань, бо-ж то з макам.** Калі нехта настырліва заахвочвае да таго, што не падабаецца.

402. **Еж, калі ўвагі ні маіш.** Калі скупыя гаспадары садзяць гасьцей за стол. Хоць гаспадары гэтак у голас і ня кажаць, але думаюць.

403. **Еж капусту із грыбамі, дзяржы язык за зубамі.** 1. Гэтак напамінаюць, каб за ядой пустога не гаварыць. 2. Гэтак папераджаюць, каб трымаць сакрэт.

404. **Еж, кум, хлеб, хоць пазычоны. — Дармо, я аддаваць ня буду.** 1. Прыказваюць, калі скупы гаспадар садзе гасьцей за стол. 2. Гэтак прыказваюць, калі госьці не зважаюць на скупасьць гаспадара.

405. **Еж, пакуль запяеш.** Жарт пры запрашаньні гасьцей да яды.

406. **Еж, хоць пуп расьпіражы.** Прыказваюць, калі маюць вялікі запас ежы.

407. **Есьць, як іржа зялеза.** Наракае той, каго нявіннага й бязупынку лаюць, зьняважаюць і над ім зьдзекуюцца.

408. **Есьць, як ні сваімі зубамі.** Гэтак кажуць на таго, хто марудна есьць.

409. **Есьця, ды ў вочы ня лезьця.** Гэтак гаспадыня перапрашае, падаючы яду, каб ня высьмейвалі, што страва ня добрая.

## Ё

410. **Ён і з вады сухім вылізя.** Кажуць аб хітрым прайдзісьвеце.

411. **Ён каб прымеў, дык-бы мяне ў лыжцы вады ўтапіў.** Прыказваюць аб помсным чалавеку.

412. **Ён хацеў зваліцца зь печы ды ні пабіць плечы.** Гаворыцца аб тым, хто хацеў выкінуць нейкую небясьпечную штуку ды ня мець ніякое шкоды.

413. **Ён хоча ў дзьве солі мачаць.** Прыказваюць аб тым, хто намагаецца дагадзіць дзьвюм, варожым сабе, асобам, або грамадам.

414. **Ёсьць што гукаць, ды нечага слухаць.** Гаворыцца аб тым, хто шмат гавора, але ягоная гутарка пустая й недарэчная.

## Ж

415. **Жаль увагі ні мая.** Прыказвае той, каго крыўда вывяла зь цярпеньня.

416. **Жаніся, каб дурні ні зьвяліся.** Прыказваюць таму, каго хочаць упікнуць у ягонай дурноце.

417. **Жартаваць можна, алі ні калечыць.** Калі жарты даходзяць да сваркі, а навет і да бойкі.

418. **Жвcomponentаму каню пугі ні паказвай.** Аб тым, што добрага работніка ня трэба падганяць да працы.

419. **Жонка — мужыкова пячонка.** Якая-б жонка ня трапілася, але зь ёй трэба век дажываць.

420. **Жонка рассыпалася.** Кажуць заміж: жонка абрадзілася.

421. **Журавы ў вырай полудзінь панясьлі.** Прыказваюць сяляне, калі бачаць, што журавы лятуць у вырай, бо тады дзень ужо малы й даволі есьці два разы на дзень.

422. **Жураў зь цяплом, а ластаўка зь лістом.** Сялянская заўвага аб часе прылёту з выраю журава й ластаўкі.

423. **Жыве з плеч ды ў печ.** Калі нехта жыве толькі сяньняшнім днём. Калі апошняя сарочка падралася, дык ён кідае яе ў печ і толькі тады думае аб другой.

424. **Жыве прыпіваючы.** Прыказваюць, калі чалавек жыве ў шчасьці.

425. **Жыве, як сыр у масьля купаіцца.** Прыказваюць, калі чалавек жыве ў вялікай выгодзе.

426. **Жытні колас вядзе голас.** Калі нехта пад'еў жытняга хлеба, дык яму й песьні на вуме, а ад жыдкой заціркі ці мяцьва не пяецца.

427. **Жыць то весіла, ды есьці нечага.** Прыказваюць бедныя мяшчане, або сяляне, якія трапілі на жыцьцё ў места.

428. **Жывём як брацьця, а рахуімся як жыды.** Прыказваецца аб тых, якія жывуць міжсобку дружна ды за паслугі адзін аднаму аплачваюць, каб нікому ня было крыўдна.

429. **Жывём, як гарох пры дарозе — хто йдзе, той і скубе.** Прыказвае той, каго з усіх бакоў крыўдзяць.

430. **Жывот аж трашчыць, а глытаўка яшчэ-б ела.** Жартуюць госьці, калі пад'елі, а на стале застаецца яшчэ шмат смачной ежы.

431. **Жывоя кепства.** Прыказвае той, каго ў вачавідкі ашукваюць.

432. **Жывы-ж у зямлю ні палезіш.** Прыказвае той, каму блага жывецца, але й ня ўміраецца.

433. **Жывы жывоя й думае.** Пакуль чалавек жывы — хоць можа й стары — але думае аб далейшай рабоце й аб сяродках на жыцьцё.

## З

434. **З аднаго вала дзьвюх скур ні дзяруць.** Прыказваюць супроць вялікіх падаткаў ці вялікага зьдзірства.

435. **З благога быка ні лою, ні малака.** Прыказваюць аб благім статку, ці аб бескарысных людзях.

436. **З благога куста благая й птушка вылітая.** Прыказваюць, калі вырадкі й злачынцы выводзяцца з благое радні.

437. **З благога статку ні ў клеці лою, ні ў хлевя гною.** Аб благім статку.

438. **З Богам, Параска, калі людзі здараюцца.** Прыказваюць, калі благі непатрэбны чалавек пагражае, што пакіне грамаду.

439. **З ваўкамі жыць, па воўчу й выць.** Трэба дастасоўвацца да тога асяродзьдзя, між якога жывеш.

440. **З гэтага квасу піва ня будзя.** Прыказваюць, калі дапушчаюць, што нейкая распачатая справа ня дасьць пажаданага выніку.

441. **З дурням ні знайсьці, ні згубіць.** Прыказваюць на таго, хто выдаў нейкі сакрэт і пашкодзіў ягонаму матар'яльнаму прыбытку.

442. **Зь кім пазнаішся, гэткім і сам станішся.** Добрае й благое пераймаецца ад асяродзьдзя.

443. **З ласкі на пацеху.** Прыказваецца, каб ухіліцца адказу на пастаўленае пытаньне: За што ты яму даў грошы? — З ласкі на пацеху. За што ты яго пабіў? — З ласкі на пацеху.

444. **З маей рукі пойдуць** (павядуцца) **вароны й гракі.** Прыказваюць гандляры, калі прадаюць жывёлу на хоўлю, хвалячы сваю «лёгкую руку».

445. **З маладосьці грызьці косьці, а пад старасьць мяса есьці.** Лепей змалада пагараваць, каб прыдбаць нешта на старасьць і пражыць яе бяз турбот.

446. **З малой іскрынкі вялікі пажар бывая.** З маленькай прычыны вялікія справы выбухаюць.

447. **З маной сьвет пройдзіш, алі назад ня вернішся.** Аб манюках, якім у гэтай самай мясцовасьці другі раз абманіць не давядзецца.

448. **З музыкі й дудара ня будзя гаспадара.** Бо, калі музыкі загульваюць на вясельлях ды йгрышчах, дык гаспадарка марнуецца.

449. **З сваім толькі піць ды есьці, а ні справы вадзіць.** Бо водзячы справы, можна й да звадкі дайсьці.

450. **З сынам сварыся ды на печ бярыся. Зь зяцем сварыся ды за парог цягніся.** Гэтак прыказвае старая цешча.

451. **З трох сёл па сабаку.** Калі людзі з розных мясьцін ды з рознымі паглядамі, дык яны ніколі да згоды ня дойдуць.

452. **З чужога каня й у гразі сьсідаюць.** Прыказваюць, калі спаганяюць пазычаную рэч, хоць яна й патрэбная таму, хто яе пазычыў.

453. **З чужых сьлёз ніхто ні разжыўся.** Гэтак выказваюць супроць таго, хто выкарыстоўвае крыўду іншых для свайго дабрабыту.

454. **За аднаго бітага (вучонага) двух ня бітых даюць дый то ні бяруць.** Прыказваюць гэтак, каб надаць павагі й пашаны адукаванаму чалавеку.

455. **За дурной галавой дык нагам ніспакой.** Аб тым, хто па сваей дурнаце, ці неразважлівасьці, нарабіў шмат прыкрасьцяў і трэба шмат пахадзіць, каб залагодзіць свае памылкі.

456. **За душу бярыся, а за кішэнь ні бярыся.** Прыказваюць таму, хто пачынае спрачацца за сумленнасьць іншага, якога ён добра ня ведае, бо й за сваю кішаню ня можна спрачацца, магло-ж быць, што нехта нешта падкінуў у кішэнь. Спрачацца можна толькі за сваё сумленьне.

457. **За локаць сябе ня ўкусіш.** Калі ў нейкай справе нічога ня можна зрабіць.

458. **За нос вадзіць.** Калі нехта доўга цеша абяцанкамі, але ня выконвае абяцанага.

459. **За чужоя карыцца ды нам трэба сварыцца.** Прыказвае той свайму супрацiўніку, хто апомніўся, што яны апастыляюцца за чужыя інтарэсы.

460. **За чужоя лычка рэміньчыкам плаціцца.** Напамінак, каб ня прагнуць чужых рэчаў, бо за чужую танную рэч дарага плацяць.

461. **За чужым пагонішся, дык сваё ўтраціш.** Прыказваюць маладым у навуку, каб ня га́ліліся на чужое дабро.

462. **За што купіў, за тоя й прадаў.** Прыказваюць аб тэй рэчы, якая дарэмна дасталася дый марна й страцілася.

463. **За язык пацягнула.** Прыказвае, хто няўмысьля сказаў непажаданае слова, ці выхваліўся з сакрэтам.

464. **Заднілася ў роця.** Прыказваюць, калі галодны з жалю, ці із страху, ня можа праглынуць ежы.

465. **Загляня сонца й у наша ваконца.** Гэтак цешаць сябе бедныя людзі.

466. **Загнаў у казіны рог.** Калі нехта паставіў іншага ў нязвычайна цяжкое палажэньне.

467. **Зайдзі ад варот, дык ён цiраз плот.** Прыказваюць аб тым, хто ня хоча прызнаваць ніякіх правоў ні ўставаў.

468. **Закрутку грызе.** Прыказваюць, калі нехта сілком лезе ў сяброўства.

469. **Замок ні для зладзея, алі для пана дабрадзея.** Калі нехта дзівіцца, як маглі зладзеі з-пад замка ўкрасьці.

470. **Замуж хоць у пятніцу.** Прытыкаюць тэй дзяўчыне, якой пара замуж ісьці, а яна нейкай работы ня ўмее або ня хоча рабіць.

471. **Запала клямка.** Прыказваюць, калі каму-небудзь стала немагчымым наведваць нейкі дом ці сям'ю.

472. **Запас бяды ня чыня.** Прыказвае той, хто захоўвае нешта можа й каштоўнае, але ў гэты час непатрэбнае.

473. **Запрос у кішэнь ня лезя.** Прыказвае той, хто запрашае вялікую цану за свой тавар.

474. **Зарабіў, як Заблоцкі на мыля.** Прыказваюць аб тым, хто пры гандлі ўтраціў на нейкім тавары.

475. **Заракалася сьвіня ў гарод лазіць.** Прыказваюць, калі ведамы злачынца заракаецца нейкае злачынства рабіць — злодзі красьці, разбойнік біцца.

476. **Зарубі сабе на нося.** Прыказваюць таму, хто зрабіў вялікую памылку й каб яе больш не паўтараў.

477. **Заручаны — разлучаны, вянец — усяму канец.** Прыказвае той, хто дамагаецца, каб посьля заручынаў вясельле разрабіць.

478. **Заўсёды бойся старога старца й новага багатыра.** Гэтак прыказваюць, бо стары старац выцягне ўсё просьбай, а малады багатыр ашуканствам і пагрозамі.

479. **Збор дружына.** Калі людзі з розных бакоў і з рознымі паглядамі, дык між імі згоды ня будзе.

480. **Згалеў і здурэў.** Прыказваюць аб хваравітым, расьпешчаным дзіцяці.

481. **Здароваму бацьку й вады шкадавала, а калі ўміраў, дык нажом зубы разьнімала ды малако давала.** Гутарка тут аб благой дачцэ. Прыказваюць аб тых людзях, якія зьдзекваліся з сваіх ахвяр, а калі іх давялі да сьмерці, дык для людзкога вока сталі дапамагаць ім і іх усхваляць.

482. **Зімовая мураваньня, старога каханьня, п'янага набажэнства — усё гэта блазенства.** Прыказваюць, калі стары жэніцца.

483. **Зімой і летам адным цьветам.** Прыказваюць аб тым, хто не пастарэў, або хто ня мяняецца на багацьці.

484. **Злодзі пярэйдзя — вуглы пакіня. Агонь пярэйдзя — попіл пакіня.** Прыказвае той, у каго будынкі пагарэлі.

485. **Злодзія б'юць ні за тоя, што ўкраў, а за тоя, што нядобра схаваў.** Прыказваюць, калі судзяць нейкага непрактычнага злодзея.

486. **Злодзію адна дарога, а гаспадару дзесіць.** Прыказвае той, хто шукае пакрадзенага.

487. **Знаіцца ён на гэтым, як сьвіня на перцы.** Прыказваюць, калі нехта бярэцца выясьняць тое, чаго сам не разумее.

488. **Знайка ляжыць, а нізнайка бяжыць.** Калі нехта знае сваю работу, дык працуе павольна, адпачывае пры рабоце й у рабоце ёсьць посьпех, а хто не разумее сваей работы, дык бегае, морыцца, і ў рабоце посьпеху няма.

489. **Зная ён толькі з носу кап! ды ў рот хап!** Калі блазан-падлетак умешваецца ў гутаркі старэйшых ды пачынае іх вучыць.

490. **Знаць-ні-знаю, ведаць-ні-ведаю!** Прыказвае той, хто ўхіляецца, каб яго ня ўцягнулі ў нейкую справу.

491. **Золата й у гразі блішчыць.** Прыказваюць таму, хто хваліцца, што ён добры грамадзкі дзеяч, усім дапамагае, але наракае, што грамада яго не зразумела ды не ацаніла ягоных вартасьцяў, а навет абкідала балотам.

492. **Зя́я, зя́я дый блісь!** Гэтак жартуюь, калі дзяўчына выкручваецца перад люстэркам.

493. **Зь вялікага груку малы дождж бывая.** Прыказваюць, калі шумлівая справа нічым канчаецца.

494. **Зь вялікага ня высыпіцца.** Прыказваюць старэйшыя, калі дзеці наракаюць, што ім у вялікую місу налілі есьці, ці, калі далі надзець вялікую адзежыну.

495. **Зь ім піва ні наварыш.** Прыказваюць на таго, зь кім немагчыма ніякай справы павесьці або немагчыма дайсьці да згоды.

496. **Зь нізабітага ліса шубы ня шыюць.** Прыказваюць таму, хто марыць аб вялікіх плянах, ці пабудовах, ня маючы на гэта матар'яльных магчымасьцяў.

497. **Зь песьні слова ні выкідаюць.** Прыказвае той, у каго ў гутарцы пры грамадзе трапілася няпрыстойнае слова.

498. **Зь печы, з полу, проша да столу.** Гэтак на бяседзе, жартуючы, запрашаюць гасьцей сядаць за стол.

499. **Зь сябе дыхая.** Кажуць, калі хворы часта дыхне.

500. **Зь яды ні забага́цііш, а толькі апуза́цііш.** Гэтак жартуюць з таго, хто мае ахвоту шмат зьесьці.

501. **Зьбіраіцца, як папоўна замуж.** Прыказваюць, калі нехта некуды доўга зьбіраецца, але справа застаецца ня выкананай.

502. **Зьеў сучку, дык еж і скурку.** Прыказваюць грамадзкаму службоўцу, які любе браць зь сялян магарыч пачастункам. Прыказка паходзе з часоў прыгону: Войт вымагаў зь сялян пачастунку. Адзін селянін зарэзаў авечку, варыў кажны дзень мяса, ставіў кварту гарэлкі ды частаваў войта. Калі ня стала мяса, дык ён зарэзаў сучку, і частаваў войта мясам сучкі. А калі й суччына мяса кончылася, а войт усё вымагаў пачастунку, тады селянін паставіў кварту гарэлкі, кінуў на стол суччыну скурку, дый кажа: «Зьеў сучку, дык еж і скурку».

503. **Зьміцір хіцір, алі й Саўка ні дурны.** Прыказваюць аб тым, хто ня даўся, каб хітры яго ашукаў.

## I

504. **І вока нікому ні запарошыў.** Прыказваюць аб высока маральным і прыкладна добрым чалавеку, які нікому ніякай крыўды ня ўчыніць.

505. **І вухом ні вядзе.** Прыказваецца аб упартым, які ня хоча слухаць добрай рады. «Колькі мы ні прыказвалі сваей дзяўчыне, каб йіна біз патрэбы ў вёсцы па хатах ні хадзіла, а йіна й вухом ні вядзе, як хадзіла, так і ходзя».

506. **І гэта хлеб.** Прыказвае той, хто мае хоць малы, але пэўны прыбытак.

507. **І да мяса трэба закраса.** І добрае трэба паляпшаць, удасканальваць.

508. **І за шчэпку знайдзіцца прычэпка.** Калі ёсьць ахвотнік да звадкі, дык ён прычэпіцца й за драбніцу.

509. **І злосьніку свайму закажу.** Прыказвае той, хто зрабіў нейкую вялікую памылку ў жыцьці й ад гэтай памылкі будзе перасьцярагаць ня толькі сваіх прыяцеляў, але навет і сваіх ворагаў.

510. **І крошачкі пабраў.** Прыказваецца, калі дзіця вельмі падобнае да бацькоў і выглядам, і па натуры. «Якраз як бацька — і крошачкі пабраў!»

511. **І лапкамі накрыўся.** Прыказваюць, калі нехта завінаваціўся, а посьле ўхіляецца й гутарку аб сваім даўгу заводзіць. «У мяне сусед пазычыў грошы дый лапкамі накрыўся».

512. **І людзей паглядзець, і сябе паказаць.** Прыказвае жартам кірмашнік, калі ў яго пытаюць, чаго ён ідзе на кірмаш.

513. **І марац мацая за паліц.** Сялянская прыказка аб сакавіковых марозах.

514 **І мядзьведзя-ж вучуць.** Прыказваюць таму, хто адмаўляецца вучыцца, бо быццам гэтай навукі ён ня зможа ўцяміць.

515. **І рыбкі ні хачу, і лыдкі ні мачу.** Прыказвае той, хто адмаўляецца хоць і ад прыбытковай, але турботнай і небясьпечнай для здароў'я работы.

516. **І сава свае дзеткі хваля: пузацінькія, рылацінькія, заркацінькія.** Прыказваюць аб тых, якія выраджкавага выгляду ня могуць пахваліць сябе й сваіх блізкіх і таму хваляць гэты выгляд пяшчотнымі словамі. Гэтак прыказваюць, калі нехта хвале сваё благое.

517. **І сам ні гам, і другому ні дам.** Прыказваюць аб тым, хто сам ня хоча, ці ня можа выкарыстаць нечага добрага, і іншых да яго не дапускае.

518. **І скажа, і прыкажа.** Аб чалавеку із спрытам у гутарцы.

519. **І стыдна, і крыўдна.** Прыказвае той, які дапусьціўся, каб яго ашукалі й зьняважылі.

520. **І сьцены вушы маюць.** Перасьцярагае адзін аднаго, калі гутарка ідзе пра нейкія сакрэты, каб ніхто не падслухаў.

521. **І таго дажывеш, што Кузьму бацькам назавеш.** Можа здарыцца, што й у нялюбага прыдзецца ласкі прасіць.

522. **І ў ванучцы грошы вядуцца.** Сяляне часта хаваюць грошы ў ванучы. І бедны селянін, калі ён ашчадна ды каркулятна жыве, дык хоць і ў ванучы грошы хавае, але мае грош на зваротак у гаспадарцы.

523. **І ў вiраб'я ёсьць злосьць.** Гэта прыказваецца, што злосьць ня ёсьць ганебнай зьявай у натуры чалавека, бо за крыўду ў сваю абарону ня толькі чалавек, але й малая істота верабей можа зазлаваць.

524. **І ў добрым родзя, а ўдасца шэльма й злодзі.** Гэтта гаворыцца ў вабарону тэй радні, у якой зьявіцца нейкі вырадак, які сваімі дрэннымі паводзінамі абняслаўляе ўсю радню.

525. **І ў пекля пасярод дык пекна. Кепска й у раі, калі на краі.** Гэтта прыказваецца, што калі трапіш і ў найгоршае месца, але калі пападзеш пасярод кіраўніцтва, дык будзеш добра жыць. А й у найлепшым месцы, калі ў глухім закутку на краі, дык будзеш гараваць.

526. **І чужога ні хачу, і свайго ні пушчу.** Прыказвае ашчадны й сумленны селянін.

527. **І я ні я, і хата ні мая.** Прыказваецца, калі нехта выракаецца сваіх папярэдніх словаў і чынаў.

528. **Ігрушка — мінушка, летца мінецца, а ў вочы трэба глядзецца.** За малаважную прычыну ня варта ніколі звадкі рабіць, бо малая крыўда скора забудзецца, а толькі будзе сорамна спатыкацца з чалавекам, зь якім апастыліўся.

529. **Ідзе проці веку.** Кажуць аб тым, хто ўбіраецца ў сілу й розум.

530. **Ідзе, як вада.** Гэтак адклікаюцца аб добрым работніку, што знаходзе ў хаце сабе работу й хутка яе выконвае.

531. **Ідзе, як тры дні ня еўшы.** Аб тым, хто ідзе марудна.

532. **Ідзі ты ў катнія рукі.** Выказваюць на таго, хто пакідае родную хату супроць волі бацькоў ці старэйшых.

533. **Ільля нарабіла гнільля.** Сьвята Ільля прыпадае 20 ліпеня. Гэтым часам часта ідзе дождж, дык сена й снапы гніюць.

534. **Ішлі лысы із пляшывым — знайшлі яны грэбінь. — Ты лысы, я пляшывы, — ён нам ні патрэбін.** Жарт. Прыказваюць, калі грамада набыла можа й дарагую, але непатрэбную рэч.

535. **Ішоў поп каля коп, а капа каля папа, а чырвоная нітка каля капілюша.** Жартаўлівая гульня словаў, ужываюць для спробы хуткага вымаўленьня так, каб ня зблытаць складоў. Часамі гэты жарт ужываюць як загадку: Ішоў поп каля коп сена, а зь ім ішла ягоная нізкая ды таўстая, як капа, жонка.

## К

536. **Каб агуркі радзілі й каб пастушкі хадзілі.** Прыказваюць, калі садзяць агуркі, бо толькі тады пастушкі ходзяць у вагуркі, калі яны зародзяць.

537. **Каб былі грудзі на завесах, дык-бы сэрца паказаў.** Гэтак упэўнівае той, хто даводзіць, што ён кажа шчырую праўду.

538. **Каб веданьня дзе абвалішся, дык-бы абышоў тоя месца.** Гэтак разважаюць, калі здарыцца няшчасьце.

539. **Каб гаварыць зь ім, дык трэба зялезнага бобу пад'есьці.** Прыказваюць аб тым, зь кім цяжка згаварыцца, ці якога цяжка пераканаць. Боб — трывалая яда, а «зялезны боб» бадай-што яшчэ трывалейшы, вось таму й трэба «зялезнага бобу пад'есьці», каб быць вытрывалым ды некага перагаварыць.

540. **Каб гультай рабіў, дык-бы й дома хлеб быў.** Прыказваюць на валачашчага чалавека, які ходзе па сьвеце быццам шукаць хлеба.

541. **Каб майму сыну той розум наперад, што ў мужыка ззаду.** Гэтак прыказвае мешчанін аб сялянскім розуме.

542. **Каб ня дзірка ў роця, дык хадзіў-бы ў злоця.** Гэтак наракае бедны, што ўсё жыцьцё ён працуе толькі на ежу.

543. **Каб ня ежка, ні адзежка, дык была-бы грошы дзежка.** Чалавек увесь свой век працуе на ежу й адзетак.

544. **Каб ня клін ды ня мох, дык-бы цесіль здох.** Гэтак жартуюць зь цесьлі, што ён з дапамогай кліна й моху ліквідуе свае хібы ў рабоце.

545. **Каб пілося, елася й болі хацелася.** Прыказвае гаспадар, калі частуе гасьцей.

546. **Каб праз маё гарлечка ды цікла рэчка, дык-бы я напіўся.** Прыказваюць гультаю, які ляніцца самога сябе абслужыць.

547. **Каб сьвіньні рогі, дык-бы йіна ўвесь сьвет збала.** Прыказваюць аб злосным, благім, але слабым чалавеку.

548. **Каб тваё слоўца ды Богу ў сэрца.** Прыказваюць, калі дзякуюць за добрыя пажаданьні.

549. **Каб ты гэтак з носам быў, як гэта праўда.** Прыказваюць манюку.

550. **Каб ты гэтак з духам быў, як гэта праўда.** Прыказваюць манюку.

551. **Каб цябе качка стаптала.** Гэтак жартуюць з малых дзяцей.

552. **Кабыла за дзелам, а жарабя бязь дзела.** Прыказваюць, калі нехта запрошаны ў госьці, ці на бяседу, прыходзе й сам, і прыводзе з сабой незапрошанага.

553. **Каваль куе — жонка пяе.** Калі ў каваля ёсьць работа, дык ёсьць і грошы, а тады жонка пяе, бо багатая.

554. **Каваль робя людзьмі, а сталяр робя грудзьмі.** Прыказваюць таму, што кавалю дапамагае каваць завозьнік, што прывёз работу, а сталяр сам мусе выконваць усю работу.

555. **Кавалер сьвіньні па каўнер.** Гэтак высьмейваюць падлетка, які ўяўляе сябе дзяцюком.

556. **Кажа Марац Калядоўцу: каб я ў тваім чася быў, дык-бы быкутрацьцяку рог зьбіў.** Сялянская прыказка аб жорсткасьцях месяца Марца

(Сакавіка), які пазьбіваў-бы рогі бойкаму быку-трацяку, калі-б быў у часе Каляд.

557. **Кажушок дзяржыць душок.** Гэтак сяляне ўсхваляюць кажух.

558. **Кажы таму, хто ня ведая.** Гэтак спыняюць гутарку манюкі.

559. **Казала качарга гуляці да чацьвірга.** Даўней вясельле ў Беларусі звычайна працягвалася да серады, але калі госьці разгуляюцца, дык працягвалі вясельле й да чэцьверга. А калі й у чэцьвер госьці не разыходзіліся, дык гаспадару даводзілася разганяць вясельле качаргой.

560. **Кайіньня позна ходзя.** Гэтак прыказваюць таму, хто хоць і раскайваецца аб сваіх паступках ці паводзінах, але страчанага ня можа вярнуць.

561. **Калі баба хрома, дык сядзі дома.** 1. Тут прыказваецца да таго, што калі хто ня дужы, дык хай не бярэцца за цяжкую работу. 2. Хто ня здольны да нейкае работы, хай за яе не бярэцца.

562. **Калі Бог дасьць, дык у вакно падасьць.** Шчасьлівага шчасьце знойдзе й у ягонай хаце.

563. **Калі Бог захоча чалавека пакараць, дык перш розум адбярэ.** Прыказваюць, калі нехта папаўся ў бяду праз сваю дурноту й неразважлівасьць.

564. **Калі Бог ні дапусьця, дык сьвіньня ня зьесьць.** Гэтак адказваюць на пагрозу слабых ды нікчэмных людзей.

565. **Калі брусьніца чырванабока, дык парабак насьпіць вока.** Брусьніцы пачынаюць чырванец у канцы ліпеня, калі ноч прыбудзе, таму парабак тады ўжо напалову высыпаецца.

566. **Калі будзім у Бога годны, дык ня будзім галодны.** Прыказваюць таму, хто надта шмат клапоціцца аб ежы, бо не адна ежа патрэбная для людзкога жыцьця.

567. **Калі будзеш міняць, дык будзя хамут гуляць.** Гэтак папяраджаюць таго, хто мае ахвоту мяняць коні з гандлёўшчыкамі.

568. **Калі будзіш усё ведаць, дык скора састарэішся.** Прыказваюць дзецям, ці падлеткам, якія цікавяцца справамі неадпаведнымі іхнаму веку.

569. **Калі валіцца малы, дык Бог падкідая падушачку, а калі стары валіцца, дык Бог падкідая барану.** Прыказваюць, калі стары зваліцца, дык звычайна скалечыцца, ці заб'ецца, а малы пры гэткай-жа прыгодзе застаецца непашкоджаны.

570. **Калі веруць, дык ні правірайся.** Хто набыў давер у грамадзе, хай яго ня губляе праз злоўжываньне.

571. **Калі вінін, дык аддаць павінін.** Напамін людзям, каб былі справядлівымі й сумленнымі ў дачыненьні да іншых.

572. **Калі вісець, дык за абедзьве нагі.** 1. Калі пачаў нейкую справу, хай сабе й рызыкоўную, даводзь яе да канца. 2. Калі нясьці нейкае пакараньне, дык лепш ужо за нейкі большы праступак.

573. **Калі вядзецца, дык і на шчэпку прадзецца.** Калі некаму ручыць, дык ён мае посьпехі й бяз адмысловых захадаў.

574. **Калі да цябе ня п'юць, дык і ні кажы «Здароў будзь!».** Прыказваюць таму, хто настырліва набіваецца ў кампанію, дзе ён не пажаданы.

575. **Калі да Спаса жыта ні зьбярэш з поля, дык посьля Спаса яно само пойдзя ў зямлю.** Сялянская прыказка аб тым, што посьля Спаса (6 жніўня) жыта асыпаецца.

576. **Калі дало зрабіць, дык дасьць і зьесьці.** Сялянскія заўвагі аб надвор'і: Калі сухое лета й няма перашкоды ў зборы збожжа й сена, дык прыйдзе марозная зіма, статак зьесьць больш корму, і сена ня стане.

577. **Калі дзень даўжэя, дык нітка карацея.** Жаночая прыказка, бо бабы й дзеўкі найболей спрадаюць кудзелі вечарамі й досьвіткамі, калі доўгія ночы. Калі-ж дзень стане доўгі, тады яны адрываюцца ад пражы на іншыя работы ў гаспадарцы.

578. **Калі ёсьць — жары а німа — мры.** Прыказваюць гаспадару, які жыве толькі сёньняшнім днём.

579. **Калі жонка ні адпрадзе, дык так прападзе.** Выказваюцца аб ненадзейным даўжніку.

580. **Калі з засека цячэ, дык і няўмека хлеб сьпячэ.** Калі ёсьць на чым гаспадарыць, дык і мала практыкоўны чалавек патрапе нешта зрабіць.

581. **Калі за сваім йізыком слова ня ўдзержыш, дык і на чужы язык ні спадзівайся.** Прыказваюць, калі нехта наракае, што яго сябра выдаў ягоны сакрэт.

582. **Калі захочаш за чужую залабніцу ўзяцца, дык і сваю мусіш падставіць.** Прыказваюць да таго, хто ўступае ў бойку, каб пабіць некага, бо ён і сам рызыкуе, што будзе пабіты.

583. **Калі захочыш сабаку ўдарыць, дык і кій знайдзіш.** Прыказваюць у шмат якіх выпадках. Калі захочыш зь некім пасварыцца, дык і прычыну знайдзеш.

584. **Калі Каляды ў віташку, дык хавай насеньня ў мяшку.** Сялянская прыкмета аб тым, што калі Каляды ў веташку, дык будзе раньняя вясна й рана давядзецца сеяць.

585. **Калі конь ня вылінаў да Яна, дык пускай яго да другога пана.** Сялянская прыкмета аб тым, што калі конь посьле зімы не паправіўся да 24 чэрвеня, дык прадавай, бо наступнай зімы не перажыве.

586. **Калі мазур ехаў на кірмаш, дык агуркі зьбіраў (ды еў), а калі ехаў зь кірмашу, дык шалупіны падбіраў (ды еў).** 1. Гэтак высьмейваюць ганарыстасьць мазураў. 2. Высьмейваюць таго, хто ня ўмее кіраваць сваімі запасамі, ня думае аб заўтрашнім, а жыве толькі сяньняшнім днём.

587. **Калі маіш у хаця вольны куток, дык пастаў барану, бо лепі будзя абыходзіць барану, як добрага кутніка.** 1. Бывае заўсёды вялікі неспакой, калі дзьве сям'і жывуць у ваднэй хаце. 2. Гэтую прыказку сяляне ўспаміналі, калі бальшавікі сталі іх заганяць у калгасы і змушалі жыць у ваднэй хаце не па дзьве сям'і, але й шмат болей.

588. **Калі Марцэля высьпіцца, дык і сама ўстаня.** Прыказка аб тым, што калі жыцьцёвыя патрэбы чалавека задаволеныя, тады няма клопатаў і ў кіраваньні ім.

589. **Калі мінула дваццаць пяць, дык дома сядзь.** Прыказваюць аб дзеўцы, бо даўней дзеўку посьля дваццаці пяці гадоў уважалі за перастарку й яе ня бралі замуж.

590. **Калі надзеніш балахон, дык лезя дух вон.** Гэтак высьмейваюць таго, хто любе хвасьліва адзявацца, але пры гэтым церпіць стужу, ці іншую нявыгоду.

591. **Калі нам жаніцца, дык тады ноч мала.** Прыказвае той, хто бярэцца за паважную справу, а тут часу не хапае, ці здараюцца іншыя перашкоды. Магчыма гэтая прыказка паходзіць з старых часоў, калі ночы кралі дзяўчат на жонак.

592. **Калі ні ґраґала варона ўгору літучы, дык уніз літучы ўпагатовя ґраґаць ня будзя.** Калі нехта не дасягнуў славы маладым, калі ішоў угору — ішоў проці веку, дык упагатове не праславіцца, калі стаў старэць і дажываць свайго веку.

593. **Калі ні даясі, дык і сьвятога прадасі.** Калі прыцісьне голад, дык даводзіцца прадаць на хлеб і сьвятую (ня ў сэнсе рэлігійным) рэч.

594. **Калі ні наеўся, дык і ні наліжысься.** Калі нечым вялікім не запамогся, дык і крошкамі не надцягнешся.

595. **Калі ні намалоцім, дык і ні накалоцім.** Калі не намалацілі збожжа малоцячы снапы, тымбольш не дабыць яго трасучы віламі салому. Калі на вялікай справе была ўтрата, дык і з малой ня будзе запамогі.

596. **Калі ні папрала Піліпаўка, дык папрадзе ліпаўка.** Піліпаўка або Калядоўка, у сьнежні перад Калядамі, калі найдаўжэйшыя ночы й жанчыны шмат спрадаюць кудзелі. Калі гаспадыня не магла папрасьці кудзелі ў Піліпаўку, дык мусіць узяць збожжа зь ліпаўкі ды заплаціць нейкай кутніцы за пражу. Прыказваюць таму, хто не зрабіў нейкай работы ў сваім часе й посьле мусіць за выкананьне гэтай работы дорага плаціць.

597. **Калі ні піраскочыў, дык ні кажы «гоц!».** Прыказваюць таму, хто хваліцца загадзя, не дакончыўшы нейкае справы.

598. **Калі ня выпаўніліся рэкі вясной, дык выпаўнюцца летам.** Сялянская варажба: Калі зіма маласьнежная й вясной ня было паводкі, дык будзе дажджлівае лета й будуць паводкі летам.

599. **Калі ня поп, дык ні ўбірайся ў рызы.** Калі ня майстра пэўнай работы ці спрваы, дык за яе не бярыся.

600. **Калі ня ўрод, і ні ўмалот.** Прыказваюць, калі мала намалоцяць.

601. **Калі пагонішся за двума зайцамі, дык ніводнага ня зловіш.** Прыказваюць таму, хто бярэцца выконваць дзьве справы адразу.

602. **Калі пагонішся за чужым, дык сваё страціш.** Калі зайздрывы захоча заўладаць чужым багацьцем, дык і сваё страце.

603. **Калі пан з паноў, дык аддасьць валоў.** Паважны й разважлівы чалавек ніколі ня будзе ўмешвацца ў дробязныя справы. Прыказка паходзе ад казкі: Валы аднаго селяніна зазыґавалі ды пабеглі праз дворную зямлю. Дворныя парабкі загналі валоў у панскі хлеў. Селянін пашоў у двор па валы і там, стаўшы на ганку, у голас разважае: «Калі пан з паноў, дык

аддасьць валоў, бо паны, што вышлі з прастакоў, дзёрскія й хамаватыя, а паны радавітыя людзі паважныя й бяз дай прычыны чапіцца ня будуць». Калі пан пачуў гэткія сялянскія разважаньні, сказаў аддаць валоў, бо кажны пан хоча, каб яго ўважалі за «пана з паноў».

604. **Калі паноў ваяваць Кітай, дык жыць кідай.** Прыказка па паходжаньні можа й гістарычная, але цяпер ужываецца ў жартаўлівым тоне, калі слабы й недалужны чалавек ушчынае бойку.

605. **Калі піраначуім, дык болі пачуім.** Ня трэба сьпяшацца разьвязваць заблытаную справу, а лепш адкласьці яе на далейшы час і сабраць дакладнейшыя аб ей весткі.

606. **Калі пойдзіш нацянькі, дык праходзіш тры дзянькі.** Шукаючы новага, прасьцейшага шляху больш страціш часу, як ідучы старой, ведамай дарогай. Прыказваюць таму, што пробуе жыцьцё наладжваць новым, але не праверанымі спосабам.

607. **Калі прапаў мех, дык і на бацьку брэх.** Калі нейкая рэч зьгіне, дык у кражы падазраюць навет і роднага бацьку. Прыказваюць, калі шукаюць пакрадзеных рэчаў і ў паважных, шанаваных людзей.

608. **Калі сабака змалку прывыкня праз вокны лазіць, дык яго гэткім і воўк зьесьць.** Прыказваюць аб тым, хто змалку прывык да нейкіх шкодных ці немаральных налогаў, зь якімі ён і памрэ.

609. **Калі Саракі застануць сьнег на страсе, дык Багавешчаньня застаня на гарэ, а Юр'я за калодай.** Сялянская варажба аб пагодзе вясной. Саракі — 9 сакавіка, Багавешчаньне — 25 сакавіка, Юр'я — 24 красавіка.

610. **Калі свая хатка, дык і качарга матка.** У сваей хаце можа й павінен і качаргой бараніцца ад нападу.

611. **Калі сіла, дык і за мяжой ніва.** Прыказвалі таму, хто бядаваў, што зямлі мала, бо й чужую зямлю можна ўзяць у варэнду, запашку, ці на сноппчыну.

612. **Калі суджана, дык ні разгуджана.** Вера ў людзкі лёс: калі суджана зь кім ажаніцца, ці за каго замуж выйсьці, дык ганячы аднаму другога ня ўдасца намовіць, каб не жаніліся.

613. **Калі тоя сьвята будзя.** Прыказвае той, каго цешаць далёкім і няпэўным шчасьцем.

614. **Калі трывога, тады да Бога.** Прыказваецца аб тым, хто толькі пры няшчасьці за парадай і дапамогай зьвяртаецца да старэйшых і разумнейшых людзей, а перш ад іх ухіляўся.

615. **Калі ты на мяне глядзіш, дык думаіш, што я дурань, а калі я на цябе гляджу, дык думаю, што ты дурань.** Прыказваюць хітраму ашуканцу, калі выкрыюць ягоныя хітрыкі.

616. **Калі ўзяўся за гуж, дык ні кажы, што ня дуж.** Калі ўзяўся за нейкую работу, дык праводзь яе да канца.

617. **Калі хлопіц калок зачэша, дык мая права жаніцца.** Калі зачэша, кол, можа й плот загарадзіць, а калі загародзе плот, дык можа быць і гаспадаром.

618. **Калі хто захоча ажаніцца, ці замуж выйсьці, дык ніхай надзеня глухую шапку.** Гэтак прыказваецца дзеля таго, што звычайна посьле заручын маладому ганяць маладую, а маладой маладога. Калі маладыя будуць браць пад увагу гэтыя намовы, дык ніколі не пажэняцца.

619. **Калі хочыш ворага нажыць, дык грошы пазыч.** Прыказвае той, хто пазычыў свайму знаёмаму грошы, а калі пачаў пазьней іх спаганяць, дык ягоны прыяцель стаўся яму ворагам.

620. **Калі хто захоча пабачыць чорта, дык ніхай паглядзіць на п'яную бабу.** Прыказваюць гэтак, калі п'яная баба лаецца й няпрыстойныя песьні пяе.

621. **Калі чалавек подлы, дык ні паможа ні вера, ні модлы.** Ні рэлігія, ні маленьне не мяняе благой натуры чалавека.

622. **Калі чорная ўрода, дык ні паможа ні мыла, ні вода.** Калі нехта мае дрэнную натуру ад прыроды, дык да яго й добрае выхаваньне не прыстае.

623. **Калі шанцуя, дык і Халімон танцуя.** Калі пашанцуе, дык і бедны можа забагацець і жыць шчасьліва.

624. **Каля вады ходзючы памочышся, а каля мукі ходзючы ўпылішся.** Каля чаго хто ходзе, тое само за яго чапляецца. Прыказваюць таму, хто працуючы пры чужым багацьці, частку гэтага багацьця прысвоіў.

625. **Каля Вітэбска кепска, а каля Воршы яшчэ горшы.** Прыказка гістарычная з часоў вайны з Маскоўшчынай. Прыказваецца калі ў ваднэй мясьціне дрэнна жывецца, а ў другой яшчэ горш.

626. **Каля вуглоў мух путая.** Гэтак выказваюцца аб занятках гультая, які з раньня да вечара гультуе.

627. **Калядкі добрыя сьвяткі: пад'еў ды на палаткі.** Гэтак сяляне выхваляюць Каляды, калі няма ніякай пільнай работы.

628. **Калядная ночка — бацьку сарочка.** Гэтак даўней прыказвалі дзяўчатам, бо за доўгую ноч у Калядоўку можна было гэтак шмат напрасьці, што хапіла-б і на доўгую бацькаву сарочку. Дзяўчаты пралі позна ўвечары й досьвіткам.

629. **Каму гараваць, таму ні ўміраць.** Ёсьць такая вера ў народзе, што хто радзіўся на гора, той без пары не пamрэ. Прыказваюць, калі памёр нехта малады, што жыў у багацьці й выгодзе.

630. **Каму клапатно, а папу палатно.** Калі бяда аднаго дае дабытак некаму другому.

631. **Каму муліцца, дык той пірабуіцца.** Кожны мусіць сам клапаціцца аб сваіх нявыгадах.

632. **Каму няймецца, дык той сьмяецца.** Хто сваей бяды ня мае, той з чужой бяды сьмяецца.

633. **Каму па каму, а гаспадыні два камы.** Гаспадар грамадзкай маемасьці дастае ўдвое больш за іншых.

634. **Каму рупя, той хлеба купя.** Гаспадар павінен рупіцца, каб задаволіць сям'ю хлебам.

635. **Каму што сьніцца, а курыцы ячмень.** Хто аб чым думае, тое таму й сьніцца. Прыказваюць, калі нехта сны разгадвае.

636. **Камэдыя, хто ня ведая, а хто ведая, дык усёроўна камэдыя.** Прыказваюць аб хвальку-манюку. Хто яго ня ведае, дык таму дзіўна, якія ён штукі аб сабе выказвае, а хто ведае, дык таму сьмех зь ягонай маны.

637. **Кармі жывёлу мукой, дык пойдзя рукой.** Прыказваюць таму, хто наракае, што жывёла не паручыла.

638. **Карона ні спадзе.** Прыказваюць такому ганарліваму чалавеку, які ўважае за ня гонар, калі ён будзе гаварыць з простым чалавекам, ці яму дапаможа.

639. **Кароста ні напасць, а каму Бог дась.** Прыказваюць да таго, хто мае каросту, калі ад яго людзі адхінаюцца. Гэта не напасьць, што ад яго адхінаюцца, бо баяцца, каб не набрацца каросты.

640. **Кароткія твае пяты.** Высьмейваюць гэтак таго, хто ня можа дасягнуць гэтага, да чаго пнецца.

641. **Каса на дождж ні глядзіць.** Дажджом каса лепей рэжа траву, чымся пагодай.

642. **Ката ў мяшку ні купляюць.** Прыказвае той, хто хоча разгледзіць тую рэч, ці жывую істоту, якую хоча купіць ці дастаць.

643. **Каторы сабака брэша, той ні кусая.** Той вышэй службова пастаўлены чалавек, які сварыцца, а навет і лаецца за благую работу на падуладных, звычайна гэтых падуладных не прыцягвае да адказнасьці. А той, які не папярэдзе, а навет і не пасварыцца, часта ўдае падпарадкаванага сабе й прыцягвае яго да адказнасьці.

644. **Кату жарты, а мышы сьмерць.** Прыказваюць гэтак пры спрэчках фізычных ці праўных дужага з слабым.

645. **Кепікі строіць.** Высьмейваць. Зьдзекліва жартаваць: «А ён пачынае зь мяне кепікі строіць».

646. **Кехам, кехам, торба зь мехам.** Гэткім гукаперайманьнем перадаюць пачатак плачу маладзёна.

647. **Кій на кій шкодзя, а абед на абед ня шкодзя.** Прыказвае гаспадар, калі госьць адмаўляецца ад абеду тым, што ўжо паабедаў.

648. **Кінуў-рынуў.** Без развагі пакінуў: «А ён кінуў-рынуў ды пашоў у сьвет».

649. **Кінуў хлеб ды пашоў крошак шукаць.** Выказваецца аб тым, хто кінуў неблагую гаспадарку ды пашоў на дрэнныя заработкі.

650. **Кінь за сабой, знайдзіш пірад сабой.** Калі некаму дапаможаш, дык нехта й табе дапаможа ў бядзе.

651. **Кіпіць, як у гаршку.** Прыказваюць, калі недзе ў хаце ўшчалася працяглая сварка.

652. **Класьці зубы на паліцу.** Прыказваюць, калі няма чаго есьці: «Прадам табе жыта, а сам палажу зубы на паліцу?»

653. **Клін клінам выганяюць.** Прыказваюць, калі лечаць ці папраўляюць гэткім самым чынам, як было пашкоджана.

654. **Кляне рукі складаючы.** Калі нехта некаму пагібелі зыча.

655. **Кожнаму дразду па сваім гнязду.** Кажны нармальны чалавек рупіцца аб сваей сям'і, радні, народзе.

656. **Кожнаму трэба сваю галамянку агрызьці.** Галамянка — голая костка. Даўней людзі мелі веру, што добрае й благое жыцьцё назначана кажнаму пры нараджэньні. Аднаму прызначана адгараваць сваё гора з малада, а другому пад старасьць.

657. **Кожная какоша пад сябе капоша.** Кажны згортвае да сябе багацьце.

658. **Кожны дурань да сябе цягня.** Кажны болей дбае аб сябе, як аб іншых.

659. **Кожны кеп сваей пядзьдзю мера.** Кажны робе разьлік з свайго пагляду.

660. **Кожны кравец сваім кроям, а кожны чалавек сваім строям.** Як у кажнага краўца ёсьць асаблівы вузор крою, гэтак і кажны чалавек мае сваю асаблівасьць у складзе цела й натуры.

661. **Кожны кулік сваё балота хваля.** Кажны жыхар сваю краіну хвале.

662. **Кожны прыгадвае свайму гору.** Кажны шукае выйсьця з свайго гора.

663. **Кожны цыган сваю кабылку хваля.** Калі нехта расхвальвае сваё, хоць і благое.

664. **Козамі сена ні варта глуміць.** Прыказваюць таму, хто прымушае піць гарэлку таго, што піць яе ня ўмее.

665. **Колькі ваўка ні кармі, а ён усё ў лес глядзіць.** Прыказваюць, калі навука й выхаваньне ня прыстае да чалавека з благой прыроднай натурай ці з благімі налогамі.

666. **Кончыў поп сьвята.** Прыказваюць, калі нехта застаўся бяз работы й бяз прыбытку.

667. **Конь на чатыры нагі, а спатыкаіцца.** Прыказвае той, хто памыліўся ў гутарцы.

668. **«Кося, кося!» — пакуль злавіць давялося, а як злавіў, дык «Стой, воўча дух!».** Гэтак прыказваюць, калі дэспат ці ліхвяр ласкава абыходзіцца з прастаком, пакуль у свае рукі возьме, а потым і пагрозамі страша.

669. **Край у края хлеба пазычая.** Прыказвае сусед, калі прыходзе збожжа пазычаць.

670. **Круцельствам век ні пражывеш.** Прыказваюць круцялю, якога выкрылі ў круцельстве.

671. **Круці ні круці, а трэба ўмярці.** Прыказваюць таму, у каго здарыўся цяжкі выпадак, ад якога немагчыма ўхіліцца. Прыказка паходзе ад казкі: Адзін чалавек мог бачыць сьмерць. Ён зрабіў сабе ложка на круцёлцы й калі толькі сьмерць падыходзіла да ягонай галавы, каб задушыць, ён паварочваўся да сьмерці нагамі. Гэтак ён доўга змагаўся ізь сьмерцяй, аж нарэшце яна сказала: «Круці ні круці, а трэба ўмярці».

672. **Круціцца, як скурат на агні.** Прыказваюць, калі вінны вышуквае розныя прычыны, каб апраўіцца ад віны.

673. **Крывоя кола проста ня коціцца.** Благі чалавек папраўдзе ня жыве.

674. **Крыўда праўдзя вочы выкалала.** Прыказваюць, калі крыўда перамагае. Прыказка паходзе ад казкі: Жылі на сьвеце Праўда й Крыўда. Праўду ўсюды любілі, а Крыўду ненавідзілі, бо Праўда людзям заўсёды памагала, а Крыўда крыўду рабіла. Нарэшце Крыўда Праўдзе вочы павыколывала й сама запанавала на сьвеце.

675. **Крычыць, аж поля разьлігайіцца.** Прыказваюць, калі нехта моцна крычыць на полі.

676. **Крычыць, як сьвіня ў плот ушчаміўшыся.** Прыказваюць, калі нехта дзіка, нема крычыць ды ня слухае, што іншыя кажуць.

677. **Ксёндз-дабрадзей пасьвяньці хатку: німа парадку.** Прыказваюць, калі ў хаце звадка, а ня відаць, хто вінен — напэўна чорт.

678. **Куды вецір вея, туды й лозы гнуцца.** Прыказваюць таму, хто сьлепа ідзе за натоўпам.

679. **Куды конь з капытом, туды й рак з клюшняй.** Высьмейваюць таго, хто сьлепа насьледуе іншых.

680. **Кумоўства ні папоўства і прыданства ні панства.** Хоць поп і кум разам дзіця хрысьцяць, але поп за хрост бярэ грошы, а кум плаце папу дый радзісе дае падаркі. На вясельлі за сталом прыданкі займаюць апошняе месца.

681. **Купіў за пяць пальцаў.** Гэта азначае: схапіў пяцю пальцамі, украў.

682. **Купіў-бы сяло, дык грошы гало.** Гэтак прыказвае бедны.

683. **Купіць ні купіць, а патаргаваць можна.** Прыказвае той, хто прабуе свайго шчасьця ў нейкім прадпрыемстве.

684. **Кўры, сьвіньня вон: машыраваць пайду.** Прыказваюць, калі няпрошаны госьць запанаваў у хаце гаспадара. Прыказка паходзіць ад таго, што даўней маскалі вайскоўцы стаялі ў вёсках на пастоі.

## Л

685. **Лазовую літанію адпраўляць.** Прыказваюць, калі нехта бязупынку лаецца й кляне.

686. **Лапамі араць.** Калі нехта не даецца ўгаварыць, не згаджаецца: «Яго ўгаварваюць, а ён лапамі арэ.»

687. **Лапці лазовыя піраносюць боты казловыя.** 1. Аб трываласьці сялянскага роду, што перажывае арыстакратаў (якія насілі казловыя боты). 2. Які-б ня трывалы быў лазовы лапаць, ды ён трывалей за казловы бот.

688. **Ласка ні каляска — сеўшы ні паедзіш.** Гэтак высьмейваюць таго, хто некаму дагаджае толькі за ласку.

689. **Ласкавая цілятка дзьве маткі сьсе.** Гэтак навучаюць дзяцей і падлеткаў, каб яны ня былі ўпартымі й брутальнымі, але ветлівымі й паслушнымі, бо толькі тады будуць іх хваліць і дапамагаць ім.

690. **Лата на лаця — пасунься паня браця.** Беднага, у латанай вопратцы чалавека, і родны брат просіць адсунуцца да парога.

691. **Лахі пад пахі.** Прыказваюць на валачашчага чалавека або на таго, каго праганяюць з дому, ці хто самавольна пакідае дом.

692. **Ледзь за вочы ні ўхапіў.** Прыказваюць, калі нехта пры спатканьні раптам пачынае лаяць.

693. **Лезя, як жаба на купіну.** Прыказваюць, калі непаважны чалавек імкнецца ў кампанію паважнейшых.

694. **Лезя, як муха ў смалу.** Калі неразважлівы лезе туды, дзе можа быць яму пагібель.

695. **Лепі ашукацца на грашах, як на куплінай рэчы.** Лепей за добрую рэч пераплаціць, чымся купіць танную але дрэнную рэч. Прыказвае той, хто купіў нешта мо'й танна, але, як аказалася, малавартаснае.

696. **Лепі даваць, як прасіць.** Прыказвае гаспадыня, калі на яе сварацца, што яна заміж старца, надарыла гультая.

697. **Лепі доўгі голад, як кароткі.** Лепі даўжэй не даядаць, чымся дапусьціцца да таго, каб зусім ня было чаго есьці. Прыказваюць бедныя, ашчадныя гаспадары, калі іхныя дзеці крыўдзяцца, што харчаваньне недастатковае.

698. **Лепі з добрым згубіць, як з благім знайсьці.** Прыказвае той, хто з благім чалавекам ня мог нейкага дабытку падзяліць.

699. **Лепі з разумным згубіць, як з дурным знайсьці.** Калі з разумным згубіш, дык ён нікому ня скажа й людзі ня будуць сьмяяцца. Калі-ж з дурнем знойдзеш, дык ён адразу пахваліцца, і знойдзеную рэч адбяруць.

700. **Лепі лічыць свае вошы, як чужыя грошы.** Прыказвае сумленны чалавек, бо лепей жыць бедна, але незалежна, чымся лічыць чужыя грошы, пралічыцца ды сесьці ў вязьніцу.

701. **Лепі насіць лата́ная, як хвата́ная.** Лепей быць бедным і насіць латаную вопратку, чымся быць багатым, але жыць з кражы, ці іншага злачынства.

702. **Лепі пагадзіцца, як доўга судзіцца.** Лепей пагадзіцца й на дрэнных умовах, чымся траціць час і грошы на суд, які можна й ня выграць.

703. **Лепі свае лапці, як чужыя боты.** Свае лапці ахаваюць ногі ад сьцюжы, а чужыя боты, хоць і прыгожыя, але не сагрэюць.

704. **Лепі сваё благоя, як чужоя добрая.** Свая, хоць і благая гаспадарка, але дае сякую-такую карысьць, а чужая добрая — ніякой.

705. **Лепі сібравацъ з жыдам галапятым, як з панам багатым.** Гэтак прыказвае селянін, калі пан не аддае доўгу, які цяжка ад яго й высудзіць.

706. **Лепі служыць манарху, як нейкаму парху.** Гэтак прыказвалі сяляне пасьле бальшавіцкага перавароту.

707. **Лепі старожа, як варожа.** Прыказка дбайнага селяніна аб тым, што лепей страціць час на вартаваньне сваей гаспадаркі, чымся спадзявацца на шчасьце ды дапусьціцца, каб зладзеі абакралі.

708. **Лепі сьміяцца, як плакаць.** Прыказвае той, каго лаюць за сьмех.

709. **Лепі ўваліся ў карыта — ніхай цябе сьвіньня зьядуць.** Прыказваюць таму, якога ў вачавідкі ашукваюць, зьняважаюць, высьмейваюць, а ён папускаецца ды маўчыць.

710. **Лета зьбірая, а зіма прайідая.** Летам зарыхтоўваецца жыўнасьць, а зімой зьядаецца.

711. **Лета працуя на зіму, а зіма на лета.** Летам прыгатаўляюць харчы для зімы, а зімой снасьць для летняй працы.

712. **Лета сварлівая, а зіма журлівая.** Летам сварацца з суседамі за зробленую жывёлай шкоду, а зімой сядзець у хатах і журацца на сьцюжу, на недахопы.

713. **Леў, як хлеў! — сказаў чалавек. — Каб ты лепі мне тапаром сікануў, чымся хлевам назваў, — сказаў леў.** Прыказвае той, каго празываюць прыложаным благім імям.

714. **Лён далежа шоўку.** Практыка старых жанчын аб тым, што чым даўжэй будзе лён ляжаць, тым лепей будзе ён прасьціся, але трэба яго кажны год пачэсваць.

715. **Лёстачкамі дух выня.** Прыказваюць, калі нехта ласкай і прыдобрываньнем спэкулюе на сумленьні даверлівага, каб яго ашукаць.

716. **Лёстачкі падпуская.** Прыказваюць, калі нехта пачынае прыдобрывацца, каб нешта сабе выманућь.

717. **Ліжачага ня б'юць.** Упакоранага ня можна караць.

718. **Лік вялік, алі карысьці мала.** Прыказвае гаспадар, калі зьбярэ чаго-небудзь з поля й шмат, але дрэннай якасьці.

719. **Лісіца жука на леташнім вогнішчы пікла й казала: «Сьпёкся, падсох, аж трашчыць!»** З казкі аб лісіцы. Прыказваюць, калі нехта хвале сваю благую ежу ці работу.

720. **Лісіца пад барану ад дажджу хавалася й казала: «А ўсё-ж ні кожная капка капня!»** З казкі аб лісіцы. Лісіца ад сабак пад барану хавалася, а казала, што ад дожджу. Калі нехта робе паважныя захады, але, каб ня выдаць сакрэту, паясьняе свой паступак малаважнай прычынай.

721. **Любось як кароста: калі каросту болі дзярэш, дык йіна горы сьвярбіць.** Прыказваюць аб сабе тыя, што ашукаліся ў каханьні.

722. **Лобам дзьверы адчыніць.** Прыказваюць таму, каго з хаты выганяюць.

723. **Лобам сьцяны ні праб'еш.** Прыказваюць, калі нехта хоча змагацца супроць вялікай сілы.

724. **Лой скуру пад'еў.** Прыказваюць, калі нехта зь вялікай выгады няведае, што рабіць і даходзіць да шаленства.

725. **Людзей слухай, алі й свой розум май.** Перасьцярагаюць таго, хто лёгка, без развагі, паддаецца нейчай парадзе.

726. **Людзі божжы сабакі.** Прыказваюць, калі нейкую выдуманую на чалавека нясламу грамадой перагаварваюць на розныя лады.

727. **Людзі ўміраюць, і нам загадаюць, а мы сухароў насушым ды за імі рушым.** Гэтак жартуюць на хаўтурох.

728. **Людзкія жонкі кросны ткуць, а мая Тэкля лён трэпля.** Прыказвае муж, калі ў ягонай жонкі нейкая няўпраўка ў рабоце.

729. **Ляпога каня пугай ні спужаіш.** Прыказваюць таму, хто сорамам хоча пераканаць злодзея, ці іншага злачынцу.

## М

730. **Мае й блохі былі падохлі.** Прыказвае той, хто апавядае, як яму некалі здарыўся вялікі пярэпалах.

731. **Мае красенцы, мае сушэнцы зівайця, як сьвякроў на нявестку, або як мачыха на падчырыцу.** Прыказвае ткальля, калі затыкае кросны.

732. **Мае слугі пагнуліся ў дугі.** Прыказвае той, чые работнікі ці па хваробе або таму, што незадаволеныя, слаба працуюць.

733. **Май усяго даволі, а бяды ніколі.** Пажаданьні дабра.

734. **Маім салам ды па маей скуры мажа.** Прыказвае той, каму нехта дагаджае ягонай-жа працай.

735. **Маіш статак, трэба мець і ўпадак.** Разважаюць таго, хто мае нейкі ўбытак у гаспадарцы.

736. **Майстра, майстра, — ня псуй клін!** Прыказваюць, калі няўмека бярэцца за паважную работу.

736. **Мал залатнік ды дараг.** Прыказваюць малыя людзі, калі іх нехта ганьбуе за рост.

738. **Маладось — дурнось.** 1. Прыказваюць старыя, калі ім успамінаюць іхныя памылкі й дурноту ў іх маладыя гады. 2. Гэтак старыя прыказваюць на непаважныя паводзіны маладых.

739. **Маленькі сабачка да веку шчаня.** Прыказваюць на малога брахуна-лайдака.

740. **Малоя — цалоя, а большая — напалам.** Гутарка аб благім мліве. Прыказваюць аб работніку, які шпарка робе, але ягоная работа дрэннай якасьці.

741. **Малы жук ды вялікі гук.** Калі малы чалавек ды вялікага крыку наробе.

742. **Малыя дзеці — малы й клопат, а вялікія дзеці — вялікі й клопат.** Прыказваюць бацькі, калі ёсьць шмат выдаткаў на большых дзяцей або калі дзеці распусныя ды робяць бацьком шмат клопату.

743. **Малыя дзеці спаць ні даюць, вялікія дзеці жыць ні даюць.** Наракаюць гэтак бацькі, калі іхныя дзеці іх крыўдзяць.

744. **Маляр мажа ды ня еўшы спаць ляжа.** Прыказваюць мастаку, калі ягоная праца матар'яльна яго не забясьпечвае.

745. **Мама, мама! Вось мяне хлопцы любюць, бо калі выйду на вуліцу, дык за кулакамі сьвету ня віджу.** Жарт на прыказку: «Хто любіцца, той чубіцца».

746. **Мана наверх выйдзя.** Гэтак разважаюць таго, хто наракае, што на яго ўзлажылі нейкую напасьць, наманілі.

747. **Марац мацая за паліц.** І ў сакавіку бывае сьцюдзена ў рукі.

748. **Мароз сем баб павёз.** Жартуюць гэтак, калі вялікі мароз прыцісьне.

749. **Мароз — сто пудоў на воз.** Аб добрай саннай дарозе.

750. **Масква сьлізам ня вера.** Прыказка гістарычная, паходзіць з часоў частых войнаў з Маскоўшчынай, калі маскоўцы ў Беларусі высякалі часта ў пень нявінных людзей, не зважаючы на іхны плач ды мольбы.

751. **Маскоўскія дактары вынюць душу біз пары.** Прыказвалі, калі ў вайсковых маскоўскіх шпіталёх умірала шмат жаўнераў.

752. **Масла пагасла, сала патала, а кілбасе ліха стала.** Гэтак жартуе гаспадыня, калі ўся скаромніна вышла й няма чым гасьцей частаваць.

753. **Матаіцца каля вуш.** Гэтак кажуць, калі нешта хочуць прыпомніць, а яно на памяць ня прыходзе.

754. **Маўчы, бо начну таўчы.** Жарт-пагроза, каб не выдаваць сакрэтаў.

755. **Маўчыць, як мыла зьеўшы.** Прыказваюць на таго, каму няма чаго казаць ад сораму.

756. **Маючы паршывую галаву, ня трэба ў дух лезьці.** Прыказваюць таму, хто ня мае адпаведнага здароў'я ці здольнасьцяў, а бярэцца за такую справу, якой ня ў сілах выканаць.

757. **Мая душа ні крывая — усё прымая.** Гэтак жартуе госьць, калі гаспадыня перапрашае, што можа страва яму не да смаку.

758. **Мая хата з краю й я нічога ні знаю.** Прыказвае той, хто ня хоча ўмешвацца ў грамадзкія справы.

759. **Месца, як старой бабя сесьці.** Прыказваюць, калі трэба ня зусім малое месца, бо старая баба ня любе, каб да яе блізка прыхіналіся.

760. **Мець на воку.** Ня выпускаць з зроку, сачыць за нечым.

761. **Міл жабя гарэх, ды зубоў Бог ні даў.** Прыказваюць, калі зайздрывы квапіцца на нешта завіднае, але ня мае магчымасьці скарыстаць яго.

762. **Мілая дабро, алі бруха адно.** Жартуючы прыказвае госьць, калі яго запрашаюць, каб болей еў.

763. **Мілы мой крадзеж, куды мяне завядзеш?** Гэткае пытаньне ставяць злодзею ці іншаму злачынцу.

764. **Мілы мой спакою — добра жыць з табою.** Прыказваюць сумленныя людзі.

765. **Мне ад гэтага ні холадна, ні цёпла.** Прыказвае той, каму абыякава справа, аб чым ідзе гутарка.

766. **Мне, бабачка, патрэбін ня твой воск, алі зыск.** Словы гандляра, які купляў воск. Прыказваюць доктару, адвакату, гандляру, калі хочаць сказаць, што іх цікавіць не сама справа, якую выконваюць, а прыбытак ад яе.

767. **Многа вады ў мора ўплывае, пакуль гэта будзя.** Калі нехта будуе на далёкую будучыню вялікія, але ня жыцьцёвыя пляны.

768. **Можа табе даць пячонай рэдзькі?** Жартуюць гэтак з таго, хто ня можа падабраць сабе ежы ды кажа, што яму ўсё ня смачна.

769. **Мора пап'еццa й бірагам застанецца.** Прыказваюць тады, калі нехта наракае, што багатыя забіраюць сабе ўсё багацьце, а бедным нічога не застаецца. Калі ў мора ўплыве болей вады, чымся яно можа стоўпіць, дык гэтая вада расплывецца й на берагі. Калі багатыя зьбяруць болей багацьця, чымся яны могуць спажыць, дык часьць багацьця расплывецца ад іх і да іншых.

770. **Мужык прастак — німа хлеба, есь праснак.** Прыказваюць аб бедным, які сабе нешта прыдумае, каб зьесьці.

771. **Мужык, дык мужык, алі Ганулін, а ня твой.** Прыказвае селянін, калі яго лаюць мужыком, бо толькі той мужчына мужык, хто мае жонку.

772. **Мужыку па жонца, як бабя па йголца.** Гэтак прыказваюць таму мужыку, які не шкадуе й не шануе жонкі. Калі баба згубе іголку, дык купе другую. Калі ў мужыка памрэ жонка, дык ён другую возьме.

773. **Мы ні дзіля таго жывём, каб есьці, а дзіля таго ядзім, каб жыць.** Чалавек павінен жыць для нейкай высокай ідэі, а есьці мусе для таго, каб падтрымліваць жыцьцё.

774. **Мысьлі за марамі, а сьмерць за плячыма.** Жыцьцё чалавека не залежа ад ягонай волі.

775. **Мядзьведзь прасіўся падвязьці адну лапку, а як паставіў, дык і саначкі паламаў.** Прыказваюць, калі слабы пачне дапамагаць дужаму, бо пры гэтым і сам загіне.

776. **Мякка сьцеля, алі мулка спаць.** *Прыказваюць чалавеку, які ў вочы* прыдобрываецца, а за вочы вялікія крыўды робе.

777. **Мяне хоць і ваўком называй, алі што дня па барану давай.** Прыказвае матар'ялісты, які не клапоціцца аб добрым імяні, абы толькі матар'яльна быў забясьпечаны.

778. **Мятліца — хлебу памачніца, а званец — хлебу канец.** Заўвага старых земляробаў. Зь мятліцы шмат мякіны, дык будзе вялікая куча нявеянага жыта. Званец-жа ахварбоўвае хлеб у цёмна-сіні колер.

(Заканчэньне ў наступнай кнізе «Запісаў»)

# Да Першага Ўсебеларускага Зьезду 1917 году

**(Дакумэнты й матар'ялы)**

Я. Запруднік

Беларусь у 1917 г. была падзеленая лініяй нямецка-расейскага фронту на дзьве часткі. Лучнасьці між імі бадай ніякае ня было. У вабедзьвюх частках, аднак, беларускі палітычны рух набіраў сілы й разьвіваўся ў тым самым кірунку: самавызначэньне-аўтаномія-незалежнасьць.

Савецкая гістарыяграфія спрабуе збываць маўчаньнем незалежніцкія тэндэнцыі беларускага палітычнага руху. Рабіць гэта ёй чым далей, тым цяжэй. Апошнім часам у савецкім-жа друку чуваць галасы аб тым, што палітычную гісторыю Беларусі 1917-1918 гадоў трэба разглядаць паўней.

Паданыя тут дакумэнты належаць якраз да гэтае тэмы.

Першы Ўсебеларускі Зьезд, цяпер часта званы Першым Усебеларускім Кангрэсам, быў скліканы ў сьнежані 1917 году. Ён становіць галоўную вяху ў гісторыі Беларускае нацыянальнае рэвалюцыі — рэвалюцыі, што 25 сакавіка 1918 г. дасягнула найвышэйшага свайго ўздыму ў акце абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.

Першы Ўсебеларускі Зьезд быў вынікам бурлівых і трагічна багатых падзеяў на тэрыторыі Беларусі, ахопленае полымем Першае сусьветнае вайны. Дакумэнтальныя матар'ялы гэнае пары сабраныя дагэтуль часткава й аднабакова. Найбольш, бязумоўна, выдадзена ў Савецкай Беларусі. Асноўнае із савецкае дакумэнтацыі апублікаванае ў зборніках «Из истории установления Советской власти в Белоруссии и образования БССР» (Минск, 1954), што становіць чацьверты том сэрыі «Документы и материалы по истории Белоруссии» і ў двутомніку «Великая Октябрьская Социалистическая Революция в Белоруссии» (Минск, 1957). Рэшта матар'ялаў расьцярушаная па паасобных манаграфіях, часапісах, газэтах і, пэўна-ж, па недаступных пакуль што савецкіх архівах.

Дакумэнты, што публікуюцца ніжэй, узятыя галоўна зь дзьвюх крыніцаў: з выдадзенае ў 1921 годзе ў Маскве кніжкі Ф. Турука «Белорусское движение. Очерк истории национального и революционного движения белоруссов», сяньня бадай недаступнай нікому, і з выдаванае пад нямецкай акупацыяй у 1917 годзе віленскае газэты «Гоман».

*1917, сакавіка 2*. — «У гістарычны мамэнт», рэдакцыйны артыкул газэты «Гоман», Вільня.*

З кажным днём справа беларускага нацыянальнага адраджэньня ў занятых (Немцамі — Я. З.) землях знаходзіць усё мацнейшы грунт. Справа гэта ўсё крапчэй і крапчэй зьвязваецца з усімі праявамі нашага грамадзкага жыцьця, — і для Беларуса здабываньне прасьветы й дабрабыту робіцца роўназначным са здабываньнем незалежнага месца для нашага народу ў роднай зямлі Беларускай. А разам з тым вырастаюць новыя й новыя рады работнікаў на народнай ніве, і яны — кожын ў межах свае прафэсіі — супольнымі сіламі твораць лепшую будучыню для ўсяе Беларусі.

У цяперашніх ваенных часох, калі так трудна есьдзіць зь месца на месца, калі людзі ня могуць зьяжджацца разам дзеля супольных нарад аб сваіх справах, — нам, Беларусам, трэба зьвяртаць асаблівую ўвагу на тое, каб, ідучы паасобку, мы ўсё-ж такі йшлі-б да аднэй мэты, каб усім разам адзінакава сьвяціла тая-ж самая пуцяводная зорка. Трэба, каб і інтэлігент беларускі ў горадзе, і работнік меставы, і вучыцель у вёсцы, і звычайны хлебароб — усе роўна разумелі-б сваю мэту, усе роўна ацэньвалі-б вагу перажыванага мамэнту.

А дайсьці гэткай згодлівасьці можна толькі тады, калі будзем кіравацца гарачай любоўю да сваіх братоў і свайго Краю, калі кінем служыць чужым багом і аглядацца на чужынцаў. У найбліжэйшых месяцах, побач са спадзяванымі важнымі здарэньнямі на ваенных тэатрах, павінна выясьніцца й далейшая будучыня нашай Бацькаўшчыны. Якая яна будзе — мы ня ведаем. Але мы ведаем адно: у добрай ці ў злой долі мы здалеем дайсьці свае мэты толькі тады, калі з разрозьненых, раськінутых па ўсёй зямлі нашай людзей створыцца чысьленае, крэпка зьвязанае супольнай ідэяй грамадзянства, калі сэрцы нашы будуць біцца ў вадзін такт, а думкі кіравацца да аднаго ідэалу.

І вось, кожын Беларус, незалежна ад таго, дзе й на якім становішчы ён-бы ні быў, павінен рупіцца аб тое, каб шырыць між акружаючымі яго людзьмі беларускую нацыянальную сьвядомасьць, каб зьбіраць каля сябе шчырых сыноў народу нашага й прыцягваць да работы. Разам працуючы ў штодзённым жыцьці, разам здабываючы свой хлеб, гэтыя людзі ў патрэбны мамэнт здалеюць цьвёрда выступіць за волю й шчасьце ўсяго нашага народу, усяго Краю.

Газэта *«Гоман»* № 18 (110), Вільня, 2. III. 1917

* Новы стыль.

*1917, сакавіка 25. — «Ад Беларускага Нацыянальнага Камітэту», праграма БНК, апублікаваная ў газэце «Вольная Беларусь» № 2, 1917. б. 2.*

Выбраны зьездам беларускіх грамадзянскіх дзеячоў нашага краю 25 сакавіка (марта) 1917 г. Беларускі Нацыянальны Камітэт мае сваім грунтам культурна-нацыянальнае адраджэньне беларускага народу, якое вымагаецца паступовым рухам гістарычнага жыцьця паасобных нацыяў, патрэбай агульнай культуры й прагрэсу ўсяго чалавецтва.

Час вялікай рэвалюцыі, час вялікіх пераменаў патрэбаваў ад людзей, сьвядома клаўшых свае сілы на карысьць роднага краю, каб яны сказалі сваё слова аб тым палітычным ладзе, які яны лічаць патрэбным і найлепшым для Беларусі і ўсёй Расеі.

1) Прызнаючы найлепшай формай государственнага ладу Расеі фэдэратыўна-дэмакратычную рэспубліку — зьезд лічыць патрэбай аўтаномнае адбудаваньне Беларусі ў граніцах Расеі, у якіх было-б забясьпечана вольнае разьвіцьцё і поўныя правы іншым народам, жывучым на Беларусі. Эканамічнае становішча й тыя шырокія магчымасьці, якія адкрыліся з рэвалюцыяй перад дэмакратычнай Расеяй, зьвязвае нас з Расейскай фэдэратыўна-дэмакратычнай рэспублікай. Дзеля гэтага Беларускі Нацыянальны Камітэт лічыць патрэбным перасьцерагчы ад тых людзей, якія прыкрываючыся імём беларускім, вялі-б прапаганду за далучэньне да Польшчы, або да якога другога государства. Гэтакіх людзей Беларускі Нацыянальны Камітэт, на колькі яны выступалі-б ад яго імя, будзе лічыць за правакатараў.

2) Беларускі Нацыянальны Камітэт прызнае свабоду за кожнай рэлігіяй і кліча ўсіх Беларусаў, бяз розьніцы веры, да супольнай працы над стварэньнем ядынай беларускай культуры.

3) Лічачы, што зямельная справа будзе развважана агулова на Ўстаноўчым Расейскім Сэйме, Беларускі Нацыянальны Камітэт знаходзіць, што дэтальна гэтая справа на Беларусі павінна быць разьмяркована краёваю Беларускаю Радаю, скліканаю на аснове роўнага, агульнага, простага й таёмнага галасаваньня.

4) Беларускі Нацыянальны Камітэт лічыць за патрэбу нацыяналізацыю беларускай школы.

5) У ваеннай справе Беларускі Нацыянальны Камітэт трымаецца таго пагляду, што згода павінна быць зроблена без анэксіі й кантрыбуцыі, з правам самаўсьведамленьня нацыяў.

6) Аднэй з умоваў міру, жаданага для Беларусі, ёсьць зварот забранай часткі этнаграфічнай Беларусі, і далучэньне яе, аб'еднанай з рэштай Беларусі, да Расейскай Фэдэратыўнай Рэспублікі.

Ф. Турук, *Белорусское движение,* бб. 86-87.

*1917, сакавіка 27. — «Разьбітае недаразуменьне», перадавіца газэты «Гоман», Вільня.*

Быў цар Мікалай, — і няма цара Мікалая. Панаваў 300 гадоў род Раманавых, — і на іх прыйшоў звод. Стагнала Расея сотні гадоў пад цяжкім ярмом царскіх чыноўнікаў, — і гэтай няволі настаў канец. Даволі было народу сьмела й дружна выступіць проці сваіх крыўдзіцеляў, і тое, што выдавалася абапёртым на непарушымых асновах, рассыпалася, быццам парахно.

У нашым жыцьці ёсьць таксама шмат такога, на што людзі звыкліся глядзець, як на нешта вечнае, умацаванае назаўсёды. Але часта даволі крануць рукой, даволі сказаць сьмелае слова, і плод недаразуменьня ці народнай цемнаты зьнікне, як дым. Да гэткіх пладоў цемнаты й несьвядомасьці нашага народу належыць пагляд на панаваньне ў нашым краі польшчыны, як быццам ад няпомных вякоў устаноўленае на вечныя часы.

Хто змалку дзён сваіх чуў ад паноў, ксяндзоў і сваіх-жа братоў, што польская мова — гэта мова «панская», а беларуская — «мужыцкая», таму здаецца, што так яно заўсёды было й будзе. І мала каму вядома, што быў час, калі на нашай зямлі — апрача Беларусоў і Ліцьвіноў — ня было ніводнага Паляка, што папольску ніхто тут ня ўмеў гаварыць, што польскія каляністы панахлынулі да нас усяго 350 гадоў таму назад, і толькі ад таго

часу нашае панства й шляхта пачалі мяняць сваю беларускую мову на чужацкую й разам з прымакамі сваймі абяртаць народ беларускі ў сваіх «халопаў». Ажно цяпер прыйшоў час, што тыя «халопы» пачалі разумець, што яны — такія-ж людзі як іх «паны», і вось, разам зь першым праменем волі, збудзілася ў іх сьвядомасьць, што іх нацыянальнасьць, іх мова маюць поўнае права на быт, на панаваньне ў сваёй старонцы. І дзе ўчора была расейская ці польская школа, дзе вучыцель-чыноўнік або «паненка» абярталі Беларусоў у Маскалёў ці Палякоў, — там цяпер будуюцца беларускія школы, там сьмела й вольна зьвініць беларускае слова, здабываючы належнае яму паводля ўсіх боскіх і людзкіх правоў месца.

(...) Раз народ зварухнуўся, раз ён убачыў, што можа жыць і разьвівацца бяз чужацкай «апекі», што можа здабываць сабе прасьвету ў роднай мове і «выходзіць у людзі», не выракаючыся свае нацыянальнасьці, — ён пойдзе па гэтай новай, самабытнай дарозе далей і творчай працай заваюе для сябе й свае зямлі вольнае, незалежнае ні ад кога жыцьцё!

(подпіс) І. Мялешка

Газэта *«Гоман»* № 25 (117), Вільня, 27. III. 1917

*1917, красавіка 20. — «Рукі вон!», рэдакцыйны ртыкул газэты «Гоман», Вільня.*

Ход ваенных прыпадкаў разрэзаў крывавай мяжой землі колішняга Вялікага Княства Літоўскага на дзьве часьці: з гэтага боку апынулася блізка ўся этнаграфічная Літва й частка Беларусі; з таго — усходні край Літоўскай зямлі й аграмадныя беларускія абшары. Але ад гэтага прыпадковага разьдзелу ў унутранай будове нашай калісьці незалежнай Бацькаўшчыны нічога не зьмянілася. Як ад вякоў, так і цяпер, гэты суцэльны гаспадарчы арганізм крэпка спаяны ў вадно як супольнай мінуўшчынай пражываючых на ім народаў, так і эканамічнымі й сацыяльнымі зьвязамі, аснованымі на зусім незалежных ад волі чалавечай аб'ектыўных варунках (тарговыя дарогі, выхад да мора, супольныя цэнтры, агульнакраёвыя эканамічныя арганізацыі, праўныя нормы і т. д.). Яго патрэбы й жаданьні, яго палітычныя ідэалы ад факту дачаснага разьдзелу не маглі зьмяніцца й не зьмяніліся.

Тым болей цьвёрда пратэстуе беларускае грамадзянства проці ўсіх спроб суседняй Польшчы прадставіць усяму сьвету нашу Бацькаўшчыну, як нейкую бяздушную, бязьідэйную, без свае ўласнай волі рэч — прадмет «польска-расейскай споркі». І мы яшчэ раз падымаем свой голас проці новага акту гвалту дзяржаўнай рады Польшчы, які становіць дэклярацыя яе з дня 6 красавіка 1917 г.

«Тымчасовая дзяржаўная рада, — чытаем у дэклярацыі, — ядыны ўрадавы польскі орган, з прызнаньнем вітае блеск волі, які асьвяціў цемру нявolі народаў, пражываючых у расейскай дзяржаве. Са здаволеньнем адзначвае яна і факт прызнаньня новым расейскім урадам незалежнасьці Польшчы, — але разам з тым адзначвае, што адвечная польска-расейская спорка аб абшырныя землі, якія знаходзяцца між этнаграфічнай Польшчай і Расеяй, ды ад вякоў зьвязаны з доляй Польшчы, не разьвязана адозвай Расейскага ўраду. Разьвязкі гэтай споркі мы ня можам аддаць на аднастаронную рэзалюцыю расейскага ўстаноўчага сэйму. Доля гэтых зямель павінна быць разьвязаная ў мысль дзяржаўных інтарэсаў незалежнай Польшчы, ушанаваўшы волю народаў, пражываючых на тых землях».

Наш Край, наша Бацькаўшчына ніколі да Польшчы не прыналежала й яе ўласнасьці не станавіла: яна многа вякоў таму назад злучылася з Польшчай у вадну супольную дзяржаву з добрай волі й на роўных правох, як вольны з вольным, роўны з роўным. Калі цяпер увесь сьвет прызнаў правы на незалежны быт Польшчы, дык такія-ж правы мае й наш Край. Зьвязь, якая злучыла нас калісь з Польшчай, зьнішчана, — а калі-б яе й ня зьнішчыла жыцьцё, дык усяроўна прабудзіўшыяся да сьвядомага грамадзкага жыцьця народныя масы не маглі-б прыстаць на тое, што некалі зрабіла нашае панства й шляхта, трымаўшая ў цяжкай няволі наш народ і не даваўшая яму голасу. І калі цяпер Польшча хоча падчыніць нас сваім «дзяржаўным інтарэсам», забыўшыся нават аб старых шляхоцкіх умовах, дык мы цьвёрда й ясна заяўляем: ня хочам служыць за парабкаў у Палякоў! ня хочам дзяржаўнай паншчыны ў шляхоцкай Польшчы!

Дзяржаўная рада Польшчы лічыць магчымым разьвязаць долю нашай зямлі на моцы ўгоды між Польскай манархіяй і Расейскай рэспублікай. Яна гэтак ня прызнае за нашым Краем права самому падаць свой голас аб сабе, права на незалежны быт. Але мы перакананы, што ні Расейская рэспубліка, ні міжнародная мірная канфэрэнцыя ня прыстануць на падобнае жаданьне захвату чужой зямлі й ня ў меру разгаласаваўшымся Паляком скажуць войстрае й важкае слова:

— «Рукі вон!»

Газэта «*Гоман*» № 32 (124), Вільня, 20. IV. 1917.

*1917, красавіка 20. — «Пратэст работнікаў», газэта «Гоман» пра адозву Віленскага камітэту Сацыял-Дэмакратычнай Партыі Літвы.*

Дзеля таго, каб паказаць, як да захватных плянаў Польшчы адносяцца віленскія работнікі (Беларусы, Ліцьвіны й Палякі), злучаныя ў Сацыял-Дэмакратычнай Партыі Літвы, — мы друкуем тут пераклад адозвы Віленскага Камітэту гэтай партыі, выданай у польскай мове:

Працавітая бедната ўсіх краёў, злучайся!

*Сацыял-Дэмакратычная Партыя Літвы.*

Таварышы й Грамадзяне!

Калі — пасьля гадоў доўгай няволі і ўціску — на фоне шалеючай вайны й нялічных бед — пачалі будзіцца ў нашым Краю новыя надзеі й жаданьні, калі сьвядомасьць і пачуцьцё сваіх правоў, дасьпеўшы ў радох арганізованага пралетарыяту, абнімае ўсё шырэйшыя кругі й будзіць жаданьні вызваленьня Краю ў народных і мяшчанскіх масах, калі, урэшце, кліч да незалежнасьці Літвы разам з акупованай Беларусьсю, напісаны на работніцкім штандары, раздаецца радаснай весткай па нашай зямлі й стаўся ў цяперашні мамэнт цэнтрам і мэтай дамаганьняў бязмала ўсяго Краю, — у некаторых кругох польскага грамадзянства паявілася дэклярацыя з адрасам да дзяржаўнай рады, выразна жадаючы далучэньня нашага Краю да Польшы.

Далучэньне — гэта значыць праўна-дзяржаўнае падчыненьне, гэта прысуд, каб Край наш быў толькі правінцыяй ці станавіў пару губэрніяў творанай сягоньня Польшчы, гэта аддацца на міласьць ці няміласьць польскай гаспадаркі, фактычна *шляхоцка-буржуазійнай; і вось да гэтага кірующа* гэныя кругі, маючы сьмеласьць спадзявацца, што падобнае жаданьне дойдзе ўдачы ў самым нашым грамадзянсьцьве.

Для сучаснага эўрапейца, незнаёмага з нашымі варункамі, гэта была-б справа, непадобная да веры...

І праўда: ці-ж у часе найвялікшага напружаньня руху да незалежнасьці, у часе нялюдзкай меры й поўных ахвярнасьці патуг да здабыцьця волі розных краёў, — ці-ж у гэтым часе грамадзяне Літвы й Беларусі важыліся-б зрабіць сьмяротны ўдар сваёй Бацькаўшчыне, злажыць у магілу імя й незалежнасьць яе й мець сьмеласьць за далакопа для сваіх правоў прызываць польскі народ, каторы пережыў усе мукі пад чужацкім ярмом, пазнаў цану волі і ўмеў ваяваць за яе дзеля сябе й другіх?

Які-ж зачараваны круг дурноты, якое страшэннае гістарычнае недаразуменьне... Як завуцца й скуль родам тыя людзі, каторыя ў часе надзей сьпяшаюцца пахараніць родны Край? Ці-ж яны — не сапраўдныя сыны яго, ня дзеці аднэй маткі-пястункі — Бацькаўшчыны?

Скуль прыходзяць павадыры, каторыя зь вясельнай радасьцю б'юць у званы на забойства намечанай ахвяры?

Імя першых, каторыя гатовы даць згоду сваю на страшэннае ліхадзейства проці нашага Краю, — несьвядомасьць. Іх вінаваціць нельга, бо ня ведаюць, што робяць, бо пойдуць за намі, як ім вочы рашчыняцца.

Імя другіх — шал або зрада, безьмяжовая наіўнасьць, аснованая на нацыяналізьме, або нягодная хітрасьць, каторая будуе пагібельныя для нашага Краю пляны на несьвядомасьці й бязраднасьці.

Аднак, каму патрэбная гэткая наша крыўда, хто вінавайца гэтага пакушэньня на нашы правы?

Аб тым, што наш Край стаўся ахвярай расейскага захвату, аб гэтым бяспраўі ведаем мы ўсе, ведае і польскі народ, каторы дзяліў з намі ліхую долю.*

Але каму ў Польшчы, каму ў нашым Краі ёсьць карысьць патаптаць нашы правы? Хіба не работніцкай грамадзе, з каторай нас яднаюць ідэалы брацтва, хіба ня польскаму народу, каторы не апаганіць свайго імя захватамі.

На шчасьце, факты гавораць лішне празрыста... Новага ваўка пазнаем па старой скуры... Буржуазія, прадстаўнікі капіталу ў Польшчы й іх паплечнікі ў нашым Краі — гэта й ёсьць галоўная пружына ўсяе афэры.

Вось хто, ледзьве падымаючыся са сьмяротнай пасьцелі, яшчэ на кавёлах, не пасьпеўшы парваць сваіх ланцугоў, у імя свае быццам-то «гістарычнай місіі» пачынае гістарычны паход, першы прызыў да каторага мы пачулі з трыбуны дзяржаўнай рады Польшчы.

Вось хто, прыкрываючы свой уласны інтэрас пазычанымі ад царавых наймітаў словамі, хоча абярнуць наш Край толькі ў рынак дзеля збыту сваіх тавараў, а работніцкія масы — у рабочую скаціну ў крэпкай збруі.

Гэта пасланцы буржуазіі прыходзяць да нас муціць нашу згоду, падкопваць грамадзянскую сьвядомасьць, множыць чысло рабоў і гэтак прыгатаўляць у блізкім да Польшчы суседзтве грунт для кожнага наездчыка.

Замест будзіць сілы краю й абапёртую на сьвядомасьці сваіх правоў моц, замест шукаць шчырай асновы дзеля ўзаемнага збліжэньня Літвы й Польшчы, як роўных адна аднэй, вольных і моцных, яны атручваюць душы грамадзян, кідаюць між менш сьвядомымі зярняты разладу й нацыяналь-

---

* У гэтым месцы газэта мае белую прагаліну: пяць радкоў друку прапушчаныя, відавочна, на дамаганьне нямецкага цэнзара. Цэнзурныя «белыя плямы» ў газэце «Гоман» ёсьць і ў іншых месцах.

най ненавісьці, ды благую ўслугу робяць самой ідэі зблізжэньня гэтых краёў.

Таварышы й грамадзяне! Трэба ўжо палажыць канец гэтаму! Гэта здрадлівая работа тых, хто высысае з нас усе сокі, работа сьвядомых ці несьвядомых ворагаў рабочага народу!

Дык клікнем урэшце з усёй сілы, што ўсе мы бязь ніякай розьніцы сыны гэтага Краю, што долю яго трэба акружыць братняй апекай, бо ён належыць да ўсяго грамадзянства, і толькі воля апошняга, воля выразнай большасьці мае права пастанавіць аб яго будучыні, што толькі правамочныя прадстаўнікі Краю могуць і павінны гаварыць за яго.

Усе паадзінокія дамаганьні й настраеньні павінны знайсьці для сябе выхад тут, у нашым краі, і тут, змагаючыся між сабой у законнай і чэснай барацьбе, служыць дзеля аднэй справы вольнай і дэмакратычнай будучыні нашага Краю.

Даволі выцягваньня сварак за межы краю, даволі ўзаемных падкопаў! Да еднасьці, таварышы й грамадзяне, і да сьвятла! Супольнымі сіламі пры блеску работніцкага сьветача мы лягчэй знойдзем дарогу з вастрожнай цемры да сьветлай пуціны вольнага й годнага нас жыцьця.

Няхай жыве незалежная й дэмакратычная Літва!*

Няхай жыве работніцкая справа!

Віленскі Камітэт Сацыял-Дэмакратычнай Партыі Літвы

Газэта *«Гоман»* № 32 (124), Вільня, 20. IV. 1917.

* Судзячы паводля вышэйпісаных слоў адозвы, аўтары яе пад словам «Літва» разумеюць не зямлю, на якой жывуць Ліцьвіны, а ўвесь наш Край, значыць, Літву й Беларусь. (Рэд.).

*1917, травеня 4. — «Воля Краю», перадавіца газэты «Гоман», Вільня.*

За наш Край гэтулькі ўжо людзей бралася гаварыць, ды гэтак розна гаварылі ўсе ад яго-ж імя, што, слухаючы здалёк, папраўдзе не распазнаеш, каторы голас належыць да адвечных жыхароў і гаспадароў яго, каторы — да прыблудаў і ўсялякіх самазванцаў. І тым больш важна й трэба даць ясны адказ на пытаньне: хто й як можа даць праўдзівы голас ад нашай зямлі?

Усе дэмакратычныя кірункі, а тым болей — сацыялістычныя ў сваіх праграмах стаўляюць на першым месцы пункт, што кожын народ і кожын край мае права сам разьвязаць пытаньне аб сваім быце, аб сваёй далейшай будучыні. Але ўсё гэта была толькі тэорыя — і мы ня бачылі рэальнага стасаваньня яе ў жыцьці. З гэтай прычыны ў людзкіх галовах узьнімалася вялікая блытаніна, і навет тыя, хто памянёнае права народаў і краёў прызнаваў у тэорыі, ня ўмелі знайсьці спосабу правясьці яго ў жыцьцё.

Першы крок для правядзеньня тэорыі ў жыцьцё зрабіла на нашых вачох Украіна. Як мы ўжо пісалі ў вапошнім нумары «Гоману» паводля весткі зь Вены, кіеўскі нацыянальны канвэнт Украіны пастанавіў сазваць у Кіеве на 1 мая старога стылю ўстаноўчы сэйм, каторы павінен аб'явіць Украіну незалежнай рэспублікай. Судзячы паводля тэй-жа весткі, украінскі ўстаноўчы сэйм зусім ня будзе аглядацца на агульна-расейскі тымчасовы ўрад і ўстаноўчы сэйм, які няведама, калі мае быць скліканы. Болей таго, кіеўскі канвэнт ня годзіцца на тое, каб фэдэрацыйны лад у Расеі заводзіў агульна-расейскі сэйм. І гэта зусім справядліва: калі Расея мае станавіць у будучыні вольны саюз вольных краёў і народаў, дык трэба забыцца аб тым,

што краі й народы Расеі калісь гвалтам былі зьвязаны ў вадну дзяржаву, трэба даць кожнай некалі незалежнай часьці государства магчымасьць вярнуць утрачаную волю, і толькі тады яны, калі гэтага будзе вымагаць іх палітычны й эканамічна-гаспадарчы інтарэс, могуць зьвязацца нанова «з вольнай і няпрымушонай волі». Іначай навет пастанова рэвалюцыйнага агульна-расейскага ўстаноўчага сэйму аб фэдэрацыі будзе аснована на прынуцы.

Каб пачуць сапраўдны голас нашай Бацькаўшчыны, трэба даць магчымасьць жыхаром яе ясна выказаць сваю волю. А прыклад Украіны ясна кажа нам, як гэта зрабіць. І тады стануць лішнімі й непатрэбнымі, як фальшывая статыстыка нацыянальнасьцяў, так і прымушаньне голадам на зямлі й страхам пекла па сьмерці да таго, каб нашы Беларусы запісваліся ў Палякі; стануць непатрэбнымі акты зрады Краю, як знамяніты «адрэс» да польскай дзяржаўнай рады, каб яна ўчыніла крокі дзеля прылучэньня Беларусі й Літвы да Польскага Каралеўства...

Ворагі нашага Краю гэта разумеюць. Але яны разумеюць яшчэ й другое: тое, што сам Край сябе нікому запрадаваць у няволю ня хоча. Вось яны й выступаюць проці ядынага рацыянальнага спосабу выявіць волю жыхароў нашай зямлі, яны вядуць брудныя, ганебныя інтрыгі, яны стараюцца аслабіць краёвыя сілы, каб пасьля абясьсілеўшы й разрозьнены Край лягчэй было паняволіць.

Толькі-ж гэтыя паны забываюцца аб адным: што ўсякая мера цярпеньня народу раней ці пазьней канчаецца, — і лёс зрайцаў вядомы...

(подпіс) І. Мялешка

*Газэта «Гоман» № 36 (128), Вільня, 4. V. 1917.*

*1917, красавіка 29 (травеня 12). Рэзалюцыя VII (Красавіковае) Усерасейскае канфэрэнцыі РСДРП(б) у нацыянальным пытаньні, напісаная Ленінам.*

Политика национального угнетения, будучи наследием самодержавия и монархии, поддерживается помещиками, капиталистами и мелкой буржуазией в интересах охраны их классовых привилегий и разъединения рабочих разных народностей. Современный империализм, усиливая стремления к подчинению слабых народов, является новым фактором обострения национального гнёта.

Поскольку достижимо в капиталистическом обществе устранение национального гнёта, это возможно лишь при последовательно-демократическом республиканском устройстве и управлении государства, обеспечивающем полное равноправие всех наций и языков.

За всеми нациями, входящими в состав России, должно быть признано право на свободное отделение и на образование самостоятельного государства. Отрицание такого права и непринятие мер, гарантирующих его практическую осуществимость, равносильно поддержке политики захватов или аннексий. Лишь признание пролетариатом права наций на отделение обеспечивает полную солидарность рабочих разных наций и способствует действительно демократическому сближению наций.

Конфликт, возникший в настоящее время между Финляндией и русским Временным правительством, особенно наглядно показывает, что отрицание права на свободное отделение ведёт к прямому продолжению политики царизма.

Вопрос о праве наций на свободное отделение непозволительно смешивать с вопросом о целесообразности отделения той или другой нации в тот

или иной момент. Этот последний вопрос партия пролетариата должна решать в каждом отдельном случае совершенно самостоятельно, с точки зрения итнересов всего общественного развития и интересов классовой борьбы пролетариата за социализм.

Партия требует широкой областной автономии, отмены надзора сверху, отмены обязательного государственного языка и определения границ самоуправляющихся и автономных областей на основании учёта самим местным населением хозяйственных и бытовых условий, национального состава населения и т п.

Партия пролетариата решительно отвергает так называемую «культурно-национальную автономию», т. е. изъятие из ведения государства школьного дела и т. п. и передачу его в руки своего рода национальных сеймов. Рабочих, живущих в одной местности и даже работающих в одних и тех же предприятиях, культурно-национальная автономия искусственно размежевывает по принадлежности к той или иной «национальной культуре», т. е. усиливает связь рабочих с буржуазной культурой отдельных наций, между тем кам задача социал-демократии состоит в усилении интернациональной культуры всемирного пролетариата.

Партия требует включения в конституцию основного закона, объявляющего недействительными какие бы то ни было привилегии одной из наций, какие бы ни было нарушения прав национальных меньшинств.

Интересы рабочего класса требуют слияния рабочих всех национальностей Росси в единых пролетарских организациях, политических, профессиональных, кооперативно-просветительных и т. д. Только такое слияние в единых организациях рабочих различных национальностей дает возможность пролетариату вести победоносную борьбу с международным капиталом и с буржуазным национализмом.

Зборнік *«Документы и материалы по истории Белоруссии»*, т. IV, Минск, 1954, бб. 18-19.

*1917, травеня 4. — «Адбітае пакушэньне», артыкул газэты «Гоман», Вільня.*

Мы ўжо пісалі аб спробе тутэйшых польскіх нацыяналістаў, унясьці раскол між тутэйшых работнікаў-каталікоў, выдзяляючы спаміж іх «Палякоў» і абяртаючы іх у слухмянае аружжа ваяўнічага польскага нацыяналізму. Ды спроба гэта — ня першая: яе рабілі два ці тры разы яшчэ ў мірным часе, але кожын раз — няўдачна.

І цяперашняя спроба кс. Міхалькевіча наладзіць «Товажыство католіцке роботнікув польскіх в Вільне» аказалася таксама няўдачнай, як усе ранейшыя. На ўстаноўчы сход, каторы быў назначаны на мінулую нядзелю, спаміж многатысячнай масы віленскіх работнікаў прыйшло ўсяго . . . 40 душ! Ня гледзячы на такую «чысьленасьць» сабраўшыхся, арганізатары не задумаліся ані на момант: яны зразу прыступілі да выбару ўраду (апрача маршалка «па назначэньню» ад кс. Міхалькевіча), каб гэтак хоць на паперы стварыць сваю «работніцкую» арганізацыю. Аднак, калі ўрад быў ужо выбраны і пачалася гутарка аб тым, што і як новае таварыства мае рабіць, арганізатараў спаткала надта прыкрая неспадзеванка: яны пачулі ад работнікаў гэткія горкія і вострыя словы аб ролі няпрошаных апякуноў у работніцкім жыцьці, што маршалкаваўшы кс. Ольшанскі пасьпяшыў чым хутчэй закрыць сабраньне.

Сваім становішчам віленскія работнікі ясна паказалі, што яны ўмеюць распазнаць, хто іх вораг і хто прыяцель. А вораг рабочага народу — ко-

жын, хто ўносіць нацыянальныя сваркі ў работніцкую сям'ю, зьеднаную на груньце супольных для ўсіх работнікаў патрэбаў і супольнага змаганьня з аднымі й тымі-ж ворагамі. Вораг, як казаў на памянёным сабраньні адзін з работнікаў, гэта той, хто сядзеў невядома дзе й рабіў невядома што пад той час, калі ўсе работнікі прымушаны былі змагацца зь вельмі цяжкімі варункамі цяперашняга жыцьця.

Работнікі места Вільні разумеюць, што калі яны ў гэтыя цяжкія гады ліхалецьця сяк-так яшчэ дзержацца й маюць магчымасьць атрымаць лыжку гарачай стравы ў дзень, дык за гэта яны павінны дзякаваць самі сабе — сваім прафэсіянальным арганізацыям, дзе разам працуюць усе нацыянальнасьці. А нова-аб'явіўшыяся «апякуны» работнікаў у найцяжэйшыя дні займаліся адно палітыкай апалячваньня народу, сеючы ў нашым Краі зрадлівыя ідэі, дабіваючыся падчыненьня яго чужой дзяржаве — шляхоцкай Польшчы. І калі яны цяпер надумаліся заняцца «арганізацыяй» работнікаў, дык ясна, што работа іх — няшчырая, што яны маюць нейкія ўкрытыя мэты.

Мы шчыра вітаем віленскіх работнікаў, даўшых цьвёрды адпор спробе разьдзяліць іх якраз у той момант, калі буржуазія ўсіх нацыянальнасьцяў Краю вядзе між сабой непрымірымую вайну, губячы нашу супольную Бацькаўшчыну, і калі шчыра-дэмакратычныя элемэнты, калі вольны ад усялякага шавінізму рабочы народ бяз розьніцы нацыянальнасьці: Беларусы, Ліцьвіны, Палякі й Жыды — на груньце сацыялістычнай еднасьці пралетарыяту можа і павінен паказаць усяму нашаму грамадзянству належную дарогу.

(подпіс) Грамадзянін

Газэта *«Гоман»*, № 36 (128), Вільня, 4. V. 1917.

*1917, травеня 4. — «Беларусы Гіндэнбургу й Людэндорфу», паведамленьне газэты «Гоман», Вільня.*

Урадавая „Korrespondenz B." абвяшчае:

«КОРРЭСПОНДЭНЦ Б. Галоўная аснова нямецкага ўпраўленьня ў межах Об. Ост — раўнапраўнасьць усіх народаў Краю — дала і беларускаму народу асьведамленьне аб яго нацыянальнасьці. Цяжар расейскай палітыкі ў ваднасінах да інародцаў праз сталецьці асабліва ўціскаў Беларусаў. Было забыта, што гэты народ некалі прылажыў сваю руку да будовы Кіеўскай дзяржавы, першай палітычнай арганізацыі ўсходня-славянскіх народаў. Было забыта, што праз цэлыя сталецьці празь яго йшло хрысьціянства й культура Бізанцыі да Славян, што мова яго, яго адміністрацыя, яго суды да канца XVIII сталецьця панавалі афіцыяльна ў старонцы, пакарыўшай яго: у Ліцьве, пакуль у канцы народ гэты, пасьля сьмелай і ўпорнай барацьбы, не папаў пад уласьць духа Расейцаў. Пад упраўленьнем галоўна-камандуючага на Ўсходзе Беларусам цяпер ізноў дадзена магчымасьць абудзіцца да новага жыцьця. Аснованы школы, друкуюцца кніжкі да навукі й дапушчана беларуская газэта «Гоман».

Як даведалася «Коррэспондэнц Б.», Беларусы праз сваіх давераных людзей выказваюць сваю падзяку абодвым мужом, воляй каторых беларускаму народу вернены правы: генэрал-фэльдмаршалку ф. Гіндэнбургу й генэралу Людэндорфу. Абодва пісьмы гавораць:

Вільня, 28 лютага 1917 г.

Яго Эксцэленцыі
Генэрал-фэльдмаршалку ф. Гіндэнбургу,
Начальніку Генэральнага Штабу.
Галоўная Кватэра.

Роўна год таму назад Ваша Эксцэленцыя прызнала ў межах Об. Ост у афіцыяльных зносінах і ў школе тыя-ж правы за беларускай мовай, як і за мовай іншых нацыянальнасьцяў Краю.

Прадстаўнікі арганізаваных Беларусаў дзякуюць за гэта ад імя ўцісканага сталецьцямі дзесяціміліённага беларускага народу й выказваюць сваю веру, што Ваша Эксцэленцыя й надалей захавае выказаную прыхільнасьць да Беларусаў і выкажа яе йзноў у патрэбе. Імя Вашай Эксцэленцыі будзе ўспамінацца самымі далёкімі пакаленьнямі Беларусаў з пашанай і ўдзячнасьцю.

Ад імя арганізаваных Беларусаў:
Вацлаў Ластоўскі
Язэп Салавей

Вільня, 28 лютага 1917 г.

Яго Эксцэленцыі
Генэралу пяхоты Людэндорфу,
Першаму Генэрал-Кватэрмістру
Галоўная Кватэра.

Ужо цэлы год Беларусы ў межах Об. Ост карыстаюць з роўных з усімі іншымі нацыямі Краю правоў.

Кожын праўдзівы Беларус з удзячнасьцю ўспамінае час, калі Ваша Эксцэленцыя, як кіраўнік упраўленьня ў межах Об. Ост, глядзеў на беларускае населеньне, як на раўназначнае й раўнапраўнае з другімі краёвымі нацыямі.

У гісторыі адраджэньня Беларусаў імя Вашай Эксцэленцыі будзе заўсёды ўспамінацца, як імя прыяцеля нашага народу.

Ад імя арганізаваных Беларусаў:
Вацлаў Ластоўскі
Язэп Салавей

«Генэрал-фэльдмаршалак ф. Гіндэнбург і генэрал Людэндорф з падзякай прынялі да ведама гэтыя заявы арганізаваных Беларусаў.»

Газэта *«Гоман»* № 36 (128), Вільня, 4. V. 1917.

*1917, травеня 4. — «Вячорныя мысьлі», артыкул газэты «Гоман» пра беларуска-польскія дачыненьні, Вільня.*

Малады беларускі рух мае многа непрыяцеляў сярод тутэйшых польскіх сьвядомых і несьвядомых нацыяналістаў. Работу нашую дзеля разьвіцьця сярод тутэйшых жыхароў пачуцьця свае нацыянальнай аддзельнасьці Палякі называюць «антыпольскім» выступленьнем, кідаюцца на нас у злосьці, дзе могуць і шкодзяць нам у нашай працы. Разьвіцьцё-ж пачуцьця польскай нацыянальнасьці, каторае яны вядуць пры помачы касьцёла, школаў, тэатру й розных таварystваў, тыя-ж Палякі ўважаюць за свой сьвяты абавязак. Яны так верацы у сілу сваіх польскіх «пляцовак», пры помачы каторых «тутэйшага» перарабляюць на «Паляка», што ня лічацца

ня толькі зь Беларусамі, але й з самой беларускай ідэяй. «Беларусаў ёсьць толькі малая горстачка» — кажуць яны, — «і гэтая горстачка робіць ,штучны' беларускі рух».

Ня будзем даводзіць, што сьвядомых Беларусаў ёсьць надта многа, але можам сказаць, што й чысло цьвёрдых Палякоў у нас не вялікае. Ды толькі Палякі сядзелі й сядзяць па дварох на вёсках, былі яшчэ ўчора ўсемагучымі ў былой меставай Управе, дый дагэтуль дзержаць у сваіх руках нашае духавенства. І калі-б хто пад іх панаваньнем назваў сябе Беларусам і замест папольску сьвядома пачаў вясьці, напрыклад, у Ўправе гутарку ў сваёй роднай мове, яго напэўна выкінулі-б зь места. Нават і сягоньня, калі польскай гаспадарцы прыходзіць канец, нам ведамы такія ксяндзы —польскія нацыяналістыя, каторыя нападалі на дзяцей і бацькоў беларускіх за тое, што дзеці ходзяць да беларускіх школаў. Быць Беларусам было ня выгадна, на гэта трэбала вытрымаць напасьць усяго польскага грамадзянства, часам разарваць знаёмствы або стасункі з роднымі, а то й паміраць з голаду, бо польскі капіталіст або «ўласьць маючы» выкідае зь месца. Такія варункі былі надта цяжкія для разьвіцьця беларускага руху, асабліва пры вялікай польскай агітацыі. Дый усё гэта паказвае, што не «малая горстка Беларусаў» уціскае й нападае на Палякоў, што яны толькі бароняцца, а нападаючая старана — гэта й ёсьць сільная польская нацыяналістычная буржуазія.

Аднак, ня ў тым дзела, колькі тут Беларусаў, а дзела ў самой ідэі. Ведама, што нацыянальная індывідуальнасьць ніколі не затрачваецца, затым напасьць польскіх нацыяналістаў на беларускую ідэю нічога ня дойдзе. Калі наш народ, дзякуючы ходу гістарычных прыпадкаў аддыхне ад грабеньня расейскага царызму, калі ён, дзякуючы тым самым прыпадкам, пасьля доўгай шляхоцкай няволі пачуе, што ён мае роўныя з другімі народнасьцямі правы, то ён напэўна займе ў сваёй хаце тое палажэньне, якое належыцца гаспадару, ды якое захапіла й мае яшчэ тут польская буржуазія, і тады ён будзе сільны.

Гэтага-та й баяцца польскія нацыяналісты й вядуць вайну проці нас. Але ідэя беларуская жыве і, ня гледзячы на цяжкія варункі разьвіцьця, з кожным днём вырастае й набірае моцы, і раней ці пазьней прыйдзе час разрахунку з нашымі варагамі.

(подпіс) Лабуць

Газэта «*Гоман*» № 36 (128), Вільня, 4. V. 1917.

*1917, чырвеня 22. — Беларускі Народны Камітэт пра незалежнасьць Беларусі ў газэце «Гоман», Вільня.*

(Вялікімі літарамі ў версе першае балонкі газэты):

БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ КАМІТЭТ АПАВЯШЧАЕ СВАЕ ТРЭБАВАНЬНІ, ЖАДАЮЧЫ ПЕРАСТРОЙКІ РАСЕІ Ў ФЭДЭРАЦЫЙНУЮ РЭСПУБЛІКУ Й НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ.

Газэта «*Гоман*» № 50 (142), Вільня, 22. VI. 1917.

*1917, чырвеня 26. — «Аўтаномія Беларусі», рэдакцыйны артыкул газэты «Гоман», Вільня.*

Акупацыя часьці Беларусі нямецкімі сіламі, прызнаньне тут нацыянальных правоў беларускага народу — гэта тая іскра, каторая запаліла вялікі пажар нацыянальнай сьвядомасьці і на тых абшарах беларускае зямлі, якія

асталіся з таго боку фронту. І калі ў Расеі адбыўся вялікі гасударственны пераварот, разьбіўшы стары дзяржаўны лад, Беларусь падала свой голас, паказала, што яна жыве й дабіваецца вольнага, самабытнага жыцьця. Формулу, у каторай выявіўся беларускі рух у Расеі, мы падалі ўжо ў вапошнім нумары — у тэлеграме, у якой гаворыцца даслоўна: «Беларускі Народны Камітэт апавяшчае свае трэбаваньні, жадаючы перастройкі Расеі ў фэдэрацыйную рэспубліку й незалежнасьці Беларусі».

Цяпер, сабраўшы ўсе дайшоўшыя да нас праз газэты й прыяжджаўшых у розным часе з Расеі людзей, мы можам болей меней даць абраз беларускага руху пад Расеяй.

Зараз пасьля перавароту ў Пецярбурзе быў апавешчаны сазыў дзяржаўнае рады Літвы, разумеючы пад гэтым імем землі як літоўскія, так і беларускія разам. Гэтая рада мелася заняцца ўстанаўленьнем новага ладу ўва ўсім літоўска-беларускім краю й прыгатаваць дзеля гэтага скліканьне ўстаноўчага сэйму. Да яе павінны былі ўвайсьці 12 Ліцьвіноў, 6 Беларусаў, 3 Жыды, 2 Палякі й 1 Маскаль.

Ужо той факт, што ад Беларусаў у гэтай супольнай літоўска-беларускай радзе чысло Беларусаў намячалі ўдвая меншае, чым Ліцьвіноў, хаця беларускі абшар у некалькі разоў большы за літоўскі, ня мог здаволіць беларускае грамадзянства. Да гэтага далучыліся й іншыя прычыны, асудзіўшы на няўдачу гэты праект. Як даносіць жыдоўская газэта „Jüdische Rundschau" ў нумары 22 з дня 1. VI. 1917, Беларусы адмовіліся ўвайсьці ў склад дзяржаўнай рады Літвы, пакуль ня будзе праведзена акуратная граніца між землямі беларускімі й літоўскімі. Трэба думаць, што адным са спорных пунктаў была тут і справа Вільні, каторая ляжыць на нацыянальна беларускай зямлі, ды Ліцьвіны хацелі-б гэтае места з ваколіцамі яго далучыць да свае нацыянальнае тэрыторыі. На гэтым-жа становішчы, як і Беларусы, сталі ў Расеі віленскія Жыды, лічачы немагчымым выбіраць ад сябе членаў у дзяржаўную раду Літвы, пакуль ня будуць выясненыя аканчальна адносіны між Беларусьсю і Літвой. А поруч з тым на беларускіх землях пачаў усё шырэй і шырэй разьвівацца рух, каторы сваёй мэтай паставіў здабыцьцё ўтаноміі Беларусі ў фэдэрацыйнай Расейскай дэмакратычнай рэспубліцы.

У месяцы красавіку ў Менску, найвялікшым пасьля Вільні горадзе Беларусі, адбыўся беларускі канвэнт (нацыянальны зьезд), зложаны з прадстаўнікоў усіх партыяў Беларусі, каторы выбраў спаміж сваіх членаў спаўніцельны камітэт з 53 асобаў. Апошні спаміж сябе выдзяліў камісію з 18 душ, якой загадаў дабіцца ад тымчасовага ўраду, каб з губэрніяў Менскай і Магілёўскай і беларускіх паветаў Віленскай, Гродзенскай, Віцебскай, Смаленскай і Чарнігаўскай была створана аўтаномная Беларусь. У рэзалюцыі менскага канвэнту гаворыцца даслоўна гэтак: «Беларускі нацыянальны зьезд, шчыра жадаючы прыняць учасьце ў супольнай справе ўстройства вольных народаў Расеі, загадвае свайму народнаму камітэту дабівацца палепшаньня быту роднага Краю і, апіраючыся на краёвых элемэнтах Беларусі, працаваць супольна дзеля дзяржаўнага разьвіцьця Расеі на аснове фэдэрацыйна-дэмакратычна-рэспубліканскага ладу».

Другі зьезд прадстаўнікоў Беларусі адбыўся ў Пецербурзе. Рэзалюцыі гэтага зьезду апіраюцца на рэспубліканска-фэдэрацыйным груньце й маюць на мэце перастройку Беларусі ў яе этнаграфічных межах у асобны штат расейскай фэдэрацыйнай рэспублікі. Рэзалюцыі дамагаюцца далей сазыву беларускага ўстаноўчага сходу, устаноўленьня краёвага сэйму з асобным бюджэтам, завядзеньня ўсюды беларускай мовы, як урадавай, адкрыцьця беларускіх школаў усіх ступеняў, урэшце — учасьце міністра Беларусі ў агульна-расейскай радзе міністраў.

На гэтым-жа пецербурскім зьезьдзе была прынята другая рэзалюцыя, пададзеная Беларускай Сацыялістычнай Грамадой — арганізацыяй, каторая у вапошнія колькінаццаць гадоў занімала ў беларускім руху надта выдатнае становішча. Гэтая рэзалюцыя займаецца галоўным чынам грамадзкімі справамі, трымаючыся прынцыпу аддачы ўсёй зямлі тым, хто сваймі рукамі яе вырабляе (бяз наймітаў), рэзалюцыя жадае, каб разьвязка зямельнай рэформы была аддадзена краёваму сэйму Беларусі, асудзіўшы пры гэтым самавольныя аграрныя выступленьні. Рэзалюцыя трэбуе ўстанаўленьня 8-гадзіннага рабочага дня й мінімума заработнай платы й прызывае пралетарыят і сялян арганізавацца. Урэшце, рэзалюцыя жадае роўных правоў для ўсіх нацыянальнасьцяў і правядзеньня граніц аўтаномнай Беларусі ў згодзе з суседзямі.

Поруч з шырокім разьвіцьцём беларускага руху на землях, дзе Беларусы абсалютна пераважаюць, да нас даходзяць весьці аб беларускіх актыўных выступленьнях і на землях этнаграфічна мяшаных, дзе Беларусы становяць меншасьць. Гэтак, як даносіць «Нов. Вр.» («Новое Время»? — Я. З.), 16 мая ў Рэжыцы адбыўся людны зьезд Латышоў з латыскай часьці Віцебшчыны з галоўным местам Дзьвінскам. На зьезд прыбылі 232 выбраныя ад валасьцей дэпутаты. Маршалкаваў ксёндз Трасун, б. дэпутат I дзяржаўнай думы. Было выясьнена, што ў Латышчыне пражывае 640 тысячаў душ, між каторымі 60% Латышоў (каталікоў), 20% Беларусаў, 12% Жыдоў, 5% Палякоў і 3% Ліцьвіноў. Пастаноўлена выдзяліць зь Віцебшчыны тры латыскія паветы й стварыць зь іх аўтаномную Лотву ў складзе расейскай дзяржавы. Зьезд гэты выбраў латыскую нацыянальную раду з 60 асобаў, у тым ліку 36 Латышоў, 12 Беларусаў, 8 Жыдоў, 3 Палякоў і 1 Ліцьвіна.

Газэта *«Гоман»* № 51 (143), Вільня, 26. VI. 1917.

*1917, жніўня 5-6. — Статут Цэнтральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў, прынягы на першай сэсіі* Рады 5-6 жніўня 1917 г. у Менску.*

1. Адпавядальным кіраўніком і прадстаўніком усяе беларускае справы ёсьць Цэнтральная Рада Беларускіх Арганізацыяў. Рада будуецца на прынцыпах: палітычным — поўнага дэмакратызму й сацыяльных — перадача ўсёй зямлі бяз выкупу працоўнаму народу й абароны інтарэсаў работнікаў.

2. Рада складаецца з дэпутатаў, якіх пасылаюць усе беларускія арганізацыі, гэтаксама воласьці, гарады, мястэчкі, бежанскія арганізацыі й ваенныя часьці, калі прызнаюць патрэбу аўтаноміі Беларусі, роднай мовы й разьвіцьця беларускай нацыянальнай культуры.

3. Воласьці, гарады, мястэчкі й бежанскія арганізацыі пасылаюць па аднаму дэпутату, незалежна ад ліку людзей.

Беларускія палітычныя арганізацыі пасылаюць па аднаму прадстаўніку, калі маюць менш сотні членаў, а калі больш, — дык па аднаму члену на кожную сотню. Права пасылаць дэпутатаў даецца тым арганізацыям, якія маюць ня менш 10-цёх членаў і зьвязаныя з Выканаўчым Камітэтам Рады.

Усе іншыя беларускія арганізацыі павінны згаварыцца з Выканаўчым Камітэтам, паслаўшы яму сваю праграму й статут.

4. Рада выбірае прэзыдыюм Рады — старшыню, яго намесьніка й пісара. Прэзыдыюм пілнуе парадку сходу Рады й мае права ў надзвычайных выпадках склікаць экстраную сэсію Рады.

5. Рада выбірае Выканаўчы Камітэт Рады зь 9-х чалавек, які разьдзяляе абавязкі старшыні Камітэту, пісара й скарбніка паміж сабою. Месцабытнасьць сваю Камітэт мае ў Менску.

6. Камітэт вядзе справы палітычнага прадстаўніцтва й аб'яднаньня ўсіх беларускіх арганізацыяў.

Камітэт мае права склікаць экстраныя сэсіі Рады й павінен як найшырэй паведамляць арганізацыі аб звычайных сэсіях.

7. Звычайныя сэсіі Рады склікаюцца кожныя два месяцы. Дзень пачатку сэсіі назначаецца на папярэдняй сэсіі.

У разе важных перашкодаў Выканаўчы Камітэт можа адлажыць сэсію, паведаміўшы аб прычынах адкладу прэзыдыюм Рады і ўсе арганізацыі.

8. Звычайная сэсія Рады правамоцная пры ўсякім ліку сабраных. Аб усіх справах у Радзе пастанаўляюць простай большасьцю.

9. Усе беларускія арганізацыі павінны не пазьней 10-й лічбы кожнага месяца ўнесьці ў касу Цэнтральнай Рады 25% свайго месячнага прыбытку (паступленьня).

Арганізацыя, без важных прычынаў, прызнаных сэсіяй Рады, ня ўносячы грошы ў касу, ня мае права пасылаць сваіх дэлегатаў у Раду.

Ф. Турук, *Белорусское движение*, бб. 88-89.

---

* У сэсіі бралі ўдзел з поўным правам голасу дэлегаты 23-х беларускіх арганізацыяў.

*1917, жнівеня 5. — Статут Беларускіх Нацыянальнаных Культурна-прасьветных Гурткоў у Войску, прыняты на першай сэсіі Цэнтральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў 5 жнівеня 1917 г. у Менску.*

1. У кожнай вайсковай часьці ваенныя-Беларусы зьядноюцца ў грамаду й кіруюцца ў сваім жыцьці й агульна-палітычнай й нацыянальнай справе пастановамі Беларускай Цэнтральнай Рады.

2. Кожная беларуская грамада закладае ў сябе культурна-прасьветны гурток, які выбірае зь сябе старшыню гуртка й пісара (сакратар).

3. Кожны беларускі гурток, а далей і Беларускія Камітэты павінны весьці шырокую прапаганду й агітацыю за палітычныя й нацыянальныя дамаганьні беларускага народу, за Расейскую Дэмакратычную Фэдэратыўную Рэспубліку, аўтаномію Беларусі і стаяць проці ўсякіх цэнтралістычных кіраўнікоў да таго ці іншага боку.

4. Грамада павінна дбаць пра тое, каб яе члены абаранялі інтарэсы рэвалюцыі, права й справядлівасьці й каб змагаліся проці насільства ў усякіх заходах, маючых напрамак да зьнішчэньня правоў грамадзянскіх, нацыянальных і дэмакратычных.

5. Калі інтарэсам рэвалюцыі й новага рэспубліканскага ладу будзе гразіць якая небясьпечнасьць з боку контр-рэвалюцыянераў і прыслужнікаў старога самадзяржаўнага рэжыму, то беларускія гурткі й празь іх беларускія вайсковыя грамады павінны разам з усімі дэмакратычнымі арганізацыямі й прыхільнікамі рэвалюцыі змагацца усімі спосабамі з такімі контррэвалюцыйнымі заходамі.

6. Кожны беларускі гурток павінен знаць такія-ж гурткі суседніх часьцяў і быць зь імі у зьвязку.

7. Калі ў суседняй часьці паміж несьвядомых яшчэ Беларусаў няма свае арганізацыі, то старшыня й другія сьвядомыя Беларусы павінны памагчы ім залажыць свой гурток, павінны лічыць для сябе абавязкам пашы-

рацъ Статут Беларускіх культ.-прасьветных гурткоў і ўсіх пастановаў Беларускай Цэнтральнай Рады.

8. Кожны гурток павінен дамагацца, каб было колькі (або хоць адзін) сьвядомых Беларусаў у Камітэце — ротным, палкавым, дывізійным (ці роўным ім), корпусным, гарнізонным і г. д.

9. Кожная беларуская грамада праз свой гурток павінна ўвайсьці ў кантакт і цесную зьвязь зь іншымі гурткамі й вайсковымі Камітэтамі недзяржаўных нацыяў і пры ўсякіх выбарах і выступленьнях уваходзіць у блёк зь імі.

10. Жадныя* стараньні ў справе арганізацыяў асобных беларускіх палкоў ня могуць мець месца, пакуль аб гэтым не паведаміць Цэнтральная Рада беларускіх арганізацыяў.

11. Кожны беларускі культурна-прасьветны гурток павінен выпісваць і пашыраць беларускія кнігі й газэты.

12. Беларускія газэты й кнігі выпісваюцца гуртком на тыя-ж грошы, як кнігі й газэты расейскія й іншыя (ротн. і палкав. сумы).

13. Грамада павінна быць, як адна сагласная сям'я, павінна выхоўваць паміж сваіх членаў дэмакратычныя прынцыпы й дух братэрства.

14. Усе члены беларускай грамады ў вайсковых часьцях павінны гаварыць паміж сабой пабеларуску.

15. Пастановы свае й дзелаводзтва гурткі павінны весьці ў беларускай мове.

16. Кожны член грамады павінен вучыцца пісаць у беларускай мове й пісаць лісты да дому толькі пабеларуску й паведамляць сваіх у вёску сваю пра беларускі рух.

17. Кожны Беларус павінен скрозь ужываць свае роднае мовы.

18. Кожны гурток павінен мець сваю пячаць.

19. Кожны член беларускай грамады ў войску павінен насіць беларускі нацыянальны знак — белая стужка з чырвонай палоскай на сярэдзіне; усе тры палоскі — белая, чырвоная й белая — аднэй шырыні.

20. Аб арганізацыі й аб усіх пастановах у далейшым сваім жыцьці і дзеях беларускі гурток праз свайго старшыню павінен паведамляць Цэнтральную Раду Беларускіх Арганізацыяў.

*Цэнтральная Рада Беларускіх Арганізацыяў.*

Ф. Турук, *Белорусское движение*, бб. 90-92.

* Ніякія.

*1917, жнівеня 14. — «Каля школьнай справы», артыкул газэты «Гоман», Вільня.*

«Gutta cavet lapidem non vi, sed saepe cadente», — кажа старая лацінская прыказка. Гэтак і спакойная ўпорная культурная работа Беларусаў прабівае нашаму народу выхад на вольны сьвет, адкрывае перад ім дарогу да ясьнейшага культурнага жыцьця.

Вядома, што дзеля разьвіцьця нацыянальнае культуры, дзеля таго, каб народ мог знаёміцца з усімі культурнымі скарбамі іншых нацыянальнасьцяў, ня губляючы свае нацыянальнасьці, народу патрэбна навука ў роднай мове яго. У гэтым кірунку Беларусы ў межах акупацыі й напружаюць усе свае сілы.

Скора пасьля прыходу ў наш край Немцаў — у канцы 1915 году — у Вільні пачалі адкрывацца першыя беларускія школы. Але для школаў патрэбныя вучыцелі. Разумеючы гэта, Беларускі Камітэт адначасова наладзіў тут-жа ў Вільні вучыцельскія курсы, каторыя цераз паўгоду навукі далі колькінаццаць кандыдатаў і кандыдатак дзеля заняцьця месцаў вучыцеляў у беларускіх школах. Першы выпуск быў увосень 1916 году, але ўраз-жа новага курсу наладзіць не ўдалося: патрэбнае дазваленьне было дадзена толькі вясной 17 году, і курсы, папрацаваўшы зусім кароткі час, былі прыпыненыя на летнія вакацыі. Затое за той самы час — ад восені 1916 году — у Сьвіслачы, у Гродзеншчыне, была адкрыта беларуская ўрадавая вучыцельская сэмінарыя й дагэтуль яна дала ўжо два выпускі народных вучыцеляў — разам каля 50 душ. Апроч таго за апошнія два гады пазаймалі месцы народных вучыцялёў людзі, меўшыя даўнейшую падгатоўку й працаваўшыя па іншых школах.

Як бачым, памалу, крок за крокам, узрастае чысло чынных работнікаў на ніве беларускае асьветы. А разам з тым узрастае й чысло беларускіх школаў: гадунцы вучыцельскай сэмінарыі ў Сьвіслачы атрымліваюць школы ўраз-жа пасьля аканчэньня курсу.

Ад 1 верасьня пачынаецца трэйці курс у Сьвіслацкай сэмінарыі. Будзем спадзявацца, што й Віленскія курсы атрымаюць магчымасьць вясьці далей спыненую работу. А гэтак кадры народных вучыцялёў будуць усё болей узрастаць, кладучы моцны фундамант для беларускай народнай школы.

Пішучы гэтыя словы нельга, аднак, устрымацца й ад горкіх слоў. Між курсыстамі ў Вільні і ў Сьвіслачы, наагул, каталікоў ня менш, чым праваслаўных, — і ўсё-ж такі дагэтуль мы ня бачым, каб на вёсках адкрываліся беларускія каталіцкія школы: што было адкрыта, то адкрыта толькі для праваслаўных. Няўжо-ж гэты ненармальны стан будзе трываць да канца вайны?

(подпіс) Г. Б.

Газэта *«Гоман»* № 65 (157), Вільня, 14. VIII. 1917.

*1917, жнівеня 17. — «Беларускі Вучыцельскі Саюз», паведамленьне газэты «Гоман», Вільня.*

Група беларускіх вучыцялёў у Вільні пастанавіла прыступіць да арганізацыі Беларускага Вучыцельскага Саюзу, каб злучыць у вадно раськіданых па ўсёй Зямлі Беларускай таварышоў працы. Апрацован ужо праект статуту Саюзу, каторы ўстаноўцамі падаецца мясцовай уласьці дзеля зацьверджаньня.

(Далей падаецца поўны тэкст статуту — Я. З.).

Газэта *«Гоман»* № 66 (158), Вільня, 17. VIII. 1917.

*1917, жнівень. — Пра дзейнасьць Цэнтральнае Рады беларускіх арганізацыяў і партыяў у Менску. Паведамленьне газэты «Гоман», Вільня.*

«Рідне Слово» падае гэткую, нажаль, спозьненую вестку:

«Зьезд дэлегатаў беларускіх грамадзкіх арганізацыяў і партыяў у Менску пастанавіў арганізаваць Цэнтральную Раду дэпутатаў беларускіх арганізацыяў, сазваць першую сэсію 5 жніўня й заявіць свой пратэст проці адказу польскай Дзяржаўнай Рады на адозву да Палякоў Расейскага Тымчасовага ўраду».

Як вядома, у спамянутым адказе польская Дзяржаўная Рада заявіла, што яна не здавольваецца этнаграфічна-польскімі зямлямі й хоча далучыць да Польшчы так-жа наш край. І хоць вестка ўкраінскай газэты — спозьненая, яна ясна паказвае еднасьць палітычных пагляда ў беларускага грамадзянства з абодвых бакоў фронту.

Газэта *«Гоман»* № 76 (168), Вільня, 21. IX. 1917.

*1917, кастрычніка 27. — Грамата да Беларускага Народу ад беларускіх арганізацыяў.*

Браты-Беларусы, працоўны народ Беларусі, работнікі й сяляне-земляробы, Беларусы-ваякі, усе, каму дарагая воля й рэвалюцыя, усе, у кім гарыць і б'ецца сэрца за правы й волю Беларускага Народу!

Грамадзяне ўсіх іншых народаў, якія жывуць на нашай зямельцы!

Прыйшоў момант, якога ня ведае гісторыя нашае многапакутнае зямлі. Воляй рэвалюцыі мы пастаўлены перад патрэбай сабраць усе жывыя сілы нашае Бацькаўшчыны дзеля абароны й утрыманьня нашых вольнасьцяў, здабытых крывёй міліёнаў сыноў пакрыўджанай, бяздольнай Беларусі.

У гэтыя дні нам належыць паказаць запраўды, што злучаная пакутай беларуская рэвалюцыйная дэмакратыя не дапусьціць, каб віхор бязладу згубіў нашую сьвятую нацыянальную справу абароны вольнасьцяў і правоў Беларускага Народу.

Браты-Беларусы, працоўны народ, сыны зямлі й абаронцы вольнасьцяў Бацькаўшчыны! Злучэцеся ў вадну згодную сям'ю каля Вялікай Беларускай Рады, адкідаючы ад сябе сеючыя нязгоду поклічы й будзьце асьцярожнымі ў сваіх дзеях. Толькі парадак і згоднасьць паміж усімі, паможа нам утрымаць спакой у нашым краі, а еднасьць з войскам падыме дух і злучыць увесь народ.

Браты-Беларусы! Вялікая Беларуская Рада, апіраючыся на Цэнтральную Вайсковую Раду, Беларускі спаўняючы Камітэт Заходняга фронту, на ўсе беларускія арганізацыі, верыць у сілу й мудрасьць беларускага народу, у руках каторага вялікая будучыня Вольнай Беларусі, воля, зямля й згода.

Вялікая Беларуская Рада.

Часовая Цэнтральная Беларуская Вайсковая Рада.

Беларускі Спаўняючы Камітэт Заходняга фронту.

Беларуская Сацыялістычная Грамада.

Беларуская Народная Партыя Сацыялістаў.

Менск-Беларускі,
27 кастрычніка 1917 году

Ф. Турук, *Белорусское движение*, бб. 93-94.

*1917, (дакладнай даты няма). — Адозва «Ко всему Народу Белорусскому».*

Россия переживает страшные дни. Анархия уничтожает неисчислимые богатства страны. Народные массы, не руководимые общепризнанной властью, сами стараются разрешить назревшие вопросы. Все это ведет народы России на гибельный путь потери свобод, полученных в февральские дни кровью лучших сынов страны. Народ измучился от продолжительной войны. Армия истощила почти все рессурсы России. Полный застой в производстве, отсутствие продуктов на рынке ведут страну к голоду. Армия уже стоит перед ужасом голода, со всеми его последствиями.

Для Белоруссии, как страны, разорванной фронтом, наиболее задетой войной, немедленное заключение мира является краеугольным каменем всей политики. Белоруссия почти на половину сожжена и разорена. Гибель городов и деревень, гибель народа и всех его материальных благ на многие годы обрекают страну на голод, холод и нужду. Белорусский народ не может допустить окончательной гибели родного края и не допустит ничьего посягательства на права народа и на его землю.

Белоруссия, включающая в свои пределы Виленскую, Витебскую, Гродненскую, Минскую и Могилевскую губ., западные уезды Смоленской губ. и северные уезды Черниговской губернии, является *единой* и *неделимой* страной, спаянной братскими узами со всей остальной Федеративной Российской Республикой. В данных условиях только своими собственными силами сможет она отстоять свою волю и обеспечить свои национальные судьбы в дальнейшем.

Сознавая критическое положение родного края, бывшие в Минске с 15-24 октября 1917 года съезды белорусских организаций и белоруссов-воинов Западного фронта с участием представителей Северного фронта и Балтийского флота, объединившиеся в Великой Белорусской Раде, постановили принять решительнейшие меры к организации всего белорусского народа для защиты добытых прав и вольностей. Избранные ими Исполнительные Комитеты обращаются ко всему белорусскому народу з горячим призывом — взять в свои руки управление своим краем, чтобы осуществить свои неотложные исторические задачи.

Един и неделим народ белорусский. Религия не должна служить причиною розни между православными и католиками белоруссами, потому что они — один народ с общим языком и историей.

Белоруссия должна быть демократической республикой, спаянной с Великороссией и другими соседними Республиками России на основе федерации.

В пределах автономной Белоруссии все прочие народности края должны пользоваться национально-персональной автономией.

Вся власть в Белоруссии дожна принадлежать Краевой Раде, избираемой на основах всеобщего, равного, тайного и пропорционального голосования.

Вопросы общегосударственного строительства, вопросы международной политики и торговые договоры с иностранными государствами должны входить в компетенцию высшего законодательного органа Российской демократической федеративной республики.

Никаких таможенных границ между Белоруссией и остальными республиками Российской федерации на должно быть.

Краевой Раде должно принадлежать право созидания местных законов, развития, разработки и применения к местным условиям законов, издаваемых высшим законодательным органом Российской демократической республики.

Высшее распоряжение земельными, водными и лесными богатствами Белоруссии должно быть в руках всего народа в лице его представительницы — Краевой Рады.

Проведение в жизнь обязательного бесплатного обучения, поднятие и развитие белорусской культуры, изучение истории края и родного языка являются жизненным интересом белорусского народа. Основание в Белоруссии высших учебных заведений: университетов, сельскохозяйственных и политехнических институтов и проч. является крайне необходимым для поднятия культурных сил страны.

Полное восстановление уничтоженных хозяйств и всех богатств в разоренной части Белоруссии должно быть поставлено на решение международной мирной конференции и проведено за счет воюющих государств.

Полное возвращение эвакуированных в глубь России исторических памятников культуры, искусства, возвращение на места учебных заведений, фабрик, заводов и других учреждений должно быть проведено незамедлительно по окончании войны.

Устройство миллионов наших обездоленных, рассеянных на чужбине братьев белоруссов-беженцев, опека над увечными героями, жертвами войны, и опека над потерявшими трудоспособность рабочими должна быть принята на счет государства.

В настоящий момент должны быть осуществлены следующие задачи:

1. Бесплатная передача помещичьей, церковной, костельной, монастырской, кабинетской, удельной и проч. земель трудовому народу будет важнейшим завоеванием крестьянского народа белорусского, залогом его сохранения и национального и экономического расцвета. Передача эта должна быть немедленно осуществлена путем перехода названных земель под охрану Земельных Комитетов, всенародно избранных.

2. Местная власть в Белоруссии обязана все усилия употребить для сохранения всех оставшихся богатств края.

3. В пределах Белоруссии, как разоренной прифронтовой полосе, уже теперь должна быть совершенно запрещена всякая реквизиция продуктов фуража и скота.

4. Белорусский народ не может допустить, чтобы край его был разорван на части и разделен между державными соседями при подписании мирного договора. Для защиты своего права на *нераздельное* существование белорусский народ должен иметь на мирном конгрессе своих правомочных представителей.

5. Для обезпечения неделимости Белоруссии и для спасения края от ужасов демобилизации, для защиты кровных интересов белорусского народа уже приступлено по постановлению съезда воинов-Белоруссов Западного фронта, представителей Северного и Румынского фронтов и Балтийского флота к формированию национальных белорусских войск. К этой важной национальной работе необходимо привлечь все белорусские силы, находящиеся в армии.

6. Выполнить все ставимые историей теперь задачи может только власть, избранная самим народом белорусским. Только она организует народ белорусский в великую силу, способную отстоять его национальные права.

Чтобы создать такую власть в центре и на местах, чтобы завоевать народу белорусскому надлежащее ему место в семье народов — созывается на *5-е декабря 1917 года съезд* представителей всего белорусского народа в г. *Минске.*

БРАТЬЯ-БЕЛОРУСЫ! Лучших людей края нашего должны вы прислать на этот сьезд, если хотите, чтобы долготерпеливый народ белорусский вышел из-под национального и экономического гнета и неволи, чтобы навсегда исчезли тени нашего мрачного исторического прошлого, чтобы жила вольная Беларусь!

*Исполнительный Комитет Великой Белорусской Рады.*
*Исполнительный Комитет Центральной Войсковой Белорусской Рады.*
*Белорусский Исполнительний Комитет Западного фронта.*

Ф. Турук, *Белорусское движение,* бб. 95-98.

*1917, лістапад. — Аб скліканьні агульна-беларускай нацыянальнай Канфэрэнцыі ў Вільні. Паведамленьне газэты «Гоман», Вільня.*

Ад Рэдакцыі.

Каб злучыць у вадно ўсе кругі і ўсе палітычныя кірункі беларускага грамадзянства дзеля агульна-нацыянальнай справы: сазыву ў Вільні агульна-беларускай нацыянальнай Канфэрэнцыі з усіх беларускіх зямель акупацыі — функцыі Рэдакцыйнага Камітэту «Гоману» прыняў на сябе прэзыдыюм Арганізацыйнага Камітэту дзеля сазыву памянёнай Канфэрэнцыі, зложанага тымчасам зь ніжапісаных асоб:

прадстаўнікі беларускага каталіцкага духавенства: кс. Ян Семашкевіч і кс. Уладыслаў Талочка;

прадстаўнікі праваслаўнага духавенства: пратаерэй сьв. Міхаіл Галянкевіч і ероманах сьв. Савацій;

пп. Вінцэнты Сьвятаполк-Мірскі, Язэп Ліцкевіч, Вацлаў Ластоўскі, Іван Луцкевіч, Антон Луцкевіч, Язэп Салавей, Дамінік Сямашка, Янка Станкевіч, Казімір Шафнагель, Язэп Туркевіч.

Засяданьні прэзыдыюму адбываюцца кожын дзень, апроч нядзеляў, у памяшчэньні Арганізацыйнага Камітэту, Віленская 23 ад 1 да 2 гадз. папаўдні.

Газэта «*Гоман*» № 94 (186), Вільня, 23. XI. 1917.

*1917, сьнежань. — «Важны крок», артыкул газэты «Гоман» аб стварэньні «Беларускага Навуковага Таварыства», Вільня.*

*Арганізацыйны Камітэт дзеля сазыву Беларускай Канфэрэнцыі ў Вільні.* На паседжаньні Камітэту 16 сьнежаня прыняты ў чысло членаў яго пп. Пётр Вансовіч і Эдвард Мацкевіч.

Кс. Семашкевіч зь Меднік пісьмом з дня 10. XII. з прычыны таго, што жывучы далёка ад Вільні ня можа часта быць на засяданьні Арганізацыйнага Камітэту дзеля сазыву Беларускай Канфэрэнцыі, прасіў вычысьліць яго з чысла членаў камітэту.

Газэта «*Гоман*» № 102 (193), Вільня, 21. XII. 1917.

*1917, сьнежань. — «Важны крок», артыкул газэты «Гоман» аб стварэньні «Беларускага Навуковага Таварыства», Вільня.*

У меру разьвіцьця кожнага народу, а тым больш праспаўшага, як Беларусы, цэлае сталецьце, узрастаюць і яго духовыя патрэбы, родзіцца жаданьне пазнаць сябе самога, сваю мінуўшчыну, свой сучасны быт, жаданьне дайсьці тых здабыткаў веды, якіх дайшлі іншыя народы, і знаёміцца з сусьветнай культурай у сваёй роднай мове. Духовыя патрэбы растуць шыбчэй, чым магчымасьць здаволіць іх. Затым то народ, каторы збудзіўся да сьвядомага нацыянальнага жыцьця, заўсёды бывае прымушаны напрагаць усе свае сілы дзеля таго, каб творчай культурнай працай наганяць апярэдзіўшыя яго народы й ня толькі пазычаць з сусьветнай скарбніцы культуру, але й самому нешта ў яе ўкладаць.

Яшчэ ўчора, пакуль у Беларусаў ня было навет пачаткаў школы ў роднай мове, здавалася, што дайшоўшы гэткай школы, культурныя патрэбы Беларусаў будуць здаволены на доўгі час. Але тут-жа выявілася, што, каб мець вучыцялёў дзеля беларускіх народных школаў, трэба завясьці вучы-

цельскія сэмінарыі дзеля падгатоўкі іх. Чароднае пытаньне было: «Хто будзе вучыць у сэмінарыі?» І вось, шукаючы адказу на яго, на думку прыходзіць патрэба сярэдняй і вышэйшай навукі ў беларускай мове.

Нешта падобнае бачым і ў справе школьнай літаратуры. Мы ўжо ня можам здаволіцца падручнікамі для народнай школы, зьменай папулярна-навуковых брашураў і кніжак. Выяўляецца патрэба грунтоўных навуковых працаў, да канца асьвятляючых паадзінокія прадметы, патрэба кніжак не для вучняў толькі, але й для вучыцялёў. І тут адкрываецца нязвычайна шырокае поле да працы: пачынаючы ад граматыкі, трэба стварыць усю навуковую літаратуру ў роднай мове, трэба ўстанавіць тэрміналёгію, трэба вынесьці на сьвет усю тую праўду аб Беларусах і іх мінуўшчыні, каторую гэтак пільна ўкрывалі нашыя ворагі, з поўнай сьвядомасьцяй фальшуючы гістарычныя факты й г. д. Трэба дайсьці таго, каб Беларус інтэлігент мог задаволіваць свае духовыя патрэбы ў роднай мове, а ня быў прымушаны ўсё чэрпаць ад чужых.

Падобная вялізарная работа не пад сілу малой жмені людзей — хоцьбы й найбольш здольных: гэта — справа агульна нацыянальная й да яе павінны прылажыць руку ўсе сьвядомыя і чынныя беларускія культурныя сілы. Каб-жа гэта было магчыма, трэба стварыць грунт, на каторым маглі-б зыйсьціся разам усе, хто дуж і ахвочы да працы.

Вось, мы прыходзім да таго мамэнту, калі ўтварэньне агульнабеларускай навуковай установы, каторая згуртавала-б усіх працаўнікоў на ніве беларускае культурнае работы й узяла-б у свае рукі кіраўніцтва гэтай работай, сталася канечнай патрэбай. І віленскае беларускае грамадзянства хаця й аддзеленае яшчэ ваенным фронтам ад рэшты Беларусі, зразумела гэтую патрэбу й ужо ўчыніла адпаведныя крокі: у Вільні, сталіцы нашага краю, ладзіцца «Беларускае Навуковае Таварыства» з шырокімі задачамі, і статут яго ўжо пададзены дзеля рэгістрацыі.

Няхай-жа першая беларуская ўстанова споўніць прызваўшую яе да жыцьця важную задачу й завязаная ў год чатырохсотлетняга юбілею беларускага друку, адзначыць сабой зваротны мамэнт у жыцьці нашага народу.

(подпіс) А. Н.

Газэта «*Гоман*» № 104 (196), Вільня, 28. XII. 1917.

*1917, сьнежаня 18. — Пастанова Першага Ўсебеларускага Зьезду аб самавызначэньні Беларусі й пераняцьці ўлады.**

Всебелорусский С'езд, в количестве свыше тысячи человек, представленных крестьянством, солдатами, рабочими и всеми демократическими организациями целого края, обсудив тяжелое положение всей Российской Демократической Федеративной Республики и особенно критический момент для Белоруссии, признал необходимым:

1. Закрепляя свое право на самоопределение, провозглошенное российской революцией и утверджая республиканский демократический строй в пределах Белорусской земли, для спасения родного края и ограждения его от раздела и отторжения от Российской Демократической Федеративной

* У кнізе Турука «Белорусское движение», зь якое гэты дакумант бярэцца, дадзенае такое паясьненьне: «С'езд принял единогласно только первый пункт этой резолюции, после чего заседание С'езда было прервано начальником Минского гарнизона (Кривошеин) и С'езд распущен.»

Республики, I-й Всебелорусский С'езд постановляет: немедленно образовать из своего состава орган краевой власти в лице всебелорусского совета крестьянских, солдатских и рабочих депутатов, который временно становится во главе управления краем, вступая в деловые сношения с центральной властью, ответственной перед советом рабочих, солдатских и крестьянских депутатов.

2. Совету, как временной народной власти в целом крае, дается Всебелорусским С'ездом наказ, определяющий его права, обязанности и ближайшие задачи.

3. В основу своей работы Совет должен поставить те решения и постановления, которые вынесены I-м Всебелорусским С'ездом.

4. Для решения ряда текущих вопросов управления Белоруссией, всебелорусский совет крестьянских, солдатских и рабочих депутатов должен созвать 2-й общебелорусский с'езд; независимо от сего совет с первого дня своего возникновения принимает необходимые меры к скорейшему созыву Белорусского Учредительного Собрания, долженствующего решать судьбу белорусского народа.

5. Совет своим возникновением сосредоточивает в себе все функции ответственного управления краем и тем заменяет обязанности, доселе выполняемые отдельными организациями.

6. В целях охранения народного богатства и обеспечения безопасности края, совет принимает решительные меры в согласии с Центральной властью о выводе польских легионов за пределы Белоруссии и расформировании их в самый ближайший срок.

7. В целях создания гарантий, обеспечивающих временной революционной власти в крае выполнение всех постановлений С'езда, Совет приступает к немедленной организации территориальных белорусских войск на широких демократических основах, не принося ущерба фронту.

8. Исполнительным органом временной краевой власти делегуются свои представители как в Центральную Российскую власть и все другие республики Российской федерации, так и для участия в происходящих переговорах о мире, для отстаивания цельности и неделимости Белоруссии и неотторжения ее от Российской федеративной республики и всех остальных принципов демократического мира, провозглашенного советом рабочих, солдатских и крестьянских депутатов.

9. В земельном вопросе Совет обязан немедленно фактически передать всю землю с живым и мертвым инвентарем без выкупа в руки трудового крестьянства через земельные крестьянские комитеты.

10. По отношению к лесам местная власть обязана принять их в свое ведение через посредство местных органов народной власти, урегулировать правильное использование их только в интересах трудового народа.

11. Совет обязан немедленно принять самые решительные меры к приостансвлению расхищения отдельными лицами и группами народных богатств, как-то: лесов, народных имений и прочее.

12. Совет обязан принять меры к немедленному установлению народного контроля над производством и торговлей.

13. Совет обеспечивает правильную и плодотворную работу местных демократических органов земского и городского самоуправления.

14. При ликвидации войны Совет обязан принимать меры к удержанию военного имущества, находящегося на территории Белоруссии и к оставлению его в пределах края.

15. Созданные комитеты — экономическо-хозяйственный и о беженцах — находятся под руководством Народного Совета Беларуссии.

Ф. Турук, *Белорусское движение*, бб. 105-107.

*1917, сьнежань (дакладнай даты няма). — Тэлеграма старшыні Савету Камісараў Заходняе Вобласьці пра разгон І-га Ўсебеларускага Зьезду.*

Военная. Вне очереди.

Петроград. Смольный. Правительству Народных Комиссаров.

Комиссару по национальным делам Сталину. Центральний Исполнительный Комитет. Центральный орган редакции Правды.

Руководители Белорусских Рад созвали на 1 и 15 декабря всебелорусские с'езды и под влиянием шовинистических националистических элементов об'явили в крае новую власть, отвергнув и об'явив низложенным и самозванным избранный с'ездом Советов Рабочих и Солдатских и Крестьянских Депутатов Областной Центральный Комитет Советов и выделенный им орган Совет Народных Комиссаров Западной Области. С'езд пятнадцатого созван с нарушением условий соглашения с товарищем Сталиным.

Высказавшись в принципе за признание Советской власти, поскольку она существует в России, и за контакт с Центральным Правительством Народных Комиссаров, С'езды отвергли установленную Советами власть для местного края с передачей ее избранному на с'езде организаций рады органу. В ответ на это Совет Народных Комиссаров Западной области и фронта об'явил с'езд распущенным, предложил президиуму его покинуть пределы фронта и края и приступить к ликвидации кадетских организаций, нашедших приют под флагом белорусского национального движения.

Предстедатель Совета Народных Комиссаров Западной области и фронта *Ландер*.

Ф. Турук, *Белорусское движение*, б. 108.

*1917, сьнежаня 18. — Рэзалюцыя Рады І-га Ўсебеларускага Зьезду пра ўжыцьцёўленьне пастановаў Зьезду.*

Обсудив вопрос о положении І-го Всебелорусского С'езда и Совета С'езда, Совет на закрытом своем заседании 18-го декабря 1917 года постановил: 1) Считать І-й Всебелорусский С'езд насильственно разогнанным. 2) Совет С'езда признать исполнительным органом С'езда, на обязанности которого лежит проведение в жизнь всех решений и постановлений С'езда. 3) Пополнить Совет С'езда делегатами от землячеств и других групп, делегировавших своих представителей со С'езда в Совет и предоставить право отвода, отзыва и кооптации. 4) Областной Комитет при Всероссийском Совете Крестьянских Депутатов, Московская исполнительная комиссия, Великая Белорусская Рада, Временное краевое бюро и т. п. организации немедленно прекращают свое существование и передают все свои дела и принадлежащее имущество в распоряжение Совета. 5) Центральная Войсковая Рада существует как подчиненный орган Совету С'езда. 6) 2-ой Всебелорусский С'езд созывается в самый кратчайший срок. 7) В целях увеличения авторитетности Совета и преемственности работ президиумом Совета должен быть президиум С'езда, пополненный одним товарищем председателя и двумя секретарями.

Ф. Турук, *Белорусское движение*, б. 111.

# КНІГАПІС

**Беларуска-Рускі Слоўнік. Пад рэдакцыяй акадэміка К. К. Крапівы. Акадэмія Навук Беларускай ССР. Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа. Дзяржаўнае Выдавецтва замежных і нацыянальных слоўнікаў. Масква, 1962, каля 90 000 слоў, тыраж 15 000 экз., бач. 1048.**

У 1953 годзе Інстытутам Мовазнаўства Акадэміі Навук Беларускай ССР быў выдадзены «Руска-Беларускі Слоўнік» пад рэдакцыяй Якуба Коласа, Кандрата Крапівы й Пятра Глебкі. Толькі ў 1962 годзе — пасьля 9-ёх год ад выданьня «Руска-Беларускага Слоўніка» й звыш сараку год па ўтварэньні Беларускай ССР — быў выдадзены тэй-жа Акадэміяй Навук першы «акадэмічны» «Беларуска-Рускі Слоўнік». Ён выйшаў пад рэдакцыяй усяго аднаго Кандрата Крапівы й зьмяшчае ў сабе каля 90-ёх тысячаў слоў.

Выданьне гэтага слоўніка наагул — зьява бясспрэчна пазытыўная. Аднак зрэдагаваньне яго й падбор уведзеных у яго словаў выразна йшлі па лініі агульнае бальшавіцкае моўнае палітыкі – нівэляцыі апрычонасьці й самабытнасьці беларускае мовы й мэханічнага набліжэньня яе да мовы расейскае. Укладальнікі й рэдактар Слоўніка йшлі да гэтае мэты гэткімі шляхамі.

Першае, яны паўтарылі ў «Беларуска-Рускім Слоўніку» ўсе тыя русыцызмы, якія былі ўжо ўведзеныя ў беларускую частку «Руска-Беларускага Слоўніка». Дзеля прыкладу падаём адно колькі такіх словаў: *ачаг* заміж беларускага слова *вогнішча; доблесьць* заміж беларускага слова *дабрамужнасьць, гэраізм, гэраічнась; зьнешні* заміж *вонкавы; каварны* заміж *падступны, зрадлівы; накапленьне* заміж *намнажэньне, награмаджаньне; урач* заміж *лекар; падвяргаць* заміж *паддаваць, падпадаць; разараць* заміж *разбураць, спусташаць, руйнаваць; сукупнасьць* заміж *суцэльнасьць, злучво; неймаверны* заміж *няверагодны; пазьбягаць* заміж *унікаць, ухіляцца,* і шмат, шмат іншых.

Адпаведныя гэтым русыцызмам беларускія словы найчасьцей падаюцца ў Слоўніку таксама, але із звужаным значаньнем. Прыкладам, слова *вогнішча* пададзенае ў Слоўніку толькі ў ягоным беспасярэднім канкрэтным значаньні, якому адпавядае расейскае *костёр.* Затое ў пераносным значаньні, прыкладам, «Акадэмія Навук павінна стацца *вогнішчам* навукі», слова *вогнішча* тут замененае расейскім словам *ачаг.* Некаторыя беларускія словы пададзеныя ў Слоўніку таксама, прыкладам, слова *лекар,* але тутжа абазначанае, што гэтае слова не літаратурнае, але «размоўнае». Інакш кажучы, Слоўнік не рэкамэндуе яго ўжываць у літаратурнай мове. Некаторых-жа беларускіх слоў, што адпавядаюць прыведзеным русыцызмам, няма ў Слоўніку зусім. Гэтак, прыкладам, няма зусім слова *забавязаньне,* а ёсьць толькі *абавязацельства,* якое скалькаванае з расейскага *обязательство.*

У «Беларуска-Рускім Слоўніку» зьявіліся й такія чыста расейскія словы, якіх яшчэ ня было ў белару-

скай частцы «Руска-Беларускага Слоўніка» з 1953 году. Прыкладам, *аберагаць* заміж беларускага слова *ашчаджаць, ахоўваць; дзяшовы* заміж *танны; насаджаць* заміж *насаджваць,* і цэлы шэраг іншых.

У Прадмове да Слоўніка між іншага сказана: «Дастаткова поўна пададзена ў Слоўніку навейшая лексыка, якая ўвайшла ў ужываньне ў гады сацыялістычнага будаўніцтва». Вось-жа «навейшая лексыка» — гэта ня што іншае, як механічны перанос у беларускую мову чыста расейскіх словаў на месца выціснутых зь яе беларускіх словаў, якія сваім каранём, марфалягічнай структурай або сэмантычным значаньнем розьняцца ад адпаведных словаў расейскае мовы. Гэткая бязьлітасная хірургічная практыка над жывой і здаровай беларускай мовай афіцыйна завецца ў Савецкім Саюзе «ўзбагачаньнем і ўдасканаленьнем беларускае мовы».

У «Беларуска-Рускім Слоўніку» зусім не знаходзім цэлага мноства агульна пашыраных беларускіх словаў, якія ўжываюцца, праўдзівей, якія нядаўна яшчэ ўжываліся ў беларускай мастацкай літаратуры й якія шырака бытуюць у беларускай народнай мове. Вось некаторыя прыклады. У беларускай народнай і таксама літаратурнай мове, побач із словам *тут,* што адпавядае расейскаму *здесь,* шырака бытуе й слова *гэтта.* Зборнік Янкі Купалы «Шляхам Жыцьця» адкрываецца наступнымі радкамі: «Усяго пакрысе знойдзеце вы *гэтта,* пры сасе, пры касе сабрана за лета». Тымчасам у «Беларуска-Рускім Слоўніку» зусім няма гэтага тыповага беларускага слова. Слова *спагнаць, спаганяць* у беларускай мове мае дваякае значаньне. Раз яно ўжываецца ў значаньні расейскага слова *взыскать.* Прыкладам, *спагнаць падаткі = взыскать налоги.* У гэтым значаньні слова *спагнаць* фігуруе ў Слоўніку. Але, апрача гэтага, яно ў беларускай мове шырака ўжываецца ў значаньні, зблізканым да расейскага *удовлетворить.* Прыкладам, *спагнаць злосьць,* што азначае *адамсьціцца, заспакоіць* або *задаволіць* злосьць. У паэме Якуба Коласа «Рыбакова хата» знаходзім такі сказ: «Малое голад свой *спагнала* і спаць ня хоча ані-ні». Тымчасам слова *спагнаць* у значаньні *задаволіць, заспакоіць* няма ў «Беларуска-Расейскім Слоўніку». Іншы прыклад. Да савецкай русыфікацыйнай кампаніі ў дачыненьні да беларускай мовы мела ў беларускай літаратурнай мове шырокае права грамадзянства народнае слова *кагадзе.* Вось-жа слова гэтага, як раней вельмі часта ўжыванага, нельга было выкінуць із Слоўніка. Яно ў ім фігуруе, але ўкладальнікі Слоўніка ўважалі за патрэбнае дадаць, што гэта слова «абласное», значыцца вузка дыялектычнае й як такое ня рэкамэндаванае.

Наапошку, у «Беларуска»-Рускім Слоўніку» не знаходзім цэлага раду беларускіх словаў, якія шырака ўжываюцца й сяньня беларускімі савецкімі пісьменьнікамі. Гэтак няма чыста беларускага слова *нямогласьць* як сынаніму слова *нездаровасьць, хваросьць.* А тымчасам у рамане Макара Пасьлядовіча «З табою побач» чытаем: «Нягледзячы на сваю *нямогласьць,* Адам Лабеня ня вытрываў і вышаў на працу». Асабліва часта ўжывае гэтае слова Янка Брыль у сваей новай аповесьці «Птушкі і гнёзды», надрукаванай у № 11 і 12 «Полымя» за 1963 год. У рамане Лынькова «Векапомныя дні» знаходзім слова *нясусьвеціца:* «На шашы рабілася *нясусьвеціца.* Усю дарогу зацягнула пылам». Яго няма ў Слоўніку. Таксама не знаходзім у Слоўніку шырака ведамага слова *схованъ,* якое між іншым ужывае Пятрусь Броўка. У ягоным рамане «Калі зьліваюцца рэкі» чытаем: «Нельга сказаць, каб такая *схованъ* (мова пра зямлянку ў лесе — С. С.) падабалася Клышэўскаму». У рамане Уладзімера Карпава «Вясеньнія ліўні» ўжываецца тыпова беларускае слова *упрытык:* «Лыжкі іх былі ссунутыя *ўпрытык*». «Цішка прысунуўся да Юркі *ўпрытык*». Таксама ў Слоўніку няма гэтага слова.

Прыведзеныя гэтта прыклады, — а іх можна множыць бязь ліку — даволі паказваюць, што гэта ня слоўнік запраўднай беларускай мовы, але слоўнік беларускай *савецкай зрусыфікаванай* і далей саветызаванай-русыфікаванай беларускай мовы. У Прадмове да Слоўніка сказана: «Улічваючы тое, што «Беларуска-Рускі Слоўнік» павінен служыць ня толькі практычным дапаможнікам пры перакладах зь беларускае мовы на рускую, але і сродкам павышэньня культуры беларускае мовы, укладальнікі слоўніка і яго рэдактар імкнуліся надаць слоўніку *нарматыўны* характар». Гэта значыць, што гэты Слоўнік павінен стацца абавязваючай нормай для беларускай мовы.

Але такое «павышэньне культуры беларускае мовы», якое дае гэты Слоўнік, гэта ня што іншае, як зьдзек над беларускай мовай, зьдзек над беларускай культурай наагул.

*Ст. Станкевіч*

**Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Zeszyt 5. Wielkie Księstwo Litewskie. Opracowali Alodia Kawecka-Gryczowa oraz Krystyna Korotajowa i Wojciech Krajewski. Instytut Badań Literackich Polskiej Akademii Nauk. Wrocław-Kraków 1959, б. XVIII + 274 + 24 фоторэпрадукцыі + карта.**

Гэта даведнік аб друкарнях і друкарох на прасторы Вялікага Княства Літоўскага ад пачаткаў там друкарства ў 1525 г. й аж да канца XVIII ст. Даведнікам ахопленыя тэрыторыі Вялікага Княства ў межах пасьля Люблінскае вуніі 1569 г., а паза ёю — тыя землі Лівоніі, што ўходзілі тады ў склад Рэчыпаспалітае. Калі памінуць друкарні Лівонскае Рыгі дый мала дзейную пратэстанцкую друкарню ў Кейданах на Жамойці, якая неўзабаве была таксама перавезеная ў Слуцак, — усе іншыя, лікам каля 60-ці, знаходзіліся на беларускай нацыянальна-этнічнай тэрыторыі й дзеля гэтага кніга ня што іншае, як даведнік аб друкарнях і друкарох Беларусі XVI—XVIII ст. ст. Блізу палова ўсіх друкарняў, бо 25, дзеіла ў вадзіным большым друкарскім асяродку краю, сталічнай Вільні. Іншыя былі раськіданыя на ўсей тэрыторыі — ад Берасьця й Супрасьля на захадзе, да Магілева, Кутэйна й Буйнічаў на ўсходзе.

У кнізе кароткія, альфабэтычна ўкладзеныя, інфармацыйныя артыкулы аб асяродках друку, друкарнях дый важнейшых друкарох і выдаўцох. Паводля мовы выдаваных друкаў у кнізе апісаныя друкарні беларускія, польскія, лацінскія, гэбрайскія. Паводля рэлігійнай прыналежнасьці — праваслаўныя, пратэстанцкія, вуніяцкія, каталіцкія, жыдоўскія. Друкарняў меншых пералічаюцца ўсе выдадзеныя імі друкі; больш прадукцыйных — толькі друкі важнейшыя. Пры канцы паасобных артыкулаў прыведзеная бібліяграфія жаролаў і важнейшае літаратуры. На пачатку кнігі дадзены храналягічны сьпіс усіх друкарняў тэрыторыі, пры канцы — фотаадбіткі 24 розных друкаў і карта тэрытар'яльнага разьмяшчэньня друкарняў абнятых сьпісам.

Даведнік складзены не на аснове адмысловага новага вывучэньня адпаведных старадрукаў і архіўных матар'ялаў. Сабраныя ў ім толькі весткі аб друкарнях і друкарох раськіданыя ў працах іншых дасьледнікаў. Мэта даведніка — быць уводным падручным інфарматарам для сучасных практычных патрэбаў і для будучых грунтаўнейшых досьледаў. Большы націск у кнізе пакладзены на друкар-

ні й друкароў польскіх, меншы на беларускіх, і толькі вельмі пабежна кранутае друкарства жыдоўскае. У сьпісе друкарняў (б. 5) некаторыя беларускія, а між імі й нясьвіская 1562 г., наагул прапушчаныя, хоць у тэксьце пра беларускія нясьвіскія друкі й згадваецца. Уражае, што сярод далучаных да кнігі 24-х рэпрадукцыяў няма ніводнае з кнігаў пачынальніка ўсяго друкарства Вялікага Княства — доктара Франьцішка Скарыны. Гэта хіб падобнае вагі, як калі-б выдаючы даведнік аб старым друкарсьцьве Маскоўшчыны ілюстраваць яго рознымі ўзорамі друку, але не зь кнігаў першадрукароў Масквы — Івана Хведаровіча й Пётры Мсьціслаўца. Не паказанае ў кнізе й адно з найважнейшых беларускіх выданьняў гэтае пары — Літоўскі Статут 1588 г., надрукаваны ў друкарні Дому Мамонічаў у Вільні. Гэта кніга каля 1200 бачынаў друку, выдатная юрыдычная й культурна-гістарычная памятка й адначасна яскравае сьветчаньне таго, што старабеларуская мова ў Вялікім Княстве доўгімі стагодзьдзямі была моваю афіцыйнаю, дзяржаўнаю. У даведніку наагул не прыведзена ніводнага фотаўзору друкаў з друкарні Мамонічаў, друкарні, што за час свайго існаваньня дала больш 50 розных публікацыяў. Зь беларускіх старадрукаў у кнізе дадзена ўсяго два ўзоры: бачына «Катыхізісу» Сымона Буднага 1562 г. й гравюра з выдадзенай у 1637 г. у Кутэйне кнігі «Жыцьцё Варлаама й Ёасафа».

Даведнік не без памылак і хібаў і ў тэкставай частцы. Для прыкладу, кніга, якая раскрывае ўсю гісторыю друкарства ў Вялікім Княстве Літоўскім — віленскі Скарынавы «Апостал» — мае не 315 балонаў друку (б. 224), а 351 (702 бачыны). Сама-ж віленская Скарынавая друкарня паўстала не за «Аляксандра Ягайлавіча» (б. 242), а за Жыгімонта Казімеравіча (1524 г.). У жыцьцяпісе доктара Скарыны ня ўзятыя, таксама, на ўвагу новыя, выяўленыя апошнімі дзесяцігодзьдзямі, факты. Цяпер напэўна ведама, што ў 1551 г. Скарына ня мог друкаваць, бо ўжо ня жыў (б. 5 й 224). Выглядае, што аўтары кнігі й дагэтуль нічога ня ведаюць і аб паўторным прабываньні доктара Скарыны ў Празе ў гадох 1535—1540, ані аб няўдачным падарожжы ў Маскву дый публічным спаленьні тамака ягоных кнігаў. Таксама віленскія Скарынавыя шрыфты й заставіцы сустракаюцца ня ў друках друкарні Братоў Мамонічаў (б. 243), а ў выданьнях віленскай брацкай Сьвятатраецкай друкарні. Скарынавыя заставіцы, прыкладам, скарыстаныя ў кнігах «Лексіс» і «Грамматіка» Лаўрэнція Зызанія, што выйшлі ў 1596 г.

Згрунту няправільнае й само залічаньне друкарняў і друкароў Вялікага Княства Літоўскага да друкарства «Польшчы», як гэта навязвае ўжо сам загаловак кнігі: Drukarze dawnej Polski. Вялікае Княства й пасьля Люблінскае вуніі Польшчаю ня стала ня толькі з нацыянальна-этнічнага, але й юрыдычна-дзяржаўнага гледзішча. За выняткам супольнага валадара й сойму, Польшча й Вялікае Княства Літоўскае й пасьля Лублінскае вуніі юрыдычна й далей заставаліся двумя роўнапраўнымі дзяржаўнымі арганізмамі, з сваімі асобнымі дзяржаўнымі й мытнымі межамі, асобным урадам, адміністрацыяй, войскам, судовымі органамі, кодэксам правоў і г. д. Стварэньне своеасаблівага *Commonwealth* — «Рэчыпаспалітае абодвух народаў», — Respublica Utriusque gentis, — зусім не азначала, што Вялікае Княства Літоўскае стала Польшчаю, ці наадварот. Факт гэты ўсьведамляюць сяньня добра й паважнейшыя польскія навукоўцы.[1] Дык, анэксуючы ўсё друкарства Вялікага Княства Літоўскага для Польшчы, аўтары даведніка яўна грэшаць супроць гістарычных фактаў і праўды.

Само намаганьне ўлучаць у польскую культурную спадчыну ня толь-

---

[1] Kościałkowski Stanisław. Rzeczpospolita obojga narodów (1569—1795). Dzieje Ziem Wielkiego Księstwa Litewskiego. Alma Mater Vilnensis. Londyn 1953, б. 68.

кі польскія, але й усе пагалоўна іншыя друкі тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, улучна зь беларускімі й царкоўнаславянскімі, вядзецца ў польскай навуковай літаратуры здаўна. Гэтак, Кароль Эстрайхэр, творца манумэнтальнае шматтомнае працы Bibliografja Polska, — на якой пры ўкладзе свае кнігі ў вялікай меры апіраліся й рэдактары даведніка, — яшчэ ў 1882 г. аб беларускіх старадруках пісаў: «Асобным сьветам быў сьвет Беларусі... што ўжываў мову гэтак да мовы польскае блізкую, што хоць тэорыя граматыкаў гэтыя мовы дзеліць, вуха чуе тыя самыя гукі й успрыймае абодва блізу за адно». І дзеля гэтага, паводля Эстрайхэра, «усе гэтыя друкі, пачынаючы ад Фіёлевых (1491 г.)... зьяўляюцца бясспрэчна й вылучна собскасьцяй польскае літаратуры».[2] Ведамы-ж аўтар дзесяцітомнае гісторыі польскае літаратуры, выдадзенай у палове XIX ст., М. Вішнеўскі, Скарыну, Мялешку, Зызанія дый іншых пісьменьнікаў старабеларускае літаратуры й іхную творчую спадчыну ўважае за беларускі пададдзел літаратуры польскай, і 8-мы том свае працы навет і пачынае рэпрадукцыяй з кнігаў доктара Скарыны, пераклад Біблії якога, паводля аўтара, быў «Najznakomitszem dziełem w literaturze białoruskiej'.[3] Вось, улучаючы ўсе лацінскія, беларускія, царкоўнаславянскія старадрукі Вялікага Княства Літоўскага ў «польскія», укладальнікі даведніка верна й працягваюць вялікадзяржаўную тэндэнцыю польскіх навукоўцаў XIX ст. У выніку ў ліку «друкароў даўнейшае Польшчы» й апынуліся Скарына, Цяпінскі, Мамонічы, брацкія праваслаўныя друкарні Беларусі XVI—XVIII ст. ст., ці — друкары й друкарні, што ня толькі з Польшчаю, але й польскай мовай і культурай ніякое бліжэйшае сувязі ня мелі.

Трэба тут адначасна адзначыць і тую паважную памылку, якую чыняць і беларускія кнігапісцы дый літаратураведы, што цікавяцца толькі беларускімі старадрукамі Беларусі пары Вялікага Княства Літоўскага, дый не зьвяртаюць увагі на друкі іншамоўныя. Гэтак В. Ластоўскі, публікуючы ў 1926 г. сваю «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі», браў на ўвагу блізу вылучна толькі беларускія рукапісныя й друкаваныя творы й кнігі, а мінаў іншамоўныя, а яны бясспрэчна мусяць быць таксама ўзятыя на ўвет пры апрацоўваньні кнігапісу старадрукаў Беларусі. Гэткі падыход канечны ня толькі дзеля самога бібліяграфічнага прынцыпу, але й таму, што гэтыя друкі, незважаючы на іхную мову, былі ў той ці іншы спосаб зьвязаныя з культурна-гістарычнымі працэсамі на беларускіх землях, канкрэтным праявам якіх яны й зьяўляюцца. Ведама, што ўжо ад канца XVI ст. на землях Беларусі ў пісьме й друку мову лацінскую й польскую ўжывалі ня толькі каталіцкія й пратэстанцкія, але й праваслаўныя аўтары. Прыкладам, у 1610 г. у Вільні папольску быў выдадзены войстры палемічны, а разам і выдатны паэтычны твор, напісаны ў вабарону праваслаў'я — «Трэнос» Мялеція Сматрыцкага.

Вось з гэтых меркаваньняў бібліяграфы друкаў Беларусі — а таксама й беларускія літаратураведы — павінны браць на ўвагу ўсю літаратуру тэрыторыі пары Вялікага Княства Літоўскага: і беларускую, і пісаную папольску дый палацінску. Улічаць адначасна трэба й творы аўтараў Вялікага Княства Літоўскага, якія былі выдадзеныя навет і за межамі, як для прыкладу, выдатная кніга К. Сямяновіча Artis Magnae Artileriae, надрукаваная ў 1650 г. ў Амстэрдаме, якая яшчэ й да канца XVIII ст. ўважалася за клясычны падручны даведнік артылерыйнага мастацтва й дзеля гэтага

---

[2] Estreicher Karol. Bibliografia Polska, t. VIII. Kraków 1882, б. IX.

[3] Wiszniewski Michał. Historya literatury Polskiej, t. VIII. Kraków 1851, б. 466.

была перакладзеная на ўсе важнейшыя эўрапейскія мовы.

Вяртаючыся да рэцэнзаванае публікацыі, трэба прызнаць, што незважаючы на ўсе вышэй адзначаныя заганы, даведнік, хай кароткі й недасканалы, аднак-жа сяньня адзіны існуючы пра друкарства беларускіх земляў пары Вялікага Княства Літоўскага. Дзеля гэтага й прыдзецца карыстацца ім да пары, пакуль будзе складзены поўны даведнік друкарства Беларусі, даведнік грунтоўны дый абапёрты на беспасярэднім вывучэньні самых старадрукаў дый адпаведных жаролаў і літаратуры. Дый на гэта давядзецца яшчэ ня мала пачакаць, паколькі ані Акадэмія Навук Беларускае ССР, ані іншыя навуковыя ўстановы рэспублікі, на якіх абавязак заданьне гэтае выканаць ляжыць у першую чаргу, дзеля абставінаў палітычных зрабіць гэтага сяньня ня ў стане.

*Р. Максімовіч*

**Карта народов СССР. Главное управление геодезии и картографии Министерства геологии и охраны недр СССР. Редактор Е. А. Шишкин. Масштаб 1 : 10 000 000. Тираж 3 000. Москва, 1962.**

Карта складзеная Галоўнаю Управаю геадэзіі й картаграфіі ды Інстытутам Этнаграфіі Акадэміі Навук СССР пад кіраўніцтвам С. І. Брука. На карце ўмоўнымі колерамі або цыфрамі й значкамі абазначаныя, паводля дадзеных перапісу жыхарства СССР 1959 г., абшары зьлітнага засяленьня ці асяродкі канцэнтрацыі жыхарства 122 нацыянальнасьцяў. Пры тым некаторыя нацыянальнасьці падзеленыя на колькі групаў. Жыды, прыкладам на чатыры: эўрапейскіх, крымскіх, грузінскіх і сярэдняазійскіх. У іншых, ізноў, выпадках два ці больш народаў абазначаецца на карце тым самым колерам ці значком, як Чэркесы й Адыгейцы або Чэчэнцы й Інгушы.

На карце няма ніякіх паясьненьняў, якімі прынцыпамі ўкладаньнікі кіраваліся, разьмяшчаючы ўмоўныя колеры й значкі паасобных нацыянальнасьцяў. Можна толькі дагадвацца, што колерамі азначаецца тэрыторыя, на якой дадзеная нацыянальнасьць становіць бальшыню. Значкі-ж — цыфры або ўмоўныя геамэтрычныя фігуркі — гэта ўсяго знак большае ці меншае лякальнае канцэнтрацыі дадзенае нацыянальнасьці на іншанацыянальнай прасторы. Значкі гэтыя яўна не рэпрэзэнтуюць нейкіх сталых лікавых вялічыняў. Гэтак, на тэрыторыі Беларускае ССР, на якой перапіс 1959 г. падае 659 000 Расейцаў, на карце знаходзім 25 расейскіх значкоў. У Латвійскай-жа ССР, дзе Расейцаў 556 000, гэткіх значкоў усяго 11. Столькі-ж іх і на тэрыторыі Эстонскай ССР, дзе Расейцаў усяго 240 000. Тымчасам на 291 000 Беларусаў у Ўкраінскай ССР беларускіх значкоў толькі два. У Казахскай ССР на 107 000 Беларусаў усяго адзін значок. З гэтага ясна, што разьмешчаныя на карце ўмоўныя значкі не адбіваюць нейкіх сталых прапарцыянальных лікаў.

На карце няма, таксама, ніякага паясьненьня, ці пры яе ўкладзе былі ўзятыя лікі перапісу 1959 году паводля нацыянальнасьці, ці лікі паводля роднай мовы. Можна толькі дагадвацца, што скарыстаныя лікі паводля нацыянальнасьці, бо, прыкладам, Жыды, усяго 21,1% якіх прызнала ў часе перапісу мову жыдоўскую за сваю родную мову, на карце абазначаюцца даволі часта.

Непадача рэдакцыяй прынцыпаў укладу карты моцна абніжае яе інфармацыйную вартасьць ды стварае ўражаньне, што зроблена гэта зна-

 

рок, каб ня выявіць некаторых важных, але з палітычных меркаваньняў нявыгадных Маскве фактаў з галіны лічбовага складу й сучаснага тэрытарыяльнага разьмешчэньня жыхарства паасабных нацыянальнасьцяў СССР. На тое, што карта выдадзеная ня з мэтаю шырэйшага азнаямленьня з фактамі сучаснага шматнацыянальнага складу СССР, паказвае й вельмі малы яе тыраж — 3 000. Калі ўзяць на ўвагу, што карта знайшлася ў прадажы за межамі СССР ды што яна ў самым СССР патрэбная найперш для кіраўнічых цэнтральных і рэспубліканскіх, партыйных і дзяржаўных установаў, дык пытаньне, ці з астачы хоць па аднэй карце прыпадзе на вышэйшыя навучальныя й навуковыя ўстановы СССР, аб сярэдніх-жа няма ўжо й гутаркі.

Калі ідзе аб Беларусь і Беларусаў, дык на карце можна знайсьці некаторыя інфармацыі пра разьмяшчэньне нацыянальных мяншыняў на тэрыторыі Беларускае ССР, ды, вельмі некамплетныя, дадзеныя пра месцы расьсяленьня на тэрыторыі СССР масава гадамі дэпартаваных із сваё нацыянальнае тэрыторыі Беларусаў.

Існаваньне Расейцаў у межах Беларускае ССР на карце абазначана на прасторы даваеннае БССР 21 значком і толькі 4-мя на землях былое Заходняе Беларусі, што ў міжваенную пару ўходзіла ў склад Польшчы: каля Берасьця, Пінска, Баранавічаў і Лынтупаў. Да гэтага, на тэрыторыі рэспублікі колерам абазначаная адна невялікая атока расейскае бальшыні – на ўсход ад Гомеля, за Сожам, нейдзе ў раёне Добруша. Адзначаная на карце й адна невялікая, мяшаная расейска-ўкраінская атока на захадзе ад Ваўкавыска. Паўстала яна напэўна ў выніку навезенага туды ўжо пасьля вайны чужога жыхарства, бо аніякага загушчэньня ані Расейцаў, ані Украінцаў каля Ваўкавыска статыстыкі міжваеннае пары ня ведаюць.

Уздоўж і паабапал мяжы БССР зь Лятувіскай ССР зазначаная на карце перарываная паласа мяшанага беларуска-польскага жыхарства. Апрача гэтага, сем польскіх значкоў значыць месцы ізаляванае канцэнтрацыі жыхарства польскае нацыянальнасьці на тэрыторыі Беларускае ССР. Перапіс 1959 году, як ведама, на прасторы рэспублікі зарэгістраваў 539 000 Палякаў. Толькі адзін з гэтых значкоў знаходзіцца на тэрыторыі даваеннае БССР — у Гомельскай акрузе, на поўдзень ад Прыпяці. Усе іншыя разьмешчаныя на землях былое Заходняе Беларусі. Жыхары ўкраінскае нацыянальнасьці, якіх перапіс у Беларускай ССР падаў 133 000, лякалізаваныя на карце значкамі ў двух мясцох: пры самай мяжы з Украінскай ССР на поўдзень ад Кобрыня і на поўдзень ад Шчары, непадалёк Баранавічаў. Апрача гэтага, загушчэньне Украінцаў адцемлена, як раней ужо падавалася, на захад ад Ваўкавыска.

Канцэнтрацыя жыхароў жыдоўскае нацыянальнасьці, якіх, паводля перапісу 1959 году ў Беларускай ССР ёсьць 150 000, на карце абазначаецца ў дзесяцёх меставых асяродках рэспублікі: Менску, Бабруйску, Магілеве, Віцебску, Полацку, Воршы, Гомелі, Мазыры, Рэцыцы, Рагачове. Характэрна, што на землях былое Заходняе Беларусі неазначана ніводнага месца канцэнтрацыі жыдоўскага жыхарства. З гэтага выглядае, што на заходнябеларускіх землях Жыдоў цяпер шмат менш, як на землях даваеннае БССР. Гэтая розьніца паясьняецца найскарэй тым, што ацалелыя ад гітлераўскіх нішчэньняў заходнябеларускія Жыды, як былыя грамадзяне Польшчы, пасьля вайны маглі лягчэй пакінуць БССР дый пераехаць у Польшчу, а стуль далей на Захад ці ў Ізраэль.

З драбнейшых нацыянальных мяншыняў рэспублікі на карце значком абазначана толькі адно месца канцэнтрацыі лятувіскага жыхарства. Гэта даўно ведамая невялікая лятувіская моўная атока ў Гярвяцкай воласьці, на паўночныўсход ад Вільні. Ніякіх іншых нацыянальных мян-



 

шыняў карта на тэрыторыі Беларускае ССР ня выяўляе.

Калі ў справе разьмяшчэньня на тэрыторыі Беларускае ССР іншанацыянальнага жыхарства карта усё-ж падае некаторыя інфармацыі, дык зусім мала на ей дадзеных аб разьмяшчэньні тых Беларусаў, што знаходзяцца сяньня ў СССР паза межамі свае рэспублікі. Калі ў вапублікаваных выніках савецкага перапісу 1959 году лікі беларускага жыхарства падаюцца для РСФСР, Украінскай, Казахскай і трох Прыбалтыйскіх рэспублікаў, дык на карце існаваньне Беларусаў азначанае толькі ў трох першых рэспубліках. У Прыбалтыцы-ж, дзе перапісам зарэгістравана 103 000 Беларусаў, на карце няма іх і сьледу. Ня шмат можна з карты даведацца й аб мясцох пасяленьня тых Беларусаў, што гадамі, паадзіночку й масава, былі дэпартаваныя ў Казахскую ССР. У часе перапісу там запісана ўсяго 107 000 Беларусаў. На карце-ж адцемленыя ўсяго два месцы канцэнтрацыі беларускага жыхарства ў Казахскай ССР – на поўначы ад Кустанаю й каля возера Тэнгіз.

Мала інфармацыяў на карце й аб расьсяленьні Беларусаў у суседняй да БССР Украінскай ССР, хоць перапіс падае там 291 000 Беларусаў. З дадзеных карты вынікае, што на гэты лік складаецца беларускае жыхарства дзьвюх розных катэгорыяў: рассыпаныя па Украіне дэпартаваныя й дабравольныя беларускія імігранты й — беларускае аўтахтоннае жыхарства, якое на карце адцемленае пры мяжы з БССР, на Валыні, насупраць Столінскага й Давідгарадоцкага раёнаў БССР, на захад ад паўдзённага прытоку Прыпяці Уборці. Побач гэтага, канцэнтрацыя Беларусаў на Валыні значкамі адцемленая й на поўначы ад Роўна. Паза Валыняй значок беларускае канцэнтрацыі на тэрыторыі УССР памешчаны толькі ў адным месцы — між Нікалаевам і Крывым Рогам Данецкага прамысловага басэйну.

Найбольшы лік Беларусаў паза межамі БССР перапіс 1959 году падае для РСФСР — 844 000. На карце ёсьць трыццаць пунктаў, абазначаных як месцы канцэнтрацыі беларускага жыхарства на тэрыторыі РСФСР. Карта, між іншым, пацьвярджае факт, што жыхарства ўсіх беларускіх моўна-этнічных тэрыторыяў, што ўлучаныя ў склад РСФСР, як Смаленшчына, Браншчына, беларуская Пскоўшчына, падчас перапісу пагалоўна запісанае Расейцамі ня толькі паводля нацыянальнасьці, але й паводля мовы, не зважаючы на ведамы факт, што й царскія, і савецкія расейскія моваведы аднагодныя ў тым, што, для прыкладу, мова жыхарства Смаленшчыны ў сваей масе мова беларуская.[1] На прасторы ўсіх моўна-этнічных беларускіх земляў на ўсходзе й поўначы ад БССР, што цяпер у складзе РСФСР, можна знайсьці толькі адзін адзіны беларускі значок каля Смаленску.

Больш затое Беларусаў на карце абазначана ў Калінінградзкай акрузе (усходняя частка былое нямецкае Усходняе Прусіі, што па апошняй Сусьветнай вайне была анэктаваная Масквою й адміністрацыйна далучаная да РСФСР). Сама акруга на карце абазначаная як тэрыторыя з бальшынёй жыхарства расейскага, ды колерамі на ей занесеныя й невялікія атокі зь пераважаючым беларускім жыхарствам. Атокі гэтыя блізка местаў Дружба (Алленбург), Жалезнадарожная (Ґердаўэн), Знаменск (Вэгляў). Апрача гэтага, тры значкі адцемліваюць канцэнтрацыю Беларусаў каля Калінінграду (Кэніґсбэрґ), Чэрнякоўска (Інстэрбурґ) і Савецка (Тыльзіт). Дык дадзеныя карты пацьвярджаюць ранейшыя весткі пра тое, што савецкая частка былое нямецкае ўсходняе Прусіі заселеная цяпер у вялікай меры Беларусамі[2] і,

---

[1] Багровіч Андрэй. Жыхарства Беларускае ССР у сьвятле перапісу 1959 году. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Мюнхэн-Нью Ёрк, 1962, б. 75-76.

[2] Тамсама, б. 31-32.

напэўна, у меры куды большай, як гэта выяўляе карта.

На іншых прасторах РСФСР на карце знаходзім толькі адзін геаграфічны раён больш масавага засяленьня Беларусамі — гэта тэрыторыя Карэльскае Аўтаномнае ССР, на якой раськінута 16 месцаў канцэнтрацыі беларускага жыхарства сярод пераважаючага жыхарства карэльскага, а мясцамі й побач жыхарства расейскага. Апрача гэтага, два раёны ў Карэліі колерам азначаныя як раёны беларускае бальшыні. Адзін зь іх каля Ладаскага возера, блізка мяжы зь Фінляндыяй, а другі далей на поўнач, каля возера Яніс, пры самай фінляндзкай мяжы. Гэтыя абедзьве атокі беларускае бальшыні знаходзяцца на тэй былой фінляндзкай тэрыторыі, якая ў часе Другое Сусьветнае вайны была захопленая Масквою. Ведама, што фінскае жыхарства масава пакінула гэтыя тэрыторыі й пераехала ў Фінляндыю. Як вынікае з карты, апусьцелыя прасторы Масква засяляла жыхарствам, дэпартаваным зь Беларусі.

На іншых землях Карэліі беларускае жыхарства знайшлося ці ў выніку падобных прымусовых перасяленьняў, ці, у яшчэ большай меры, паходзіць яно з густа разьмешчаных тут у пару Сталінскае дыктатуры й масавага тэрору канцэнтрацыйных лягераў, найперш лягераў, арганізаваных для будовы Беламорскага каналу. З карты выяўляецца, што Карэлія — адзін з вайнэйшых раёнаў, намечаных Масквою для масавых дэпартацыяў і прымусовых перасяленьняў найперш Беларусаў. Факт гістарычна ведамы, што ў Карэлію зь Беларусі палітычных зьняволеных масава яшчэ ад XIX ст. ссылаў і расейскі царскі ўрад. У архівах Карэльскае АССР захаваліся 242 справы выселеных зь Беларусі толькі ў Аланецкую губэрню й толькі за ўдзел у супрацьмаскоўскім паўстаньні 1863 году.[3] Гэта яскравае дакумэнтнае пацьверджаньне гістарычнае цягласьці й вялікадзяржаўнага палітычнага адзінства сучаснае расейскае камуністычнае ўлады імпэрыі з расейскаю самадзяржаўнай ўладай царскай.

Адзін значок канцэнтрацыі Беларусаў пастаўлены на карце каля Ленінграду, хоць няма падобнага значка каля Масквы, з чаго выглядала-б, што Беларусаў у Ленінградзе больш, як у Маскве. Паза Калінінградзкай акругай (у былой Усходняй Прусіі), Карэльскай АССР, Ленінграду ды Смаленску, ніякіх іншых мясцоў канцэнтрацыі Беларусаў на тэрыторыі эўрапейскае часткі РСФСР на карце не адцемлена. Ёсьць затое 7 беларускіх значкоў на сібірскіх землях РСФСР: каля мяжы з Казахскай ССР, непадалёк ад Троіцка, на паўночны ўсход ад Томска, два ў Краснаярскім Краі, на поўнач ад Кузнецка й каля ракі Акі на поўдзень ад Брацка. У Краснаярскім Краі, на поўдзень ад Мінусінска, на карце абазначаная навет і невялікая атока з бальшынёю беларускага жыхарства.

Пералічаная вышэй гэта й усё, што можна знайсьці на карце «Народаў СССР» з тых міліёнаў беларускага жыхарства, што вывозілася масавымі дэпартацыямі на ссылкі й прымусовыя перасяленьні ад 1930 г. і за часоў дыктатуры Сталіна, і за дыктатуры Хрушчова, памінаючы патомкаў старых беларускіх перасяленцаў яшчэ царскіх вывазаў. Дык карта яўна й прыблізна не адбівае вялізных памераў прымусовага масавага перасяленьня Масквою Беларусаў із свае нацыянальнае тэрыторыі на эўрапейскія й азійскія прасторы імпэрыі

Абагульняючы трэба сказаць, што разгляд карты «Народов СССР» дазваляе зрабіць гэткія выснавы:

1) Карта пацьвярджае тое, аб чым можна было дагадвацца на аснове

---

[3] Лушчыцкі І. Н. Нарысы па гісторыі грамадска палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў другой палавіне XIX веку, Мінск, 1958, б. 113. Шырэй у кнізе Драніцын С. Н. Польскае паўстаньне 1863 г. і яго клясавая сутнасьць. Ленінград, 1937, б. 196.

аналізу апублікаваных у савецкім друку лічбаў Беларусаў перапісу 1959 году, а пайменна, што ўсё жыхарства тых моўна-этнічных беларускіх тэрыторыяў, якія цяпер у межах РСФСР, як Смаленшчына, Браншчына, беларуская Пскоўшчына, — у часе перапісу 1959 году было пагалоўна запісанае Расейцамі, незважаючы на знаны, асабліва моваведам, факт, што жыхарства гэтае й сяньня ў сваей этнічнай масе гавора беларускаю мовай.

2) Як відаць з карты, Беларусы, масава й гадамі дэпартаваныя на эўрапейскія й азійскія прасторы імпэрыі, падчас перапісу 1959 году ў сваей бальшыні былі таксама запісаныя Расейцамі, як Расейцамі запісаныя пераважна й тыя Беларусы, што жылі на тэрыторыі СССР, але паза БССР, у часе савецкага перапісу 1926 году (звыш 700 000).[4]

3) Дадзеныя карты пацьвярджаюць факт, што падчас апошняга савецкага перапісу Палякамі на тэрыторыі Беларускае ССР масава былі запісаныя беларускія сяляне каталіцкага веравызнаньня. Даводзіць гэта разьмяшчэньне на карце паласы мяшанага беларуска-польскага жыхарства ўздоўж мяжы зь Лятувіскай ССР. Паласа гэтая праходзіць праз селавыя раёны, родная мова жыхарства якіх бясспрэчна беларуская.

Сумуючы, калі ходзіць аб Беларусаў у БССР, і асабліва ў СССР, карта далёка не адбівае запраўднага стану. Яскравы довад гэтага й спосаб разьмежаваньня на карце тэрыторыяў беларускага й расейскага жыхарства. Лінія гэтага разьмежаваньня на ўсім сваім прабегу на карце проста ідэяльна супадае з адміністрацыйнаю дзяржаўнаю мяжою між БССР і РСФСР. Гэта, ізноўка, пярэчыць запраўднаму стану й усім этнаграфічна-моўным навуковым картам Беларусі XX стагодзьдзя.

Дзяржаўная мяжа БССР з Расеяй (РСФСР) вызначаная была некалі савецкаю Масквою зусім не азіраючыся на этнічныя дачыненьні й на ўсім сваім прабегу яна была праведзеная па моўна беларускай тэрыторыі, загартаючы ў межы РСФСР вялікія прасторы беларускага этнічнага жыхарства, як для прыкладу, Смаленшчыну. Калі гэтая, чыста адміністрацыйная й даволі Масквою вызначаная лінія, сяньня на афіцыйнай карце «Народов СССР» пададзеная як ідэяльная лінія разьмежаваньня тэрыторыяў беларускага й расейскага жыхарства, дык гэта толькі яскравы довад таго, што гэтая карта, калі ходзіць аб Беларусь, не адбівае запраўдных нацыянальна-моўных дачыненьняў. Яна адбітак ня столькі запраўдных этнічных і статыстычных фактаў, колькі асыміляцыйных плянаў і намераў кіраўнічых расейскіх партыйных кругоў на дадзеным этапе вялікадзяржаўна-русыфікацыйнае палітыкі Масквы да нерасейскіх народаў імпэрыі.

*А. Багровіч*

[4] Багровіч Андрэй. Цыт. праца, б. 69.

# ПАМЫЛКІ ДРУКУ

| Бачына | Радок | Надрукавана | Трэба |
|---|---|---|---|
| 49 | 2 зьнізу | нааагул | наагул |
| 74 | 4 зьверху | Італьянскае | італьлянскае |
| | 4 зьверху ў зносцы 1 | «Наша Хата» | «Українська Хата» |
| 75 | 6 зьверху ў цытаце | паралічэньне зборнікаў яго твораў ... | перш за ўсё з тае прычыны, што яны пазбаўлены ўсякага гіста- |
| | 6 зьнізу ў цытаце | што не ўвашлі | што не ўвайшлі |
| 83 | 7—8 зьверху | адбылася ведамая ў Менску Акадэмічная канфэрэнцыя 14—21 лістапада 1926 г., | адбылася ў Менску 14—21 лістапада 1926 г. ведамая Акадэмічная канфэрэнцыя, |
| 86 | 4 зьверху | нашае літартуры | нашае літаратуры |
| | 8 зьверху | праф. Пятоховічу | праф. Пятуховічу |
| | 10 зьнізу | гістарычна-ліатара- | гістарычна-літара- |
| 90 | 1 зьнізу | ў жалюгідным | ў жалюгодным |
| 91 | 8 зьнізу | (19Р29 г.) | (1929 г.) |